УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
К14

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 22.
Заснаваная ў 2006 годзе.

Казько, В.
К14 Казань пра ката, каторы смяяўся / Віктар Казько. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 292 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 22).
ISBN 978-985-7180-70-7.

Віктар Казько адлюстроўвае пошукі чалавекам тых сіл, што дапамогуць выстаяць у свеце, напоўненым трагічнымі падзеямі, і дадуць штуршок для руху наперад, да лепшага жыцця. Ён папярэджвае, што без беражлівага захавання спадчыны продкаў, чэрпання з яе адвечнай мудрасці не будзе будучыні ні ў народа, ні ў чалавецтва наогул.

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)

ISBN 978-985-7180-70-7

## НОЧ ПАЧЫНАЕ ЖЫЦЬ

Пціч-рэчка. Вёска таксама Пціч. Імя ў іх такое, як прытоены ўсхліп ці ўздых высмяглай птушкі, а мо зажуранай вясковай жанчыны ў спёку з сярпом сярод жыта. На самай справе рэчка не з надта вясёлых, хоць вада ў ёй бадзёрая і сцюдзёная. Крынічная. Выцякае з-пад чаромхавага кусточка з кубельцам салоўкі, што назаўжды зачапіўся, пабраўся з ім. Увогуле так пачынаюцца ці не ўсе рэчкі нашага краю. Беразіна, да прыкладу, з-пад бярозы, на якой акубліўся дрозд. Прыпяць — з-пад россыпу дрэў, гаёў, дуброў і бароў: явараў ды ясеняў, грабаў, дубоў ды ліпаў, з такім жа пырхкім россыпам птушак. Ад белых і чорных буслоў да малінавак-чаратовак і, вядома ж, вераб'ёў — канаплянікаў-жыдкоў. Куды ж ад іх дзенешся, і даводзіцца толькі гадаць, ці то дрэва з птушкай далі пачатак вадзе, ці то вада ўзгадавала і выпеставала дрэва і птушку. Гадаць, хто пусціў гэтых птушак у свет, што там, у каранях гэтага дрэва. Хто садзіў яго, чаму плача ці радуецца яно, — ніхто сёння не скажа — ні навука, ні чалавек. А з птушкамі не пагаворыш. Хаця ўсе яны родныя, амаль палешукі.

Сярод сівога журавіннага балота, якое чамусьці яшчэ завуць і верхавым, у засені чаромхі з-пад купіны бруіць і бруіць журлівая, няўцешная на ўсё сваё жыццё крынічка. Прабілася на свет з далёкай-далёкай старажытнасці, мо і з-пад маманта, які некалі тут ступіў і сканаў у сумным чаканні чалавека. Стагоддзі і стагоддзі імкнуліся пахаваць яе і не пусціць да таго чалавека — да нас з вамі. Засыпалі, хавалі то ў пясках, то ў гліне бяспамяцтва, то

ў чорным торфе журбы — рэштках тлену і ліхалецця існага.

Але крынічка не скарылася. Характар. Чым больш душаць і гнятуць, тым больш трываласці і непакоры. Да таго ж, як і ўсе нованароджаныя, малыя хлопчыкі і дзяўчынкі, любіла волю і гульні. Бавілася з часам і наканаваннем, травой забыцця, пяском вечнасці. Шлюбна заручалася з вечнасцю — небам і тым, хто на небе, — Сонцам і Месяцам. Бо вельмі ж вабіла яе ўсё гэта — вечнасць, неба і сонца, свой пачатак, зачараванае для вечнасці любае ёй роднае балота, што без яе высмягла б да донейка і змарнела, а так з-за яе свавольства толькі выкрапілася са стагоддзяў, аказала сябе зямлі.

Выпнулася з глыбі зямлі балота, сталася верхавым. Крынічка ўратавала яго. Балота аддзячыла ёй жыццём, глыбінным, патаемным і да скону вякоў. Выцягнула з небыцця нават тады, калі час пахаваў ужо яе, абрынуў на грудзі непрадушную тоўшчу торфу. І торф той чорны пачаў бура камянець. Чорна-жоўтая віхура на выспе супакаення крынічкі правіла ўжо хаўтуры. Пайшлі ў скокі балотныя гады на чале са сваім царом, чырвонаграбянёвым Васіліскам, зажурыліся лесуны, заплакалі русалкі, і нават маленькае чарцянятка ў абдымках з дамавіком выранілі па белае слязінцы смутку — купцы баравога ломкага моху, і слязінцы смутку блакітнай — каліву-другому зязюлінага лёну. І толькі што народжаны, увесь яшчэ празрысты камарык зажурыўся. Але журба і смутак былі няўчаснымі. Крынічка пратачылася скрозь скамянелы ўжо торф, знайшла дарогу на гэты свет, да волі. І першым жа вольным і вільготным уздыхам перапыніла невялічкае, ледзь бачнае семачка, што карагодзілася над ёй. Чаромхі, як потым аказалася. Адлавіла ў ветру, што гойсаў па балоце, сама не ведаючы, чаму і навошта. Але, як высветлілася

зноў жа значна пазней, — гэта было ні больш ні менш як наканаванне, промысел нейчы. Жыццё, яго зародак.

Крынічка ўмыла семачка, апратала ад бруду часу і даляў прасторы, аблашчыла, насыціла глыбіннымі слязамі сваёй долі. І тыя гаротныя яе слёзы надалі сілы чаромхаваму семачку. Сілу і пачатак яго караням і белай весняй квецені, ад прыгажосці якой канаюць, сыходзяць нанет апошнія зімовыя маразы. Так паўсюдна пачалася і запанавала пры рэчцы чаромха: з маленькага кусціка.

Такім жа чынам да чаромхі далучыліся і вольхі. Ляцелі па свеце завушніцы. Ці то маленькая дзяўчынка неўпрыкмет іх згубіла, ці то сталая ўжо дзяўчына адцуралася і прагнала прэч, палічыла, што ўжо не варта ёй гуляцца з коцікамі — так у гэтым краі клічуць завязь будучыні, якой упрыгожваюцца дрэвы вясной і напрыканцы лета: коцікамі, а яшчэ і катышкамі. І дзяўчыне, ужо амаль нявесце, канешне ж, не з коцікамі трэба бавіцца. А крынічцы, як ёй здалося, яны б пасавалі. І тое, што прарабіла з семачкам чаромхі, яна паўтарыла і з завушніцамі. І было гэта таксама добрым промыслам ці то зямлі, ці то неба, а мо адначасова зямлі і неба, і яшчэ некага, невядомага ўжо. Добрым промыслам і шчаслівым наканаваннем не толькі для крынічкі, але і для будучай Пцічы, для ўсяго тутэйшага краю, які нечакана атрымаў такую гожую раку. Атрымаў дзякуючы ўсім, а найбольш — вольхам, ці альшынам, алешніку, альхоўніку — недарэмна ў аднаго дрэва столькі імёнаў. А імя — гэта і лёс. Яно патаемнае, запаветнае. Людзі яшчэ гэтага не зразумелі, бо не вельмі і хочуць разумець: сваё, сваё ж. А на сваё ў нашага чалавека замыленае вока. На чужыне, у заморскіх краях расчухалі, што гэта за дрэва, і карыстаецца яно там павагай і званнем чырвонага.

Мы таксама чырвона, крывава заплачам па алешыне, калі ссячэм апошнюю вольху. Бо не ў званні чырвонага яго карысць. Яно як не памерлы яшчэ дзядок на Палессі, дзе вольха найбольш расце пры дрыгве і

багне, бо зачаравана імі, мае нікім дасюль не спазнаны сакрэт, трымае ў сабе вялікую таямніцу. Не проста ж так аднекуль узяліся і разбегліся па балотах і нізінах вольхі чорныя ды вольхі каменныя. А чаму чорныя, чаму каменныя? І чэрці іх упадабалі. Малпы наскія, бо няма на свеце вёскі без праведніка і дурня, а балота ці прыбалаццця — без чорта.

Вольхі, ці алешыны, — найвялікшыя сярод усяго жывога і мёртвага стваральнікі і захавальнікі, ахоўнікі, абярэгі крыніц. Дзе яны растуць — там вада блізка, там жыццё. Апроч гэтага, калі напачатку вясны бярэ верх бяроза, першай выкідвае пупышкі і распускае ліст, прадказваючы засушлівае лета, — вольхі ратуюць крынічкі, не даюць ім вычарпацца і згаснуць, пояць, як зняможанага коніка, сваёй вадой. Робяць звычайнымі помпамі. Штодня падносяць і падносяць ім кубачак ці вядзерца, каб яны не забываліся пра сваё прызначэнне і не прыспалі, не прысушылі сваю памяць. Высільваліся і дужэлі.

Вольхі каранямі і карэньчыкамі цягнуць па кроплі тонкі струменьчык вады з нетраў зямлі, падцягваюць да крынічак. Тыя каўтаюць, глытаюць гэтыя кроплі і струменяць жыццём траве і дрэву — ручаям, а то і цэлым рэкам. Гэта ў сухі год. Калі ж год задавольвае вадой, яе выпадае нават лішак, вольха пампуе наадварот — скідвае лішак туды, дзе некалі пазычала. Вось чаму ўся краіна гэта спакон веку зялёная і крыніцам няма зводу. Нашы дрэвы, лясы нашыя ўмеюць думаць наперад, дбаць пра ўсё жывое. Дзякуючы чаму спрадвеку крынічка з года ў год набірала моцы і сама дзячыла чаромсе і вольсе. Так адно ля аднаго яны і выжылі. Кусточкі выраслі да вольхі, каменнай і чорнай. Чаромха скочыла далей за яе. Задумалася, напялася і ўпрыгожыла іх святое сваяцтва квеценню. Наўздагон халадам, што толькі-толькі адышлі, адбегліся на поўнач перад цёплай зелянінай травы, закувалі зязюлі. Сагрэліся пупышкі, радасна

ўздыхнулі, расплюшчылі вочкі, загулялі, замяцелілі ўслед адышоўшым ўжо счарнелым снягам белым, радасным, як вэлюм нявесты, кветам. Вольхі дадалі гэтаму дзявочаму шчасцю, увесіліся спачатку маленькімі, зялёненькімі, крыху задзірлівымі завушніцамі. Але тыя цнотныя завушніцы, калі вясна ўжо ўвабралася ў спеласць, засарамаціліся, ірдзяна заружавелі і сталі вабнымі, выглядалі з лісця алешыны, як маладыя сунічкі ці вочкі тутэйшых ягад буякоў— дурніцы, альбо дзюбкі няцямных, яшчэ не аперанных птушанят. Мноства птушанят — пры Пцічы ўсё ж.

Але гэтую назву ўсяму наваколлю дала крыху пазней ужо сама крынічка. Яна таксама намагалася чым-небудзь аддзячыць зямлі, якая нарадзіла яе. І мо трохі перабрала ў памкненні не марудзячы быць вартай парадзіхі, бо ўсім вядома, асабліва малым дзецям: жадаць трэба ціха і паступова. Калі ж жаданае набывае голас, пачынае патрабаваць, нічога добрага з гэтага не атрымліваецца. Нехта падслухоўвае, апярэджвае і адбірае жаданне і жаданае для сябе ці для сваіх не ў меру прагных дзетак і ўнукаў.

І яшчэ, прагнасць і празмернасць жаданняў нікога і ніколі да добрага не прыводзяць. Ненажэрныя яны. Сціплым і разважлівым людзям вядома: у спёку чым больш п'еш, тым больш піць хочацца. Таму добраму чалавеку, каб спатоліць смагу, зусім не трэба вядро вады — глыток. Потым яшчэ глыток, глядзіш — і напіўся. І вядро як было поўнае, так поўным і засталося. А калі ты хлебчаш, што конь, — толькі жывот расцягваеш. І ўсё табе мала, сваю і чужую хцівасць распальваеш, зайздрасць вакол сябе плодзіш.

Так адбылося і тут. Але, зноў жа, гэта высветлілася крыху пазней. Спачатку ж здалося, што тварэнне гэта толькі на радасць і ўцеху. Адваротны, слёзны, бок шчасця да пары да часу патаемны і нябачны нашаму воку. І толькі з цягам часу, з цягам часу сцягваюцца на

небе хмары, пачынаецца дождж, і запознена бліскаюць маланкі і грыміць гром. Не той, што завецца сухім, а сапраўдна навальнічны.

Пазайздросціла крынічка чаромсе і вольсе, белай квецені і ягадкам-завушніцам. І спачатку ўсё было добра. Крынічка пашырылася, пераўтварылася ў ручай. Але гэтага ёй было мала. Жаданні дзёрлі, распіралі яе, і мо збыліся. Таму што ў патаемнай глыбі яе, у самым сэрцы, нешта шчоўкнула, грукнула, як бы ўпала, разбілася ці парвалася. І шырокай плынню на паверхню хлынула вельмі сцюдзёная, нават з інеем, здаецца, крыху саланаватая вада.

Крынічка захлынулася ад тае вады. Голас яе, празрысты і звонкі, перасеў. Адзінае, на што хапіла моцы, гэта, глыбока ўздыхнуўшы, мовіць, папрасіць невядома ў каго: піць-піць... Пціч... Што б гэта значыла, да сённяшняга дня ніхто не можа разгадаць: адкуль каля вады такая прага той жа самай вады? Чаму крынічцы так неспатольна хочацца піць, што яна аж птушак узгадвае?

Але падобна на тое, што голас гаючай крынічнай вады пачулі людзі. Добрым ён прысніўся, прымроіўся, каторыя так сабе — прыгадаўся, а нядобрым — яны спажыву чуюць там, дзе яна яшчэ сама пра сябе нічога не ведае. Надта ж пячэ ім далучыцца да вечнасці і святасці, урваць нават і ад нябожчыка хаця б глыток яго духу. І вось большасць такіх людзей набегла на народзіны і хаўтуры крынічкі. І не з пустымі рукамі і кішэнямі. Адразу ж нагналі тэхнікі — машын, бульдозераў, скрэпераў, кранаў. Панавезлі камення, бетону, бярвення — і ўсё гэта на грудзі крынічцы. Зямля вакол аж асела і ўгнулася.

Як грыбы, больш гнаевікі ды скляпенныя, шэрыя і слізкія мухаморы, пачалі расці, падымацца гмахі дамоў. І не проста дамоў, а ў два, а то тры і чатыры паверхі асабнякі ды катэджы. То ўзрастаў і набіраўся моцы каля крынічкі нараджэнец новага часу. Ён прыбраў, падгроб да сябе і захапіў у свае рукі і крынічку.

Дарэчы, усе яны сёння, у эпоху вялікага разбуральніцтва і вялікіх разбуральнікаў, аднолькавыя. Усе аднаго кораня, з адным і тым жа ўхілам і вывіхам галавы ў панства ды новамесіянства. У большасці пустабрэхі ды пустадомкі, балаболы апошнія выйшлі ў першыя. У ціхамірныя часы услед ім ніхто б і не плюнуў. Але сёння іх верх, іх час, іх вераб'іная-салаўіная ноч, бо толькі ў прыгаломшанасці такой ночы, змроку яны і пачынаюць свае спевы. Але ў адрозненне ад салаўёў, што заклікаюць ноч да світання, яны прагнуць бясконцасці цемры, галоўнай умовы пачатку і працягу народзінаў усіх вурдалакаў і вампіраў — д'ябальшчыны.

Дык вось і гэты, свойскі наскі месія-балабол паабяцаў умыць і напаіць гаючай крынічнай вадой увесь навакольны люд, увесь свет ашчасліваць.

Мовіў так і амаль што адразу забыўся на свае абяцанкі-цацанкі. З імі скрозь і паўсюдна такое здараецца. Крыху задумаўшыся, што больш народу патрэбна, ён абвясціў: «Дам, дам кожнай бабе па мужыку, каб падвысіць нараджальнасць, расшыць у жанчын тое вузкае месца, адкуль дзеці з'яўляюцца. Дам кожнаму мужыку па пляшцы гарэлкі. І ўсім хлеба ад пуза — па бохану на рыла».

Толькі і пра гэта сваё абяцанне ён хутка забыўся: «Зоймемся вырошчваннем экалагічна чыстых прадуктаў, нямерана часныку і цыбулі, зялёнага гарошку і кукурузы, нават цытрусавых. І ўсё гэта толькі на чыстай і гаючай крынічнай вадзе».

Што з гэтага адбылося, не цяжка прадказаць. Часнык амаль звёўся, яго пачалі завозіць з замежжа, з Кітая, ды па цэнах, што вочы на лоб лезуць. Цытрусавыя як не радзілі, так і не родзяць. Кукурузы колькі было, столькі і засталося. А вось гарошку сапраўды спачатку стала крыху болей. Толькі быў ён не зялёным, а нейкім жоўтым, як кармавым, конскім.

Але ўсё гэта пазней, значна пазней. Цяпер жа крынічку ачысцілі ад глею і торфу і нешта яшчэ там прачысцілі ўсярэдзіне свідравальнай устаноўкай, як зуб прасвідравалі да сківіцы. Брукаванымі сцежкамі, што вяроўкамі, падцягнулі да ганка катэджа. Абгарадзілі з усіх бакоў плотам, абклалі бетоннымі кругамі. А кругі тыя ўзялі ў каменныя муры. Муры аздобілі чырвоным з іскрамі айчынным гранітам ды замежным непадступна чорным мармурам.

Ні даць ні ўзяць — маўзалей. Нябожчыка б добрага знайсці, уладкаваць туды, жыві — і не каўкай. Крынічка амаль адразу ж занядужала. Ваду пачала даваць не празрыстую, а як сукравіца, іржавую, чырвоную і гідкую — хворую. І нават на такую ваду натурылася: адзін дзень сцякала кроўю, два — ні кроплі не выціскала з сябе. І потым не стала і кропель гэтых, сукравічных і крывавых. Крыніца знікла, ці то сышла, збегла некуды, ці бетон, граніт і мармур перацялі ёй дыханне, задушылі. Адным словам, прапала крынічка.

Крынічка прапала. Але рака засталася. З вельмі халоднай і сярод лета вадою. І то быў нават не холад вады, а смутак і жальба па сваёй страчанасці і загубленасці. І вялікае шкадаванне па крыніцы, якая перамагла бруд, мазглявасць стагоддзяў, зацятасць пракаветнага чорнага торфу, сярод якога рачулка і праклала сваё рэчышча. Перамагла ліхалецце і немач часу, але не адолела хцівасць і памкненне пустабола выхваліцца. Стоена і задуменна бегла і бегла ўдзень і ўначы, старанна мыючы, аблізваючы карані дрэў, каменьчыкі і маленькія пясчынкі, спадзеючыся адшукаць саму сябе, свой колішні выток. Любую ёй сваю маладосць, маленькую сінявокую пад лагодным небам крынічку. І вольхі і чаромхі, адроджаныя крынічкай, дапамагалі цяпер ёй ў гэтых пошуках.

Як толькі крынічка, даючы пачатак і назву рацэ, гаротна ўсхліпнула: піць-піць, Пціч, чаромхі і вольхі

порскнулі, як з пераспелага струка гарошыны ў зеніце сонца, па абодвух берагах нованароджанай ракі. І цяпер беглі паперадзе, падказваючы ёй дарогу да маці-ракі Прыпяці і прамаці Палесся, дзе б Пціч магла ачомацца і адпачыць, дзе наканавана было ёй шматкроць нараджацца і канаць.

Да супакаення і ўсцешнасці раку заклікалі і птушкі. Спачатку найбольш дразды. Але ў іх галасах было больш перасцярогі і спалоху, чым песні. Бо дразды ўсё ж няздольныя спяваць пры вадзе. Ім любы лес, а не рака. Там кожны з іх музыка. Для слыху мядзведзяў і неабдымных адвечных дубоў, сярод якіх і сабачы брэх, і крык пугача ўначы, і стогн ветру — усё адно песня.

Выправілі справу салаўі — малодшыя і меншыя браты драздоў. Адкуль павяліся тыя салаўі, і самім драздам было невядома. Дразды мажныя, шыракагрудыя і галавастыя. Нават у супе наварыстыя. Салаўі ж — і паглядзець няма на што. Але крутне маленькай галоўкай, каўтне нешта нябачнае нябеснае гарлачыкам. Здаецца, і рота не разявіць — ды адкуль што бярэцца: свіст, шчоўк, булькание, клыканне, пленканне, дроб, урэшце. Так, пэўна, радаваўся і спяваў сусвет, калі нараджалася матухна-Зямля. І шчаслівая радасць гэта не перапыняецца часам. Жыве ў маленькай і непагляднай птушцы, якая сама не ведае, чаму і пра што спявае, як не ведае і шчасце, чаму яно шчасце, навошта, адкуль і каму. Талент не павінен адказваць ні на разумныя, ні на бязглуздыя пытанні. Яго прызначэнне — быць талентам, як наканаванне і прызначэнне дзяцінства — быць дзяцінствам, каб сумаваць потым, потым. Калі дзяцінства скончыцца і адыдзе, травы высахнуць ад слёзных начных росаў пад спякотным сонцам апоўдні, болькі зарастуць шнарамі, заінее галава, укароціцца дзень і падоўжыцца ноч.

З салаўямі, праўда, усё наадварот. Спевы іх пачынаюцца на сутонні і доўжацца, доўжацца, пакуль недзе на

ўсходзе, вельмі далёка ад іх, спевамі не ўхопяцца за не бачны яшчэ нікому першы прамень сонца. Абуджаюць і падымаюць сонца, купаюць яго ў прахалодзе ночы, сваёй песні. Не бачныя нікому сярод лістоты чаромхаў ды вольхаў, нібы то самі дрэвы твораць музыку. Лесавік зладзіў з галінкі лазы ці крушыны, што пусцілі ўжо сок, дуду-жалейку і паклікаў Леля. І граюць, граюць яны пры маладым і старым месяцы, лашчаць белыя пялёсткі чаромхі, уводзяць у чырвань завушніцы вольхі.

Але за гэту сваю песеннасць салаўям давялося і пазмагацца. З тымі ж драздамі, брацікамі сваімі безгалосымі. Свет песні не такі ўжо бяскрыўдны і скрозь адно толькі мілагучны. Дразды ўзлаваліся на салаўёў за тое, што яны такія любыя чалавеку, зверу і нават іншым птушкам. Пачалі зводзіць братоў сваіх меншых. Наслалі на іх драпежнікаў — коршакаў, соў ды пугачоў, аднаго старога, даўно ўжо аглухлага на абодва вухі арламагільніка. Ноч ды песня толькі і ўратавалі салоўкаў. Ноч, песня ды прырэчныя хмызы алешніку і чаромхі. Салаўі ў тых хмызах ні з неба, ні з зямлі, ні зверху, ні знізу не бачныя, таму што спяваць спявалі, але не высоўваліся, не аказвалі сябе. Толькі голас ды песня гучалі над ракой і пры селішчах людзей.

І тады дразды пачалі помсціць людзям і іх селішчам. Гайнёй, чародамі налятталі на сады і грады. Задзёўбвалі жыўцом суніцы і клубніцы. Шэрым стракатым покрывам, нібыта гэта быў адзіны вялізны і калматы вусень, абсаджвалі вішні. Не дапамагалі ні пудзілы, ні бразготкі, нават цененькая плёнка з замежным імем спанбонд, якой укрывалі грады і дрэўцы вішань і чарэшань, не выратоўвалі ад гэтай крылатай пошасці.

А салаўі грэбліва наглядалі за гэтым нахабным і ненажэрным нашэсцем і спявалі, спявалі, ушаноўвалі, бласлаўлялі песняй зямлю.

Пачыналі спяваць, як толькі па вясне прачыналася зямля і нештачкі пачынала ўжо расці і ажываць на ёй.

Калі коцікі на вербах пухмянелі ад лагоды сонца і цяпла. Калі вясковая бяроза пры хаце дзеда ці бабулі клейка раздымала ружовенькую напачатку дзюбку першага лістка, і лісток гэты пад камарыным наглядам і непакоем зелена распускаўся цалкам, застаючыся па краёчках яшчэ трошкі скручаным, каб ухапіць весняй расы і не расплёхаць яе. Збыць той расой памяць пра халады і зімовую сцюжу. Умыцца ёй, глынуць яе і перапыніць радасную слязу аднаўлення, якая паўсюдна завецца бярозавікам. Пасля чаго бяроза больш ужо не плача гаючым сокам глыбі зямной патаемнасці.

А да бярозавага лісціка з празрыстай кропляй расы на ім спяшаецца, ляціць, падцяўшы ножкі, салоўка. Бо раса тая першая на бярозавым лісту і з'яўляецца пачаткам яго песні. Запевам, мелодыяй і першай нотай. Толькі каўтнуўшы расы, ён абуджае ў сабе прагу і сум музыкі і забываецца ўжо на ўсё іншае: драздоў, коршакаў, пугачоў і соў. Музыка, песня прарастаюць у салоўку, як тая кволая травінка пасля дажджу, што дзярэ і рушыць асфальт і бетон, прабіваецца скрозь камень і не паддаецца ні каню, ні агню, ні медным трубам.

Пасля глытка нябеснага і зямнога напою гаючай расы, паднесенай салоўку ў боскім кубку бярозавага лісціка, ён сам пераўтвараецца ў бога. Вясёлага і безагляднага Леля ў пер'і, маючага песню, здольнага зачараваць і рассунуць ноч, цемру. Валодаць імі, скарачаць ці доўжыць, надаваць ім розуму ці пазбаўляць яго.

Цалюткі сонечны дзень пасля першага глытка роснай вады з бярозавага лісціка, а прыпадае гэта заўжды на пачатак ці сярэдзіну траўня, салоўка жыве ў песні і з песняй. Яна распірае, угравае і свеціць яму, як сонца свеціць зямлі. І салоўку гэта патрэбна, як месяцу — хустачка, венчык, зорцы — аксамітная аздоба неба, а нашаму веку — вачніца, каб не ўчыніць якой-небудзь шкоды зямлі і сусвету.

Непаглядная, здаецца, птушка чакае прыцемку, цішы і самоты шэрай гадзіны змяркання. Так чакае, што месца сабе не знаходзіць. Ведае: менавіта самоце шарай гадзіны, самоце змроку найбольш патрэбна і найбольш прыдатная яе песня. Бо самота шарай гадзіны можа перашкодзіць наступнаму дню. Ён можа і не прыйсці. Без песні наогул можа і не развіднець. Толькі пад салаўіную песню абуджаецца жыццё, прачынаюцца людзі — бацькі і іх дзеткі, бабулі і дзядулі і іх унукі, коцікі і сабачкі. Бо салаўіная песня — гэта і ёсць жыццё, ад якога хаваюцца, запаўзаюць у свае магілы і труны вампіры і вурдалакі.

Заспявае салавей — і ноч, усё жывое і добрае ў ёй, пачынае жыць. Каб было світанне. Менавіта дзеля гэтага і створаны салоўка, а потым ужо малыя дзеткі і звяры. Усё вядзецца ад гэтай маленькай і сціплай птушкі. Яна, падобна, была народжана і створана раней за чалавека. І ў салаўінай песні яго пачатак. Дзеля яе растуць пры балоце і берагах рэчак чаромхі і алешнік, зачынаюцца і абуджаюцца, пачынаюць біць занядбаныя ліхалеццем няўчасся крынічкі.

Ёсць у салоўкі яго песні, і свята, прачысты дзень — дваццаць другога траўня, і завецца ён Васіліскам. Васіліскам, бо дзеліць гэты дзень салоўка з гадам балотным і падкалодным — царом усіх гадаў, чырвонаграбянёвым Васіліскам. Так ужо заведзена на свеце: свята ў нас без дзіва не бывае, а шчасце — без журбы і смутку. Песня суседнічае з пачвараю, і пачвара абуджаецца пад салаўіную песню, калі яна дасягае і вышыні, і чысціні, і прыгажосці. Нешта, пэўна, ёсць і ў душы падкалодных гадаў. Мо калі не разуменне гожасці майстэрства, дык зайздрасць.

Зайздрасць тая сыціць чырванню карону Васіліска, яго грэбень пачынае гарэць агнём, і надта ж той агонь пячэ яму. Вымушае прачнуцца ад зімовай спячкі і пакінуць халодныя нетры падзямелля, скляпенні

адвечнага смуроду і вільгаці і шукаць ці то збавення ад пракаветнага праклёну, ці то проста палёгкі, а часам і нават і заўчаснай смерці. І таму спакон веку так ужо заведзена: дзе песня, салаўі — там і гады балотныя, і ўладар іх — каранаваны вогненнай каронай Васіліск.

Салоўкі адчуваюць яго прысутнасць, але не вельмі зважаюць. І не таму, што надта смелыя, наадварот, нават баязлівыя і пудкія, але ўся справа ў песні. За яе яны заўжды гатовы закласці і аддаць жыццё і душу. І таму так млява і шчасліва гамоніць і ўздыхае ўначы рэчка: піць-піць, Пціч... І чаромха, са скамянелай і ўчарнелай вольхай па яе берагах. Белымі завеямі, снягамі, сівізною стагоддзяў аздоблівае зямлю някідкая, мо крыху і прыгаломшаная ранняй вясной квецень чаромхі, каб больш зырка і прывабна глядзеліся завушніцы вольхаў, каб утульна жылося і хораша спявалася салоўкам. А тыя, ведай сабе, шчыруюць і шчыруюць. Каленца за каленцам высвістваюць, вышчоўкваюць, пленкаюць, булькочуць і булькаюць, клыкаюць ды выбіваюць дроб. І сам уладар лесу з старога абамшэлага карча падыгрывае ім на сваёй дудцы і танчыць Лявоніху. Танчыць Лель.

Вясна ўладарыць светам. Ноч кіруе жыццём і надае жыццё ўсяму існаму. Ноч салаўінымі спевамі зачынае будучае неба. За зямлёй цікуюць яшчэ зоркі, а ў пануючай навокал цемры па чорных тарфяніках сярод чаромхі і алешніку, ніцых лоз пад салаўіныя спевы імкне ў белы свет асіроцелая, страціўшая сваю гаючую крынічку, задуменная і негаваркая рэчка Пціч. Мінчанка, Магіляўчанка — Паляшучка.

## ПРА КАРЫСЦЬ ДЗІРАК НА ЗЯМЛІ, У НЕБЕ, ПЛОЦЕ, І НЕ ТОЛЬКІ

Сямёра маленькіх коцікаў брылі па перадзімовай, снулай ужо і таму падмарожана-цвёрдай зямлі, ісці ім было цяжка і нязвыкла. Лапкі іх яшчэ не паспелі задубець, кволыя і няходжаныя. Хатнія лапкі — для летняй травы-муравы, дываноў на падлозе, ложка з мяккай коўдрай і нават падушкай з пер'я. Толькі ж пазаўчора, а ў каго і ўчора, у кожнага з іх мелася свая, цёплая і ўтрэўная, хата і заботнікі, ласкавыя прыязныя гаспадары і гаспадыні. Хлопчыкі і дзяўчынкі. А сёння яны былі беспрытульнікі: нікому не пажаліцца, ні да каго не прылашчыцца, а што ўжо есці хочацца — пераначаваць, як гавораць, няма дзе.

Зусім нядаўна яны былі ўпэўнены, што кожны кусцік іх абагрэе, пераначаваць пусціць. Было ніштавата, цярпіма цёпла. Але заўчасна і нечакана прыкінуліся халады. Людзі, што летавалі тут, пры рэчцы, у засені чаромхавай раскошы, пачалі пакідаць свае лецішчы і спешна ад'язджаць на зімаванне ў горад. Але за час свайго панавання многія з іх нечакана і зусім непажадана памножыліся, забагацелі — абзавяліся жыўнасцю. Жывое да жывога цягнецца. Так заўжды было і будзе. Да каго прыйшлі і прыляпіліся вожыкі. К каму прыляцелі і звілі кубельца вераб'і і шпачкі. А некага наведалі і сённяшнія выгнаннікі лесу зайцы, якіх дапяклі паляўнічыя. Хтосьці неспадзявана абзавёўся прыплодам маленькіх сабачак і коцікаў.

Але такі прыбытак не вельмі ўсцешваў, больш турбаваў летніх прыхадняў. Раскашавалі ў няпужаным краі не толькі людзі, дачнікі, але і іх гарадскія любімцы —

каты і коткі. І таму пад восень аказаліся з прыбыткам — нарадзілі кацянят. Пакуль пагоды спрыялі, кацяняты і гора не ведалі, былі дагледжанымі і аблашчанымі— жывыя ж, мяккія і даверлівыя цацкі дзецям гараджан. А гараджане сваіх дзетак любілі. Толькі любоў любоўю, але як быць з яе наступствамі — нечаканым прыбыткам і пашырэннем каханцаў? Не цягнуць жа гэта чаромхавую ды крапіўную зроду ў горад.

Некаторыя з іх мо і саромеліся таго, што ўчынялі, нібыта камень цяжкі клалі сабе на душу. Але што гэты камень на іх душы, што сорам, калі творыцца крыўда — вада ў рацэ. Рассмокчацца, сплыве па тарфяным рэчышчы вельмі хутка. І знаку не застанецца ад якога б там ні было сораму, граху. З яго ж пачаліся і прарасслі, стаялі, стаім і стаяць на тым будзем. На свеце нямала ўжо рэк, па якіх цячэ не вада, а адзіна толькі сплываюць грахі чалавечыя. І вада іх нябачна пайшла глыбока пад зямлю, спадзеючыся мо ачысціцца там. І самі берагі ўжо зарастаюць грахамі людзей. Грэшнае жыццё, а не чалавек.

Людзей можна зразумець. У іх заўсёды столькі клопатаў і абавязкаў на бягучы дзень, што няма калі дбаць, думаць пра дзень наступны, будучы. І маленькія коцікі, пэўна, разумелі гэта, таму, здаецца, не наракалі. Увогуле, адрозненне чалавека ад іншых жывых істот — апошнія ніколі не наракаюць на жыццё, прымаюць і бяруць яго, якое ўжо ёсць: птушка божая не ведае і не клапоціцца пра ўгатаванае ёй заўтра.

Не наракалі коцікі на людзей. Не наракалі. Але як без наракання і прыкрасці адчуць і зразумець пакору і паслухмянасць таго, хто не мае яшчэ слова? Любасць да свету чалавечай і жывёльнай малечы, не зведаўшай азлаблення і крыўды, нямых і яшчэ паўсляпых кацянят? Хто падасць ім кавалачак хлеба, сподачак малака, абагрэе і прылашчыць у няўчассе пераходнай пары? Хто надасць ім спрыту і розуму застацца жывымі, не

маючы свайго вугла, сярод прымаразкаў няўмольна падступаючай зімы?

Мо таму сямёра гаротнікаў і збіліся ў такі вось хаўрус. Нядоля схаўрусавала іх. Усе аднолькава няшчасныя, аднаго племя, хаця і рознай пароды. Былі тут чыстыя і нячыстыя, белыя і чорныя, нават шэра-бура-малінавыя ў крапінку. Мешанцы і мешанкі, каты і коткі вясковага нядбайна вольнага паходжання, і нашчадкі, спадкаемцы высакароднай, хаця цяпер крыху разбаўленай ужо, сапсаванай вольным вулічным утрыманнем расава чыстай блакітнай крыві.

Але ў маленстве не толькі людзі, але і ўсё жывое яшчэ не ведае дзяльбы на абраных і адрынутых, званых і нязваных. У маленстве людзі і звяры — усе роўныя, якой бы даўніны і колеру ні была іх поўсць, якую б форму галавы яны ні мелі, якой бы крыві яны ні былі, з якіх краёў ні паходзілі — зямля і неба адзіныя на ўсіх, будзь ты родзічам, братам ці сястрой афрыканскай блакітнай кошкі з Амана, коткай сіямскай, бірманскай, абісінскай, персідскай ці лівійска-егіпецкай — якая дала пачатак усяму хвастатаму роду. Родныя яны, пакуль не выраслі, і ў шчасці, і ў няшчасці.

Гэта прадвызначаная пачатковая роўнасць адчувалася і тае нядобрай начы, што прыпала да зямлі. У халоднай цемры яе мелася нешта такое няўтульнае і непрыязнае, што сцягвала, прымушала яднацца не толькі коцікаў і котак, але і набліжала, злучала гэты ўжо трохі падмарожаны эдэм з усім светам, у якім яшчэ цеплілася дабрыня і ўтульнасць, з тымі ж, не ведаючымі зімы афрыкамі і амерыкамі, егіптамі і абісініямі, да якіх у свой час мелі дачыненне ўсе мы, у тым ліку і нашы беспрытульнікі.

І найбольш менавіта яны, маленькія каты і коткі, як усе немаўляты свету. Таму што па сваім нараджэнні яны яшчэ не набылі ні слыху, ні голасу, ні разумення таго, дзе і чаму апынуліся. Яны амаль цалкам прыналежаць

мінуламу, поўнасцю збытаму, сцёртаму ў іх памяці ў сталасці. Вось чаму ўсе малыя дзеці так прыгожа ўсміхаюцца у сне. Яны помняць, як абярэжна, ашчадна выношвала іх маці. Помняць старажытнае ласкавае неба і сонца. Помняць цеплыню пяску, травы, дрэў, пампасаў, барханаў, дзюнаў, джунгляў, якія ў свой час пакінулі іх продкі. Помняць, як люляў іх вецер, закалыхваў вечнасцю, спавіваў бясконцасцю роднай зямлі і адзінасцю нябёс.

Бацькі ў турботах сталасці на ўсё гэта забыліся. А малым дзецям даравана імгненне пабыць у сваёй калысцы мінуўшчыны. Тую калыску і імкнуліся зноў здабыць кацяняты. Адшукаць у цемры і холадзе ночы праход, пралом у часе, каб знайсці, здабыць сваю страчаную, украдзеную іх нараджэннем не ў тым месцы і не ў той час долю.

Як толькі абязлюднелі лецішчы, на вокнах амаль кожнага з іх былі пастаўлены ці то жалезныя краты, ці то шырокі крыж з дошак, беспрытульныя кацяняты, няшчасны плод шчаслівага кахання, згуртаваліся. Такая ўжо доля ўсіх бедакоў шукаць ці красці, біць ці ўцякаць чарадой, натоўпам. З натоўпу адразу ж вылучыўся і важак, правадыр, бо, зноў жа, няма натоўпу без правадыра. Ім, як ні дзіўна, стаў мо самы непаглядны і згаладалы каток. Усе чыстапародныя неяк адразу разгубіліся і страцілі сваю высакароднасць і званне. А крапіўны каток, як кажуць, сумесь бульдога з насарогам, аказаў сябе на вышыні. Ён далучыўся да чарады амаль што апошнім.

— Дзень добры, хычнікі,— усмешліва мармытнуў, павітаўся з усімі разам. І тым сваім вітаннем адразу ж схлусіў, бо гэта быў ужо не дзень і нават не вечар, а ноч. Але ж мо якраз у гэтым і мелася рацыя: катам жа, пэўна, што дзень, што ноч — без розніцы, яны відушчыя і ў цемры. А ўсе правадыры пачынаюць з хлусні і падману. І надалей на ўсё жыццё самі звыкаюцца са сваім першым, няхай і хлуслівым словам. Яно ў іх і апошняе.

Толькі наш каток ні хлусіць, ні маніць і не думаў. Ён быў не менш за астатніх коцікаў разгублены і прыніжаны цемрай, холадам і голадам. Але гэта яму было ўжо паўсядзённасцю — крыху з-за той жа непагляднасці ў спалучэнні з нахабнасцю. Апошняе, як вядома, другое шчасце.

Адказам на яго вітанне была маўклівасць і падцятыя хвасты.

— Усё зразумела, — зноў коратка мармытнуў каток і зацягнуў нейкую працяглую і доўгую, ці не даўжэйшую за сабачую, песню, няцямны сэнс якой, пэўна, зводзіўся ў перакладзе з кацінага да вельмі простага, людскога: Бог не выдасць — свіння не з'есць. Наперад, да выйсця з ночы, недзе ж яна канчаецца. У мінулае ці будучае, што нам, катам, усё роўна: абы пагрэцца ды што-небудзь з'есці.

Але ноч, пэўна, ужо адразала і ці не адрэзала іх ад літасці і мінулага, і будучага. Яна яшчэ некуды клікала іх і трохі прываблівала пазбытай памяццю сышоўшага ўжо ў мінулае лета. Але сыход той быў недалёкі і таму падманліва прывідны. То нехта шкадаваў і плакаў без дай прычыны. То ў роспачы ўскрыкваў голасам збалелага дзіцяці пугач. Радаваўся і заліваўся вар'яцкім рогатам, пацвельваў і перадражніваў некага перасмешнік — мо птушка, а мо і чалавек. Спляталіся, як купальскія вянкі, у адзінае і непарыўна рознакаляровае радасныя і пакутніцкія мужчынскія і жаночыя галасы. Гучаў спалоханы сабачы брэх, пераходзячы ў воўчае выццё тыгравы рык і скуголенне ці то шакала, ці то гіены.

Здавалася, сышліся разам прастора і час — усе часткі свету, мінулае і будучае — і пагібельна грызліся паміж сабой, не жадаючы адно аднаму саступіць, нібыта нехта вызваліў звярынец, выпусціў з клеткі звяроў, і тыя шалелі ці ад радасці, нечакана атрыманай волі, ці ад нежадання прызнаць і прыняць гэту волю. Сямёрка як не чула гэтых стогнаў, енкаў і рыку — змагання рэштkaў сатлелага

праху стагоддзяў. Памяці і пазнавання бягучага ў іх яшчэ не было. Але прачынаўся ўжо інстынкт звера. Прачынаўся і браў іх у свае ўладныя рукі. Сама ноч была парою звера.

З апраметнай цемры неба зрэдку сачыліся і з ціхім шоргатам журботна хаваліся ў жоўклай і панылай траве, як скамянелыя слёзы, першыя і вельмі цвёрдыя, жорсткія крупінкі снегу, нібы нехта там, у небе, адкрыў жалобную крупярню. У тым жа небе нябачна і самотна паігрывала скрыпка. Музыка набягала на зямлю, але не ахоплівала, не атульвала яе ўсю цалкам. Прыпадала, як да струны, да прасёлка, па сцежках, ледзь бачна пракладзеных у траве рыбакамі-вудачнікамі ўлетку, скочвалася ўніз, да вады. Падала ў раку і як тапілася, знікала ў ёй, паглыналася і зносілася ў нябыт — прыплюшчаныя чорныя вочы журлівых віроў, аголеныя кусты агаломшаных чаромхаў і алешніку.

І як бы наўздагон той прытопленай музыцы, напярэймы ёй іржалі коні і з прыхропам пілі начную ваду, у якой, затухаючы ўжо, цялепкаліся гукі скрыпак. Гартанна гучала чужая гэтаму краю гаворка. І гаворка свая, тутэйшая. Толькі ішла яна нібыта з-пад зямлі, адлятала ад халодных, адмерлых ужо вуснаў гаворачага, што толькі гукамі чапляліся за жыццё, больш трызнілі ўжо. І адразу было не зразумець — ці гэта будучае канае і з такім болем адыходзіць у зямлю, ці мінулае пнецца выхапіцца, вырвацца з нябыту і канае ў ім.

Такая на тую пару выдалася ноч. Няпростая. Увогуле трэба сказаць, што простых начэй у гэтым краі не бывае. Таму што абуджаўся і жыў ён больш уначы. І ночы стаялі тут то рабінавыя, то вераб'іныя, то вядзьмарскія. То яшчэ нейкія, калі абуджалася забытая і збітая гісторыя, мінулае, якога не было, будучае, што існавала толькі ў мроях ды сненнях, што ўсё ж магло быць. Толькі гэта «магло» спачыла ў старажытных курганах пылам і

тленам, камянямі, помнікавымі валунамі, засеяла долы, палеткі, пайшло ў падмуркі мясцовых хатаў.

І адно панылая памяць гэтага сіроча лунала ў цемры прыпалых да зямлі начэй. Дух спраўджанага і няспраўджанага, пахаванага ў стагоддзях. Дзе, дарэчы, пахавана і сама гісторыя. І вось гэта гісторыя старажытным вусным словам, у нейкім родзе «Словам аб палку Ігаравым» сведчыла, што князь Ігар менавіта тут праходзіў са сваім палком. Коні яго пілі ваду з гэтай схаванай у глыбіні старажытнасці ракі. А сапраўды пілі ці не — разыходзіліся нават самі дасведчаныя і праўдзівыя гісторыкі.

Так ці не так было, ведала толькі цемра і сённяшняя вельмі няпростая ноч. Таму што прыпала яна напярэдадні Дзядоў, паганскага яшчэ свята памінання продкаў. Музыка неба і ночы, супакоеныя назаўжды продкі, Дзяды, духам сваім абудзілі блудную памяць даўніны, што снапамі ўсцілала тут зямлю. Кроў людская не вадзіца. І ці не менавіта гэта выгнала коцікаў у ноч і цемру шукаць сабе будучыню і долю?

У сухім і зрэджаным паветры ночы сыпаўся долу звон жалеза аброцяў і страмёнаў, смяротна скрыгаталі мячы, выразна і злосна бразгалі дзіды. А пад ногі коцікаў, далёкіх ад гэтай былой ці будучай бойкі, увесь час кідаўся прыпалы да зямлі, памерлы ўжо, але ад гэтага яшчэ больш учэпісты чартапалох і трывушчы ў любое надвор'е дзядоўнік. Апошняга навокал была бяздонная процьма. Нібы хтосьці спецыяльна засеяў тым дзядоўнікам зямлю. Засеяў, вырошчваў яго не адзін год. І з сівой далечы гадоў ён увесь захаваўся і паўстаў цяпер на дарозе коцікаў.

Але трэба адзначыць, што самі дзяды, пругкія, кругленькія і сівабародыя, не перашкаджалі хадзе коцікаў, хаця сярод іх меліся і пушыстыя каты і коткі, з доўгай поўсцю. Але такімі яны будуць ці маюць быць, калі падрастуць. Цяпер жа ўсе яны былі аднолькавыя, з

кароценькай шэрсткай, вострымі вушкамі, пруцянымі хвосцікамі. І дзяды не здолелі, а мо і не хацелі ўблытвацца. Мякка слізгацелі толькі шэрымі світкамі і сівымі барадамі па іх хвосціках і мысах, як лашчылі і давалі праход, дазвол рухацца ў жыццё.

І кацяняты, нібыта жывыя іголкі, расшывалі ноч, сточвалі яе імкненнем і прагай жыцця. Яны шукалі сваё месцейка ў той начы, дзе б ім спагадалі і дазволілі хаця б абагрэцца. Шукалі чалавека і хату.

Невядома, быў ці не быў уначы чалавек, а хаты вакол меліся. Але коцікам апроч саміх хат былі патрэбны яшчэ і дзіркі, якія б дазволілі ім пранікнуць хаця б да ганкаў тых хатаў, прыпасці да іх парогаў і пратрываць да святла, слухаючы, як недзе за сценамі варочаецца і цёпла дыхае чалавек. Яны зусім не спадзяваліся на гасцінна адчыненыя перад імі вароты і веснічкі. Час быў не той, не тая пара і эпоха, каб перад нязванымі гасцямі шырока адчыняць дзверы. Кацяняты ўжо добра ведалі гэта. І паколькі самі былі маленькія, яны шукалі маленькія дзірачкі ў душах хатаў. Нават не дзірачкі, а шчылінкі ў плоце, праз якія яны маглі прашчаміцца бліжэй да жытла чалавека і крыху адпачыць на забытым ці проста пасцеленым на ганку людзьмі палавіку.

Але і маленькіх, па сабе, дзірак нідзе ў халоднай цемры маленькім коцікам не шчасціла знайсці. Хаты былі запакаваны ў платы, як каўбаса ці гавяда на вынас ці нават вываз. Трэба адзначыць, што і хатаў было небагата. Вёска, у якой собіла нарадзіцца кацянятам, хаця і старажытная, славутая, была цяпер амаль пакінутая людзьмі. Колішні чалавек тут не толькі араў зямлю, сеяў жыта, садзіў сады, лавіў рыбу і сплаўляў лес, а танчыў мазуркі, падэспані і вальсы, бласлаўляў і ўпрыгожваў край, у якім жыў, быў музыкам і дойлідам, вучоным і даследчыкам, лагодзіў, астуджаў, бадзёрыў душу адкрыццём шматлікіх тут гаючых крыніц.

Цяпер колішні той чалавек адсюль звёўся. Разбегся, рассыпаўся па свеце. Па тым самым бясконцым свеце, што даў жыццё, пароду сямі ўсім нашым коткам і коцікам. Уганароўваў жыццё ў амерыках, азіях, афрыках ды аўстраліях. А ўласны яго корань на роднай зямлі высах і спрах. Большасць жыхароў вёскі перабралася ў жвір беразняку на пагорку — на могілкі.

Шмат селішчаў з даўняй пары пуставалі, занесеныя, затканыя з усіх чатырох бакоў чартапалохам, дзядоўнікам ды крапівой. А там, дзе нехта яшчэ трымаўся, ацалеў і ладзіўся перазімаваць, прыляпіліся і сабакі. І вельмі злыя, пакрыўджаныя прадбачаннем свайго непазбежнага нешчаслівага лёсу. Кацяняты, як і сабакі, яшчэ здалёку чулі сваю агульную з імі долю і не рызыкавалі сысціся з чужой бядой і крыўдай.

Хаця, трэба адзначыць, пакрыўджанасць і нядоля чалавека і сабак больш прываблівалі кацянятаў, чым раскоша, багацце і панаванне, бо такі-сякі жыццёвы вопыт усё ж набылі, нястача і гора навучае ўсіх вельмі хутка. Сметнікавы вопыт хаця і горкі, але надзвычай дзейны і карысны. Кацяняты ж да таго, як збіцца ў чараду, былі што ні на ёсць сметнікавымі істотамі, падплотнымі падкідышамі. Сметнікі ўтрымлівалі іх, не давалі памерці з голаду. І пачалі яны свой шлях са звыклай ужо ім сметнікавай хаты, якая б прытуліла іх, дазволіла хаця б пераначаваць. Адчуць чалавека, здольнага спагадаць іх сіроцтву.

Хата тая была канцавой. Стаяла на ростанях трох дарог. Адна з іх — вулічная — заканчвалася вузенькай сцежкай, што вяла да ракі. Другая абодвума напрамкамі абапіралася на цемру, ноч, з якой і выйшлі кацяняты і пачалі вандроўку ад селішча да селішча ў беспрытульнасць.

Канцавая хата прыйшлася даспадобы, таму што не ведала плоту. Па ўсім, ён некалі ўсё ж быў. Быў ды сплыў — упаў і згніў, ці то яго спалілі з-за адсутнасці

дроў, дзе-нідзе ікласта тырчэлі толькі спарахнелыя праслы. І тыя іклы, як ацалелыя зубы бабы Ягі, падобна, запрашалі ўсіх, хто б ні ішоў, не праходзіць міма.

І кацяняты даверыліся ім. Нічога страшнага з імі не адбылося. Праўда, адразу ж насустрач выхапіўся з будкі паджары, вельмі худы, скура прырасла да хрыбта, сабака. Кінуўся да кацянят, але не з абурэннем і злосцю, а з лагодай і павагай, нібыта толькі сядзеў і чакаў іх у сваёй будцы. Ласкава затанчыў перад імі на дзвюх лапах, прыхільна пазвоньваючы саржавелым ланцугом, памахваючы адразу і хвастом, і галавой, нават выпнутымі з-пад скуры — усе да адной наперагалік вонку — рэбрамі. Выпнутымі і, пэўна ж, сухімі і жорсткімі — не спажыўнымі. Якія ж інакш у змучанай вечным галаданнем істоты могуць быць рэбры?

Дарэчы, такія ж рэбры былі і ў гаспадара сабакі. Бо ён таксама даўно, як з’ехалі адсюль дачнікі, нічога не еў, а толькі закусваў чэрствай скарынкай ці надсыра зваранай у лушпінах ззелянелай бульбінай. Бо тая бульбіна сама знаходзіла яго, забытая ці прапушчаная на выкапаным і ўжо апусцелым бульбянішчы. А вось дзе знаходзіў ён сабе пітво — было невядома нікому. Знаходзіў. Такія ж спадзяванні на нечаканасць і таямнічасць знаходкі захоўвалі ў сабе і ўсе сямёра кацянят.

Сустрэча з ветлівым, але галодным сабакам іх не напалохала і не ўзрадавала. Яны даўно і добра ведалі яго па сумесных раскопках закінутых сметнікаў і ўжо звykліся з ім і ні кропелькі не баяліся. Больш таго, яны ведалі і пра незвычайны талент гэтага сабакі.

Ён умеў не толькі танчыць, але і спяваць. Музіцыраваць і проста штукарыць, валяць дурня. Яму б на людзі. На сцэну — у цырк ці тэатр, цаны б яму не было. І гэта якраз у самы яблычак. Цаны яму не было, і рабіў ён раней у некім пагарэлым тэатры ў сталіцы. Выгналі за празмернасць таленту, а мо нават і геніяльнасць. Паперлі, бо спяваў ён і танчыў так, што гледачы

забываліся на ўсіх іншых акцёраў, сачылі за ім. Толькі песні яго, хоць і сабачыя, былі нейкія няправільныя. Пра нейкіх там родных дзяцей і матчыну мову. Быць як усе сабака не жадаў. Цягнула яго ўвесь час, карцела сысці з гэтай правільнай жыткі немаведама куды.

Вось ён і пакаціўся. Спачатку на маленькія ролі ў статысты, а потым і ўвогуле на падмены і ў запаснікі. Прыбіўся да нейкага рэжысёра, што знаходзіўся ў вечным творчым прастоі і спіўся. Рэжысёр таксама быў таленавіты, але, як і сабака, няправільны, «нячэсны», цураўся прыстойных людзей, ладзіў знаёмства з усякімі падазронымі асобамі. З-за гэтага яго і папрасілі з тэатра і нават з творчай гільдыі акцёраў.

А ў хуткім часе, нібы ў дакор за іх выгнанне, згарэў і сам тэатр. А мо і не ў дакор. Талент яшчэ ж неапазнаны, ніхто не здольны сказаць, ад Бога ён ці ад д’ябла, вымераць яго ўбоства, сілу і моц, што ў яго наўме. Выгнаннікі адпомсцілі ганіцелям. Тэатр заняўся і згарэў датла непрадвяшчальна, пры святле і свядомасці белага дня. Яскрава, зырка і весела, як знічка, зорка ў небе напрыканцы свайго касмічнага векавання. Насычаны, набрынялы ўсклянь шматгадовым прытворствам, успыхнуў вокамгненна і непатушальна.

І што дзіўна, агонь узяўся верхавы, са столі, дзе ён не павінен быў месціцца. Знутры, з ахоўнай столі ў апляценні металёвых тросаў, балак, рэек. Дзе павінна лунаць мо і палымянае, але ж толькі слова, рэха і музыка, гукі скрыпкі і хору. Мо якраз яны і не вытрывалі і пабраліся клубам і пратэстова пыхнулі іскрамі, якія падпалілі ўжо само паветра. І паветра шуганула полымем. Як са сцятага да пары да часу меху з газамі.

Столь, верх пад цыганскі шацёр палаў так, нібыта там заселі вялізныя ветрадуі. Забаўляючыся, надзімалі ружовыя шчокі і гулліва дзьмулі, дзьмулі, памнажаючы працяг агню. І агонь бежкі бег па высях, языката прыпадаючы да сценаў. Стаптаная пакаленнямі

артыстычных ног падлога, сцэна не надта паддаваліся яму, пэўна, не было як і за што ўчапіцца. Затое ацяжэлы занавес адразу ж кумачова і трапятка аж загудзеў ад задавальнення. Неўзабаве тэатр гарэў і з сярэдзіны, і звонку. Крэслы, рампа, аркестровая яма. Дах зрэдку пастрэльваў чырвонымі парэшткамі чарапіцы пад рогат прахожых зявак, былых гледачоў. Тэатральны гмах згарэў ці не імгненна. Але не цалкам. Абрысы яго засталіся, пазнавальна захаваліся. Ацалелі цагляныя сцены з вышчарбленымі праваламі вокнаў і дзвярэй. Выстаяў і каменны падмурак, засыпаны абваленымі сталёвымі рэйкамі, пакручанымі, але непераможанымі, доўга захоўваючымі ў сабе гарачыню і нават жар. Яны не пазбавіліся яго, хаця і пад попелам і ўначы. Уначы той попел працягваў гарэць, ірдзяна пыхаючы іскраным жарам, абяцаючы, пэўна, зваротнасць тэатру. Непагаснасць ліцадзейства.

Разам з сабакам актор і рэжысёр пагарэлага тэатра атабарыўся ў гэтых глухіх і не цікавых «чэсным» творцам мясцінах і запіў ужо, як кажуць, па-чорнаму. Пракляў і ўзненавідзеў свой талент і ўсе астатнія таленты на свеце — гэта зусім не ад Бога, ад гардыні і д’ябла. Каб не вадзіла і сабаку праяўляць свае здольнасці, пасадзіў яго на ланцуг і амаль перастаў карміць. Часам спрабаваў напаіць, пэўна, правакаваў, каб аднаму піць было не сумна. Але сабака да гарэлкі быў нязвыклы. Гібеў тут былы дваранін, як некалі гібелі дзекабрысты ў сібірскай тайзе.

Пакрысе песеннасць сабакі, яго музычныя здольнасці збываліся, сыходзілі ў нябыт. Мо б так усё і пайшло прахам. Але і тут здарылася нешта дзіўнае, пэўна, не без умяшальніцтва нячыстай сілы, а мо і самога Усявышняга. Страчаны талент сабакі аднавіўся. Нечакана і адразу, пасля сямідзённага запою гаспадара. Увесь гэты час сабака сядзеў на ланцугу. Спачатку голасна і гулка брахаў. Калі адчуў, што на гэта не стае ўжо сілы,

пачаў жаласна скуголіць і ціхенька падвываць, а потым безнадзейна стагнаць усім целам, калаціцца. Пэўна, якраз з гэтага развітальнага стогну адчаю і абудзілася забытая песня. Не ўсе ж яны нараджаюцца ў раскошы і сытасці. У галечы і безвыходнасці таксама ёсць свая песня. А тут песня хаця і галодная, нутраная, была з музыкай, якую сабака сам ствараў, сам выконваў, іграючы на ланцугу, прыкаваны да будкі. І грошай не браў, сам гатовы прыплочваць. І ці не прыплочваў — слязьмі. І хоць гавораць: песняй сыты не будзеш — мана гэта. Калі песня апошняя, то яна заўсёды салаўіная. Толькі не ўсе чуюць і ведаюць гэта. Мо толькі сам салавей.

І салавей першым пачуў сабачую песню. Падтрымаў, падцягнуў. А тут, як пачало днець, і верабейкі наляцелі. За імі абадзёрыліся іншыя птушкі. Спеўна зашчабяталі шпачкі: што тут, што тут? Сарока застракатала, грак як у скураны бубен бухнуў, ці не раздзёршы яго. Людзі прыслухаліся, пачалі збірацца на гэты агляд самадзейнасці ў кустах, ці, як сярод культурных прынята гаварыць, па кустах. Вось так, з дапамогі ўсяго свету, сабака паціху ачомаўся, акрыяў. Не так ужо і блага, калі творца ўмываецца слязьмі. З тае пары часцяком ужо выступаў перад жыхарамі вёскі і навакольных кустоў з сольнымі канцэртамі. Пачуў не толькі спяваць, як раней. Але яшчэ і танчыць, падтанцоўваць пры гэтым. Што прарабляў і цяпер, перад кацянятамі. Спяваў, танчыў і сам сабе іграў на гуслях саржавелага ланцуга, так, што ржа сыпалася і блохі блазнюрылі лагодай. Толькі кацяняты былі зусім няўдзячнымі слухачамі і гледачамі. Таму што ў некаторых з іх, відавочна, таксама паціху прачынаўся ўжо сабачы талент. Вялікі талент адчаю, сіроцтва і беспрытульнасці перад халоднай і галоднай ноччу. І іх ненадоўга затрымала і забавіла сабачая песня, хаця яна была і бясконцай.

Яны амаль што подбегам кінуліся прэч ад цемрашальскага саліста, адчуваючы, што іх песня не

тут і не сёння, і тым болей не сабачая. Яна яшчэ акажа сябе. А каля гэтай хаты, ды яшчэ з галодным творцам, іх чакае толькі забыццё. Мастацтва, зразумела, вялікая сілы, і ў кожным мелася тая сіла: была сіла, калі маці насіла. А цяпер прыходзіцца давярацца толькі сваім нагам, хвастам ды носікам.

І носік беспамылкова скіраваў іх да панства, сытасці і раскошы. Да пагорка, на якім наасобіцу стаяў шыкоўны, на два паверхі, гмах. Вокны таго гмаху свяціліся, праз іх хістка прабівалася і прысутнасць чалавека. Таксама музыка і песня, толькі зусім не сабачая, пад пах мяса і рыбы, масла і смятаны і яшчэ бог яго ведае якіх прысмакаў, што шырокай плынню выструменьвалі насцеж адчыненыя дзверы гмаху. А яшчэ яны струменілі лагодай і добразычлівасцю гаспадароў, іх здароўем і спакоем.

Толькі вось бяда, усё гэта было агароджана высокім плотам з ацынкаванай сеткі на чырвоным падмурку штучнага, пад граніт, і самароднага шэрага каменю. І колькі ні кружылі каля гэтага гмаху кацяняты, нідзе не было ані дзірачкі, ані шчылінкі, мыш не ўстрэміцца. І ім заставалася толькі аблізвацца на гэты цуд і рэй ночы: жывуць жа людзі. Жывуць.

Але не толькі людзі жылі тут. Пачуў кацянят і шалёна выхапіўся з хаты вялізны, з ладнага пакаёвага сабаку, белы кот-прыгажун з ахоўным ад блох ашыйнікам, тонкім пахам мо і не яго, а гаспадыні парфумы, шампуню. Падляцеў да плота, дзе стаіліся кацяняты, усім целам кінуўся на сетку — і як прарвала яго, так дзіка і злосна зароў ён на ўсю цемру, нібыта сам быў злосцю і неспазнанай яшчэ светам ярасцю. Такой моцы і такога напалу нянавісці кацяняты ў сваім жыцці яшчэ не чулі і не ведалі. Адкуль ім было ведаць, што не жывое, а памерлае, адмерлае ўжо так галосіць?

Гэты белы ўкормлены і спешчаны кот быў куды больш нешчаслівы за самага апошняга з іх. Бо быў з

заганай, як бы не зусім катом. Яго яшчэ ў маленстве пазбавілі кацінства, кастрыравалі, каб ён не памячаў сваімі мужчынскімі пахамі хату, асабліва не прэтэндаваў на нейкую ў ёй сваю маёмасць. Не меў уласцівых кату жаданняў, спакойна тлусцеў і не дзёр шпалеры.

І гэта супакоенае назаўсёды, не жыццёвае, а адмерлае бунтавала ў ім, то нядоля яго вечная і непапраўная аказвала сябе перад сваімі ж супляменнікамі, якіх ён даўно ўжо і назаўжды зненавідзеў з-за сваёй непаўнавартасці. Зненавідзеў і, як і дзе толькі мог, помсціў, гадзіў і запалохваў іх. Вось як цяпер: гатовы, здаецца, разарваць кожнага з іх, ці хаця б адарваць спраўныя ў іх патомныя прычындалы.

А тут яшчэ, як на тую хваробу з той жа хаты вылецеў вялізны таўсматы шыракагруды і такі ж шырокі і ў азадку сабака. Поўсць ільсняна-чорная, нібы ноч, прыпала да яго скуры. А з мокрых сытых вуснаў, ірдзяна-чырвоных, пеннаслінных. сцякала на зямлю і падала яму пад бярвенне лапаў з вострых іклаў неўтаймаваная вар'яцкая раз'юшанасць. Сабака не брахаў на кацянят па-за драцяным плотам, бо падобна, не здольны быў брахаць, мо ад паходжання, пароды, а мо і задышка брала яго, жаба. Ён толькі пыхкаў, утробна скуголіў і скрыгацеў белымі лапатамі глыбока прырослых да пашчы зубоў. І трос, трос пярэднімі лапамі металёвую сетку, навальваўся на яе грудзямі, тулавам, як п'яны чалавек навальваецца на корч ці кол, каб устояць ці выдзерці яго і з тым колам кінуцца на ворага.

Ворагі-кацяняты пасунуліся задам ад гэтай падвоенай пагрозы. І апрытомнелі ўжо даволі далёка ад шыкоўнага гмаху, што свечкамі еўрапейскіх вокнаў ззяў уначы на пагорку, заказваючы і сёмаму, і дзявятаму ў сваім калене нават набліжацца да такога шчасця і дабрабыту. Мо недзе ў душы ўжо і шкадуючы, што не засталіся ў пустой і высцюжанай будцы сабакі, які меў талент спяваць. Хоць

бы не зведалі такога жаху, не зведалі сытнага і шчаслівага пекла. Цяпер жа яно назаўсёды захаваецца ў памяці.

І зноў была ноч, і зноў быў холад. І зноў была беспрытульнасць. Цемра вывела іх на нейкае бязладдзе збудаванняў. Хату з абвіслым, як вушы, да самага долу дахам, такі ж, з віслымі вушамі над памостам двухпавярховы чамусьці хлеў, і хляўчук ужо нармальны, прыстойны, у якім можна было б жыць жывёле. Але быў ён пусты, нежылы, хаця каля яго стаялі і калёсы з драбінамі і шырока разведзенымі ў бакі аглоблямі, з якіх выветрыўся ўжо і конскі пах. Карцінка, не калёсы. І ўсё навокал забудаванне было карціннае. Ад засіверанага глечыка на кале пры хаце да драўлянага лінялага пеўніка на страсе той жа хаты, лазовага пляцення пры парозе і парванага, абчышчанага ветрам плёначнага паркана.

Сярод гэтага бязладдзя і няўтульнасці ім, кацянятам, і прыпыніцца б, зашыцца ў якіх-небудзь лахманах ці перапрэлай саломе. А там ужо, раніцой, што бог пашле. Але зноў жа гэта неахайнасць жыцця была толькі вонкавай, умоўнай. На самай жа справе яна была арганізаванай і старанна ахоўнай, непадступнай і недапушчальнай. Куды ні тыцнуліся насамі кацяняты, з усіх бакоў быў каменны ці бетанаваны падмурак і металёвая сетка.

І кацяняты пасунуліся далей у цемру, ужо без спадзяванняў на больш-менш утульны і цёплы прытулак. Толькі б некуды рухацца. Не ўпасці па дарозе, не замерзнуць на ёй. Бо сканаць на дарозе, навідавоку, было ім заказана, як гэта заказана кожнаму зверу. І яны шанавалі і берaглі вечную таямніцу адыходу: толькі не на людскім воку, не дай бог дзіцячым. Смерць нікога не павінна палохаць, ёй наканавана быць ціхай і нябачнай. Гэта святы запавет зверу і чалавеку.

Адчуванне нябыту вяло іх у зараснікі кустоў пры невялічкім балоце сярод поля. Але сярод тых кустоў, снулага ўжо алешніку, лазы і чаромхі чарнелася і нейкае

жытло. Стаяў ужо свежы хлеў з двума варотамі — пад машыну і для праходу людзей, забетанаванымі пад'ездам і падыходам. Хату ж яшчэ трэба было ладзіць ды ладзіць. Не, яна ўжо была выведзена пад страху і пакрытая шыферам. Мелася і веранда пры ёй з пафарбаванай падлогай. Але з усіх бакоў заставаліся дробныя недаробкі. Не дайшло яшчэ да падмурку шаляванне, не скончана атынкоўка аканіц. І ў самой хаце, пэўна, не ўсё яшчэ было зроблена, бо каля ганка ляжала цэгла, высокія гурбы трэсак і тырсы, карыта з разведзенай глінай.

Кацяняты ўсё гэта добра бачылі і ў цемры, таму што былі яны вясковымі, зыркімі. Добра адчувалі і разумелі, як бярэцца на жыццё ўсё жывое на гэтым свеце. Да таго ж неба над імі крыху пралысілася. Хаця яно, як і раней, было зацягнута хмарамі, толькі цяпер плыўкімі ўжо, ссівелымі і цяжкімі, што восеньская вада ў Пцічы. Але і пры гэтым няпэўным святле кацянятам стала трошачкі відней і крышачку сугрэўней. Нехта там, на небе, праскробваўся, імкнуў да іх і да зямлі. Прасякаў у вышыні дрыготныя шчылінкі. І тыя шчылінкі былі цёплымі і добрымі.

Неба бы пашкадавала іх, хаця і пацягнула не дужа ласкавым ветрыкам. Пад тым ціхім ветрыкам ноч нечакана як абламілася. Хмары сплылі, і поўны да краёчкаў не расплюханым святлом Месяц вынырнуў з цемры і адразу магутна і цалкам прабліснуў з ночы, з недасяжнай вышыні абрынуўся з неба, кінуўся кацянятам у вочы і пад ногі, як кавалачак жоўценькага масла на шэрані сподачка дарогі. Зямля асвятлілася, уся, да даляглядаў, хоць былкі на ёй лічы ці іголкі збірай, такая вялікая і ясная дзірка ўтварылася на хмарным небе.

Лёгкі ветрык, які ўсё гэта мо і прарабіў, спуджана адбегся ў зараснікі кустоў, зашапацеў не апалай яшчэ лістотай. І нешта ажыло там, у зарасніках, няцямна падало голас. Мо заяц ускрыкнуў у сне, усхліпнула

абуджаная поўняй птушка, апошні раз узмахнуў здранцвелымі крылцамі матылёк, узгадаўшы лета.

І ўсё неба адразу зрабілася падраным, дзіркаватым. То ў ім узышлі, праскрэбліся зоркі, заміргалі чыстымі шчылінкамі вачэй, пачалі перашэптвацца між сабой, пэўна, спачуваючы кацянятам. І кацяняты ўбачылі. Убачылі адно аднаго, саміх сябе на дарозе. І проста перад сабой у плоце, якім было шчытна агароджана жытло, дзірку, ды такую ладную, што ў кожнага аж у носе засвярбела. Не, ёсць усё ж праўда на белым свеце: тут жыў Чалавек. Чалавек парупіўся. Дбаў аб сваёй сядзібе, выгароджваўся плотам, але паспрыяў і ім. Пакінуў для іх дзірку, бо добра ведаў, што ўсякая, нават самая заможная, гаспадарка мае дзіркі. Павінна мець іх, бо не ўсе сцежкі на свеце прамыя, і кожная добрая агароджа без шчылінак немагчымая. Само жыццё не бывае без дзірак, шчылінак, таму што на свеце апроч чалавека ёсць яшчэ і каты, і маленькія беспрытульныя сіраты-кацяняты.

## ХАЎРУС ПРЫМАЕ ХАТУ

Збіраліся доўга, марудна. Не ўсе ведалі дарогу. Час такі пайшоў, калі пачалі зарастаць дарогі. Ад былых сцежак ужо і знаку няма. Некалі бойкія гасцінцы і тыя пабраліся быльнягом. Здзічэлі і звяліся яблыні, грушы і вішні на колішніх бальшаках. Мала каму хадзіць, а тым больш ездзіць, адпачываць ад стомы і спёку ў цяньку пад шапатлівымі шатамі пракаветных дзедавых груш ды яблынь, ласавацца іх сціплымі пачастункамі. У большай пашане і тут даўно ўжо бананы ды ананасы з мандарынамі. І людзі з’явіліся смуглыя, чарнавокія ды ў шапках з вялізнымі, што лапухі, брылямі. І раскідзісты лопух, што ўхапіўся на былых слядах сёння зведзеных людзей, вітаў прышлых забурэлым і скурчаным, нібы аблупленая каровіна скура, лістом як папярэджаннем і пасланнем з таго свету.

І садовыя дрэвы абапал бальшакоў, шляхоў і гасцінцаў ніякавелі пад абыякавым поступам сваіх і чужынцаў. Угіналіся, чэзлі і марнелі. Да ўсяго ж прыкінулася да іх набрыдзь зайцоў — русакоў ды белякоў, што выйшлі са зведзеных бароў, дуброў і гаёў. Выйшлі згаладалыя, а таму прагныя. Шаткавалі ўсё яшчэ не акарэлае і больш-менш спажыўнае з дрэў не горш за тых баброў. Абгрызалі, каравілі да сухажылляў, да стрыжня ўсе маладыя парасткі, што ўздымаліся на змену старым дзедаўскім яблыням ды грушам, І часам прайсці па былой дарозе магчыма было, пэўна, толькі з касой ці сякерай. Сілу і спрыт трэба было мець, і не маленькія, каб хадзіць па сваёй жа зямлі.

Вось таму амаль усе і пазніліся, выцярэбліваючыся з ацалелых яшчэ патаемных нораў і хованак да маладзенькай, толькі-толькі паўсталай пад небам хаты. Гэта новая хата была таксама што дзіва. Хаты цяпер тут больш не раслі — урасталі ў зямлю. І пакуль кожны з іх туляўся ад адной спарахнелай дамавіны да другой, час ішоў. І ўсё наперад, наперад, бязлітасна і незваротна, зусім не іх час.

Адзіны толькі Дамавік здолеў без прыгод апынуцца на дамоўленым загадзя месцы, хаця таксама не без цяжкасці і зацятага змагання. Ён проста жыў тут, апошнія гады вельмі гаротна і сумна, бо яго хату з цёплым падпеччам і ўтульным кутом зруйнавалі ўжо даўнавата, яшчэ пры пабудове светлага будучага чалавецтва. Дамавік нікуды не сышоў са свайго захопленага травой нябыту і забыцця селішча, не кінуўся ў белы свет, што ў капеечку, па тую ж капеечку, у горад, у сібірскія, калымскія да магаданскія Беламор'і. Усклянь набрыняў заможнасцю і смерцю, як гэта па спакусе, сваёй ахвоце, а больш па прымусу і злой волі прарабілі з яго адвечным тутэйшым, хаўрусам, якому засляпілі вочы немач, бяда і нядоля, за якімі непазбежна толькі чужая сырая зямля, магіла ды крыж. А часцей — без магілы і крыжа, калі ты адцураны ад свайго кута, родных вуглоў, коміна і печы. Пабрылі, павезлі вырачона гнаных родным дымам, як на той свет, дзе сатлелі адчужана ў невядомасці іх косці.

А дрымучы Дамавік свае косці захаваў, застаўся верны свайму спрадвечнаму наканаванню. І не прагадаў. Дачакаўся свайго пры адзіным дубовым бервяне ад падмурка старой хаты. Бервяне, што ўрасло глыбока ў зямлю і мо магло нават прарасці, каб было ў ім нешта жывое, так абмывалі і клапаціліся аб ім, асірацелым, тутэйшыя падземныя воды былых ручаёў і крыніц. Не прарасло, але і не спрахла. Скамянела і стала, як кажуць, мораным. Каля гэтага моранага, цяпер ужо вечнага

дубовага бервяна не прапаў і Дамавік. Нават сам трохі падужэў, акрыяў, што стрыжнёвы корань.

І таму, калі на адноўленае, паўсталае з нябыту жытло кінуліся Дамавікі-суседзі, што таксама перабіваліся пры спарахнелых ужо хатах, ён паказаў: не ўсе яшчэ зубы ў яго павыпадалі, і даў ім ад варот паварот, хаця па сваім адвечным прызначэнні ніколі не быў ваяўнічым. Заўсёды нябачны. Ціхі і памяркоўны. Толькі сваім ніколі не папускаўся, якой бы ні была навала.

А яна была даволі жорсткай і палкай. Таму што акрамя нягеглых і старых памяркоўных Дамавікоў-пнёў пачало пракідвацца племя ўжо маладое, жорсткае і нахабнае, часткова з невядома адкуль з'явіўшыхся прыхадняў, І гэтыя маладыя ваўкі не зважалі ні на малое, ні на старое, трушчылі маладымі, не зведаўшымі карыесу зубамі ўсё без разбору. І ўсё пераварвалі, і было ім усяго заўсёды мала. І стары тутэйшы Дамавік вымушаны быў прыгадаць сваю маладосць, калі і на ім гарэла скура. Паказаў кожнаму, дзе ракі зімуюць. Вось толькі пашкодзіў правую нагу. Хадзіў з кульбачкай, нечым падазрона падобнай на яго самога, толькі як бы апалавіненага, ссохлага данельга. Кульбачка тая стаяла каля яго, і цяпер ён абапіраўся на яе тронак, падобны на яго ж чэрап, да бляску адпаліраваны, склаўшы на яе абедзве рукі і падбародддзе. І цяпер, чакаючы, пакуль падцягнуцца іншыя закліканыя і абраныя на гэтую сходку, ён, можна сказаць, адпачываў. Насунуў ці не да самага роту да белі вынашаны, лаплены капялюш, прыдрэмваў у звычным яму куце — толькі калыхалася і жоўта паблісквала старэчая лысінка ды час ад часу нешта абурана клекатала, як варылася ў яго ў жываце. Але гэта было падманліва, таму што ён не браў у рот нічога спажыўнага гадоў ужо пяцьдзясят. Не меней. Больш — магчыма. І нават прыкархнуўшы, ён добра ведаў і бачыў, што тут адбываецца.

Вось з'явіўся лёгкі на пад'ём Вох — воблака і без штаноў. З'явіўся і адразу завохкаў, угінаючыся безаблічным і цьмяна дрогкім целам.

— Вох-вох-вох, як бядотна стала на гэтым свеце. Вох-вох-вох.

— Ну, усё, жыццё пачалося, — прыўзняў капялюшык на бровы Дамавік. — Вох, як бачыце, прыступіў ужо да сваіх службовых абавязкаў. Жыццё наладжваецца, як тады. Вясёлае.

— Памаўчы, стары казляк, а то я наладжу табе вяселле.

Дамавік прамаўчаў, толькі нешта буркнуў ў сівое шчэцце твару — не разабраць, дзе рот, дзе нос і ці ёсць яны нават. Але, пэўна ж, былі, бо Дамавік пасміхаўся, толькі хаваў гэту сваю ўсмешку пад насунутым да рота капялюшыкам.

Нейкі час у хаце зноў панавала цішыня. Нават Цвіркун не падаваў голасу. Ён цішком, трэсачкай, узнятай подыхам ці то Воха, ці то Дамавіка, уляцеў у хату, таксама цішком прыгледзеў маленькую шчылінку ў бервяне каля печы. Быў ужо сонны напярэдадні халадоў. Час яго спеваў, пэўна, ужо скончыўся. Ды з някорміцы, невядома дзе начуючы, якія могуць быць спевы? Адно ратаванне — рот на замок. Але ніхто і ніколі не здольны быў заткнуць рот Воху. Калі вохкаць, зразумела, як тады — на тысячагоддзі.

— Вох-вох-вох, — загаварыў ён зноў. І цяпер ужо вершамі. — Мядзведзь недзе ў лесе здох. Вох-вох-вох.

— Чаго ён здох? — спытаў, не зварухнуўшыся, каб проста падаць голас сябру, Дамавік.

— Задумаўся і здох. Зацікаўлены, дапытлівы вельмі быў і наскрозь сухі... Вох-вох-вох, нас жа трое ўжо, можна і наліваць.

— Налівалы няма, — усё ж азваўся, піскнуў са шчылінкі Цвіркун, пэўна, угрэўся, пачаў нават трохі свяціцца. Праўда, вельмі цьмяна, не хапала ўсё ж цяпла. — Няма каму наліваць. А помню...

— Гэта не праблема. Было б што, я і сам бы наліў, — адказаў адразу абодвум Дамавік.

— Я табе налью, — пыхнуў перастаяласцю балот, курнасцю і застарэлай брагай карчоў новы, хаця і не вельмі свежы, відно, толькі што падвяселены чацвёрты наведвальнік хаты.

І было ўражанне, што ў яго сапраўды ёсць чаго наліць. Налівалку ён насіў, здаецца, пры сабе. І яна рабіла. Цягнула, цягнула ад яго дымком, і агеньчык пабліскваў не толькі ў вачах яго, але, здаецца, недзе ў сярэдзіне. Кіпеў ладных памераў там жа, у сярэдзіне, кацёльчык. І нешта булькацела там, як у змеевіку, смачна кропля за кропляй капала, толькі куды, у якую пасудзіну — невядома, бо яна была схавана ад чужога вока пад яго панцырна-шчытнай, непранікальнай скурай.

Ён быў вельмі падобны на вялізнага, толькі абсмаленага чмяля ці калматага зубра. І гудзеў за двух, як чмель і зубр, і рогі на шышкавай галаве, здаецца, праразаліся, але і крылцы пры ім меліся. Толькі не слюдзяныя, а што ў кажана, скураныя і перапончатыя. Па тым, як ён паводзіў сябе, можна было меркаваць, што гэта сапраўдны налівала. А на самай жа справе гэта быў не чмель, не зубр і нават не кажан і не налівала. Неўміручы і вечны, як той і гэты свет, як балота і вада, пушча і поле, Цмок.

І зусім не тое, пра што можна было падумаць, варылася ў яго чэраве. Там сапраўды была печ, і меўся пры ёй кацёльчык. Ну, і на ўсякі ўжо выпадак змеевічок. Але больш гэта была неад'емная частка крылатага Цмока. Ён, для таго каб лятаць, рабіў на мясцовым паліве — альховых дровах і для водару — ядлоўцу. Гаспадарлівы быў і паслухмяны: зберагаў энергарэсурсы, хаця яму не раз прапаноўвалі перайсці на тэрмаядзерную цягу. Адмаўляўся: «Жыць хачу. Жыць хачу. Амаль жа адзіны застаўся. Ніхто з майго племені, што пад Чарнобылем перайшлі на гэту сучасную цягу,

не выжыў. А я, як бачыце, хоць абсмалены, але яшчэ шпацырую і куродымлю».

— Я табе зараз так увалью, ссівелы ты п'янтос і бандзюгайла, і табе, воблака ты без штаноў. З-пад чацвёртага рэактара першачку...

— Мне ўжо не трэба, — хуценька адмовіўся Вох. — Адно толькі скажу, перакуліўся, згадзіўся свет: добрыя людзі, заходзячы ў хату, спачатку вітаюцца...

— Дык то добрыя людзі, яны і паміраюць. А я нелюдзь, як і ты, Вох, і ты, Дамавік. Каб род людскі не ведаў пераводу. І я ўжо тут, а дзе астатняя нелюдзь?

— Чую, на падыходзе. Ты таго, Цмок, не перабірай губамі, не цмокай, а то каля цябе закусіць хочацца... Грабуцца ўжо. Во...

І на гэтых яго словах перакулілася праз парог, з'явілася ў хаце Русалка.

— Доўга ж ты ходзіш, — незадаволена сустрэў яе Цмок.

— Што зробіш, гэта ты ў нас прыткі, крылы маеш. Ды вось гэтыя Дзьмухаўцы. — Русалка кіўнула ў бок Воха і Дамавіка, Цвіркуна, пэўна, і не прыкмеціла бо была, па ўсім, вельмі стомленая, задыханая. — Ты бачыш, колькі ў мяне плоці, і якая плоць, якое цела. Хоць у гарэм, хоць у Савецкую Армію.

Плоці, цела ў яе і на самай справе было занадта, нават для старой Ундзіны. Адно — гады бралі сваё, а другое — разленавалася яна апошнім часам, таму і раскапусцілася. Рэчка ў яе невялікая, раней хоць запруда пры млыне мелася і паны з паненкамі на лодках шлёндалі. Русалка магла і пасваволіць, перакуліць якую-небудзь з лодак, прыбраць да сябе найбольш грахаводную. Прыхапіць з сабой шляхцянку ці шляхціча, калі ён прыйшоўся ёй па сэрцы. Любіла яна грэшных, бо сама сцервай была.

Цяпер жа млын даўно спрах, ад запруды засталіся адны патырчакі колішніх паляў. І на лодках ніхто не катаўся, яны зніклі, як каханне і шляхетныя каханкі і каханцы.

Адно нейкая надта ўжо нецярплівая парачка — баран ды ярачка — прылягалі хаця і ля вады, але пад кустом, ды крадком сярод ночы іншым разам праслізгвала браканьерская, невядома як ацалелая тут душагубка. Папраўдзе душагуб у душагубцы: нішчыў рыбу ў віры, дзе абрала сабе жытло Русалка. Электрычнасцю. Над вірам праходзіла лінія электраперадач, і душагуб закідваў на тую лінію правады, апускаў іх у рэчку.

І Русалка тады што рыба ў нерат — ні назад, ні ўперад — толькі плямкала ссінелымі губамі ды малілася свайму богу, таму ж Цмоку ды іншым хаўруснікам, што выйшлі з вады, але не цураліся яе, былі здольныя жыць у рэчцы і на беразе. І высунуцца, сплыць, куды Русалцы было немагчыма. Рэчка, закаваная плацінамі ды вадасховішчамі, абмялела, страціла сябе і сваю былую сілу, глыб, віры і крыніцы. Немач ракі стала немаччу і Русалкі.

— Рыба ў рацэ амаль што знікла, а рыбакоў развялося, што жукоў і жаб, — жалілася прысутным гаваркая, як і ўсе жанчыны, Русалка. — Ды каб простых рыбакоў, амаль усе кандыдаты навук, а то і дактары з жывадзёрамі, адмысловымі электравудамі, цэлымі пераноснымі электрастанцыямі, эхалотамі і адмысловымі, для вады, тэлевізарамі...

— Мабільны тэлефон трэба заводзіць табе і, калі што, клікаць нас.

— Ага ж, разумнік ты вялікі, Цмок. Не мела баба клопату... Быў у мяне мабільнік. Прыдбала...

— Як прыдбала? — зацікавіўся Дамавік.

— А так і прыдбала, як ты сваю кавеньку... Пазычыла мабілу ў аднаго дэбіла.

— А ён настолькі дэбіл, што проста так пазычыў?

— Не проста, — падцяла вусны Русалка. — Ой, як не проста. Спачатку з перапою цалаваць мяне кінуўся: «А Анжэлка ты ж мая любая». Я яму і паказала Анжэлку. Я яго і прыгалубіла, да сомікаў, каб яны да костак аблізалі

яго сырнае цела, скіравала. Дэбілу магіла, а мне — мабіла. Толькі каб карыстацца той мабілай, трэба не менш як акадэмію кіравання пры самім прэзідэнце заканчваць. А я ж цёмная, на іншае вучоная.

— Не прыкідвайся, — асадзіў яе Цмок. — Сярод нас дэбілаў няма. І мы тут не для таго, каб заляцацца, сабраліся. Усе добра ведаем, што ты самая адукаваная сярод нас.

І гэта сапраўды было так. Усе тут былі самавукі. Адна толькі яна, Русалка, яшчэ пры цару скончыла гімназію, а потым і Смольны інстытут. І сам цар у свой час заляцаўся да яе. Толькі з таго заляцання нічога добрага не атрымалася. Адно пашанцавала — утапіцца ў царскасельскай сажалцы. Утапіцца там, ад ганьбы збегчы сюды, у глуш, да цёткі на рэчку Пціч. У гэтай глушы на той колішні час жыццё было вясёлае. І ад таго вяселля Русалак на Пцічы прыбаўлялася штогод.

Дурнаватыя былі вясковыя дзеўкі. Усяго баяліся: бацькоў, суседзяў, а найбольш — ганьбы і граху. Баяліся, але ж цішком і грашылі. Вада пакрывала і хавала іх грахі і ганьбу хавала. Так яны думалі, такую абіралі сабе долю. Бо не толькі дзеўкі былі дурнаватыя. Сам час быў такі — дурны, царскі і надта цяжкі і цемрашальны, грэшны, але і занадта сарамлівы.

Зусім іншая справа сёння. Як прагналі таго цара, усе адразу паразумнелі, асабліва ж дзеўкі. Адчулі і назаўжды, пэўна, пераканаліся: няма больш на свеце ні сораму, ні граху. Звяліся яны, сканалі адразу і назаўсёды. І больш няма чаго баяцца. А сумленне — нешта накшталт апендыцыту. Адпала само. Рудымент.

Вось яшчэ і таму сумна жылося Русалцы. Яна ўжо і не ведала, што адбываецца на свеце, і ці ёсць нават ён: так звялі яго ўсе навокал святыя і бязгрэшныя, што невядома, ці ацалеў ён. Папаўнення, сяброваk не стала. Чаго, навошта ў рэчку, у бягучую ваду ці ў пельку галавой, калі на тое няма аніякай прычыны, боязі ні перад кім

няма: воля жыць і ў час паміраць, а не заўчасна тапіцца. І Русалка марнела і журылася ў сваім напаўсонным віры ад адзіноты. Зрэдку толькі ўдавалася ўгаварыць якую дурніцу падзяліць яе долю. Русалка любіла і прагла грэшнікаў і грэшніц, бо сама была з іх. Так нарачона было ёй яшчэ прамаці яе, самой Евай. І яна спадзявалася на доўгі, хаця мо і пякельны век сабе на зямлі і ў вадзе.

А тут на табе. Падобна, на ўсёй зямлі рай. Усе найвялікшыя грахаводнікі запісаліся ў святыя, збіліся гурмой у дэпутаты, парламенты, сенаты, палаты. А ў іх асвянцоным раю каля карыта, як слушна мовіў адзін з дасціпных палітыкаў, усе рохкаюць аднолькава і саўладна. Раёва і паліткарэктна. Мо з гэтай саўладнасці Ундзіну распёрла, і яна паплыла. Яе саму пачало заносіць спачатку ў так званы цэлюліт, а далей ужо неймаверна ў што і куды, як тую старую з казкі Пушкіна пра залатую рыбку. А што, яна горшая з тых, хто каля карыта? Раздайся, народ, рассуньцеся, воды, прэч, печкуры, плоткі і нават шчупакі. Залатая рыбка плыве. Прапусціце яе да карыта, а там і ў Еўропу. Яна здатная, хаця не можа рохкаць, але навучыцца, здольная. Годная і ў дэпутаты, і ў сенатары, не горш за былых камсамолачак, а сёння мадэляў.

Як толькі чорт не штукарыць, пакуль Бог спіць. Хаця, калі па шчырасці, патрэбна ёй тое дэпутацтва і сенатарства, як каню пятая нага. Дый ніхто з яе віру пад колішнім млынам нікуды больш ходу не дасць. Але — а раптам, а раптам: тут жа вам не здесь, і калі трэба — то нада: зарохкае не горш за іншых. Магла ж і чарку кульнуць, і мацюка загнуць, сцёгнамі вільнуць, а што ўжо ўсім і кожнаму сваю дасведчанасць паказаць, то тут не было ёй роўных. Здольная была пераплюнуць усіх разам.

Вось такая была тутэйшая Ундзіна з мясцовага пцічанскага віру. Нішгаватая, вучоная, разумная, хаця і не без прыхамасцяў. Жанчына ўсё ж. А што з адзінокай

жанчыны возьмеш, ды яшчэ аднойчы, а мо і не аднойчы страціўшай галаву тапельніцы? Зусім не ў пцічанскім мелкаватым віры было ёй месца. Плавала яна значна далей і глыбей. Праўда, тут былі і такія, што сумняваліся: надта ж адукаваная. І таму меўся ў яе супернік — з патомных пэтэвэшнікаў. Той пораху ўжо ніколі не вынайдзе. Цвіркун. Здольны не толькі вохкаць, але і рохкаць.

Вось чаму Русалка і не пажадала прыкмеціць яго, калі ўвабралася ў хату. Яна думала, што яе з Цвіркуном паклікалі на гэтую тусоўку якраз з такой нагоды: абраць аднаго з іх у... Ну, усё роўна ў якое «У», кароткае ці доўгае. Абраць, пазначыць, дапусціць. І таму загадзя падрыхтавалася даць бой. Раз і назаўсёды паказаць Цвіркуну яго месца за печчу. Няхай скручвае галаву пра веласіпед і порах.

Адпаведна Русалка, калі крыху аддыхалася, пачала і паводзіць сябе:

— Ну, чаго марудзім, я ўжо тут. Пара і пачынаць.

— Не хвалюйся, не хвалюйся, панначка,— абнадзеіў Цмок. — Калі ўжо ты тут, то зараз і пачнём.

— Як гэта пачнём? — выбухнуў з парога яшчэ адзін са званнікаў. Такі ж выбітны і паглядны, як і сама Русалка. — Варта толькі адлучыцца куды на хвілінку, як цябе падседзелі, тваё крэсла ўжо занятае.

На парозе стаяў мажны, высокі, шыракаплечы — на ўвесь праём дзвярэй — мужчына ў неверагодна, асляпляльна стракатым адзенні, што, трэба прызнацца, лічыла яму, яго трохі рымскаму, а нечым і няўлоўна каўказскаму смугляваму твару з цвёрда акрэсленымі, хаця і вялікаватымі пажаднымі губамі. Таксама цвёрда, упэўненай рукой — раз і назаўсёды — высечаным носам — крыху шабелькай. З-пад малайцаватага капелюша віліся воранавага крыла ці жорсткай конскай грывы знарок непрыбраныя кучары. І быў ён чамусьці з баянам.

Але больш за гэты недарэчны баян і знарочыста распушчаныя кучары ўражвала тое, пад чым кучары яго хаваліся, — капялюш. Гэта было нешта падобнае адразу на сярэднявечны шлем рыцара і цыліндр англійскага джэнтльмена і нават вясковы брыль пачатку мінулага стагоддзя. Толькі быў ён чамусьці зялёнага колеру, такога зялёнага, што аж вочы дзерла. А на макаўцы яго месцілася чырвонай пампушкай нейкая лапка, няйнакш як троля, з тых, што даўно, разам з іншымі шведамі сышлі з гэтых мясцін у далёкае і непрагляднае замежжа, ці не ў той жа тумановы Альбіён.

Але самым хвацкім у яго апратцы была павязаная на шыі аднačасова, трэба разумець, і бабачка, і гальштук: лятуча-лёгкі, паветраны, як сатканы з павуціны бабінага лета альбо восеньскіх адмерлых крылаў матылькоў. І крылы гэтыя, гэтае павуціннe было размалёвана рознакаляровымі клеткамі, як шахматная дошка: белымі і чорнымі, але больш чырвонымі. Такімі ж стракатымі, толькі ўжо з пераважнасцю белых ды зялёных колераў, была яго верхняя вопратка — куртка і штаны. А вось боты былі звычайныя, вайсковыя, на тоўстай літой гумавай падэшве, пэўна, каб лацвей наладжваць падсрачніка ці трушчыць галовы шматлікім і розным там дэструктыўным элементам. Пра гэта ён якраз і гаварыў цяпер.

— Пра нас успамінаюць, калі ўжо толькі гарэць пачынае, калі айчына ў агні. А я ж табе, як-ніяк, старэйшым пляменнікам даводжуся, Цмок. А ты забыўся пра мяне.

— І пра мяне забыўся. А я ж твой родны дзядзька, — пачуўся старэчы голас недзе знізу і адзаду ад выбітнага званніка, як бы з-пад яго ці мо гэта ён сам загаварыў другім сваім бокам. То абураўся, стоячы на парозе за маладым зухам, нехта нікому не бачны, цалкам прыкрыты свежым мохам са срэбнымі крапінамі накшталт расы. Лешы, ці, па-мясцоваму, Лесавік. А

двайное прозвішча меў таму, ніхто яшчэ толкам не разабраўся ў яго паходжанні, адкуль ён тут завёўся і дзе жыве. Казалі, што ён ці не з русічаў а мо і балтаў, прусаў і нарачоны брат тутэйшым. Так сказаць, і нашым і вашым. А жыве ў карчах, моху пры беразе ракі ці ў балаціне, а часам і ў лесе. Адначасова паўсюды і нідзе. Ва ўсіх гэтых меркаваннях мелася свая праўда. Хаця на самай справе ён быў з карэнных тубыльцаў, толькі жыццё, нялёгкая доля, а яшчэ і натура прымусілі яго хавацца, не вытыркацца, дваіцца, а то і траіцца. І таму ён не трымаўся нейкага адзінага пэўнага твару, не паказваў яго нікому, каб менш білі па тым твары, кпілі і насміхаліся. Захоўваў сябе.

Цяпер жа ён з'явіўся ў выглядзе больш лесавіка, карча ці старога пня са зведзенага, ссечанага бору, у космах зялёнага і сівога моху з пацёкамі на барадзе і ніжэй быццам даўнавата з'едзенага кіслага малака на спарахнелай кары рук і ног. І відавочна падладжваўся пад усіх адразу, здзекліва падыгрываў таму, за кім хаваўся, і сапраўды роднаму свайму дзядзьку Цмоку. Хітрыкаваў Лесавік-Лешы, не такі і просты ён быў, як і ўсе астатнія тут, хітраваністыя. Тысячагоддзі і тысячагоддзі за кожным. На першы погляд, усе як адзін, звычайныя, здаецца, тубыльцы. Але калі б яны былі такімі на самай справе, ці здолелі б выжыць, перабыць тысячагоддзі ліхалеццяў, звад, гонаў, аблог і захавацца? Захаваць сябе ў сваёй вонкавай непагляднасці, каравасці і нават бажавільнасці. І гэтая бажавільнасць была ім толькі прыкрыццём. Калупні яе — дна не дастанеш. Донца толькі першае. А за ім жа і другое, і трэцяе — такая глыбіня, што валасы дыба нават у лысага.

А справа ў тым, што ні ад каго і нікольні не хавалі яны гэтай сваёй глыбіні, не прыкідваліся і не імкнуліся быць разумнейшымі за іншых, за Бога, ухапіць таго Бога за бараду. Трымаліся таго, што дадзена, спадзеючыся, канечне, на заўтра. І не было чаго і ад каго ім хавацца.

Куды ж ад жыцця і сябе схаваешся? Ад іх, як і ад смерці, паратунку няма. Толькі не кожны гэта здольны спасцігнуць. Спасцігнуць, што ўся праўда толькі ў тым, каб самому ніколі не хлусіць. Яны ніколі і ніколечкі і не хлусілі перад сваёй пракаветнасцю сам-насам з ёй. Не хлусілі сваім водам, барам і дубровам, сваім балотам. Былі шчырымі перад імі, як дзеці, і толькі ім адкрываліся да самога ўжо свайго тубыльскага нікуды. Бо менавіта яны былі адзінымі і назаўсёды роднымі дзецьмі тых водаў, бароў, дуброў і балот. А родныя дзеці сваіх бацькоў павінны паважаць і не крыўдзіць, як не крыўдзіць бажастворанае бажастворанага. Але ўсім навідавоку была толькі іх непрыкметнасць, кідкая непагляднасць, знарочыстая выродлівасць. І зрэдку толькі хто задумваўся і разумеў, што ж насамрэч хаваецца за гэтай непагляднасцю, памяркоўнай ціхмянасцю і знешняй пакорай бажавільнасці, аб якія каторае ўжо стагоддзе і эпохі абломвалі зубы людзі і час. І нават прастора, неабсяжнасць. Трымалі за дурняў, прымалі за прасцячкоў і знікалі самі, гінулі ў дрыгве і багне ліхія і спрытныя, ды крыху ўсё ж дубаватыя, а больш прагныя і хцівыя, пажадныя да іх зямлі крывасмокі, люцыферы, ведзьмары, вядзьмаркі, чэрці, не паспяваючы нават і ўразумець, што гэта ўтварылі з імі гэта, здаецца, нежыць, гэтыя тубыльцы, нячысцікі.

Цмок быў нежыццю з нежыцяў, тубыльцам з тубыльцаў і добра ведаў Лесавіка, разумеў яго ўсёй сваёй знявечанай, але не скоранай ні ліхалеццем часу, ні варожай хцівасцю істотай. Таму прапусціў яго словы міма вушэй, пачаў супакойваць таго, хто першым да яго ступіў на парог.

— Даруй, што слана я і не прыкмеціў. Але ты не з тых, каго можна абысці і нават аб'ехаць. Ты заўсёды наперадзе ўсіх, дарагі мой пляменнічак Бэрка...

— Каму Бэрка, а каму і Барыс Мандулаевіч. Берагун. Абярэг.

— Так, так, Берагун ты наш, без якога сапраўды ніякі народ, ніякі род не будзе поўны. І без цябе, Лесавік, таксама не будзе поўны, бо вы назаўсёды пабраталіся ўжо, як і ўсе мы тут. Розныя толькі тварам, крыві адной. Але гэта так, да слова. Ну, што, пачынаем?

— Даўно пара. Пачынаем! — выгукнулі ўсе разам.

Але Цмок нешта замаруджана прыціх, моршчыў і без таго ў абгарэлых рубцах падобны на перапечаны яблык твар, выпрастаў перад сабой спачатку адну руку, потым другую і пачаў загінаць пальцы, здранцвелыя і, па ўсім, даўным-даўно, а таму і ўпарта нягнуткія. Цмок ніяк з імі не мог саўладаць і кінуў гэты занятак, звярнуўся да прысутных:

— А кворум ёсць?

— А хто такі кворум? — здаецца, трохі гулліва, а разам з тым і насцярожана — па чыну — спытаў Абярэг.

— Не дурыся, Бэрка...

— Я ўжо папярэджваў. На трэці раз буду біць морду. Каму Бэрка, а каму...

— Добра, добра, Берагун... Вучыцца трэба, чытаць, і не толькі буквары. Хаця сапраўдным берагунам-амапаўцам гэта забаронена і нават супрацьпаказана.

— Забаронена і супрацьпаказана, а я чытаю. Слоўнікі. І ў Энцыклапедыю Вялікую Савецкую зазіраю.

— Энцыклапудыю, — паправіў яго Цвіркун. На што азвалася і Русалка:

— Філосаф. Энцыклапыдуст...

— А ты думала, што хрэн з бугра, — імгненна зрэагаваў Цвіркун. А Берагун, не зважаючы на іх, працягваў сваё.

— Гы і Кы прайшоў ужо, а да замежнага гэтага Э яшчэ не дабраўся. На Цы ўсё ж зазірнуў. Там і пра цябе, дарэчы, пішуць...

— І што пішуць? — адразу ж зафанабэрыўся і нават павышэў трохі Цмок.

— А пішуць, што ўсякія там Цмокі — толькі паганскія забабоны. На самай жа справе цябе няма...

— Як гэта няма, калі я ёсць? Я ж тут.

— Так, ты тут, а там цябе няма. Так што там табе не тут.

— Кінь, кінь, Бэрка, свае кудраватыя тубыльскія выкрутасы. Дураць народ, дураць. Але ж народ не цяля, разбярэ круцяля, дай толькі час... А сабраліся мы тут зусім з іншай нагоды: новую хату прымаць будзем.

— Гэта якую такую хату, дзе яна? — запратэставала Русалка, пакрыўджаная тым, што і сёння не пра яе гаворка, абыходзяць яе.

— А вось гэтую, у якой ты, паннaчка, сядзіш.

— Гэтую, у якой я сяджу? Тады я пайду да свайго віру і яшчэ раз утаплюся.

— Топяцца адзін толькі раз, — слушна буркнуў Дамавік. І Цвіркун, пацёршы адно аб адно крылцы, пацёршы таксама ж ногі, падтрымаў яго:

— Калі ёсць хоць маленькая шчылінка ў сцяне — ёсць і хата. Цвірк-цвірк-цвірк, так-так-так.

— Вох-вох-вох, нешта ўжо ты вельмі распанела сярод свайго жаберу, сястрычка. Панская парода з цябе так і прэ. Мы такіх у сямнаццатым годзе...

— Вох-вох-вох, рох-рох-рох, — пацвеліла Воха Русалка. — Ды на такіх, як ты, я ў сямнаццаць гадоў...

Тут усміхнуліся ўжо ўсе, але мовіць нічога не паспелі.

— Ціха, — спыніў маючы быць гамон Цмок. — Хата ўжо ёсць, і жыльцы ўжо на парозе. Ціха.

І стала ціха, толькі нехта па-за сценамі мяўкнуў. Раз, другі, трэці. Жаласна так і не вельмі голасна. І мякенька пастукаўся ў дзверы.

— А я згодны з Русалкай, — прыслухоўваючыся да гэтага мяўкання, сказаў Абярэг.

— З чым жа ты згодны з ёй, а не згодны са мной? — спытаўся ў яго Цмок, і кацёльчык у яго нутры палыхнуў агеньчыкам, сіненькім, кароткім і ясным, нібы дагараючае ўжо ўначы бярозавае чаднае паленца.

— Не, чаму, Цмок? Я і з табой згодны.

— А з чым жа ты, Бэрка, не згодны?

— А ты паглядзі, Цмок, сам. І гэта ты называеш хатай?

Сапраўды, хаты, у якой ужо можна жыць, яшчэ не было. На падлозе непрыбрана ляжалі абрэзкі дошак, тырса і трэскі. Са стыкаў бярвення ў сценах кудлаціўся яшчэ не толькі не падаткнуты, а нават і не прасохлы мох. І печ, хаця ўжо і складзеная, выведзеная пад ляжак, на гарышчы была яшчэ сырой і без юшак. Вокны, праўда, стаялі спраўныя, зашклёныя і заклееныя па ўсіх рамах белай паперай. Нехта ўсё ж рыхтаваўся тут да зімы, зберагаючы ў хаце цяпло.

— Ты бачыш, — хітнуў у бок гэтых вокнаў Цмок, — гаспадары не спяць у шапку, рупяцца, дбаюць. Цяпла і святла хочуць.

— Рупяцца, дбаюць, каторы ўжо год і нават век. А толку ні на грошык. Пячора гэта яшчэ, а не хата. Берлаг. Не век, а каторае ўжо тысячагоддзе ўсё будуюць і будуюцца. И выхваляюцца: «Что нам стоит дом построить, гвоздь забили — будем жить». Вось и жывуць...Адны толькі труны здатны рабіць. А людскай хаты як не мелі, так і не займелі... Не прыму. Па-дзяржаўнаму гэта завецца даўгабуд.

— Даўгабуд? А мо і даўгаблуд. Дзяржава ўся зблуднела. Крычыць з усіх амвонаў: будуем, будуем. А людзям жыць няма дзе. Жыццё касабокае. Дзяржава — адзіны даўгаблуд. А ты гэтага не хочаш бачыць. Чалавек прагне, гізунты рве, каб займець хату, якое ні есць котлішча сабе. Дзяржава ўся разбурана... — разышоўся не на жарт Цмок.

— Не разбурана, а ў рыштаваннях стабілізацыі незалежнасці і поўнай дэмакратыі і суверэнітэту. — Не, усё ж недарэмна Берагун чытаў энцыклапедыю.

— Ну дык і жыві сам ты ў гэтых рыштаваннях стабілізацыі незалежнасці і дэмакратыі і не вытыркайся, а ўсім астатнім вугал свой дай, кут свой і селішча. Ты паслухай, прачысці вушы і паслухай, які енк, стогн і плач ідзе па зямлі. Усе паслухайце.

На ганку, па-за сценамі хаты, мяўканне сапраўды пераўтварылася ў шматгалосы стогн, енк і плач. Берагун разам з усімі прыслухаўся да яго і не вытрымаў, заткнуў вушы. Здаецца, нават спатнеў. Але не здаўся:

— Не прыму. Не, такую хату я не прыму. А гэтыя, што стогнуць і плачуць, хоць і будуць жыць пагана, але нядоўга. — І на гэтых словах ён сцёг з плеч баян і заіграў. Спачатку нешта сумнае і жалобнае, а потым перакінуўся на кірмашовае, танцавальнае. Але ніхто з прысутных не адгукнуўся на гэту яго музыку. Угнуліся, калі яна была жалобнай, і зусім ужо стаіліся, сцяліся, калі загучала бадзёра. І музыка сціснуў мяхі баяна, выбухнуў у твар кожнаму з прысутных:

— Я, як хавальнік і сацыяльны гарант, абярэг тубыльцаў, не дапушчу, каб мае людзі туляліся немаведама дзе па свеце, жылі ў такой хаце. Усе толькі пад ключ, толькі пад замок. Усё і ўсіх, ад водаў, крыніц, балотаў, лясоў і межаў. Гэта я ўслых усім, усяму свету кажу. Як галоўны абярэг і абаронца тутэйшых тубыльцаў загадваю...

— А вось камандзіраў нам не трэба. Камандзірам буду я, — сурова і жорстка мовіў Цмок. І сіні агеньчык у яго кацёльчыку запалаў адзіным і неблудлівым языком. Але язык той як узняўся, так і апаў. Свіціўся толькі сіні аганёк, нязгасны і спакойны. І Берагун, не зводзячы вачэй з гэтага непарушнага жару, нейк адразу ачах, патух, нібы і ў ім нешта згарэла. Пабег хуткім поглядам па сваіх сародзічах. Яны ж, здаецца, засталіся абыякавымі да спрэчкі, якая толькі што адбылася тут, не ўхвалялі, але і не выказвалі абурэння, як гэта надараецца не на галасных тусоўках, а на высокіх сходах. Ці то моцна так думалі, запаміналі, каб і іншым пераказаць, ці то мо нават і прыкархнулі. Час прывучыў іх не спяшацца выказвацца: сузіраць, чакаць і спадзявацца. І Абярэг зусім ужо зніякавеў перад іх зацятым маўчаннем. Цмок толькі нешта плямкнуў губамі, але гуку не ўтварыў.

Лесавік як пачуў нешта ў гэтым нямым плямканні, згодна хітнуў галавой і ледзь чутна:

— Так, дзядзька, так. Нас тут сямёра, сямёра іх за парогам. Усе прыграбліся. Усе ў зборы.

Цмок зноў плямкнуў губамі.

— Так, — ціхенька і крыху сумна сказаў Лесавік-Лешы. — Даглядаць, цепліць і аберагаць. І спакваля ціха доўжыць і доўжыцца.

— Да канца выказаўся? — спытаў ужо ўслых Абярэга Цмок. — Усё выказаў?

— Цяпер да канца. А наперад — хто ведае, што ў галаву цюкне.

— Я ведаю, хто, што і куды табе цюкае. Не думай і не спадзявайся... А табе раю ўбавіць цюкалку, тады мо і слых прарэжацца.

— Прабач, Цмок, здаецца, ужо трохі праразаецца.

— Праразаецца, дык слухай. З нечага пачынаецца ўсё. А з нічога і не бывае нічога. Цяміш?

— Пакуль не надта.

— Адкуль возьмецца надта, калі ты ўсё жыццё з баянам ды па славянскіх базарах?

— Служба, — буркнуў Берагун. — Маскіроўка. Сёння з баянам, а заўтра — з аўтаматам Калашнікава.

— Дапамог нам твой Калашнікаў. Траціну народу паклалі — і ага. А... На ўсё жыццё ў магілах сваіх замаскіраваліся ад саміх жа сябе. А хто не паспеў, той служыць. Толькі немаведама каму, услугоўвае і баянам, і аўтаматам Калашнікава, і стынгерам. Словам і песняй. Вось сам ты...

— Не, Цмок, не. Хопіць. Мяне самога ты ўжо не чапай, — амаль крыкам перарваў Берагун Цмока. Той счакаў, калі Берагун выкрычыцца, і ціхенька, падкрэслена ціхенька зноў звярнуўся да яго:

— А ты, яварка мой, сам сябе хоць калі-небудзь чуеш?

— Калі-небудзь... Навошта мне самога сябе чуць, калі слухаюць і чуюць іншыя? Я ж у форме і пры выкананні.

— У тым уся і справа. І гэта не толькі твая бяда. — Цмок уважліва агледзеў кожнага, хто на той час знаходзіўся ў хаце, схіліў галаву і нейкі час маўчаў. Потым зноў прайшоўся позіркам па кожным. І толькі пасля гэтага таксама ціхенька, але з націскам на кожным слове працягнуў: — Не па чыну і не па званню голасу набралі... У аднаго баян, у другога аўтамат, а трэці проста дурань. А ў чацвёртай... І ўсе разам галёкаюць, галёкаюць, бо адвыклі гаварыць ціха. Ледзь што — адразу ў крык: не чапай мяне, не чапай. Мая хата з краю. Таму і не чуем адно аднаго і самі сябе. Накрычаліся да кілы. І якая кіла — што даўбежка. Адпадзе ці адарвецца — і канец усяму свету. Цяпер кіла тая наша валадарыць светам. Кілаваты народ і час пайшоў, паважны толькі да сваёй уласнай кілы. І ў каго яна большая — той больш і галосіць. Таго і верх. Цяпер ужо цяміш што-небудзь, яварка мой?

— Пакуль яшчэ не. І пра кілу ты мне не намякай. Няма ў мяне аніякай кілы.

— Няма, то добра, якія яшчэ твае гады... Слухай далей. Крык і лямант — гэта яшчэ не слова. Сапраўднае, важкае слова выспявае, творыцца ў цішы. Яно не галаснае, а сарамлівае. І даецца цяжка, як немаўляці першае «мама». А некаторыя да набыцця яго заходзяцца ад крыку — адсюль і кіла ў іх. Вось і свет сёння надарваўся ад уласнага крыку. А творцы і сам Творца заўсёды гаварылі ціхенька, ведалі цану свайму слову, таму менавіта яны і ацалелі, спраўдзіліся. І пасля смерці ўваскрэслі і нас уваскрэсілі. А сёння нас хочуць зноў стаптаць, распнуць, загнаць у нябыт. Усе мы сёння і даўно ўжо — беспрытульнікі, выгнаннікі, а то і проста нежыць без нас, хаця мы і ёсць, без свайго запаветнага: казкі, казані, сказа, падання. І гэта, як ты, Берагун, абазваў яе, даўгаблудная хата — апошні наш прытулак, адзіная і апошняя надзея на ўратаванне і ўваскрэсенне. Калі ў нас ёсць яшчэ духу і сілы хаця б жадаць гэтага. Ёсць?

Цмок зноў агледзеў кожнага з прысутных. Адказам яму была цішыня, што, па ўсім, з'явілася нечаканасцю яму, таму пачаў апытваць кожнага паасобку. Увогуле ўжо яны былі згодны застацца і працягвацца. Сумняваліся толькі наконт сілы і дазволу мець і спраўдзіць сваю сілу. Гэта найбольш выразна выказаў адразу ж Вох, і ці не адным-адзіненькім словам, што мелася ў яго, словам, у якім было больш духу, чым гуку.

— Вох-вох-вох...

Але гэта няпэўнае, адзінае і адвечнае слова Воха Цмок палічыў за агульную згоду.

— Ну, няхай тады так яно і будзе. І добра, што без гвалту і галасу, бо толькі і нам кілы сёння не хапае ў нашай гаворцы пра вечнасць і з вечнасцю. Вохкай жа, Вох, плач, бо з нябачнай воку слязы пачынаецца крыніца, з хвоі яшчэ ў лесе, з іголкі, шышачкі і парушынкі ў воку нябёс — падымаецца хата, бярэ пачатак селішча, вуліца, вёска, а мо з гэтай хаты пры Пцічы паўстане горад.

І на гэтых словах Цмока яго хаўруснікаў як прарвала, а найперш Берагуна:

— Дайшло, — выгукнуў ён. — Дайшло: будзе горад-сад.

— А вось якраз гэтага нам і не трэба, — замаркоціліся Дамавік з Лесуном. — Мы жылі некалі ўжо ў тым горадзе-садзе, ледзь ачомаліся.

— Ну, тады аграгарадок! — настойваў усё ж на сваім Берагун. — Аграгарадок тут будзе. Будзе...

— Дзеці, дзеці, — ці то з ухваленнем, ці то са шкадаваннем мовіў Цмок. — Дзеці, дзеці, куды вас падзеці, будзе вам белка, будзе і свісток, — і працытаваў яшчэ аднаго, невядомага, але, мяркуючы па майстэрству, выбітнага і чэснага паэта:

Я стаю на кручы і гляджу ўніз:
Будзе, будзе, будзе камунізм!

— Гэта мы ўжо праходзілі, — сказаў Берагун. — Толькі ўчора ты сам агалошваў гэта, а сёння выракаешся?

— Эвалюцыя, Бэрка, эвалюцыя.

— Растлумач ты мне хоць гэта. Што такое эвалюцыя?

— Тлумачу, Бэрка. Не толькі «Капітал» трэба вывучаць, а хаця б гады ў рады пагартаць і Дарвіна. Блытанік, дурань, а разумны.

— Ну, дастаў ты мяне ўжо, Цмок, Гартаў я, гартаў. — І Берагун выразна і галосна збітаму, здаецца, ад нечаканасці з панталыку Цмоку ці не з той энцыклапедыі, што такое эвалюцыя.

— Не, мо і не такі ўжо дурань і блытанік твой Дарвін. Правы ў галоўным: выжывае мацнейшы.

Цмок ўважліва прыглядзеўся да Берагуна і нязвыкла ціха мовіў яму:

— Не мацнейшы, не мацнейшы, Бэрка. А той, хто мацней ненавідзіць сабе падобных. І тым сам сябе ненавідзіць. Бойся, бойся сябе, Берагун, сваёй моцы, літасці і дабрыні.

Моўлена гэта Цмокам было не толькі ціха і ў цішы, таму што ніхто не пачуў, адкуль браў гэтыя словы Цмок. Ён зачыніўся. Зачыніў сябе кожнаму і гаварыў як не ад сябе. Прарочыў.

Схадняку, тусоўцы і вечу пагражаў пераход у вучонасць і адукаванасць — пустату. За вякі і вякі ўсе тут наблатыкаліся яе пад самую зашмаргку. Адзін Дамавік прытварыўся прасцячком і перавёў гаворку ў надзённасць, што заўжды разумеў народ і чаго жадаў:

— Ведаеце, ведаеце, — сказаў ён, углядаючыся ў амаль патухлы, злёгку ўжо забраны попелам жар у вечным рухавіку Цмока, прыслухоўваючыся да падазроных усхліпаў і вадкага булькацення змеевіка. Дамавік, пэўна, ужо ўгрэўся ў галоднай і халоднай хаце. Гэта была ўжо яго хата, яго жытло. Яму было ў ёй цёпла і ўтульна. Але ж нечага не хапала. Па ўсім, яго нават крыху размарыла. — Эпта маць, — сказаў ён, грукнуўшы па падлозе кавенечкай з бліскучым тронкам. — А вы

ведаеце, народу ўжо надакучыла ваша балбатня, эпта мацы...

— Ты глядзі, — здзівіўся Цмок. — А я думаў, што ты ціхмяны.

— Я ціхмяны, памяркоўны. Але не зусім жа ўбоганькі. Удзень маўчу, маўчу, што мыш пад венікам, а ноччу, як сказаў адзін разумны чалавек, у партызаны. Бліжэй да цела!

— Бліжэй, дык бліжэй, — не стаў пярэчыць Цмок. — Ты ўжо надакучыў мне сваімі прыставаннямі, як той дэбіл з мабілай да нашай паннaчкі.

— Калі гэта я паспеў надакучыць? Сяджу, маўчу, як мыш пад венікам.

— Сядзіш, маўчыш... Не мыш ты, а стары хітры котласун. Будзе, будзе табе. Усяму свой час. Будзе табе і кожнаму ваша хвароба. Але ж, да цела... З Бэркам мы ўжо, здаецца, паразумеліся, як, на маю думку, і з хатай. Застаецца толькі цвік забіць, кропку паставіць — прагаласаваць. Зацвердзіць нашу волю.

— А як будзем галасаваць? — перабіў яго Абярэг. — Рукамі, адкрыта, ці галавой, тайна?

— Розумам, — сказаў Цмок. — Я пачую ўсіх.

Галасавалі моўчкі, не падымаючы рук, не гаварылі нічога ўслых. Цмок толькі паспяваў загінаць пальцы. На шостым, ці то, можа, апошнім, сёмым, спатыкнуўся. І гэты шосты ці сёмы яго палец завіс паўсагнутым пытальнікам.

— Непаваротліва, марудна думаеце. Мазгі, як у калгаснага сівога мерына ці сённяшніх прэзідэнтаў, пражжавелі. Шасцяронкі, нават на якіх седзіце, не праварочваюцца.

— Гэта так, — падтакнуў Дамавік. — Мы адразу дзвюма галавамі думаем. Мы народ позні, марудлівы і ціхаходны.

— Во-во, — пагадзіўся з ім Цмок. — Але хто ціха ходзіць, сам сабе шкодзіць. Толькі недаедкі і недапіткі яму.

— Так, так, — зноў падтакнуў яму Дамавік, але знешне толькі, здаецца, пагадзіўся з ім. — Ты, Цмок, забываешся і пярэчыш пракаветнаму: «І стануць апошнія першымі, а першыя — апошнімі».

— Ага, стануць, калі выпрастаюцца і на ўсіх пагостах забалююць, запануюць. З таго, што на крыжы ім пакладуць на яблычны Спас ці Радаўніцу. Вясёлы мы народ. Як гавораць, хавалі цешчу — тры баяны парвалі. Гуллівыя. — І падміргнуў Дамавіку.

І Дамавік напаўслепа падміргнуў яму ў адказ. Ён даўно ўжо і безумоўна разгадаў Цмока. Дый як не разгадаць іншага, калі ведаеш сябе. Адна тут сядзела пракаветная шайка-лейка. Адвечныя валацугі, бадзягі, суворыя, але патаемна добрыя. Гулякі, адным словам. Бо без гэтага свет крываваты, і адно толькі крывавы. Няспраўны і прыгавораны. І Цмок спраўджваў гэта цяпер. Ён гуляў са сваім хаўрусам у розум і глупства, у праўду і балбатню. А яго хаўрус гуляў з ім. Занадта доўга ж трымалі ў сабе слова, розум і глупства. А цяпер прарвалася ўсё разам і паплыло, як цеста праз край дзяжы і па абручах, што і пацвердзілася ў адну хвіліну.

— Дзеўка, Ундзіна, — выдавана пагрозліва, але не без аксаміту ў голасе выгукнуў Цмок.

— А што я, а што я? Я такая дзеўка. Ундзіна...

Але Цмок, падобна, ужо не слухаў ці не хацеў слухаць яе. Уталопіўся ў Абярэга, які сядзеў побач з Русалкай. Пільна прыгледзеўся да яго, потым зноў перавёў позірк да Русалкі. І нечакана грымнуў кулаком па стале з каменнай стальніцай, ці то з мармуру, ці то з граніту. Тая стальніца рассыпалася ў друз, нібы пясочная. Але Цмок і вокам не павёў.

— Бэрка, адсядзь ад Русалкі.

Русалка хацела запярэчыць яму, ды зірнула на Цмока і стаілася. Але Цмок звярнуўся не да яе, а да Берагуна:

— Ці туды, ці пра тое думаеш, Бэрка?

— А я што? Я нічога. Я ж святы, святы і нявінны.

— Глядзі ў мяне, святы і нявінны, анёл чысты, каб я цябе нанава не перахрысціў, калом не выпер з цябе чорта разам з тваім легкакрылым анёлам...

Што Цмок, гаворачы гэта, меў на ўвазе, зразумелі не ўсе. А ён і не стаў тлумачыць. Выставіў напаказ усім кулак з пяццю загнутымі пальцамі:

— Во дзе ты ў мяне цяпер, Абярэг.

— Ну, дык і я даўно ўжо там, — сказала Русалка.

— Добра, будзем лічыць, аднагалосна. З Бічом мы разабраліся. Уладкавалі яго.

— А хто такі Біч? — здзівіліся амаль усе, апроч Дамавіка з Лесуном.

— Ён жа Тэрык-Тэрарыст. А гэта адно і тое ж: учора тэрарыст, сёння — Біч. Заўжды і назаўжды былы інтэлігентны чалавек.

— Вох-вох-вох, нахлябаемся мы яшчэ з гэтымі былымі інтэлігентамі.

— Нахлябаемся, — пагадзіўся Цмок. — Таму і пераходзім зараз да рознага...

Але адразу, хаця ўсе яны і добра знемаглі і нахаладаліся, перайсці да гэтага рознага ў іх не атрымалася. Нехта, не маючы ці то спрыту, ці то моцы адчыніць дзверы ў хату, коўзаўся і шкробся ў калідоры. А потым пачаў малаціць у дзверы. І біў так грукатна і нахабна, што, здавалася, не кулакамі, а паленам, доўбняй. Цмок моўчкі выразна паглядзеў на Берагуна. Той кульнуўся ў калідор, а адтуль ужо і на веранду. Там адразу ж нешта ўпала, пакацілася. Праз нейкі час вярнуўся Берагун — расхлістаны і ўскудлачаны, са збітым набакір капелюшом.

— Скрозь адно непаразуменне і недарэчнасць. Нейкая ці то Васіліна, ці то Васіль, а мо і Васіліск. Адным словам, асоба няпэўнай арыентацыі. Гаворыць, што з абраных.

— Абраных, абраных, — зазлаваў Цмок. — Усю плеш праелі гэтыя абраннікі. Разабраўся?

— А то ж... Хаця такой навалачы яшчэ не сустракаў: трэба бліжэй быць да народу. Мне на зіму прытулак, нара, берлаг патрэбны. Я Васіліск. Я Янус шматаблічны і ўсёісны.

— Дык іх што, двое ці нават больш было?

— У тым і справа, што адзін. Але пыху, пыху: гэта я і гэта я. Хто сёння гэтых маладых разбярэ, дзе Васіль, а дзе Васіліна. Грабенчыкам нейкім чырвоным, уторкнутым у галаву, што певень, трасе і чырвоную сарочку на грудзях дзярэ: «Вы яшчэ папомніце. Вы яшчэ не ведаеце. Вы яшчэ не бачылі сапраўднага Васіліска».

— Васіліска? — перапытаў Берагуна Цмок. — Так і сказаў: Васіліска?

— Так і сказаў: Васіліска.

— Васіліска, Васіліска... А ты з баянам бегаеш, — незразумела чаму ўскінуўся Цмок. — А дзе ж твой аўтамат Калашнікава? А дзе ж твой стынгер?.. Але тут і яны наўрад ці дапамогуць. Ды Бог не выдасць — свіння не з’есць. Не будзем псаваць свята. Пераходзім да рознага.

Рознае хаўрусу і хаўруснікаў уражвала да мораку і збянтэжанасці. Хаця пачалося са сціплых гутарак, перарасло ў апокрыфы і містэрыю. А потым пайшоў ужо самы звычайны вясёлы і бясконцы вяртэп. Спатрэбіўся і баян Берагуна. Дамавік спяваў пад яго скаромныя прыпеўкі і ўсё нараві ў памацаць Ундзіну. Праўда ўсё ж кажуць: з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Набраўся ад чалавека, ад людзей, пры якіх увесь час жыў.

Але, нягледзячы на гэту нястрыманую і буйную весялосць, песеннасць, усё ж не-не дый адчувалася мо да канца так і не асэнсаваная нікім, апроч, здаецца, Цмока, трывога.

## УЛАЗІНЫ. БЛАСЛАЎЛЕННЕ

Чалавек прачнуўся раненькім раненька, яшчэ прыцемкам. Усю доўгую ноч нешта непакоіла, гняло яго ў сне. Нібыта ў пустой яшчэ, не даведзенай да жыццёвага ладу хаце хтосьці апярэдзіў яго, нябачна ўлез у яе і не даваў яму спакою. Пужаў і страшыў, загадваў некуды ісці, бегчы, нечага прасіў і, не атрымліваючы, нерваваўся. І пад гэтым чужым, нячутным і нябачным, ляжаць было мулка і крыху нават сорамна. Як бы нечага недарабіў ці то ўчора, ці то ўвогуле за сваю жытку, пражыў яе не па-людску, толькі запазычыў сябе свету і не сплаціў пазык. Наслядзіў, набрудзіў, насмеціў. І створаныя ім бруд і смецце смуткам і жалобай агортвалі душу.

Такое з ім адбывалася заўсёды, калі ён нешта пачынаў рабіць, нечага дамагаўся і не ўяўляў, з чаго, з якога краю пачаць. І ўвогуле ці варта пачынаць. Так, пэўна, пражытае, здзейсненае сутыкалася з мінулым і будучым і набягаючым паўсядзённым. І гэта паўсядзённае, калі ён чарговы раз прахапіўся з напаўдрымоты, прымусіла яго не залежвацца лежнем, а падняцца і заняць нечым лепш не галаву, а рукі. Вось гэтыя самыя рукі, што нерухома ляжаць цяпер паверх коўдры, якім ён ніколі не даваў спачыну, лічы, ўжо на схоне сваіх дзён агоралі, выбудавалі яму сапраўдную хату, займець якую марыў усё жыццё. Гэта была ўжо не першая яго хата, якая па ліку, не ведаў ужо сам. Даводзілася толькі дзівіцца, як жа гэта трэба выжыльвацца, каб займець самае неабходнае, які-ніякі свой кут на зямлі.

Першая яго хата стала ці не знакавай яму. Ён, як, дарэчы, і ўсё яго пакаленне, на самым пачатку закляты

падманам «самай праўдзівай» праўды, якую дагаджальна спажывалі яму, каб спраўна і канчаткова ўжо залыгаць і накінуць аброць, спяшаўся жыць. Жыць і быць — усюды паспець і ўсё зведаць. Быць ці не наперадзе самога жыцця. Так апынуўся ён на цаліне.

Быць наперадзе жыцця — і толькі на калгасным трактары. Гэта ўвогуле была ці не адзіная магчымасць выбіцца ў людзі кожнага з вясковых падлеткаў. Іншага амаль нікому з іх было не дадзена. Трактар, а потым і цаліна, якой тады затлумілі галаву яму і ўсяму свету. І ён, як толькі дазволіў узрост, пайшоў вучыцца на трактарыста, хаця і да гэтага рабіў на трактары ў сваім калгасе, разумеў, што гэта адзіная светлая яго будучыня. А далёкая і так хвалёная цаліна здавалася сапраўдным праменем святла ў акенцы. Зоркай, што ўзышла ў яго вясковым жыцці.

Іх набралася каля паўсотні летуценнікаў з Палесся, скаральнікаў вечнай нерушы, што завезлі і выкінулі з цягніка сярод ружовага снегу у голым стэпе чужой зямлі. Абяцалі, што сустрэнуць і завязуць да будучага саўгаса. Не сустрэлі і не павезлі. А мароз стаяў сорак пяць градусаў — гэта пасля адлігі на сваёй зямлі. І былі яны ў фабзайніцкіх бушлаціках і чаравіках, што зваліся гаўнадавамі. Апошнія на тое толькі і годныя, цяпла не трымалі.

Размясціліся ў нейкай прамарожанай і вельмі маленькай халупе. Спалі стоячы, і гэтак трое сутак. На чацвёртыя вырашылі паслаць ганцоў у пошукі транспарту і свайго саўгаса. Дарогі ж да яго, дый якой дарогі — бездарожжа, як ім сказалі, пятнаццаць кіламетраў. Паўзлі іх па няходжаных сумётах тры-чатыры гадзіны. Тут і бездарожжа скончылася, пазначылася скрыжаванне дзвюх ледзь прыкметных, занесеных сыпкім стэпавым снегам каляін. Пачалі спрачацца, у які бок кінуцца. Двое яго спадарожнікаў стаялі на тым, што трэба браць налева.

Вось тут і адбылося дзіва, у якое ён верыць і не верыць да сённяшняга дня: прымроілася ці было на самай справе. Калі ён быў ужо згодны ісці хоць куды, толькі б ісці, а не ўпасці на дарозе, і ўжо ступіў ці мо толькі намерыўся ступіць налева, як яго нехта страсянуў за правае плячо і скіраваў на правы, залізаны завеямі ледзь пазначаны слядок каляіны. І ў тое ж імгненне ён нечакана убачыў перад сабой чалавека, сівога дзядка ў белым адзенні і з сукаватым кіёчкам у руцэ. І нікольні, здаецца, не здзівіўся яго нечаканаму з'яўленню, бо яшчэ з маленства ведаў яго, сустракаўся, калі таксама ўзімку заблудзіўся ў родным лесе. А праўдзівей, не заблудзіўся, а згубіў сярод бору саначкі з насечаным ўжо суччам. Добра ж ведаў, дзе пакінуў іх, ды і слядоў было небагата, каб разабрацца. Але ж нехта як замарочыў, закружыў яго. І ён плакаў ужо, бо шарэла і сонца чырвоным злыднем згасала ў заснежаных шатах соснаў.

Сам бы ён выбраўся з лесу і знайшоў дарогу дадому. Але вяртацца без саначак не хацеў і не мог: на папрокі, рэмень у хаце і пасмешышча вуліцы. Лепей зайсціся і сканаць у лесе. І ён ужо аплакваў сябе, калі яго хтосьці ўзяў за руку, падняў з пянька, на якім ён рыхтаваўся да скону. Вось такі ж самы стары, сівенькі і барадаты дзядок. Падвёў да саначак і наладзіў яшчэ нечакана моцнага падсрачніка на дарогу.

— Мусіць, ты пасябрыўся з Белуном, — прасвяціла яго ўжо крыху пазней бабуля. — А яшчэ яго ў нас завуць Белабогам.

І гэты Бялун-Белабог скіраваў яго ісці направа. Яшчэ і кіёчкам памахаў. Але абышоўся без падсрачніка. І ён паслухмяна пайшоў направа. А яго спадарожнікі — налева. Іх целы знайшлі праз некалькі месяцаў, вясной, калі сагнала снег. Ён, грэшны, не адчуў па іх вялікага смутку, бо не ведаў, смуткаваць ці радавацца і свайму існаванню. Таму што замест так чаканага, абяцанага з

усіх амбонаў раю трапіў у сапраўдны вяртэп. Ці не самы вялікі на свеце бардэль.

Недзе перад надыходам ужо вясны да маладых рамантыкаў-трактарыстаў падвезлі групу фабзайцаў — дзяўчат, штукатураў-маляроў. Жылі ўсе ў адным шчытавым дамку, спалі ў саломе. Ну і, канечне, закуляліся, ды так, што ўсім чарцям сталася моташна і зайздросна. І гэта быў толькі пачатак цаліннага сацыялістычнага бардаку. Насамрэч жа яго адчулі і спазналі, калі прыспеў час убіраць ураджай. Збожжа ссыпалі на голую, часам і мокрую зямлю. Бурты яго расцягваліся на пяцьсот, а то і тысячу метраў, вышынёй ці не з двухпавярховы дом.

Гарэла жыта, гарэла пшаніца і рамантыка. Душа выгарала. Да гэтага яна абыякава прымала распусту і блядства. Але блядскіх адносін да хлеба — інакш гэта не назавеш — трываць была няздольна.

Ён зарабіў сабе за гады цаліны на добрую хату. Але ўсе да апошняй капейкі прапіў адразу ж па вяртанні дамоў. Жлукціў як не ў сябе, як толькі стэпавыя вярблюды ваду могуць піць. Але звесці ў сабе адчуванне недаравальнага граху, нячыстасці, бражны пах гарэлага збожжа — так і не вытруціў. І ведаў, што проста так гэта не пройдзе, не даруецца яму. Адрыгнецца.

І адрыгнулася. Заробленую на цаліне хату прапіў.

На другую хату ён зарабіў на лесапавале ў Сібіры, недзе на поўначы Краснаярскага краю. Завербаваўся туды яшчэ па маладосці па той жа п'яні. Спаліў і маладосць, і здароўе на крутых сібірскіх маразах. А маразы былі такія, што жалеза рабілася крохкім — лом сівеў і крышыўся, нібы выцягнутая з вады спарахнелая ламачына, рассыпаўся ў друз, ціснула да шасцідзесяці градусаў ніжэй нуля. Зэкаў з навакольных лагераў ашчаджалі і не выводзілі на працу. А ён ішоў на дзялянку і рэзаў, валіў ацяжэлыя, налітыя халадэчай, хоць і звыклыя да яе, свойскія ёй кедры і піхты. Асабліва мучыўся з лістоўніцай. Яна і сама па сабе была што чыгун, такая

ж глумліва гудкая і цяжкая. Мароз жа рабіў яе зусім непадымнай і непавальнай. Дрэва, пэўна, не хацела паміраць у сцюжу, не-не дый сыпала пад бензапілой «Дружба» снапы дробненькіх злосных іскрынак, хаця мог так на марозе зіхацець і сам снег, што ападаў з камля лістоўніцы, выціснуты вонку пякельнай сцюжай. То мо былі і не іскры, а ссінелыя яго і дрэва слёзы.

Але яго слёзы, запечаныя і скамянелыя ўсярэдзіне, былі ўсё ж нікому не бачныя. Бо ў пекле плакаць не заведзена. Да вясновага бездарожжа сам адбіраў, сам рэзаў, зарабіў сабе лесу на добры пяцісценак. Ды якога лесу — адборнага, выпеставанага на волі. Ад якога і здалёку патыхала воляй і раскошай будучага, амаль птушынага цёплага кубла. Вывез, вытраляваў да станцыі, пагрузіў у дзве без пярэдніх і задніх бакавін вугляркі, поўныя з каптуром. І асабліва ні пра што не дбаючы, пакаціў у напрамку да белакаменнай, каб адтуль ужо і далей — на радзіму.

Толькі далей, на радзіму, не атрымалася. У станцыённым тлуме сталіцы, сярод яе панскіх камяніц яго лес, хата як у прорву трапіла. Масква паглынула яго хату. Да сталіцы будучы пяцісценак, як значылася па дакументах, яшчэ дапяў. А там знік, не пакінуўшы і знаку, нібыта ён і не кашляў цяпер з-за яго кроўю і рэшткамі сапсаваных лёгкіх. Ногі збіў, але так і не ўведаў, куды гэта падзеўся яго лес. Толькі адзін гарапашны замурзаны стрэлачнік паспачуваў яму:

— Эх, браток, што твае два вагоны. Тут эшалонамі ўсё прападае. Масква — горад вялікі.

У тым прапашчым горадзе ён зноў завербаваўся туды ж, дзе быў. На новую добраахвотную катаргу да будучай вясны. І наступнай вясной быў ужо хітрэйшы, вучаны. Звіў сабе кубельца, як грак ці лесавік у вуглярцы, у якой месцілася яго будучая хата. Пільнаваўся яе не адзіны тыдзень, гібеючы на дажджы і чыгуначных скразняках. Дамогся свайго, давёз лес да сваёй вёскі.

Толькі і цяпер увесь яго клопат быў марны. Пакуль ён дзве зімы і адно лета выжыльваўся і ламаў хрыбет, спусташаў сібірскую тайгу і тым дагаджаў і лагодзіў краіне, на радзіме яго ўжо шукалі, каб узяць пад мікіткі і наладзіць цяпер ужо пад прымусам і вартай туды ж, куды ён ездзіў добраахвотна. Наладзіць на казённы харч і ўгатаваную яму вялікую хату — барак на сотні месцаў, на нары. Жонка не здолела сплаціць накладзеныя на яго краінай, сельсаветам, як на аднаасобніка, які не працуе ў калгасе, падаткі. І гэтыя падаткі, так званая нядоімка, паглынула яго адбудаваную ўжо ў галаве трэцюю хату, канфіскавала падчыстую ўвесь прывезены ім лес, з якога калгас пабудаваў у яго вёсцы клуб. Зноў ісці ў заробкі, у прочкі ад роднага котлішча не хапіла ні смеласці, ні дужасці. Яго ўсё роўна як падсеклі, як і ён сек, выразаў на чуж-чужаніне кедрачы і піхты з лістоўніцамі, толькі без ікраў на ласкавым вецярку бацькоўскай зямлі. Без хаты, а цяпер ужо і без зямлі. Не было яму месца на бацькаўшчыне — калгас па вуглы хаты абрэзаў соткі за нявырабленыя працадні.

І патрэбны быў час, каб зноў укараніцца, акрыяць і набрацца імпэту, узяцца за старое, прарасціць у сабе думку пра якую б там ні было будоўлю. І тут у ім, пэўна, ужо абудзілася і загаварыла нешта спрадвечна сялянскае, вяскова-мужыцкае. Зацятасць пракаветнага гарапашніка, якую не вытруціць ні дустам, ні толам, ні нават атамнай бомбай, Чарнобылем, нікольні ўжо не патрэбнай была яму гэта новая хата, мо, хутчэй, нават забаўка? Але не скажыце, не скажыце. Ці заўсёды мы прагнем таго, што край нам неабходна? Зусім жа не на гэтым стаіць жыццё. Яму ж заўсёды пажадана трошкі лішняга і нават недасягальнага. У яго ўжо была кватэра ў горадзе, і даволі ўтульная, толькі ён так ніколі не забыўся на сваю страчаную, прымарожаную невядома дзе і на што маладосць. Памяць і памятлівасць прымусіла распачаць трэцяе, а на самай справе мо дзясятае, а то і

дваццатае-трыццатае аднаўленне сябе ў гэтым жыцці. Зноўку распачаць будоўлю. Не хаты — растаптанай і ўкрадзенай долі.

І ён, па ўсім, здабыў сабе новую долю, хаця недзе ў душы цяпер мо і сумняваўся ў гэтым. Доля — гэта лёс, нешта доўгае і няспыннае, а таму і недасягальнае. Вось і зараз яму няма калі цешыцца тым, што ўжо маецца, павінен падняцца і пачынаць ці то разбурэнне, ці то захаванне і працягванне сябе. Запускаць той вечны рухавік, вынайсці які каторае ўжо стагоддзе марыць чалавецтва, не здагадваючыся, што мужык гэты рухавік ужо даўно вынайшаў.

І ён яшчэ з вечара занарадзіў сабе ўстаць сёння як мага раней. Надышлі Дзяды, і гэта мо якраз іх цені, іх дух не давалі яму спачыну ўсю доўгую ноч. Нябожчыкі абжывалі яго новую хату, без іх, як вядома, жытла не бывае — гэта магіла, а не хата. Але трэба было захоўваць і чысціню, глядзець, каб не прасачыўся нехта нядобры, каб дух таго нядобрага не апярэдзіў яго і не ўвайшоў у хату. Самому чалавеку аберагчыся ад злога таго духу амаль немагчыма. Трэба звяртацца да сваіх бліжніх, што на тым ужо свеце, — сваіх анёлаў і абярэгаў. Што і хацеў ён зрабіць: хутчэй управіцца ў хаце і бегчы ў царкву, якая паўстала нядаўна на высокім бугры другога берага ракі. Бегчы ў не страціўшую яшчэ паху смалы, жывіцы царкву і ставіць памінальныя свечкі па тых, што даравалі яму гэты свет, якія, пэўна, паглядалі ўжо на дарогу, што вяла да іх, родных яму нябожчыкаў.

Вось іх ён і хацеў памянуць, святым і хісткім, як само жыццё, полымем свечак, нагадаць ім пра сябе, іх нашчадка, каб ім там не муляў вечны спачын забыцця, жорсткі пясок не засціў вочы, каб і ў іх не перасыхала сляза, адвечная, хаця і журботная повязь таго і гэтага светаў. Прагнуў як мага мацней, непарыўна ўжо прывязацца да іх, каб яны не прагналі яго ў час іх паяднання. Ён усё ж хрышчоны дваццатым

стагоддзем ад нараджэння Хрыстовага, назаўжды заручаны бацькамі смяротна і бессмяротна з верай і надзеяй. Але з таго ж маленства наскрозь атручаны сумненнем. Мо таму і няма яму спакою, апірышча няма. Жаданне і адмаўленне Бога спарадзілі ў душы страх. Страх няпэўнасці і хісткасці жыцця, крохкасці яго, як крохкасці жалезнага лома ў лютасці сібірскага пекла ў часы яго маладосці. Страх пустаты, непрырослacці да часу, прасцягу і працягу — нявер'я.

І ён, страх, быў у кожным чалавеку непраходны. Хаця і пераменлівы. Страх вялікі, страх маленькі, патаемны і відавочны — штодзённы і паўсюдны. Хаця вялікі страх бацькоў, здаецца, ужо сканаў разам з імі, але ж паспеў пакінуць нашчадкаў, крыху зменены ўкараніўся ў іх, як хвоя сярод балота. Адышла ў нябыт пагроза на роўным месцы не за капейку скласці галаву толькі таму, што недзе адзіны і далёкі ад цябе чалавек устаў не з той нагі ці чхнуў ён не так і яму адразу падумалася, на кім бы адыграцца, мо каго б і забіць. Вось такі страх адышоў, але ж ачомаліся, набеглі страшыкі: а ці ўвогуле існуе без іх жыццё, ці існуе на свеце сам чалавек, проста чалавек без страху?

Усе тыя, хто толькі ўчора бурыў і руйнаваў саборы і цэрквы, паліў абразы, разбіваў званы і, як тыя ж званы, трушчыў галовы вернікам, разам перакінуліся, як перакідваюцца ваўкалакі. Былыя ваяўнічыя атэісты — у такіх жа ваяўнічых прыхільнікаў царквы і святароў. Антыхрысты пабеглі ў храм цалавацца і мілавацца з Богам і недабітымі імі ж святарамі, ахвяруючы вялікія грошы і патрабуючы далучэння іх да чыну святых. А простаму чалавеку зноў нікуды не было дарогі, бо і да таго ж храма яе затапталі і загадзілі. Жыццё пайшло амаль раслiннае, аднахвілевае. Сёння ты ёсць, а заўтра ўжо няма — поўнае адмаўленне цябе наперад, будучыні табе і тваім дзецям. Менавіта адсюль бралі пачатак новыя страхі і страшыкі, прарастаючы ў адзіны, мо

нават большы, чым раней, страх — жах, жуду. Жах без Бога і жах з Богам. І людзі павінны былі аддацца хвіліне самазнішчэння, самазабойства. Толькі той адзінай хвіліне, якая яшчэ не скончылася, якая яшчэ доўжылася, завяршаючы бег секунднай стрэлкі, імгненню, калі абрывалася зямная повязь яго душы з гэтым светам.

І чалавеку заставалася адно: жыць, як набяжыць, без памкнення наперад самому сабе, як набягала гэта само на яго. Заняты такімі думкамі, ён не адбягаўся і ад назіральнасці, пільнасці да таго, што знаходзілася ў хаце. Звярына адчуваў, што хтосьці ўсё ж наведаў яго нару. Нехта тут пабываў да яго яшчэ, мо і начаваў. Хаця нічога не кранута, як ён і пакідаў. Толькі дух быў не яго: няўлоўна патыхала чужым ці нават чужымі, без іх следу, як бяследна праплывае лодка па рацэ ці качка. Плынь адразу самкнула ваду, а тут усё замкнёна ў чатыры сцяны. Толькі бёрны сочаць чужое, а мо і збытае сваё. Мо прыходзілі праведаць яго памерлыя бацькі — Дзяды? Што ў іх адведках: папярэджанне, бласлаўленне, праклён?

Каб пазбавіцца ад такіх думак, ён мусіў заняць рукі. Выйшаў на двор, гучна ляпнуўшы дзвярыма, як ад некага адбіваючыся ці гонячы. Мусіў набраць дроў і запаліць печ, цяпер ужо канчаткова пазбаўляючыся ад невядомасці наслання, выпальваючы яго. Вядома, лепей прагрэць нанач хату было ўвечары. Але няхай хата прывыкае да цяпла і зранку.

На дрывотні пад застрэшшам ён набраў і занёс у хату абярэмак дроў, радуючыся іх сухому, колкаму на лёгкім прымаразку голасу. Управіўся з агнём у печы — тут ён панадкі сабе ўжо не даваў. Што-што, а агонь у печы заўсёды шанаваў і бярог. Ад бацькоў, пячорных яшчэ продкаў звычай і завядзёнка. Вось і ён загадзя назапасіў лучыны, нашчапаў з карчаванага смаловага пня хвоі. Тая хвоя, паміраючы, перадала, ахвяравала ці не ўсё сваё хмельнае ад сонца пітво, усю сваю жыў-жывіцу

караням. Карані пералылі, захавалі матчыны сокі і цяпер сугрэўным агнём, цяпельным полымем адмерлага дрэва адорвалі чалавека, усё існае, як і бяроста, надраная ім з яшчэ не зусім высахлых бярозавых паленаў, не цалкам супакоеных. І ад гэтай несупакоенасці бяроста віжавата курчылася, як адпалы ці адбіты хвост яшчаркі. І была ў ёй лёгкая і задумлівая нежыць, што хуценька бралася агнём, спяшалася пераўтварыцца ў полымя, попел і прах, мо нават дзеля папярэджання чалавека, як вярыцельная грамата яму з таго свету. Грамата, якую ён, неадукаваны, не навучыўся разумець і чытаць.

Дровы ў печы заняліся імгненна, ад адной запалкі. Ён нейкі час, угнуўшыся і схіліўшы голаў, як перад абразамі, сачыў за кідкім ва ўсе бакі бегам полымя па сціснутых печчу дровах. Не здолеў адарваць вачэй, калі полымя ўжо гуло пад комін, нехапатліва, але спраўна зжоўвачы чорны накіп сажы ў шыйцы печы. Толькі тады ён сеў на лаву каля акна, раз-пораз кідаючы позірк то на агонь, то ў акно, на дарогу, што пралегла за акном — два канцы быцця і небыцця. І ў гэтай яго любасці да таго і другога больш, канечне, да агню было нешта вельмі прывабнае, старажытнае і паганскае. І сам ён быў паміж быццём і небыццём, паганцам з першапачатковасці, часоў Перуна, Ярылы і Цмокаў.

Гэта знешне, навідавоку. А на самай справе на тую хвіліну ён знаходзіўся нашмат бліжэй да свайго часу. Падсвядома. Агонь і дарога не надавалі сапраўднага, толькі няпэўныя згадкі не такога ўжо і далёкага мінулага. Яго мінулага, мо маленства. І з маленства знаёмыя і любыя яму цені ад агню і печы задуменна блукалі па яго твары, нібыта толькі тварам і нейкім не зусім асэнсаваным, не падпарадкаваным нікольк і яму праблескам думкі ён пайшоў, перакінуўся ў нейкі іншы свет, жыццё, паралельнае з ім і яго светам. І агонь быў яму зусім не пякельны. Ён увогуле не верыў у пякельнасць агню, слабавата верыў. Не, канечне, калі гарыць нешта

смярдзючае, то тады так. Калі куродыміць, напрыклад, занядбаны сметнік, паравоз ці смуродзіць «Ікарус», што робіць на салярцы, — тады гэта як у пекле. А існаванне пекла на сухіх сасновых ды бярозавых дровах, асабліва на панскіх альховых, немагчымае ў прынцыпе. І агонь — гэта толькі памяць, нязгасная памяць былога. Хаця часам і вельмі жорсткая, амаль пякельная, як у яго. Скачуць, адлятаючы іскрамі і сполахамі агню цені продкаў, тых, хто ўжо некалі жыў. Сполахі — душы сталых людзей, што яшчэ мо і сёння імкнуцца выхапіцца з таго свету, на нешта спадзяюцца тут і там, іскрынкі — душы немаўлят, якія толькі ўбачылі сонечнае святло і адразу ж анёламі адышлі да зорак і знічак. Пра што ён сам добра ўведаў, бо таксама быў ужо знічкай ці меціўся быць...

Тут яго думкі і застарэлая пякучая скруха нечакана былі парушаны нечым зусім ужо не ўяўным, а самым сапраўдным гукам, хаця і вельмі слабенькім, пачцівым, нібы павучок, захапіўшы муху, забегаў у створанай ім жа пастцы. Ён прыслухаўся. Не прымроілася, нехта сапраўды завітаў да яго і прасіўся ў хату. Толькі не ў дзверы і не з тагасветнага ўжо, здаецца, падпечча, і не зверху, не са столі. Ён наўкруг абышоў пакой, наблізіўся да маленькага, на дзве шыбіны, акенца, што выглядвала на веранду. Нязваны госць быў у гэтым акенцы. Ён стаяў двухнож на дубовым стале, прысунутым усутыч да веранды, а пярэднімі лапамі ці то шкробся, ці то барабаніў у шыбіну. І пры гэтым, як яму падалося, сціпленька, хаця і не без нахабнасці, усміхаўся яму. І не толькі ротам, але і дрыготным намёкам, павуцінкамі будучых вусікаў і ўжо шкадлівымі вушамі. Усміхаўся і барабаніў у акно, што піянерчык ці замурзаны акцябронак.

— А піянерскага горна ў цябе няма? — здзіўлена выгукнуў чалавек і хуценька выхапіўся з хаты. Ужо стоячы на двары, разводзячы рукамі, зразумеў, што пра горн вылецела ў яго не проста так. На верандзе

ў поўным зборы стаяў цэлы піянерскі атрад. Разам з барабаншчыкам — сямёра кацянят.

І першай думкай чалавека было не толькі здзіўленне, але і адчай, роспач: што ж гэта рабіць, з чаго пачаць? Сямёра схуднелых, выпетраных да касцей і скуры, па ўсім, вельмі агаладалых кацянят. «З'ядуць, а не толькі аб'ядуць. Яны мяне з'ядуць»,— падумаў чалавек. Ён падумаў так таму, што на той час у яго хаце не вельмі чаго было спажыўнага нават яму. А тут такая хеўра.

І ўжо толькі крыху пазней пачаў развыжаць, як гэта і чаму ўсе гэтыя сямёра коцікаў збіліся ў чараду і прыйшлі да яго. Як гэта яны знайшлі сярод пануючага навокал бязлюддзя менавіта яго хату. Гэта ж трэба, як адбываецца на свеце: галодны да галоднага цягнецца. З гэтым дзівам ён кінуўся зноў у хату. Адрэзаў добрую лусту чорнага хлеба, хацеў проста пасыпаць яго солю і вынесці кацянятам, як гэта рабілі яго бацькі, калі ў галодныя гады да іх даходзілі старцы, але схамянуўся: кацяняты ж не людзі, не старцы. І ён з усіх бакоў абрэзаў у хлеба цвёрдую скарынку. Мякіш пакрышыў, спачатку ў сподачак, але потым — у ладную міску з пакінутым у ёй учора на сняданак сабе куляшом. Выліў туды ж з пакета рэшткі мо ўжо крыху падкіслага малака, дадаў алею і панёс на веранду.

Спрытнюга і нахабнік, што барабаніў у акно, цяпер велічна, як пан, рассеўся пасярод стала. Нібы ведаў, як усё тут далей будзе, цікаваў, кіраваў. Астатнія кацяняты ў людскую ласку і спагаду, здаецца, ужо зняверыліся. Нішком ціснуліся пад дубовай лавай у самым куточку веранды, адно толькі паблісквалі вочкамі, не маючы, пэўна, ужо сілы і пажаліцца, а тым больш папрасіць што-небудзь: не праганяюць — і тое ўжо добра. Амаль усе яны былі не без гонару, не з простых, непародных катоў, як кажуць пра сабак, ніводнага двараніна: сіямскія, лівійскія з Егіпта, мо ад самога фараона, пампаскія — амерыканскага паходжання. Але пра гэта

ён даведаўся пазней, ужо калі вымушаны быў звярнуцца да адпаведнай кацінай літаратуры. А тады пашпартоў ці метрыкаў ён у іх не пытаўся. І так было відно: іх адрас не дом і не вуліца — наканаваная ўжо беспрытульніцкая доля пасля развалу краіны не толькі кацiным дзецям, але і дзецям чалавека і нават сталага ўжо века людзям.

Сярод гэтага піянерска-акцябрацкага інтэрнацыяналу вылучаўся, быў самым непаглядным барабаншчык. Увогуле, без дурняў, — нармальны крапіўны айчынны коцік, які змясціў у сабе высакароднасць і падплотавасць усіх іншых, прысутных тут. І гэта чалавека чамусьці ўжо крыху засмуціла. Не, у яго яшчэ не было ніякіх намераў наконт гэтага перасмешніка. Хоць і кажуць, што той, хто зведаў турму, у цырку не смяецца. А гэны выскаляецца... А ўсё ж, а ўсё ж... Ён і думаць не думаў, каб запусціць увесь гэты хаўрус сабе ў хату. Самая жахлівая і бязлітасная міласэрнасць — гэта пашкадаваць і наблізіць да сябе каго б там ні было, прылашчыць, прыручыць, а потым даць выспятка, выкінуць на сметнік жыцця. А падаць кусок хлеба, накарміць галоднага — абавязак кожнага, у каго ёсць той хлеб.

Ён паставіў міску з крышывам на падлогу і пачаў наглядаць за кацянятамі. Яны адразу ж павылазілі з-пад лавы і мяккім адзіным кругляком пакаціліся да ежы. Елі прагна, хапатліва і, трэба сказаць, не вельмі ахайна, як ядуць больш парасяты, а не каты. Некаторыя іх і з лапамі залезлі ў міску. І толькі барабаншчык павёў сябе зусім інакш — выхавана, інтэлігентна нават. Не кінуўся на злом галавы да міскі, спакойна скочыў са стала і таксама не спяшаючыся, выпнуўшы наперад грудку, наблізіўся да місы з ежай. Але і тут не кінуўся хлябаць, каўтаць, глытаць. Спаважна ўзняў пярэднюю лапу, крануў ёю мешанку з хлебным мякішам, куляшом і малаком. Абышоўся з ім, як гэта прарабляюць усе дарослыя і дасціпныя каты, калі баяцца апячыся ці ўлезці ў нешта непатрэбнае, — адведаў спачатку лапай. Пасля чаго,

асцярожна страсянуўшы наліп, пачаў спакваля аблізваць яе. І толькі потым узяўся есці разам з іншымі кацянятамі.

Але і тут, на дзіва чалавеку, утварыў нешта такое, пра што кажуць: ні на бажніцу, ні ў Савецкую армію. Калі кацяняты толькі ўвайшлі ў смак і было ўжо немагчыма ні за вушы, ні за хвост адцягнуць іх ад міскі, каток па сваёй ахвоце перапыніўся, узняў галаву, паглядзеў на чалавека і мякенька падкаціўся да яго ног. Пацёрся аб адну, заплёў чалавеку ногі, пацёрся пысай аб другую калашыну. Зазірнуў чалавеку ў вочы, хаця, як здалося таму, без належнай сірочай удзячнасці, але ж з разуменнем і з нейкім нават вычакальным патрабаваннем. І толькі пасля гэтага паклыпаў да сваіх руплівых хаўруснікаў. Чалавек услед яму толькі галавой пакруціў і мовіў: ну-ну, зараза, ганарлівы. Але мовіў нязлосна, і нешта кальнула яму ў грудзях. І ён яшчэ падумаў: старэю, старэю — дзяцінею.

Падумаў так, але і ў галаве яго не было парадніцца з якім-небудзь з гэтых ранішніх адведнікаў яго селішча. Хаця і гавораць: кот у хату — да прыбытку. Але гэта, пэўна, пра аднаго і па жаданні гаспадара. А тут адразу сямёра і насуперак яго жаданням. А ўсё ж трэба было нешта рабіць. Толькі што, ён і галавы не мог прыкласці. Пайшоў у кладоўку, знайшоў і выцягнуў стары рэчмяшок. Дзіравы ад часу, выбелены вадой і сонцам. Думаў, што ён яму ўжо ніколі не спатрэбіцца, і толькі сялянская беражлівасць не дазволіла выкінуць таго рукзака, з салдатаў яшчэ, з войска. Як у ваду глядзеў: у гаспадарцы лішніх рэчаў не бывае.

Кацяняты ўжо далізвалі дно місы з ежай. Ён прыладзіўся, схапіў за каршэнь і кінуў у рукзак першага коціка — бялявага пушысціка з блакітнымі вочкамі. Захапіў яго знянацку, ён не паспеў, пэўна, яшчэ нічога і зразумець і каўкнуць, але ў мяшку забуяніў. І двое другіх коцікаў так проста не даліся яму ў рукі, брыкаліся і дзерліся, пазбягаючы няволі. Па ўсім, зразумелі ўжо,

дзеля чаго іх засоўваюць ў цёмны мех. Але чалавек быў жорсткі і непрыхільны. Дабрадзейнасць — гэта часам і гвалт. Справіўся з імі, дзівячыся, да чаго ж яны круткія і пругкія і якая вялікая прага гэтага свету нададзена нават такім яшчэ немаўлятам.

Напачатку ён думаў закінуць у рэчмяшок усіх коцікаў. Але, засоўваючы трэцяга, зразумеў — не атрымаецца.

З трыма кацянятамі ў мяшку за плячыма ён подбегам кінуўся да масткоў праз рэчку. Трэба было спяшацца. У царкве за ракой пачыналася служба. Каля самой вады, нібы адчуваючы яе, кацяняты як ашалелі. Скраблі і дзёрлі з усёй іх кацінай моцы залубянелы на марозе брызентавы мех, прасоўвалі ў дзіры мысы і галасілі, што напрудзіўшыя дзеці.

Чалавек раззлаваўся і абурыўся: дурні і дурні. Хто ж гэта, выпраўляючыся да храма Божага, будзе браць на сябе такі грэх, будзе тапіць і губіць тых, каму толькі што працягнуў акраец хлеба? Ён апрастаў рэчмяшок у вёсцы. Каля вугла магазіна, за якім ужо ўздымаліся крыжы царквы, пашыбаваў да яе, не азіраючыся, усё яшчэ абураны, але ўжо не злосны. Разняволеныя кацяняты, па ўсім, падзялялі яго абурэнне, яны нават не зірнулі яму ўслед, старанна залізваючы толькі што перажыты страх і пакамечаныя бакі.

У царкве, ставячы свечкі па сваіх нябожчыках, амаль няспынна хрысцячыся і кладучы паклоны і алілуючы, чалавек мімаволі чамусьці больш думаў пра пакінутых каля магазіна і на верандзе сваёй хаты бедакоў кацінага племені, чым пра тых, хто некалі быў яму блізкі і родны, хто ў свой час падараваў яму жыццё, дакараў сябе за гэта блюзнерства і быў няздольны пазбавіцца яго. Няздольны пазбавіцца трывогі за пакінутую з агнём печ у хаце. Нешта пякло яму, пякло, вярэдзіла, непакоіла.

Адстаяўшы службу, адчуваючы дакор памерлых бацькоў і родных, ён зноў жа подбежкі кінуўся да хаты. Але як ні спяшаўся, каля рога магазіна, дзе

пакінуў кацянят, стрымаў сябе і агледзеўся. Кацянят на ранейшым месцы не было. Ён хуценька абышоў кругa магазіна, зазірнуў нават у прыцемак яго засмечанага, запляванага і абкуранага калідорчыка, але іх і там не было. На душы пасвятлела, праяснілася: у царкву ходзіць усё ж народ міласэрны.

Чацвёра кацянят чакалі яго на верандзе. Трое з іх звіліся ў клубок пад дубовай лавай, сытна пасопвалі ў бок адно аднаму. А барабаншчык, склаўшы галаву на лапы, палежваў на стале каля акна, як старэнькі дзед на цёплай печы. І толькі пачуўшы яго, падняўся, пругка выпрастаўся, нібыта струнна падцягнуты ўгару хвастом, аблізаўся, а мо і пазяхнуў, выпнуў па-вужынаму хрыбціну, хвост вяровачкай, вітальна паматляў ім і сеў. Іскраным рудавата-балотным вокам з жалезістым адценнем торфу запытальна ўтаропіўся ў яго. Чалавек, як прадчуваючы нешта не вельмі гожае, непажаданае самому, схаваў ад яго позірку вочы.

На душы яго зноў было прыкра, роспачна. Заняўся разамлелымі пад лавай трыма коцікамі. Хацеў іх усіх разам проста зграбці ў рукзак. Але жывы клубок нечакана распаўся і распоўзся. Ён пачаў іх збіраць па адным, адчуваючы, як халадзеюць пальцы.

Справіўся з апошнім коцікам, укінуў у рэчмяшок, завязаў яго. У тую ж хвіліну рэчмяшок, што жывы, сам папоўз з веранды. Кацяняты па сваёй ахвоце пакідалі яго жытло разам з яго салдацкім мехам. Ён не ўстрымаўся і млява вылаяўся. Схапіў рэчмяшок, ускінуў яго на плечы. Ношка была хоць і лёгкая, але не надта падымная. З рэчмяшком за плячыма ён цяжка сеў на лаву, як абсунуўся. І толькі ўжо тут убачыў і зразумеў, што справа яшчэ не скончана. Застаўся непрыбраным яшчэ адзін коцік. Той, самы непаглядны, варты толькі жалю, няроўна аброслы палынна-бурай бруднаватай поўсцю, з тоненькай шыйкай і сумнымі, але цяпер ужо даравальнымі вочкамі, згоднымі на якую б ні

было сваю долю. Ён як сядзеў на стале, так і працягваў нерухома сядзець, нібыта паменшаны, зведзены ціскам прасторы стагоддзяў і часу, злеплены з іх цемры і святла, сфакусаваны на гэты край сфінкс, захавальнік егіпецкіх пірамід фараонаў, абыякавы да болю, пакут мінулага і будучага. Сядзеў і незрадліва пасміхаўся кончыкамі сваіх малалетніх вуснаў і вусікаў.

І чалавек зайшоўся ў немым спачуванні яму. Ад жудаснай упэўненасці, бязлітаснасці і немінучасці ні былога, ні будучага да жывога, да ўсяго існага на гэтай зямлі, з чым гэтаму існаму і жывому да схону свайго немагчыма развітацца, ад чаго нельга пазбавіцца, нават у святыя і вялікія памінальныя дні, на тыя ж Дзяды. Прыходзіцца толькі занепакоена ўціхамірвацца і прымаць усё як нарачонае, належнае. А да гэтай жа пары ён ужо быў схільны думаць, што не здольны да бунтоўнасці, што ўжо ўтаймаваны, прымiраны з зямлёй, небам і іх творцам, яго неіснавальнасцю і ўласнай спустошанасцю.

Але варта было толькі варухнуць яго памяць, абудзіць і трошачкі раскатурхаць яго былое, мінулае, як сарваліся, рассыпаліся ў друз усе абручы, усе тармазы пустаты. І нешта даўкае, мулкае ці не ад сэрца, пакацілася, пакацілася і спынілася на выдыху, заклаўшы гарлянку. Яго, яго гэта быў коцік. Коцік яго беспрытульнага дзяцінства, якога ён выракся, дзяцінства і коціка разам, збыў на чужыне і тут, на бацькаўшчыне. Збыў у вечным гоне за прывідным шчасцем. Шчасцем, якое можна было б укусіць, паспытаць на зуб, абняць, ухапіць аберуч, прылашчыць і прылашчыцца, пеставаць, цешыцца і цешыць да ўзаемнага горкага ці салодкага бяспамяцтва, канання, як гэта канае, заходзіцца ў бяспамяцтве сёння ўсё існае ў прасторы і часе. Заходзіцца ад самагубства і самазнішчэння, забыўшыся, што, акрамя ачмурэння веліччу ўласнага самазадавальнення на зямлі ёсць яшчэ і самыя звычайныя, але вечныя коцікі, што ідуць

за чалавекам з яго маленства. І сам ён ад народзінаў і першага слова — коцік. І перад ім быў ён сам.

Коцік яго беспрытульнага маленства, калі ён ужо ў прыцемках ночы пакідаў, як здавалася яму назаўсёды, гэты край. Навокал не было ні адзінай жывой душы. Толькі коцік сядзеў на слупку брамкі, якую ён засмучона зачыніў за сабой. Коцік, як прыкуты да слупка, замкнёны ў паўднёвую непрагляднасць парной палескай ночы, нават не варухнуўся. І толькі вочкі яго тагасветна свяціліся, ды таксама крыху, здаецца, тагасветна зіхацела насычаная, пэўна, уздыхам і сумам развітальнага папроку неба шэрстка. Ды начная раса на спадарожнай траве срэбна калола вочы. Але ён не зважыў ні на ўздых, ні на папрок нябёс, ні на дакор роднай расы, ні на нерухомую зацятасць коціка. Моўчкі пашыбаваў па сівым уначы пыле роднай вуліцы, як думалася, у будучыню. А мо і насамрэч у сённяшнюю яго будучыню, што зноў звяла іх — коціка і яго.

Але тае пары яму мроілася зусім іншае. Ён быў цалкам захоплены Калумбам і Васка да Гама, гадаў пра Айкумену, зачаравана і палахліва верыў у амок, пра якія спазнаў з кніжак. Вось насустрач усяму гэтаму ён і пайшоў у тую ноч, не здагадваючыся, што не насустрач, а прэч ад гэтага, што ўсё гэта ўжо ёсць у яго і ў ім, нават таямнічая айкумена-экумена, што ў ёй няма нічога ні чароўнага, ні таямнічага — гэта толькі няведамая частка яго самога ж, што ён ужо ёсць, калі так мроіць Калумбам і Васка да Гама. Будзе варта толькі крышачку розуму, мазгоў.

Варта ніколі не развітвацца з родным парогам, даверыцца коціку на слупку брамкі. Коціку, які будзе, пэўна, сумаваць па ім, бо тут не будзе яму каго ўмываць, калі ён сам гэта палянуецца зрабіць ранкам, не будзе каму залізваць яго дзіцячыя крыўды, слёзы болю і роспачы ад дарослай жорсткасці жыцця. Нарэшце, у яго ўжо ніколі не будзе такога мяккага і даверлівага каўнерчыка з жывымі вочкамі, якога ён сам ускладзе

сабе на шыю, ухопіць за лапкі і пабяжыць, пабяжыць па хаце. А коцік і не мяўкне нават. Заенчыць толькі тады, калі яму знячэўку, а мо і знарок, і вельмі часта знарок, прышчэмяць дзвярыма хвост ці наступяць на лапу: не хадзі босы і беражы, заўжды падцінай хвост. Але і тады, праз хвіліну ўжо, кінецца ганяцца за мышкай з пакамечанай паперы, перавязанай суровай ніткай. І вуркацець і чмыхаць ад задавальнення, адначасова ж разумеючы, што гэта толькі гульня, што ён толькі падыгрывае тваймy малечаму глупству. Падладжваецца пад яго, але адначасова па сваёй шчырасці забываецца пра гэта. Бо на самай справе ў жыцці няма нічога больш сапраўднага, чым гульня. Недарма кажуць: жыццё — гульня, і каты лепш за чалавека ведаюць пра гэта. Яны ўвогуле ведуны, вечныя гульцы, зорныя прышэльцы Таму ў іх жыцці няма плаксівай і гнілой сярэдзіны і калечнай старасці і немачы. Яны толькі нараджаюцца і толькі паміраюць сярод спрадвечнай гульні ў кошкі-мышкі — нараджэння і смерці. І надта сур'ёзныя людзі ніяк не могуць дараваць ім гэтага, занятыя толькі сабой, не разумеюць вышэйшай мудрасці, як яны гавораць, братоў сваіх меншых. А на самай справе...

Пра гэта ён падсвядома, зразумела, думаў увесь свой век. А цяпер, пацягнуўшыся за рэчмяшком з коцікамі, як спатыкнуўся, і думкі пайшлі хаця і ў тым жа кірунку, але крыху ўбок, вілюгамі. Гэта ж і з ім нехта распачаў сёння, на Дзяды, перад улазінамі ў сваю новую хату нейкую не зусім зразумелую яшчэ гульню. Чужы пах у хаце і сямёра коцікаў, сямёра родных яму нябожчыкаў...

Не, такога не магло быць, бо гэтага ўвогуле не можа быць — каб усе сямёра ды знайшлі яго на гэтай вялікай зямлі. Хаця папраўдзе, чаго яго шукаць, ён на гэтым свеце навідавоку. Але каб яны з таго свету ды сабраліся разам і прымусілі яго так настроіцца на іх, улезлі так яму ў душу, так шчымліва запалі ў сэрца і памяць. На

свой памін пачалі ў ім і ў яго правіць улазіны на схоне яго жыцця.

Але ж нікуды не дзенешся. Ад жывога на гэтым свеце яшчэ можна стаіцца, схавацца, а ад тагасветнага ўжо, нябожчыка, ад сваёй роднай бунтоўнай, хаця і адмерлай крыві заслону няма. Яна і на Месяц пойдзе па тваіх слязах, пацягнецца за тваім апошнім уздыхам. Лічы, па слязах і ўздыху шматлікіх тваіх продкаў. Кроў не ведае паміранння, яна толькі туманамі разыходзіцца, сцелецца па сусвеце, карае і мілуе. І больш карае, бо ўсе на гэтай зямлі грэшныя. Грэшныя ўжо таму, што жывыя. А жыццё іх запазычана тагасветна ў памерлых. Таму, пэўна, у чыстую і прасветленую мінуту яны і запрасіліся ў яго новую хату, пастукаліся ў яго дзверы і Душу.

Чалавек ужо ўгінаўся пад жывым цяжарам трох астатніх коцікаў у рэчмяшку за плячыма і зноў бег знаёмай яму сцежкай да ракі, магазіна і царквы. А думка пра тое, што ў яго за плячыма ў мяшку нечыя, ды не нечыя, а яго родныя жывыя душы, усё больш і больш замінала яму рух, хаця ён паставіў сабе быць жорсткім, бо жорсткім было яго жыццё. Пры ўсім замілаванні да сваіх нябожчыкаў ён не мог дазволіць пусціць, завесці іх усіх разам да сябе ў хату. Гэта раней чалавек мог займець сямёра, нават двойчы па сямёра дзяцей і ўсіх іх выгадаваць, пракарміць, паставіць на ногі, вывесці ў людзі. А па жыцці сённяшнім — ні ў якім разе. Пракарміць сямёра нябожчыкаў. Тут толькі на аднаго сябе ледзьве-ледзьве хапае. Часам з макам, а больш з такам. І ўсе сямёра, хаця і крэўных нябожчыкаў, былі яму непадымнымі.

А ці ж папраўдзе сямёра іх, падумаў ён, каб толькі пазбавіцца бязбожнасці сваіх думак, грахоўнасці таго, што тварыў. Падумаў, пачаў па пальцах пералічваць некалі дарагіх і родных яму людзей: сястра, маці, бабуля, бацька, сын, зноў сястра — зводная і, даруй божа, Пім, былы яго каток, якога ён сам занёс, лічы, у крэматорый,

калі той невылечна захварэў. Пім, мо самая крывавая апошняя, свежая зарубіна на яго сумленні. Роўна сем, сем, як лёду.

Чалавек жахнуўся свайго падліку. Усё правільна. Усё сыходзілася, усё адпаведна, ад ліку коцікаў да ліку нябожчыкаў. Але каб толькі апошніх ды на жыццё аднаго? Як гэта несці яму, як не падламіцца? Але чаму ж не падламіцца? Мо таму і падломваецца само жыццё на зямлі, ад цяжару нежыці на плячах аднаго чалавека. Гэта ж сам ён, колькі тае жыткі, а столькі ўжо смерцяў на ім, зямля пад нагамі ўгінаецца.

І чалавек адчуў, як сапраўды ўгінаецца пад ім зямля. Узгадаў усе паміранні, усе смерці на ім, толькі каб ён быў. Толькі каб ён жыў. Дзве першыя сыходзілі на самы яго пачатак. Смерць сястры і смерць маці. Яны наклаліся адна на адну, былі як пупавінай звязаны з ім, яго яшчэ раслінна-прарослай неасэнсаванасцю, а таму і бессмяротнасцю існавання на гэтым свеце, хаця тагасветнасць была ўжо наканавана і забяспечана яму. Толькі ён, на дзіва, нічога не ведаў пра гэта. Нічога не ведаў пра недалёкую смерць маці і сястры — нібыта іх ніколі і не было. Настолькі прарос, прырос, зрастаўся з іх духамі і дыхам, што і не адчуваў ужыве. Адно толькі здагадваўся нейкім краёчкам непрытушанай памяці, сваёй ужо вечнасці: ёсць і вечна будуць. І смерць іх недзе схавана ў сярэдзіне яго сумлення і свядомасці, бо такое нельга выпускаць вонку, таму што гэта і яго смерць, віна яго смяротная і нязбыўная, хаця і мімавольная.

Але свядомы, сумленны чалавек і вінаваціцца толькі таму, што ў яго ёсць сумленне. Ды ж такіх мімавольных сумленных вінаў на кожным чалавеку край непачаты. Куды больш мярзотнасці і пошасці неасэнсаванай, чым наўмыснай. І ён ужо даўно зросся з брыдотнай падняволенасцю жыцця на гэтым свеце. І толькі на самоце, на маладзіку і ў поўню, калі Месяц мроіў і вінаваціўся зямлёй і зямным, быў не здольны супакоіць у

сабе чалавека, збыць, забіць, задушыць таго маленькага і пякуча правільнага і праведнага хлопчыка, якім пачаў свой зямны шлях.

Вось і цяпер хлопчык той, як з нябыту, вярнуўся зноў да яго. Вярнуўся, як толькі ён пачаў будаваць тут хату. Начлежнічаючы ў ёй, ён увесь час адчуваў яго прысутнасць. Прысутнасць у сабе ці каля сябе пабочнага дыхання, вока і нават нейкага настаўляльнага голасу. Да яго як бы вярталася нешта даўным-даўно згубленае і страчанае, часам шчымліва пяшчотнае і даравальнае, а часам пякуча жорсткае і крывавае, жудаснае.

Няйнакш некага ці нешта ён тут зачапіў. Улез туды, куды не трэба лезці. А мо і наадварот, тут яго даўно ўжо чакалі, даўно гарэў тут агеньчык, прызначаны яму. Агеньчык, каля якога ён павінен быць, пасядзець на самоце. Пагрэцца ці згарэць. І агеньчык той прытухаў, заходзіўся ўжо, але ён паспеў у час, здзьмуў попел, падкінуў дроў. І цяпер жахаецца і пакутуе, не разумеючы яго жару адначасова і ўяўнай і прывіднай любасці. Любасці таго, хто распаліў тут гэты агонь, паклікаў і прывёў сюды. А цяпер ходзіць каля яго кругамі, цікуе за ім і штукарыць.

Упершыню ён адчуў гэта штукарства, калі паставіў толькі зруб. Узвёў сцены ды ўзняў наверх, на бэлькі, дошак для столі. Якраз тады гэта штукарства крывава азвалася. Адзін з яго будаўнікоў, малады, дужы і не дурны, ніколькі не цельпукаваты — да маладой фельчаркі штоноч у суседнюю вёску бегаў, — паслізнуўся на роўным месцы, упаў са столі і да крыві рассадзіў галаву:

— Дошку з-пад маіх ног як пацёг нехта. Ляжала яна, добра ляжала. А потым ні з таго ні з сяго гойдацца пачала і скінула мяне, — жаліўся ён пасля таго, як трохі ачомаўся і апрытомнеў.

І ён паверыў яму, бо нешта падобнае ў сваёй хаце і сам наглядаў. Браўся за непадымнае, здаецца, бервяно, яно як само клалася ў сцяну, а маленькая дошачка як

прыліпала да падлогі ці падаконніка, і ніякай сілы не хапала зрушыць яе з месца. Але праз нейкі час яна сама падала, ды яшчэ з такім грукатам, нібыта хтосьці шпурляў яе. Усё гэта ён прыкмячаў, але не звязваў у нешта адно. Звязалася ж толькі тады, калі пралілася кроў. І ён падумаў, што не к дабру, не к дабру гэта блазнота ў яго селішчы. Нехта падае яму знакі. Трэба як мага хутчэй даводзіць да розуму хату, зваць святара і асвячаць яе. Інакш жыткі тут не будзе.

Валтузня і штукарства працягваліся і па-за хатай, каля рэчкі. І тут мо было і не варта гаварыць пра гукі з ніадкуль і ні з чаго. Ён ведаў, што мінулае мае голас, і голас той прарываецца і праз напластаванні стагоддзяў. Але каб толькі голас. Ён раптам недзе тут каля ракі, кожны раз на новым месцы, так гэта было няўлоўна і нечакана, як правальваўся, праломваўся невядома куды. Не, усё заставалася як і было, як раней, як і заўсёды. Ён мог давяраць сваім вачам: нічога вядомым яму мясцінам не дадавалася, нічога не знікала. Але ж, але ж... У яго яшчэ хапала розуму, каб адрозніць зношаныя штаны ад новых, маладую зялёную траву ад старой, збуцвелай ужо, стары камень, што крышыўся пад нагамі ад узросту, ад каменьчыка свежага, маладога, які толькі праклёўваўся з глыбіні зямлі.

А адбывалася ўсё гэта так. Вілася па-над берагам сцежачка. Ён задуменна шнураваў па той сцежачцы. І раптам як правальваўся, губляў сцежку і ўвогуле зямлю пад нагамі, імкліва расступалася і разрэджвалася паветра. Ён чапляўся за яго спужаным ротам і не паспяваў займець яго, дыханне перахоплівала. Але толькі на імгненне. Імгненне, калі ногі зноў намацвалі зямлю, а грудзі распірала ўжо зусім новае паветра, якім ён да гэтага не дыхаў. І ўсё навокал было новае. Тая ж самая рэчка, той жа круты ці спадзісты бераг, тарфяны, глеісты ці пясчаны, шапатлівы шоўк асакі і дрымотная маўклівасць жоўтых і белых цяжарных

часам гарлачыкаў. Усё тое ж самае, што імгненне таму, але і ўсё ўжо іншае, абноўленае. Пераўтворанае зусім не хуткасным цёкам амаль бачных тутэйшых хвілін, а цяжкім наплывам, нарасцю туга збітых стагоддзяў, сцягнутых у адно непарыўнае і пракаветнае ў непадуладную нікому вечнасць. Тую самую, з якой, пэўна, так нечакана і неспадзявана вынікнуў сам чалавек. Мо таму гэта менавіта яна, вечнасць, і пацвельвала яго цяпер і гуляла з ім у кошкі-мышкі. Дзіцячую гульню, сэнс і асалоду якой ніколі не зведаць сталаму чалавеку.

Чалавек раптам адчуў, што сцежка пад яго нагамі знікла, знікла і сама зямля: перахапіла дыханне. І яго ўжо тут няма. Увогуле няма таго самага тут, хаця ўсё засталося, як і было імгненне таму. Цячэ і цякла рэчка, бяжыць і сакоча вада, па-над якой узвышаюцца масткі, што злучаюць пакаты бераг правы з крутым берагам левым. То хаваюцца, то зноў узнікаюць у вірлівай плыні чорныя палі былога млына. І недзе пасярэдзіне рэчкі распасцёрся вялікі і круталобы валун з чарнявай лысінай пасярэдзіне, як нямы прыхадзень з неабдымнай прасторы і часу. Ды ўсё гэта хоць і крышачку, але інакшае, прыгаломшанае і не тутэйшае, у сівой пацiне мінулага ці будучага. І ў той пацiне ён бачыць, пазнае сябе...

Ён ішоў у працяг свайго жыцця дарогай смерці. Хаця ішоў — гэта гучна сказана. Яго цягнулі. Цягнуў вясковы слотны шлях, засеяны лахманамі брудных, на самым пачатку вясны закарэлых снапоў нежыці з адмерлымі, невідушчымі, але расплюшчанымі жаночымі, старэчымі і маладымі, малечымі вачыма. І гэтыя вочы падганялі хлопчыка, прымушалі перабіраць нагамі, хоць ён ужо даўно здаўся. І толькі маці, трымаючы яго за руку, не давала яму кульнуцца і супакоіцца. Цягнулі ў нябыт прыгорбленыя постаці людзей у шэрых світках, што абыякава ківаліся наперадзе яго, маўклівасць яшчэ

маленькай, малочніцы, сястры, што заморана тулілася да пляча маці. Усё гэта безгалоса, паныла плыло паміж небам і зямлёй, як чарада буслоў ці жораваў, што самотна адплываюць у вырай. Толькі і розніцы, што людскі вырай быў ужо незваротны і бязмэтны, бязлітасна пакутны. Сама смерць недзе зняможана лягла і канала сярод штохвілінна гатовага адляцець у нябыт вясковага люду. Смерць праклінала свае ўсё ж міласэрныя абавязкі. Толькі чалавек са сваім вынаходліва зламысным розумам быў здольны вынайсці ёй такую кару.

І хлопчык, нібы спачуваючы зняможанасці смерці, адмовіўся доўжыць гэты бясконцы шлях у лютую вечнасць. Ён выдзер сваю руку з рукі маці і з палёгкай збаўлення асунуўся ў сукравічна спляжаны снег на дарозе. Маці паспрабавала падняць яго і прымусіць крочыць далей. Але не здолела. Жыццё, пэўна, ужо таксама адступілася ад яе. Яна моўчкі перадала дзяўчынку старой, што клыпала за ёй. Усунула ў рукі, як старцу суюць кавалак хлеба. І старая, як кавалак хлеба, як міласціну, прыняла гэту падачку і паківалася далей.

А маці нейкае імгненне моўчкі пастаяла каля нерухомага сына. Перахрысцілася. Азірнулася, хуценька расшпіліла бушлат, што быў на ёй, расхінула яго і плазам упала на хлопчыка, накрыла яго сваім целам. Але, пэўна, не разлічыла, закрыла не ўсяго цалкам. З-пад бушлата засталася навідавоку, тырчала ці то правая, ці то левая ножка хлопчыка, абутая ў некалі, па ўсім, гожанькі, а цяпер расквашаны і парудзелы чабаток.

Хлопчык войкнуў, а мо проста каўкнуў, пазбаўляючыся паветра ў сярэдзіне сябе. Маці загадала яму маўчаць, і ён адразу ж аціх. А маці зноў пачала азірацца на людскую плынь, а больш на тых, хто ахоўваў і сцярог гэту плынь, не даваў ёй распаўзціся абапал дарогі. Улавіла позірк першага Харона, стражніка і праведніка. У яго, пэўна, яшчэ мелася сэрца, і ён аказаў маці з сынам на дарозе ласку. Патурбаваўся, нагнуўся і захінуў крысом

яе бушлата чабаток хлопчыка. Другі, з якім яна моўчкі перакінулася позіркам, таксама нешта ведаў пра літасць. Ён адвярнуўся і моўчкі прайшоў міма. Затое трэці быў што трэба, меў і сэрца і ведаў нешта пра спагаду. Ён адразу ж зразумеў маўклівую, але загадную просьбу жанчыны і, не спыняючы хады, ткнуў штыхом у шэрую гурбу бушлата. Патрапіў дакладна туды, дзе было сэрца. І яе сэрца аддзячыла сына гарачым цёкам крыві, што чырванню апляміла шэрань яе бушлата.

І хлопчык зноў ці то войкнуў, ці то каўкнуў пад цяжарам абмяклага, мёртвага ўжо цела маці, забыўшыся на яе строгі наказ не падаваць голасу. Той загад пры ўсёй яго паслухмянасці і даверу да маці ён проста быў не здольны выканаць. Гарачая кроў маці, што палілася на яго, абудзіла ў ім пракаветна жывучае ў кожным рэха. Яго кроў сустрэлася і перагукнулася з кроўю маці, той, што некалі была ў іх адзінай. І ён закрычаў ужо ўголас, як крычаць толькі дзеці, яшчэ жыва звязаныя з пупавінай маці.

Не, закрычаў не тады, не спавіты і амыты яе кроўю. Гэта крычаў ён цяпер. Звярына і адыходна. Адмаўляючы таму, што гэта было, што такое ўвогуле магчыма на свеце. Крычаў, стагнаў, роў, не верачы і ў той жа час глыбока пераконаны: было, было. Так, як толькі ён бачыў усё на свае вочы. Маўкліва зацятая памяць роднай крыві ніколі не хлусіць. Толькі праўда яе знішчальная. Вось таму ён і адмаўляецца даць веры мінуламу. Таму заўсёды так старанна і тоіцца ў чалавечай памяці былое, куды больш непазнавальнае і жудаснае, чым усе жаханні і жудасці дня бягучага і нават будучага. Бягучае і будучае яшчэ можна перамяніць, а былое, як ні вымагайся, як ні выдзыгайся, — не скруціш.

Вось чаму так старанна і ён адбіваўся ад гэтага свайго мінулага. Адмаўляўся таму, што за ім было неспасціжнае чалавеку. Цемра была за ім. І ён, ён яшчэ бязгрэшны, прасветлены і чысты, ужо быў апавяшчальнікам

прадрачонасці і нябыту ў першую чаргу сваім самым дарагім родным людзям. Анёлам смерці. Таму так і таілася яго памяць. Перасцерагала, не пускала ў яго ж мінулае. Бо ў тым, яшчэ нічым не азмрочаным, мінулым ён быў ўжо конча грэшны. Без віны недаравальна вінны. І падсвядома ўсё сваё жыццё ён ведаў пра гэта. Ведаў і баяўся адказу і сустрэчы там і з тымі, хто аплаціў яго працяг і існаванне на гэтым свеце, ахвяраваў сабой, каб толькі яму адбыцца і быць.

І цяпер, стоячы на беразе ракі, знаходзячыся невядома ў якім часе, ён адмаўляўся прызнацца мінуламу ў тым, што было ў яго, выракаўся самога сябе, хаця вырачыся было немагчыма. Апроч крывавага змроку, жудасці і жаху ён насіў у сабе і нязбыўную мецціну былога, цяпер, падобна, перасцерагальную засечку на сваёй памяці. Зарубку і загану, прыроды якой да гэтага часу не ведаў. Ён быў слепаваты на правае вока і тугаваты на тое ж вуха. Ніколі не задумваўся, адкуль на яго такая напасць. Дактары тлумачылі: старое, пэўна яшчэ ў маленстве, пашкоджанне зрокавага і слыхавога нерва. На гэту ж хвіліну тая зарубка адкрылася, як старая рана, пачала крывавіць, шчымець і смылець. Ён пранікнуўся розумам мінулага і здагадаўся: то ў яго галаве мецціна, шнар каля вуха ад літасцівага штыха, якім закалолі яго маці, каб ён не сумняваўся ў сваім мінулым і ніколі не цураўся яго. Помніў, што за дараванне гэтага свету, пралітую кроў сплочваюць не толькі, а мо і зусім не продкі-нябожчыкі, але і іх нашчадкі. І нашчадкі іх нашчадкаў.

І, як бы падмацоўваючы і сцвярджаючы гэта, ён убачыў зноў той натоўп рухомай нежыці, за якім маці цягнула яго ў нябыт, бачыў ужо не на магілкавым шляху вечнасці, а на нейкім як бы поплаве, у самой вечнасці. Стаптаная, згаджаная чалавечым смеццем, яна нагадвала немалочаныя мо ўжо некалькі гадоў, учарнелыя і цвілыя тарпы збітых у непатрэбшчыну снапоў, сярод якіх ужо нікому і ніколі не знайсці зерня. Тарпы гэтыя час ад

часу то гуртаваліся, то распадаліся на сціrты і нават асобныя снапы. Больш снапоў былі нерухомымі, іх ціха прымаў і паглынаў мокры снег з дажджом, засмоктвала ўжо няўстойлівая, адліжная багна балота, што з трох бакоў ахоплівала поплаў. Тупка было толькі з аднаго боку, дзе нечакана, хаця і жалобна пагойдваўся хвойны лес, невысокі, але камлюкаваты, з густа і шырока распасцёртым голлем, якім хвоі, здаецца, імкнуліся ад нечага захінуцца ці нешта схаваць.

Жыццё адчувалася толькі за ўкрыўнасцю гэтага лесу, бліжэй да шляху. Там час ад часу грукацелі машыны, гергеталі людзі, разлягаўся гулкі, як прастуджаны, брэх сабак, нешта наігрывалі губныя гармонікі. Сыры нізавы вецер наносіў дым вогнішчаў. Людзі на поплаве пазбягалі набліжацца да гэтага тлуму і галасу, да жывых гукаў, ціснуліся да няўтульнасці балота. І толькі маленькая дзяўчынка, замурзаная і пашкуматаная, з усіх бакоў пагрызеная, як капусная храпка, — агрызак дзіцяці і чалавека — усё імкнулася падысці бліжэй да калючага дроту, якім быў агароджаны людскі ток на поплаве, за якім курылася вялікае вогнішча. Мо якраз да яго і цягнулася дзяўчынка, але агароджа не пускала. Яе волакам адцягвалі ад дроту, яна ўголас плакала і не давалася. І нарэшце дамаглася свайго, ублыталася расхлістанымі лахманамі ў калючку. І ніхто ўжо не мог даць рады разлучыць яе з дротам. Сама ж яна, пэўна, ужо не здолела вызваліцца з колкага і настылага палону. І чалавечы агрызак загаласіў так, што ўсё навокал умомант прыглухла і спуджана ці сарамліва аціхла.

Галашэнне было доўгім, з іколкай. А потым пачалося скуголенне і выццё на адной безнадзейна сумнай ноце, не чалавечай, не звярынай — уласцівай толькі зімоваму ветру ўначы ў пустым і самотна выстаўленым у халоднае неба коміне. І гэтага выцця не вытрымаў нехта з тых, хто знаходзіўся па другі бок калючага дроту, адчыніў вароты і загадна выгукнуў: «Фас!» Пасля гэтага

адразу ж з прыгаломшанага змроку лесу вылецелі дзве вялізныя чорныя аўчаркі з прыціснутымі да галавы, мо і ад завывання дзяўчынкі, вушамі. Яны суладна прыпалі да таго, што ўжо не было чалавекам, а толькі енкам, стогнам, адна — справа, другая — злева. У тое ж імгненне знік і гук. Капусная храпка распалася на дзве палавінкі. Крыві не было, хаця аўчаркі нешта лена і злізвалі барвовымі языкамі з сіняватых са сталёвым адлівам пыс.

Падышлі двое з адамкнутымі штыхамі карабінаў на грудзях, у касках з чорнымі ўцяпляльнымі падкаснікамі. Адагналі сабак, якія, пэўна, і самі не радыя былі створанаму імі хвіліну таму, грэбліва адварочваліся. Двое ж людской пароды не грэбавалі. Кожны вітальна, хаця і вельмі коратка паручкаўся з бліжэйшай да іх палавінкай дзяўчынкі. Падалі руку, сашчапіліся з ёй далонь у далонь. Сагнуліся, разагнуліся, адарвалі ад долу кожны сваю палавінку, не згаворваючыся, моўчкі шпурнулі сваю долю праз дрот у вогнішча, да якога так зацята імкнулася дзяўчынка. Трапна шпурнулі. Агонь прыняў прызначанае яму паліва. Хаця спачатку, мо захоплены знянацку, папярхнуўся, як захлынуўся. Закурадыміў, выплюнуў сноп дрыготкіх дробненькіх іскраў. Яны нізенька ўзвіліся клубам і хуценька расталі. І сам прыбалотавы прыбіральнік праху памігцеў, памігцеў і прыгас, як засіліўся. Але хутка ажыў, ачомаўся, пабег сіненькімі праблісками полымя па рэштках закарэлай дзіцячай апраткі. А потым ухапіў нешта і больш спажыўнае, бойка і неяк ушыркі пыхнуў, разгарэўся.

Толькі дым быў чорны, густы і саладжавы.

Чалавечы агрызак ператварыўся ў агарак...

На агрызкавы агарак плоці ён наткнуўся напрыканцы гэтага спякотнага лета, калі заняўся агароджай. Ставіў плот каля сваёй новазбудаванай хаты. Капаў ямкі пад межавыя слупкі. Апошні, канцавы, прыпаў акурат на краёчку ці то сажалкі, ці то балотца. З аднаго боку

сажалкі было зеленаватае вочка чамусьці вельмі сцюдзёнай — зубы ламіла — вады. Вады сапраўднай, якая мала ўжо дзе захавалася на свеце, знікала ўжо і тут, але рэшткі яе былі з пахам, водарам грыбнога бору, не спаганенай свінарнікамі і кароўнікамі зямлі. Хаця зайчыныя катыхі не-не дый траплялiся па беразе яму на вока. Але мо якраз яны не толькі не псавалі смаку апошняй на самым донцы вады, але і надавалі ёй своеасаблівага заечага духу. Як быў некалі на свеце заечы хлеб, так і тут была заечая вада. З прысмакам, пахам разамлелага сонечнага дня, чыстага неба і высокага сонца, да якіх струменіў з зямлі водар першых суніц і стоенай у крапіве маліны з таямнічасцю глыбіні, з якой яны прараслі, з якога брала пачатак, першароднасць і сама вада ў сажалцы.

Гэта тое, што можна сказаць адносна існавання тут сажалкі. Мо нават і больш, чым проста сажалкі. Але ж у наяўнасці былі і балотныя знакі. І перш-наперш дрыгвяная засмоктанасць падступала да вады. Дно ж самой сажалкі было тупкае, пясчанае. Нібы хтосьці тут вельмі акуратна паклаў сподачак і наліў у яго вады. А каб не кожны мог дапнуцца да яе, утварыў подступы топкія, багністыя праломы і абсадзіў гэтыя праломы зараснікамі лазы, каліны і крушынніку, там-сям тыркнуў і па асінцы з рабінай. Ні даць ні ўзяць — сапраўднае балота, хаця таксама не надта просценькае. Мелася пры тым балоце маладзенькая яблынька. Мо той жа заяц грыз яблык ды ўпала семя. Яблынька была маленькая і ні разу яшчэ не цвіла і не радзіла. Дзікая, самасейка.

Каля той самасейкі ён і капаў апошнюю ямку. Занятак гэты, хаця і не з лёгкіх, быў прыемны, бо ён яшчэ не страціў цікаўнасці, а часам нават і захаплення ад працы. Цікавым быў вынік: што атрымаецца, як пераменіцца здзічэлая неруш, што яму адкрыецца? Капаць жа зямлю быў двайны інтарэс: падсвядомы — гэтым займаліся і жылі з гэтага яго бацькі, а больш — дапытлівы,

шукальніцкі. А раптам, а раптам ды... Зямля ж не толькі хавае нябожчыкаў, але і жывому дае знак, пасылае яму вестку.

І ён прагнуў адкрыццяў і пазнання гэтых знакаў. Не дазваляў сабе без дай прычыны губіць хоць што-небудзь жывое, няхай і расліннае. Таму і перасцярогся, адступіў колькі крокаў, каб не зачапіць каранёў яблынькі, і ўкапаўся. Спачатку не трапляла нічога, што б заняло яго. Зямля як зямля. Але адразу ж за тарфяным перагноем пайшоў беленькі пясочак. Сівенька-бялюткі, што ранішні малочны туманок, і надта дробны, як пыл. І пыл гэты быў спрасаваны накшталт застылага бетону. Так, што яму нават спатрэбілася кайло. Ён прабіўся праз гэты створаны прыродай бетон. Далей, на дзіва, зямля пайшла слізкаватая і як заплаканая, ён нават узяў яе на язык: саленаватая. Вільготны, даволі буйны і для жвіру пясок. Толькі не жоўты, як гэта бывае, а рудавата-карычневы. І чым далей, тым жвір гэты рабіўся ўсё больш буйным і рознакаляровым. Нібы нехта з дзяцей, дзяўчынак, нацягаў яго сюды. Назбіраў недзе маленькіх каменьчыкаў-самацветаў, што водзяцца толькі ў гарах ды на беразе мора. Яшмаў, сердалікаў, хрызалітаў і, падобна, нават малахітаў.

Адкуль жа яны тут узяліся, было неспасціжна. Якая дзяўчынка і ў якія далёкія стагоддзі гуляла з імі. Дзівілася, перабірала, падкідвала ўгару, лавіла і зацiскала ў жменьцы, туліла да сэрца і хавала за спіну, мройна заплюшчваючы вочы. Чаму яна тут іх пакінула, забылася на іх ці згубіла? І ці ж дагуляла тое дзіця свае каляровыя малечыя гульні? Ці далі ёй дагуляць? Чаму так ашчадна вечнасць захавала, зберагла невядомае яму, але такое прывабнае чужое маленства? Але ці сапраўды чужое? Чаму менавіта яму было даравана сустрэцца з ім? Што гэта за знак яму, ці не наканаванасць гэта?

Ён ліхаманкава, ужо рукамі пачаў грабціся глыбей, беражна выбіраць з пракаветнасці каляровыя

каменьчыкі, як выбіраюць па восені бульбу. Бульбінкі-самацветы хутка кончыліся. Зноў пачаўся рудавата-хваравіты, як замутнёны кроўю, жвір, нават з каменна запечанымі драбкамі торфу, зноў жа як згусткамі крыві. Але і гэты збег стагоддзяў, змесціва вечнасці хутка скончылася. А тое, што пайшло далей, прымусіла яго скалануцца і сцяцца.

Далей пайшлі агаркі і агрызкі. Ужо сапраўды як запечаная часам кроў. Кроў таго ж самага часу, запечаная няроўна, шыпаватая, грудаватая, з пухлінамі і нацёкамі і, падобна, з сіне-скамянелымі нарогамі бездапаможных пакутніцкіх слёз. Крыху супакоіўшыся, трымаючы на вісу самы буйны агрызак-агарак, ён спачатку падумаў, што гэта адходы нейкай былой саматужнай плавільні, рудні ці гуты, якая ў далёкім мінулым месцілася тут. Але непадымнасць, цяжар агрызка, хаця і ўяўная, перашкодзілі яму пагадзіцца з самім сабой. Водгалас, рэха нейкай далёкай памяці, хоць і не зусім пэўна, абудзілася ў ім і выціснула з грудзей, а потым і з вока пякучую слязу.

І толькі цяпер ён зразумеў, чаго і па кім ён калісь плакаў. Чаму так гучна і нястрымна тады калацілася сэрца. У тым агарку ў яго руцэ таксама было сэрца. Толькі спаленае. Сэрца чалавечага агрызка, у выглядзе, у стане якога адышла на той свет яго сястра. У такім жа стане, у такім жа выглядзе было наканавана адляцець у падзямельны вырай і яму. Адляцець і няспрахлай кроўю тачыцца па падземных жылах, праз лясы і балоты, па цёку глыбока схаваных у зямлі ручаёў і рэк, па пракаветных сцежках ужо нябытных людзей сюды, на край гэтага балотца на мяжу яго сённяшняга быцця і сённяшняй памяці. Каб ён здолеў тут, капаючыся ў пракаветным зямным тле, абудзіцца і сустрэцца з самім сабой, альбо са сваёй сястрой, калі б гэта не яму, а ёй, сястры, пашанцавала калісь выжыць.

Толькі сястра загінула, а ён застаўся жыць. Але повязь крыві не прызнавала раз’яднання. За мёртвым і жывым яна ішла як вечна непарыўная, адмаўляючы нябыту, тагасветнасці і смерці. І ён ужо таксама пазбавіўся роднасці паміж памерлай сястрой і жывым сабой, паміж забітай маці і тым хлопчыкам, дзеля якога яна ахвяравала сваім жыццём. Каб толькі на белым свеце засталася яе крывінка. Кроў маці і сястры ўратавалі яго на белым свеце. Яна на ім і за ім, за яго плячыма, пад яго нагамі, у кожным яго кроку, яшчэ нават не зробленым. Яна вяла яго, вядзе і будзе весці і напраўляць да схону жыцця, спадчынная кроў яго радаводу. Яго далёкіх і блізкіх продкаў, якіх ён і не ведае, бо такое яму ўжо наканаванне: больш здагадвацца і адчуваць, чым ведаць. Адчуваць, як ён адчуваў да гэтага адзіноту, сваю віну — смерць маці і сястры.

Яму не дадзена далёкай памяці, бо тая ж самая кроў, што стагоддзямі і стагоддзямі лілася на гэтай вечна пакутнай зямлі, адабрала, паглынула яго. А інакш яму было і не выжыць: не пасадзіць дрэва, не выкапаць калодзеж, не збудаваць хаты і не выгадаваць сына. Памяць, настоеная на жудасці і жаху крыві, спавітая і выпеставаная ёй, таму такая няпэўная і кароткая — літасцівая да яго, абярэжная. Таму яна і пачынаецца толькі з відавочнага і не сягае далей яго бабулі. Хаця і за ёю кроў. Але ўжо яго кроў, якую яна загаварыла і зберагла ў ім...

Адразу пасля вайны ў яго дзяцінстве пачалося бясконцае лета. Хаця трэба адзначыць, вайна яшчэ не скончылася, яна толькі адышла. Скончыўшы тут сваё жніво, пайшла туды, дзе яно толькі пачыналася, і туды ж пацягнула яго бацьку. Ці то мо бацька пацягнуў яе, адводзячы ад яго, колькі было сілы, да той пары, калі яму лацвей і спакайней легчы на чужой зямлі з усведамленнем таго, што свая ўжо вольная і сын

яго вызвалены спеліцца каля бабулі разам з іншымі ацалелымі ў родным яму краі дзецьмі.

Але дзеці, узгадаваныя ў тым краі вайной, ужо былі атручаны прагай працягваць яе, бо не ўяўлялі сабе інакшага існавання. У той дзень бясконцага тады лета ён таксама ваяваў. Дзеці яго ўзросту і больш сталыя спачатку палявалі на бажавільную прышлую Маргарыту. І не таму, што яна была бажавільная і прыставучая да іх: усё дапытвалася, высвятляла, дзе ж гэта яе сын, куды ж гэта ён падзеўся. Імя яе не падабалася ім. Варожае нейкае. І вясковыя падшыванцы вырашылі пазбавіцца ад яе. Забіць, падарваць гранатай. А гранат тых, як і стрэльбаў, у іх было без меры. І ўсе яны добра ведалі, што бывае, калі выбухне граната: асколкамі можа зачапіць і іх. І таму імкнуліся зрабіць так, каб паміж імі і бажавільнай было нейкае прыкрыццё — хата, хлеў, свіран. Хаваючыся за імі, знаходзячыся па другі бок ад Маргарыты, яны, на голас яе, кідалі праз дах гранаты. Але гранаты не ўзрываліся. Бажавілка падбірала іх, складвала ў прыпол і, гігочучы, вяртала забаўнікам.

Падшыванцам у рэшце рэшт гэта паляванне надакучыла. Яны павыцягвалі са сваіх схованак вінтоўкі і пачалі страляць. Проста так, дзеля забавы. Вёска была пустая, усе дарослыя на калгаснай рабоце, і іх забаве ніхто не перашкаджаў, нават тыя з дарослых, што чулі страляніну: вайна была яшчэ ўвушшу ў іх. Нехта са старэйшых хлопцаў дазволіў стрэліць і яму. І ён стрэліў. І стрэл той няйнакш прыйшоўся ў яго. Аддачай прыкладам яму разварнула ўвесь твар.

Страляў ён амаль па-дзявочы, прыжмурыўшы адно вока, засляпіўшы другое і адсланіўшыся ад ложа стрэльбы. Ад носа застаўся хіба толькі знак, завіслы пытальнікам да сківіцы мо і ацалелі, але іх па-жабячы развяло ў бакі, парвала жылы, да белі агаліўшы косткі. Іх сухастойную бель спачатку як бы нехаця зацягнула одумная чырвань крыві. Пасля чаго адразу ж кроў

хлынула цурком. Ён яшчэ дзівіўся, лежачы ў каляіне вясковай вуліцы, колькі ж гэта ў яго крыві: цячэ, цячэ і ніяк не выцеча, — як з поля прыбегла бабуля. Ён не вельмі хацеў яе бачыць: разумеў, што вінаваты. І адчуванне завінавачанасці было дзіўнае, як не яго, а некага пабочнага, каго ён і не ведаў. Не ведаў, а вось запазычыў нешта ў яго і цяпер ніколі не здолее аддаць, разлічыцца. У той яго вінаватасці было больш дакору, дакору з неба, сонца, што з жоўтым сумам глядзела яму ў вочы, зямлі, цёплага вулічнага прыску, што так мякенька прыняў і атуліў яго. Накаціла шкадаванне па сваёй крыві, што ўжо згушчалася, пачала на шэрані пяску брыдка чарнець.

А вось болю не было, зусім не было. А ён хацеў, прагнуў яго, каб не бачыць спалоханых вачэй бабулі. І ўвогуле нічога шкадавальнага не бачыць. Адно толькі — сачыць і сачыць за тым, як бязгучна і легкакрыла лунае над ім каляровы і, здаецца, бязважкі матылёк. І ён як бы паяднаўся з тым матыльком, зачараваўся і цалкам падпарадкаваўся яго бязладнаму і бязмэтнаму пырханню. А яшчэ штуршковаму шоргана-рванаму кружэнню над ім палявога чмяля, такому ж адліўна-прыліўнаму, як уцёкі крыві з яго цела, якое, падобна, ужо далучылася да гэтага лёту, лёту матылька і чмяля. Свядомасць асэнсавана пазбягала чаго-небудзь іншага — тлуму, руху, гуку і хвалявання.

Але бабуля, убачыўшы яго, зблажэлага, засталася спакойнай, нібыта ён быў чужы ёй, што яго трохі пакрыўдзіла. Але гэта быў адвечны спакой мудрай старасці перад непазбежнасцю, і ён праз хвіліну-другую быў удзячны бабулі. Яго дзіцячае ўяўленне жыцця і яе адносіны да вышэйшага, Боскага наканавання супалі. Яна прагнала хлопцаў, якім хацелася і калолася дагледзець да канца, як ён канае, лёгенька схіліла над ім абрамленую белай хустачкай з мецінамі свежай

сажы — прыстаўляла гаршкі ў печ перад тым, як пайсці ў поле, — жаўтлявую, што восеньскі агурок, галоўку.

Ён зразумеў гэта як развітанне, згодна лыпнуў вачыма, пэўна, спрабуючы ўвабраць у зрок і памяць, захаваць назаўсёды родныя і шчымліва дарагія яму абрысы твару. Думаў убачыць у яе вачах шкадобу, але ўбачыў бязлітасную жорсткасць, ацвярдзеласць зрэнак, што прынеслі, даравалі яму боль. Сухенькімі і на пагляд нямоглымі пальцамі, што сталёвымі абцугамі, аберуч абхапіла яго падбародак і круцянула злева ўправа і адразу ж наадварот. Нешта крохка шчоўкнула ў яго твары. Сківіцы сталі на належнае ім месца. І боль, боль ад макаўкі галавы, кончыкаў валасоў да самых пятаў працяў яго, нібыта ў яго цела ўбілі распалены гарачы шкворань. Ён хацеў закрычаць, здаецца, закрычаў, але голасу ў ім ужо не было. І ён проста знік разам з матыльком і чмялём. Страціў прытомнасць.

Што адбылося потым, ён ужо не бачыў і не ведаў. Але пра гэта, як пра найвялікшае дзіва, яшчэ доўга гаварыла вёска. Гэта ж людзі не аднойчы пераказвалі і яму, толькі ён і сёння не ведае, верыць ці не. Але факт, як гаворыцца, у наяўнасці на яго мордзе. Варта і цяпер толькі паглядзець на яго твар. На ім не засталося і знаку ад яго былога стрэлу. І тут самае дзіўнае не адсутнасць якой бы там ні было скасавуранасці, шнараў, а тое, як яна выдзерла яго ўжо з таго свету. Загаварыла, замовіла, спыніла кроў.

Старая пасля таго, як вярнула на месца сківіцы, прыпала вуснамі да яго і нешта прашаптала. Мо нават і непрыемнае, горкае, бо ён, ужо тагасветны, азваўся на той шэпт. Яго адразу ж выпруціла, як гэта выпручвае жывога адна толькі смерць, нечаканы і вельмі моцны ўдар электрычнасці ці разрад шаравой маланкі. Выпруціўся, выпрастаўся і аціх.

А старая ўскінула галаву ў неба, халоднымі вачыма нешта шукаючы ў ім. І, пэўна, знайшла, бо пачала

меленька-меленька хрысціцца, амаль няўлоўна паварушваючы вуснамі, нібы перасцерагаючыся, каб яе не падслухалі, хаця ні на кога з тых, хто знаходзіўся паблізу, не звяртала ўжо ўвагі. Сядзела сярод сухога прыску, у якім ляжаў яе ўнук, як здарожаная і высмяглая прышэлiца з якой-небудзь нянаскай пустыні, і нечага прасіла ў той абыякавай пустыні, вымольвала, а часам і гразіла ёй. І небу гразіла ці таму, хто там знаходзіўся. І, па ўсім, там, на небе, яе чулі. Бо яснае, без адзінай аблачынкі да таго неба прыхмурылася. І нехта не ўседзеў, кранаўся ў ім. Загрукацеў сухі гром, праліўся адзінай, але вельмі буйной кропляй дажджу, што лягла на яе твар.

Пасля гэтай кроплі старая адвярнулася ад неба і крыламі распасцёрла далоні над галавой унука. І хуценька, хуценька, то аддаляючы тыя крылы, то амаль датыкаючыся імі да яго твару, пачала рухаць імі, цяпер ужо і ўголас нешта гаворачы. Слоў было не разабраць. Ды то, пэўна, былі і не словы. Так шапоча сухім лістом восеньскі лес. І ў тым шэпце і шолаху было рознагалоссе. Адчувальна праразалася развітальнае пашчоўкванне прыгавораных да ападу лішніх іголак хвоі, вясновая дрогкасць катышкоў бярозы і завушніц вольхі, надсада адгарэлай па леце лістоты асінаў. І холадам, сіверам дыхнула ў плечы дарослым і дзецям. Тым жа холадам, здаецца, быў працяты і ўнук старой. Ён сцепануўся і страціў апруцянеласць.

Адначасова яго кроў, што ўсё яшчэ сачылася з размажджэранага твару, на вачах у людзей пачала ссядацца, гусцець, губляць жывую зыркасць, чорна зацягваць разварочаную плоць. І нарэшце спынілася зусім. Старая абвяла, як самлела. А хлопчык раз, другі ўсхліпнуў, войкнуў, як гэта робяць немаўляты ў сне, паварушыў, пасмактаў вуснамі, нібы шукаючы матчыну цыцку, перавярнуўся на бок і супакоіўся. Так снулых бабу з унукам людзі і занеслі ў хату. І спалі яны абое больш як суткі. Унук прачнуўся і падняўся першым. А бабуля

яшчэ доўга ляжала, выхворвала мінулы летні дзень. Унук адно карцамі падносіў і падаваў ёй ваду. І свята верыў: так высмягла яна таму, што аддала яму сваю кроў. Мо так яно было і насамрэч. Яна аддала яму не толькі сваю кроў, але і дух свой яму перадала, бо пражыла пасля таго хоць і доўга, недзе гадоў яшчэ трыццаць, але так да канца і не акрыяла.

Безумоўна, старая нешта ведала з таго, чаго не дадзена ведаць простым людзям. І найперш — слова ведала, хоць і была не вельмі гаваркая. Чытала людзей, хоць не ведала кніжнага чытання. Усё сваё, усю сваю нядолю насіла ў сабе, не прагаворвала на прызбе ці каля калодзежа ранак ці вечар разам з іншымі жанчынамі, хаця была і не з сугнеяў, чалавека не цуралася. Але больш гаварыла на самоце, з небам, полем і лесам. Мо нехта блізкі ёй і нікому іншаму не бачны жыў там. Усіх яе дзяцей, дзявяцера, забрала вайна, і цяпер яна спавядалася нябёсам і зямлі, да якіх мелася ў яе слова, у якіх яна брала сілу жыць, сілу хутчэй незямную. Была здольная загаворваць не толькі кроў, але і звычайную ваду, пераўтвараючы яе ў гаючую, нічога ўжо не кажучы пра здыманне спалоху, адвядзенне сурокаў, выпальванне прыкідлівай на той час вясковай хваробы — рожы, што не здольны былі лекаваць ніякія дактары. Сцішала і ўсе яго болі, болькі і хваробы. А іх ён набраўся ўжо ў свае малыя гады, што сабака ваўчкоў.

І колькі ён памятае сябе, бабуля ўвесь час гібела над ім. Дробненька дзерла кудзелю, дзерла суровыя самапрадныя ніткі. Завязвала вузельчыкамі, паліла агнём у хаце ці выносіла на двор і недзе закопвала, часцей пад парогам. Разганяла сон і ўганяла ў дрымоту ціхенькім шэптам, бясконца хрысцячы яго і чаруючы сухенькім слізгаценнем над яго галавой сваіх папярова-ссохлых і, здаецца, такіх нямоглых, маленькіх рук.

А ён аж канаў, так прагнуў пачуць і запомніць хоць адно яе гаючае слова, што кожны раз давала яму

палёгку. Але ніводнае з іх яму не далося. Мо яму, як хвораму і няцямнаму, было заказана чуць іх, каб не амярцвіць яго, не знесці з гэтага свету, бо, па ўсім, яму яшчэ немаўлём было нарачона сысці на той свет. А мо нешта з дзяцінства было ў яго са слыхам, няправільны ці няправедны быў яго слых тады. А мо... а мо рана было яму пераймаць яшчэ яе вядунства. Даваць неразумнаму вялікую сілу — тое ж, што даваць тую ж стрэльбу альбо запалкі, — грэх.

На ўсё існуе свой час: час сеяць і збіраць камяні. Дурань жа можа такога насеяць і такога назбіраць... А слова той жа камень, толькі яшчэ больш адметны — крэмень, насенне стагоддзяў, мінулага і будучага. Таму і такая процьма на нашых палетках гэтых камянёў — крэменяў. То ўсё словы, словы пакуль яшчэ нямой нашай айчыны. Асабліва шмат крэменю на Палессі сярод спрадвечнай невыказнай сцішанасці балот і багны. Дрыгва бяздоннай непадступнасцю ні з якога боку прорваў, чадным і збіваючым з тропу квятам і водарам чаромхі, багуну, чаравальнай глыбіннай туманкавасцю наспелых галубіных ягад — буякоў-галубіц, што ў свой час заступілі ўсе сцежкі, зберaглі ад падгляду і суроку хцівага вока, каб як на сподачку аказаць сябе таму, хто сёння мо яшчэ не нарадзіўся, надаць яму лекавай памяці і моцы. Захаваць для будучых больш праніклівых стагоддзяў, як сібірская тайга і вечная мерзлата захавалі і схавалі для тых жа далёкіх стагоддзяў і, пэўна, некага яшчэ сёння не народжанага так званы Тунгускі метэарыт і дзіцёнка мамонта. Нешта падобнае ім — вітанне з намі сусвету і пасланне ад яго, па ўсім, яшчэ з сівой, мо і пазачалавечай даўніны, калі там, дзе месцімся сёння мы, разлівалася мора Герадота, — было наканавана дадзена і нам.

Мо то ішло да нас, прадчуваючы наша нараджэнне, наша будучае слова. Наша доля шукала нас у сусвеце. Але крыху паспяшалася, да таго ж нехта на Млечным

Шляху заступіў дарогу. І загінула наша доля, разляцелася здробленым крэменем па нашых палетках, разбілася ў друз наша слова. І прапала наша мора, пайшло ў глыб зямлі. І пайшло туды ж за ім наша слова. Разбілася ўшчэнт, разляцелася па параненай зямлі, па выпнутых на паверхню акрываўленых тарфяніках, збалелым жоўтым пяску белымі, блакітнымі і чорнымі крэменямі. Патанула слова-крэмень у багне, дрыгве і балотах. Мо менавіта таму іх і пачалі так хапатліва асушваць, каб і знаку ад ніспасланага нам калісь не засталося.

Толькі плёну ад гэтага не было і не будзе. Асушаныя былыя балоты праз нейкі час пачалі самаадраджацца. Бо ў іх самім небам удыхнута вялікая незямная моц — жыццёвая сіла і моц далёкіх і пакуль недасягальных намі, яшчэ не зведаных чалавекам сусветаў. І гэты сусвет даўно ўжо набрыняў, цяжарны голасам, гукам і словам. І ў ім жыве, лунае і рэха наканаванага нам слова. І жыць яму, пакуль не спрахне, не зарасце травой забыцця Млечны Шлях.

Але ж слова, што імкнула да нас, не знікла бясследна. Яно разбілася на шматлікія кропкі, клічнікі і пытальнікі. На літаркі. І тыя кропкі, коскі і літаркі залечваюць раны спаскуджанай невукамі і дабрадзеямі-прыхаднямі нашай паўстаўшай з мора Герадота зямлі. Сцягваюць маленькія няўдобіцы-балотцы ў балоты, прыдатныя чалавеку, нізавыя і верхавыя. З белым мохам, які не ведае ні гнілі, ні цвілі, лекавымі ягадамі і травамі — журавінамі, буякамі, калінай ды багуном — нанава адраджаюць згубленыя і занядбаныя крыніцы. Такая стоена ў белых, сінявокіх і чорных крэменях-літарках гаючая, насамрэч незямная сіла. Нездарма ж многія з нас, падсвядома здагадваючыся пра гэта, ужываюць дзеля захавання чыстай вады — вады жывой — чорны крэмень. Чорны, бо ў ім болей жыватворнасці. А сіла ж і прызначэнне белага яшчэ не разгаданыя і не кранутыя. Як неразгаданым застаецца і крэмень блакітны. Адно

толькі бясспрэчна: ён пароднены з крэменем белым. Бела-блакітны крэмень яшчэ і сёння нехта пасылае нам з сусвету. І пакуль ён праз космас дасягае да нас, той далёкі космас уваходзіць у яго. У сярэдзіне пасланца-крэменя запальваецца і запякаецца чорная кропка, спавітая блакітам, праз якую на паверхню прабіваецца бель — яшчэ чысты ліст паперы.

Спалучэнне жарсцяў зямлі і вады, мора, адкуль і пайшло наша імя, хаця і прыдуманае, як прыдуманы само жыццё і чалавек, а найбольш наскі чалавек, у якога ад нараджэння столькі імён — мо каб сакрыць, захаваць і выратаваць нас дзеля нікому не вядомай яшчэ нашай жа будучыні. Столькі імён, але ніводнага пакуль свайго. Мо спалучэнне ўсіх гэтых чужынскіх імён, зямных і водных жарсцяў, каляровых камянёў, белых і чорных крэменяў — гэта ўжо і ёсць наша слова: зямное і воднае, белае, чорнае і блакітнае павінна сабрацца ў адно, у слова, дараванае нам нябёсамі і сёння пакуль яшчэ стоенае ў тых жа нябёсах і ў нас пад нагамі, у пасланне кожнаму і ўсім нам. Прыйдзе, прыйдзе час, белыя, чорныя і блакітныя літаркі-крэмені збяруцца разам. І мы адгукнёмся ім сваім словам...

Яны ўжо ўзышлі, прарэзаліся сярод бульбы, жыта, рамонкаў і васількоў. І толькі людзі яшчэ не чуюць іх, бо, пэўна ж таксама, як і ён тады, адразу пасля вайны, хворыя ці не дараслі да таго, каб зразумець і пачуць, азвацца, адгукнуцца свайму полю і лесу — роднаму слову словам. А камяні гавораць, гавораць паміж сабой каменнай цяжкай мовай, толькі ці не аднойчы ў стагоддзе, у залеўную і віхурную ноч, у ліхалецце, калі ўжо край немагчыма маўчаць. Тады яны набрыняюць кроўю і прачнуцца разам з некаторымі людзьмі. І памілуй божа жывым чуць гаворку набрынялых кроўю вякоў камянёў. І камяні ведаюць гэта, таму так і тояцца, яны, як і людзі, для большасці якіх роднае слова — той жа камень пры дарозе ці ў полі, звякуюць, але не

насмеляцца ўголас выплакаць набалелае. Ні ў іх, ні ім няма вечнасці, няма нічога вартага памяці і голасу, слова і наказу стагоддзяў.

Вось і ён аказаўся сярод нявартых. Ён прайшоў толькі першы клас бабулінай навукі. Паспеў ухапіць мілагучнасць яе, а глыбінную патаемную сутнасць так і не спазнаў. Бабуля толькі прыадчыніла яму дзверы, а куды, хто знаходзіўся за тымі дзвярыма, з кім яна там гаварыла і да каго звярталася, даведацца, убачыць яму не дазволіла, не паказала. Чаму — гэта назаўсёды таксама было ўтоена ад яго. Ці была яна апошняй з той пароды, што ўжо адышла ў нябыт, ці нешта ў ім было настолькі заганнае, заняпалае, што яго да яе сілы і блізка падпускаць было не варта. Шкадавала яна, перасцерагала яго сваёй непадатнасцю ці наадварот. А мо ёй было загадана зверху пахаваць разам з сабой усё, што яна ведала, бо ніхто з жывых ужо не варты гэтых незямных ведаў, яе незямной сілы. Хай канаюць сярод сваіх новых багоў, бажкоў, фюрараў-правадыроў, месіяў.

Рана, рана ён развітаўся з бабуляй, пакінуў яе і пайшоў на свой хлеб, з'ехаў шукаць таго салодкага хлеба на чужыну. Так сталася, што яна памерла, калі ён быў далёка, вельмі далёка адсюль. І да апошняга часу не верыў, што яна смяротная, бо здавалася яму вечнай. Ёсць, павінны быць вечныя людзі на зямлі, прызначаныя для захавання бясконцасці жыцця, каб яно не ведала зводу. Захавальнікі яго як і камень пры дарозе. Але вечнасць усё ж аказваецца ў смерці, і гэта менавіта яна, смерць, вечны рухавік жыцця. Не будзь яе, усё на гэтым свеце даўно б ужо спрахла.

Бабуля памерла без яго. Але яе адыход ён адчуў. І вельмі выразна, шчымліва, нібыта сам развітваўся з белым светам — загарэўся, засмылеў увесь твар, як і ў дзяцінстве, здаецца, размажджэраны прыкладам вінтоўкі. Яму прытрызнілася, што ён зноў канае, сплывае крывёю. З перапуду лапнуў па шчацэ даланёй,

уключыў святло. Рука была мокрай, але не ад крыві, а ад слёз. І падушка мокрая, бо, па ўсім, плакаў ён у сне ўжо даўно. Плакаў, не ведаючы, чаму і па кім. Сярод ночы на чужыне, сярод чужых людзей нехта гукаў яго, зваў па дзіцячым, нікому тут не вядомым імені, мянушцы. І ў галаву не прыходзіла, хто ж гэта мог быць, хто мог знайсці яго тут, прабіцца праз такія кіламетры і нетры, праз такія маразы, уварвацца ў яго памяць і так развярэдзіць душу, што хоць засільвайся.

Ён усхапіўся з ложка, адчуваючы непраходна гнятлівы, незразумелы сум. Такі туман у галаве, такі цяжар на сэрцы, нібыта й галавы ў яго ўжо не было, і сэрца зайшлося і скамянела, ён страціў яго. Страціў сябе, расцёкся, расплыўся па зямлі туманам, каменем лёг пры дарозе. І захацелася, не марудзячы, некуды сысці і схавацца, уцячы ад самога сябе, так нечакана і адразу ён збрыдзеў сабе. І не памятаючы ўжо сябе, як у гарачцы, бегма пабег па пакоі. Не памятаючы, але ўсё ж удала абмінаючы стол, тумбачкі, ложкі і крэслы і дзівячыся гэтай сваёй удаласці. Прымусіў сябе спыніцца каля фрамугі, але ненадоўга. А толькі каб прымерыцца, прашмыгнуць у яе, вылецець і ўкінуцца ў насычанае нецярплівай электрычнай дрогкасцю гарадское неба. Самому перакінуцца ў нябачную электрычнасць і па дроце і без яго, згусткам разбуральнай энергіі, злой плямы паімчаць, падацца туды, дзе няма гэтага мроевага гарадскога прывіднага ззяння, дзе цішыня, вечны спакой і бясконцасць напружанай цемры. Стрымліваючыся прыцягальнай расчыненасці фрамугі, каб хоць крышачку супакоіць, утаймаваць сябе, закурыў. Але і зацягваючыся цыгарэтай, не пазбавіўся, адчуў і ў сабе тую ж бязважкасць дыму, што ўцягваўся ў фортку, зліваўся са свежым паветрам і без следу знікаў у завокнавай прасторы.

Так, разумелася яму на тую хвіліну, знікае і сам ён, разносіцца па свеце тае ночы. І ніколі ўжо больш не

збярэцца ў сваім ранейшым стане, хаця, на першы погляд, нікольки не зменіцца, нікуды не дзенецца. Як і ўчора і пазаўчора, тыдзень, месяц, год таму, будзе хадзіць на работу, гаварыць з сябрамі, есці і нават выпіваць, але гэта ўжо будзе зусім не ён. Гэта будзе нешта, нешта іншае, невядомае нават яму, неспазнанае ім, таму ўсё і застанецца, як і раней, як і было да гэтага, як заўсёды. І толькі час ад часу нехта ці нешта будзе набягаць на яго, прыпадаць у самыя лепшыя, святыя і чыстыя імгненні яго жыцця, ахутваць смугой падсвядомага смутку невядома па кім і па чым, што ён ужо страціў, згубіў назаўсёды.

У тую ноч ён упершыню адчуў на сабе чужое і нябачнае вока ў далёкай, далёкай непрагляднасці змроку. І тое вока пільнуе яго, і ён яго таксама павінен пільнавацца. Бо гэта вока жыцця, і не толькі яго асабістага, але і тых, хто завядзецца за ім. Адчуў, ці, больш правільна, абудзіў адчуванне адказнасці і найперш за самога сябе. Адказнасці за самога сябе, без якой ён на гэтым свеце немагчымы. Гэта было як бы перададзена яму некім, укладзена ў галаву, спачатку цьмяна і не зусім чытэльна, і толькі з цягам часу — усё больш і больш выразна, амаль загадна. А тады, каля фрамугі, ён зразумеў, што ў яго жыцці нешта прапала, адышло, адбегла і ўжо не вернецца. На нешта і некага ён збяднеў, канчаткова ўжо асірацеў.

Пазней гэта горка пацвердзілася, ён атрымаў ліст з бацькаўшчыны: памерла бабуля. Якраз у тую тужлівую і жалобную для яго ноч.

Памерла бабуля — чалавек, з крывінкі якога ён пачаўся, неад'емна працягваецца, кроўю якога ён умыўся і акрапляе сёння кожны свой след. Таму што кроў яго зусім не свая, яна запазычаная ў былога. І яму трэба за гэта яшчэ сплочваць і сплочваць. Былое ўратавала яго для сённяшняга. Спачатку маці з сястрой, а потым бабуля цаной сваёй крыві выкупілі яго для будучага.

Бабуля адабрала яго ўжо ў смерці і выцягнула з таго свету. І не адзіны раз, колькі тых разоў было — пальцаў на руках і нагах не хопіць, каб пералічыць. Ён жа гадаваўся і рос, як спрэс адно няшчасце, незажыўная боль ліхалецця. Трыццаць тры няшчасці. Слабы, але настырны, усюды яму трэба было ўлезці, усё паглядзець. Вось і атрымліваў за гэта. У вёсцы гаварылі: круцячае кола рана ці позна галаву скруціць.

Не скруціў, бо за ім заўсёды стаяла яго бабуля, адводзіла ўсе напасці. Ратавала, вяла, скіроўвала. А ён і не ведае, дзе магілка яе. Неўзабаве пасля смерці бабулі ён праведаў яе. Людзі паказалі яшчэ свежы насып — голы, не аселы жоўтага жвіру бугарок, як свежая рана, выпнутая на пагляд жывым з глыбінь наканаванай кожнаму пракаветнасці. Ад'язджаючы, трымаў тую рану ў вачах, насіў яе ў памяці ўвесь час, пакуль не перабраўся ўжо канчаткова на радзіму. Кінуўся зноў на могілкі, але і вечнасць жыве, рухаецца і змяняецца. І на могілках усё перамянілася. Памяць занесла, зарасла травой небыцця... Ён нічога не пазнаваў, некалі, як здаецца, усяму і ўсім родны тут, раптам зрабіўся чужым і лішнім. Могілкі адмовіліся прызнаць яго і не пажадалі пусціць да роднай магілы.

Гэта было так нечакана, што ён разгубіўся. Да ночы хадзіў па селішчах назаўсёды ўжо супакоенага людства. Дзівіўся, наколькі ж тут больш насельніцтва, чым у навакольных вёсках, і ніводнага п'янага, хоць сам набярыся, каб не парушаць традыцыю. Яшчэ адна адметнасць могілак, на якіх набыла свой прытулак яго бабуля, — дубняк, дубы ў некалькі абдымкаў. І сярод іх ні адзінага гонкага, а ўсе па-сялянску каржакаватыя, прысадзістыя, мажна-грунтоўныя. Было ў іх нешта ад людзей, якія тут спрадвеку месціліся і, памершы, захаваліся ў дубах, далі пачатак векавой дуброве.

Па ўсім, людзі дбалі аб жыцці і на тым свеце. Вясковы чалавек прадугадлівы і ў небыцці. Уладкаваліся там

ці не лепш, чым жывыя тут. Адно толькі здалося яму непрадуманым — нязручна было ўбіцца, упляжыцца ва ўкаранёную, захопленую дрэвамі глебу — мука жывым. Але неяк жа спраўляліся. І дубы на праху мёртвых раскашавалі, цалаваліся з небам, вольна і магутна дыхалі з пракаветнасці звыклым ім і колішнім людзям паветрам. Ад гэтай неаддзельнасці, кончай заручанасці дрэваў і людзей зайздросна нават было. І мімаволі думалася, што гэта зусім не дрэвы, а незапатрабаваны прах людзей. Незапатрабаваная і нерастрачаная прыжыццёвая іх сіла і моц. Напамінак і сведчанне, якімі яны маглі быць, чаго маглі дасягнуць, зведзеныя да часу, так ніколі і нікому не яўленыя атланты гэтага краю. Стоеная і пахаваная на занядбаных вясковых могілках яго доля, горкая доля яго краю.

Але мімаволі мроілася, што ўсё яшчэ перакруціцца, усё яшчэ вернецца. І быць людзям будучым як гэтыя дубы-волаты. Будучыня прарасце з іх незапатрабаванага праху. Дубы на іх могілках — гэта толькі прадвеснікі іх. Мо якраз гэтага сёння і баяцца скалечаныя на бяспамятнасць і забыццё мінуўшчыны. Таму так і накідваюцца на іх, рэжуць, высякаюць, пляжаць паўсюдна айчынныя дубровы, зводзяць, нішчаць гонар, красу і прыгажосць бацькаўшчыны, каб хадзіць і танчыць па паркеце з праху нябожчыкаў, спаць, множыцца ў ложках з таго ж праху, гандляваць ім па замежжах. Толькі на забыцці былога ніхто яшчэ не разжыўся, ніхто не забагацеў. І будзе, будзе кара жывым з таго свету ад кожнага дуба, ад кожнай магілкі пракляцце і спагнанне кожнаму да дзявятага калена. Спіс гэтага спагнання ўжо заведзены. І людзі ў хуткім часе атрымаюць яго.

А магілку бабулі ён так і не знайшоў. І ў вёсцы не засталося нікога, хто мог падказаць, хаця ездзіў ён у праведкі і пошукі безыменнай магілкі даволі часта. Ужо мо з прыроджанай настырнасці: не можа ж быць,

каб кроў не адгукнулася крыві. Насамрэч, здаецца, не можа. А было. Яго бабуля схавалася сярод нябожчыкаў і не аказвала сябе. Спачатку ён думаў, што яна крыўдуе на яго. Але потым прыйшоў да высновы, што тут нешта зусім іншае: нябожчыкі-тагасветнікі не вельмі прагнуць звязвацца з жывымі. Так, яны адтуль бачаць і чуюць усё, але не хочуць адкрывацца. І хто, што за чым і на чым стаіць — загадка для будучых пакаленняў і далёкіх, далёкіх стагоддзяў. Неўміручасці, калі яна наканавана чалавецтву, калі жывыя і мёртвыя паразумеюцца ўсё ж.

А пакуль што разумення не было. Аднойчы ён прыехаў на могілкі з сынам. Тры дні па ўсёй, здаецца, зямлі безупынна ішоў дождж. Неба і зямля праўлялі па некім хаўтуры. Нават палеская пясчаная глеба адмаўлялася прымаць ваду. Мо то зноў бабуля адмаўлялася бачыць свайго ўнука і праўнука, заступала ім дарогу. Яны бітую гадзіну дарэмна коўзаліся сярод адсырэлых і непрыветных магілак. Потым пайшлі па хатах распытваць людзей. Нават аб'ездзілі навакольныя вёскі. І гэта было дарэмна. У няўцешны лівень кінуліся зноў на могілкі. Падышлі ўжо з другога краю. Аказалася, што на могілках шмат хадоў і выхадаў, варот, варотцаў і брамак.

І калі б гэта на яго волю, ён бы павярнуўся ўжо і кінуў шукаць магілку. Але тут сын навёў яго, здзівіўшы рашучасцю і ўпартасцю і не зважаючы на яго маўклівае нежаданне зноў ісці на могілкі. Ён пайшоў за сынам, яму была даспадобы яго апантанасць, настырнасць, амаль яго. І тут ім нешта прабліснула. Неба злітасцівілася, лівень сціх, нават над дубровай крыху праяснела. І насустрач ім як выбегла сціплая, не сказаць каб зусім занядбаная, але трохі больш за іншых парослая травой магілка. І металёвы, звараны з трубаў крыжык на ёй быў таксама не вельмі паглядны, з аблупленай чорнай фарбай, дзе-нідзе пабіты ржой. Але са старой і выцвілай фотакарткі на тым крыжыку глядзелі вочы яго бабулі. Ён скамянеў і страціў голас. І толькі крыху

пазней ужо, ачомаўшыся, разглядзеў, што прозвішча пад фотакарткай чужое, не яго бабулі.

У першую хвіліну хацеў павярнуцца і пайсці прэч, але ж нешта ўтрымала яго. Жаль, шкадоба перавярнулі душу: і гэта ўсё ж яна, яго бабуля, падала ім знак з таго свету. Не пажадала паказацца сама, злітавалася над ім, мо нават над яго сынам, сваім праўнукам, паслала некага насустрач ім. І гэтага некага трэба было прывеціць. Тым больш, што ў гэтага некага было імя яго бабулі, хаця прозвішча зусім іншае. А гады нараджэння і смерці сыходзіліся. І яны з сынам на лаўцы пад дубам у дождж разгарнулі жалобны стол: хай тут ляжыць і невядомы, мусіць, чужы яму чалавек, але ж чалавек. І гэтаму чалавеку нешта трэба ад яго, калі ўсё так дзіўна сыходзіцца і разыходзіцца. Няйнакш гэтая старая ў нейкай змове з яго бабуляй, і яна зычыць, зычыць яму. І, пэўна, ківае з таго свету, наракае, а мо і папярэджвае. І гэта зусім не ён з сынам знайшлі яе. Яна сама, не жадаючы ў гэтым прызнацца, тоячыся, выбегла насустрач ім, напярэймы яго грэшнага жыцця, грэшнай яго душы. Паківала за ўсё, дзе ён схібіў ці хацеў схібіць, хоць і мімавольна пераступіў праз сябе па ленасці ці адчаю. За кроў, пралітую хаця і ненаўмысна, але ўсё роўна пралітую дзеля яго. Бо зямля ўжо перасыцілася, набрыняла ад крыві, хаця заўсёды стаяла і будзе стаяць на ёй. Так ужо ёй суджана. Ад крыві захлынуліся ўжо на тым свеце нават нябожчыкі. Ужо і магілкі хаваюцца. Мёртвыя адмаўляюцца бачыць жывых.

Зямля, як і чалавек, хіжая. І толькі пакуль льецца кроў, яна жывая. Але ў адрозненне ад чалавека зямля ведае меру. Гэтая ж мера цяпер парушана. Парушыў яе чалавек. Пачаў задавацца і забягаць наперад самому сабе, заступаць сабе дарогу, што наканавана яму толькі заўтра. Лічыць, што яго заўтра — гэта сёння і ён нагбом ужо п'е ўсё, што п'ецца, жывіцца сваёй кроўю. А дзе п'ецца, там і ліецца. І па ўсёй зямлі ліецца жывая кроў.

Зямля не паспявае ўвабраць яе, адстае ад чалавека ў крывапіўстве. Збілася раўнавага: чалавек — зямля, зямля — чалавек. І трэба некага мяняць: ці то чалавека, ці то зямлю. Аднаму з гэтых дваіх трэба як мага хутчэй саступіць, а мо і зусім сысці ў нябыт. І ці не значыць гэта — у мінулае, каб знайсці і займець зноў сваю былую сілу. Знайсці страчанае ў імклівым і жорсткім змаганні за жыццё і дабрабыт. Знайсці новае старое. Старое — новае, новае — старое. І паяднаць іх. І тым выратавацца. Выратавацца тым, што ацалела, захавалася толькі ў казках, сказах, легендах і паданнях, што дзенідзе толькі жыве на печы і ў цёмным, зацягнутым павуцінай куце вясковай хаты. Інакш — вечнае забыццё ўжо не мёртвых — жывых. Інакш — непазбежнасць захлынацца ў створанай дзеля саміх жа самімі крыві, крыві бяспамяцтва.

І гэта шчымлівая і горкая сустрэча на могілках — знак яму. Знак таго, што мо ён яшчэ не зусім прапашчы, нехта ўсё ж моліцца за яго і спадзяецца выратаваць, як ратавалі калісь, яшчэ пры сваім жыцці, маці і бабуля. Намёк з таго свету на ўратаванне ў будучым. Мо гэта ўжо апошняе папярэджанне перад тым, калі адвернуцца ўсе анёлы, што да гэтай пары не цураліся яго. Знак, намёк, папярэджанне, а мо і прысуд? Ён разгадваў гэта ўсё сваё астатняе жыццё да сённяшняга дня.

А сёння, во цяпер, здаецца яму, наблізіўся да спасціжэння таго, што за гэтым стаяла: благаслаўленне ці пракляцце. Пакуль што, падобна, ні тое, ні другое, хаця пэўнасці яму і не дадзена, бо паміж тым і другім невялікая розніца. Усё цяпер залежыць ад яго самога. Яму паслалі толькі знак, а як ён прачытае яго, як паверне і куды ступіць, так яно і будзе. Усё залежыць ад яго самога. Гэта толькі здаецца, што жыццём уладарыць выпадак. А насамрэч выпадак толькі падстаўляецца, падкідваецца чалавеку, а як ён яго выкарыстае — гэта ўжо лёс, сам чалавек і яго наканаванне. Таму і столькі

выпадковасцяў у жыцці чалавека, а дарога ж адзінаяадзіненькая. Выпадковасці ж, знакі, камяні ці карані дрэў, аб якія ён спатыкаецца ў сваёй дарозе, — толькі сведчанне, што ў яго ёсць выбар, як вехі. І ў кожнага з іх вялікае мноства, не менш, чым калдобін на шляху ці купін на балоце. Хаця наконт купін, тут яшчэ думаць і думаць трэба. Ці не былыя гэта людзі на сваіх сенажацях, колішнія палешукі? Вельмі ж падобныя. Гібелі, гібелі, выжыльваліся, цягнулі гізунты на сваіх балотах, звіваліся ад каўтуноў, заходзіліся, жоўкла марнелі ад ліхаманак і малярый, адыходзілі, убіўшыся ў складзеныя імі ж копы, стагі і прарасталі, аднаўляліся зноў спавітымі атавай купінамі на п'едэсталах балот. Купінай — вехамі і знакамі сваім бяспамятным нашчадкам.

І цяпер гэта быў яму знак. Знак першы. Няпоўны. Выйшла з таго свету старая. Яго бабуля, ці мо нехта іншы, каму яна наказала сустрэцца з імі, нічога не гаворачы, загадаць загадку, каб ён паварушыў мазгамі. І ён паварушыў. Памылкова ці не — хто ведае, абраў сваю веху, сваю купіну. Стаў хатай каля спрадвечнай ракі Пціч, нарачонага свайго Стыкса, па якім рана ці позна, але непазбежна давядзецца сплыць яму. Менавіта дзеля гэтага кожнаму і дадзена рака. Таксама ж знакавае дараванне. Мо таму іх так і нішчаць у гэтым краі, зводзяць, спрамляюць і асушваюць.

І быў яму знак другі. Хаця і больш пэўны, але таксама загадкавы, таму ён і не адразу, выходзячы з ночы пасля сну, зразумеў яго. А загадка ж была такая просценькая. Зусім не складаны знак цяпер у яго за плячыма ў яго рэчмяшку. Жывы — шкрабецца, валтузіцца і голас падае. Нагадваюць пра сябе трое няўрымслівых і занюханых кацянят, якіх ён цяпер нясе па кладках праз раку Стыкс. Стыксам палягала ёй, падобна, быць кацянятам, але ён іх нясе пад магазін каля новазбудаванай царквы. Трох таксама ж разгубленых і трывожных ужо аднёс. Адзін,

спакойны і ўсмешлівы, чакае зазнання сваёй долі на верандзе.

Усяго атрымліваецца — сямёра. Сямёра кацянят, што знайшлі ўначы яго селішча, прыйшлі да яго ў адведкі. І нездарма ўсё гэта, нездарма. Як сыходзіцца гэта ўсё на яго жыцці, у якое ён уваходзіў і ішоў праз кроў і смерць. Кроў і смерць семярых, хаця іх, зразумела, куды болей. Сямёра — гэта толькі на яго памяці, можна сказаць, крэўныя, родныя. І ён ці не штоноч, асабліва зімой, калі ночы такія доўгія і турботныя, узгадвае кожнага з іх пайменна. Пералічвае і просіць прабачэння, хаця і ведае, што гэта грэшна: нябожчыкаў не варта непакоіць, ім мо больш, чым жывым, патрэбны адпачынак, вырачэнне ад зямнога тлуму, але ён не здольны справіцца з сабой. Вінаваціцца і вінаваціцца, не маючы аніякай магчымасці сплаціць па пазыках свайго ад нараджэння крывавага лёсу. Сплаціць самым блізкім.

І па ўсім, гэтыя блізкія яго там пачулі. Усе сямёра. І далі знак, прыслалі семярых кацянят — у дзень памінання продкаў. На Дзяды. А абралі менавіта коцікаў мо таму, што ён вінен перад імі. Перад сваім хатнім катом па імені Пім, якога ён пашкадаваў, калісь хворага падабраў на вуліцы і выхадзіў. Той Пім — сібірскі валёнак з сібернай вуліцы — улез яму ў душу. І ў ім было столькі ўдзячнасці, цеплыні, што людзям і не снілася. Гэта быў як сам ён, з яшчэ не патрачанай тады цікаўнасцю і замілаваннем да ўсяго існага, маладой гатоўнасцю і прагай пакланяцца і любіць усіх і кожнага. На гэтым, пэўна, яны і парадніліся.

Але коцік мо і ад немагчымасці жыць напоўніцу гэтай сваёй усёпаглынальнай дабрынёй, пяшчотай і ласкай, нечакана захварэў, занудзіўся. Чалавек не здолеў яму нічым дапамагчы. Тры дні кот ні па малому, ні па вялікаму не хадзіў на двор. Ветэрынары сказалі, што гэта ўжо ўсё, не трэба яго мучыць. Ён не паверыў. Працягваў мучыць, прымушаў глытаць мікстуры і таблеткі, рабіць уколы, бясконца ўграваў электрагрэлкай, гладзіў

жывот. Распрануўшыся, клаў коціка на жывот сабе. І, здаецца, нечага дамогся. Коцік тройчы памачыўся яму на чэрава. Ён, узрадаваны, пацалаваў яго ў гарачы носік, коцік жа ў адказ, пэўна, не маючы сілы падаць голас, вялым, што анучка, язычком аблізаў яму твар. А потым нязводна і доўга пачаў узірацца ў яго вочы, нібы імкнучыся запомніць яго назаўсёды, як ён некалі ўзіраўся ў вочы бабулі. Ён зразумеў, што так яно і ёсць. Коцік развітваецца з ім і просіцца, каб яго тут больш не мучылі.

Ён падхапіўся, знайшоў сумку, узяў у рукі коціка. Той даверліва прыпаў да яго. Каб не расплакацца, ён хапатліва пачаў запіхваць яго ў сумку. Коцік спачатку не даваўся, пругка выпнуў спіну. Ён яшчэ паспеў здзівіцца яго ўпартасці, жывой сіле жывога, якую адчуў у яго касцяку, і прыціснуў коціка даланёй, ужо не хаваючы слёз. Коцік здаўся яго сіле, падпарадкаваўся ёй. Моўчкі згадзіўся і прыняў наканаванае, як гэта могуць прымаць і прымаюць толькі вельмі старыя людзі і жывёлы. Але яшчэ больш яго ашаламіла тое, як коцік, калі ён ужо перадаваў яго ветэрынару, лічы, кату, будучы і сам катам, павярнуў галоўку і палізаў, як пацалаваў, яго руку. Руку свайго забойцы. І дамоў ён вяртаўся з праклёнам. З праклёнам самога сябе, сонца, неба. І (грэшны, грэшны) таго, хто дапускае такое, прыгаворвае чалавека да такіх пакут.

Вось чаму ён і здрыгануўся, убачыўшы ў сябе на верандзе семярых кацянят, чаму не ўсміхнуўся таму ўсмешліваму вусатаму чорціку-піянерчыку, што пачаў барабаніць ранкам у яго акно. Яму ўсё яшчэ балела тое колішняе. І сённяшняя нечая літасць была балючай і апякаючай. Але нічога не паробіш. Трэба было падпарадкоўвацца ніспасланаму і нарачонаму. Усіх семярых кацянят прыняць ён не мог. Заставаўся толькі адзін, самы непаглядны і настырны. І ён цяпер ведаў і свята верыў, чый дух у гэтым коціку, чыя душа. Гэта

яна, яго бабуля, навяла і прывяла коціка да яго селішча. І больш грашыць ён не мог.

Быў жа яму знак першы. Быў знак другі. І будзе яшчэ, ён не сумняваўся, знак трэці.

Ён адамкнуў дзверы і паперад сябе, як гэта і водзіцца на ўлазіны, запусціў коціка ў хату, каб той бласлявіў яе на прыбытак, хаця, як разумеў, бласлаўленне ўжо адбылося.

А самі ўлазіны, як гэта робіцца, з накрытым сталом і святаром, ён справіў толькі на наступны год, вясной, прайшоўшы праз супраціўленне жонкі, бо тая ў першую хвіліну наадрэз адмовілася прыняць коціка ў гарадскую кватэру.

— Ці я, ці кот! — сказала яна, калі ўбачыла яго з коцікам. Ён моўчкі павярнуўся і пайшоў прэч. Жонка адлавіла яго ўжо каля машыны. І зноў жа кот апярэдзіў яго і жонку і ў гарадской кватэры. Да парога спакойна і сцішана ўграваўся на яго грудзях пад курткай. А тут як шылам яго ўкалолі. Выдзерся, скочыў на падлогу ў калідорчыку, выпраставў хвост, усмешліва азірнуўся і з высока ўзнятай галавой шмыгнуў у адчыненыя дзверы, нібыта заўсёды жыў тут.

— Нахабнік, гвалтаўнік, — толькі паспела мовіць услед яго хвасту жонка.

А недзе праз хвіліну ўжо яны абмяркоўвалі, якое імя даць коціку.

— Тэрык, — сказаў ён.

— Што гэта за імя? Тэрык, Хачык, ён што, асоба каўказскай нацыянальнасці?

— Не, проста тэрарыст. Ён узяў мяне тэрорам. Прымусова, як тыя ж асобы каўказскай нацыянальнасці бяруць закладнікаў.

— Гэта так. Так і ты мяне прымусова з ім. Але ж у імёнах катоў павінны быць шыпячыя літары. Па іх кацінаму званню. Біч.

— Тэрык,— настойваў ён. — У імёнах мужчын павінны быць раскацістыя і цвёрдыя літары.

— Гэты тэрарыст усё ж сметнікавы, прыйшоў да цябе са сметніка. І таму — Біч. Былы інтэлігентны, а цяпер сметнікавага паходжання чалавек.

— Сама ты... Я сказаў, Тэрык. І будзе па-мойму.

— Хай так яно і будзе, хай будзе па-твойму.

І коціка, вядома, назвалі Бічом.

Мо і гэта было наканаваннем: былы інтэлігентны чалавек — біч Божы. Як сёння ў завядзёнцы.

І той наваяўлены Біч Божы ўжо суцешыўся. Распасцёр на падлозе ў куце пакоя хвост клічнікам і паводзіў ім з боку ў бок. І ўсміхаўся згаладалымі на сметніках ссінелымі вуснамі, агаляючы дробненькія, прарэджаныя нястачай зубкі.

## РАЯВАННЕ НА ПУПЕ ЗЯМЛІ

Крута пачынаўся і надта ж пакручаста ішоў той год. Год знакавых супадзенняў і знамянальных выпадковасцяў. У Атлантычным акіяне сышліся і не разышліся дзве падводныя атамныя лодкі. Амерыканская і англійская. Лічы, два раённыя цэнтры з усім насельніцтвам і мураванкамі гмахаў пайшлі ў падарожжа па планеце, сустрэліся і не саступілі адзін аднаму дарогу. А зямля ж такая вялікая, акіяны бязмежныя. Ды вось так адбылося. Горш, чым у тым анекдоце, калі ў адзін і той жа тунэль на аднарэйкавай чыгунцы ўвайшлі два цягнікі. Увайшлі, але ж абодва і выйшлі. Не пацярпелі. Бо не лёс. А тут двум хмарачосам са смяротнай зброяй у акіянскім прасторы наканавана было зусім іншае. І ці гэта толькі доля ядзерных страшыдлаў? Хто ведае пра наканаванне і наколькі яно звязана з лёсам нашым? Якія конікі ён здольны выкідваць? Колькі і як будзе гуляць з чалавекам? А мо ўжо якраз на гэтую хвіліну і заканчваюцца яго гулі з намі...

У велічы і маўклівай бязмежнасці космасу знайшлі адно аднаго і зноў жа не здолелі разысціся, сутыкнуліся два спадарожнікі. З гучным пацалункам пабраталіся два стварэнні, дзве цывілізацыі магутнага розуму гома сапіенса. Адна ўжо адышоўшай у нябыт імперыі былога Савецкага Саюза, другая — яшчэ пануючай у сусвеце імперыі — Злучаных Штатаў Амерыкі. І гэта, пэўна, вялікае шчасце, што на планету абрынулася глабальнае пацяпленне. Было б такое падчас халоднай вайны, апошняя магла б стаць гарачай, вынішчальнай для чалавецтва.

Рана, вельмі рана гэта чалавецтва набыло такую жахлівую моц, касмічную ядзерную зброю. Гняце яна і гнюсіць яго паўсюдна. І па ўсім, недалёкі той час, калі гэтая сіла і моц, неабдымнасць і вынаходлівасць розуму чалавека звядзе яго ў магілу. Знакі, знакі таму паўсюдна: на зямлі, у акіяне і космасе. Варта толькі зірнуць на сонца. Ды не адно — надараецца ўранку, а два, а то і тры адразу. Тры сонцы на адно зямное неба і ў адзін і той жа час, не кажучы ўжо пра тое, што на кожным і з кожным з іх адбываецца, як згараюць і гінуць сусветы. А на самой зямлі канчаюць самагубствам азёры, рэкі, рыбы, птушкі і людзі. Званкі, знакі ідуць адусюль: з Чалябінска, Манхэтэна, Чарнобыля, Фукусімы, Тайланда, ад неапазнаных лятаючых аб'ектаў, пірамід Хеопса, магілы Цімура і ад самога чалавека, які ні з таго ні з сяго пачынае гаварыць на нікому не вядомай мове, трызніць нябытам і хапатлівымі ўцёкамі ў маленства і вар'яцтва, псіхіятрычныя лячэбніцы.

Але ж як ні горка, а трэба жыць. Трэба жыць як набяжыць, што ўжо ўсім, тое і бабінаму ўнуку. Мудрыя грэкі ў свой час весела развітваліся з маленствам. Не будзьма ж і мы дурнейшымі за іх. Таму — наперад і напярэймы адно аднаму ў наш айчынны рай, бо, як спявала некалі савецкая папса: «Трудовые будни — праздники для нас». Вернемся да нашага коціка, гэта значыць да Біча. Цяпер ужо канчаткова Біча — былога інтэлігентнага чалавека.

Крута пачынаўся той год і для яго. Хаця ён нечакана для сябе на пачатку вясны апынуўся ў тым раі, і не дзе-небудзь, а на самым пупе зямлі, так званай Пупляндыі. Але раней, чым гаварыць пра гэта, трэба вызначыцца з месцазнаходжаннем таго пупа. У яго існаванні, зразумела, ніхто не сумняваецца, каб упэўніцца ў гэтым, трэба толькі задраць сарочку: ён ёсць, быў і будзе. Край неабходна адзначыць толькі адно: іх, пупоў, занадта развялося на свеце, і прыходзіцца іншым разам здымаць

і штаны, сумняваючыся, дзе ён канкрэтна месціцца ў кожнага з нас — на галаве, на чэраве ці трохі ніжэй. З пэўнасцю можна сцвярджаць толькі: іх сёння значна больш, чым людзей. Па-першае, што ні чалавек — то пуп, пупік ці пупочак — не гаворыць, а лапоча.

А па-другое, і гэта галоўнае, некаторыя з чалавекаў аж выпручваюцца, так прагнуць, каб пуп іх знаходзіўся не як прышч ці скула на роўным месцы, а паўсюдна. Карціць вывесці свой уласны прышч на людзі, на пагляд усяму свету. Іншымі словамі, аслупаваць, уганараваць сваю пупочую адметнасць і значнасць ўзвядзеннем уласнага пупа на п'едэстал. Памятаеце, як гэта ў паэта: «Я памятник себе воздвиг нерукотворный». З Пушкіным можна і паспрачацца: помнік яго ўсё ж рукатворны, а тут атрымліваецца — парупілася сама прырода. Такім чынам, на аднаго чалавека прыпадае ўжо два бугры на родным чэраве і трэці ж не падгадзіў, выпінаецца, як мае быць.

Але акурат ад гэтай дваістасці ці траістасці бярэ пачатак нейкая дзіўная з'ява, да канца не спазнаная яшчэ нават навукай. Мо і ад замілавання ўласным, абагаўлёным у граніце, мармуры ці бронзе пупам — пад ім часцяком заводзіцца звычайная жаба-рапуха. Нешта ўсё ж прадчуваюць земнаводныя, угадваюць, хто больш ім блізкі і спажыўны, каго ім лацвей абсмоктваць, мілаваць і цалаваць. Але перш чым заняцца гэтым, тая жаба пачынае душыць, раздзімаць і зводзіць да падабенства сабе свежанароджаную і ўжо родную ёй істоту.

А ўсе мы добра ведаем, што вынікае з таго, калі пачынаюцца любошчы з жабай, яна дае нам цыцку. Не аднаго, не аднаго бласлаўлёнага і ўсюдыіснага яна гэткім чынам ужо ўганаравала і прылашчыла. Звычайны ж яе нашчадак, хаця ўжо і ўшанаваны, пачынае насіцца з самім сабой і сваім пупам, як з пісанай торбай. І паўсюдна яму мроіцца і трызніцца небяспека, усюды

нехта падпільноўвае, падседжвае, а то і замахваецца на яго пупочую існасць. Ён не дае ўжо веры і свайму ўласнаму пупу — ні першаму, ні другому, ні трэцяму. Усе яны здаюцца яму ненадзейнымі, бо з такімі ж хітрыкамі, як і ў яго: нездарма ж так часта бурчыць жывот, нехта другі ж — больш жвавы, усеўся не там, дзе трэба, і скоса пазірае некуды ўбок. Усеўся ці не на яго месца і не на саменькай што ні на ёсць яго ганаровай сярэдзіне сусвету, а пашахраіў уначы, калі ён выпусціў яго з вачэй. А мо ў той жа начы знарок так зрабілі, ворагі пасабілі, пасунулі седала прышча, каб падгадзіць яму. І ўвесь час носьбіту шматлікіх пупоў і кахaнак жабаў нешта муляе, муляе: каб жа гэта так зацвердзіцца, што было б ужо непаваротна, незваротна. І дзеля гэтай незваротнасці ён пачынае насіцца са сваім пупам, як з пісанай торбай, перастаўляць з аднаго кормнага месца на другое. Толькі ўчора ён стаяў тут, а ўжо заўтра яму кажуць: не, тут вас не стаяла. І ён ужо не тут і не там, бо там вам не здесь, але калі нада, то трэба. І разумей гэта просты аднамоўны чалавек як хочаш. Адсачыць іпастасі ці паймець яго на адным месцы і слове немагчыма — «чудище обло, озорно, огромно, стозевно и лаяй» — ён куды больш за Януса шматаблічны і ўсёісны. Ён, як цыганскі табар, рушыў ужо ў неба, пакінуўшы нам некалькі пупоў зямлі і адно пытанне: які ж з іх сапраўдны?

І тут, каб адказаць на гэта пытанне, мы не хочам, але мусім звярнуцца да нашага знакамітага Несцеркі, які яшчэ ў сівой мінуўшчыне на адным з тусовачных, пэўна ж апазіцыйных, мітынгаў слушна сцвярджаў: пуп зямлі тут, дзе я знаходжуся. Дзе цяпер я стаю. Сыходзячы менавіта з гэтага, трэба, пэўна, шукаць і рай, калі ён, зразумела, ёсць. А на нашай бацькаўшчыне рай, несумненна, ёсць. Павінен быць згодна з усімі нашымі пісанымі і няпісанымі законамі, указамі, указіўкамі і, нарэшце, самой Канстытуцыяй. Такім чынам, наш рай месціцца вакол пупа. Для недаверлівых ці самых

дасціпных вось яго дакладныя каардынаты: там, дзе знаходзіцца і стаіць зараз на чатырох лапах Біч — былы інтэлігентны чалавек, а цяпер звычайны, хаця і ўсмешлівы хатні коцік, якому пашанцавала трапіць у рай. У такое прыўкраснае месца — і пры жыцці яшчэ, не так, як усім іншым. Мы ж добра ведаем тых і іншых, няма сакрэту, хто і як у рай пнецца і трапляе.

Рай тут утварыўся даўно. І ўпершыню змецілі, прыгледзелі яго не мы і нават не нашы продкі, не людзі. А хтосьці з далёкага-далёкага сусвету, з космасу, ці не папярэднікі прышэльцаў, што зніклі ў Тунгускай тайзе. Яны імкнулі да нас, калі тут было яшчэ мора, і мы толькі вытыркаліся з вады ў непаразуменні, куды гэта мы трапілі, што з нас яшчэ будзе. Гэтыя далёкія прышэльцы. Пэўна, і імкнулі да нашага непаразумення, каб надаць яму трохі глузду. А мо было і крыху інакш. І хутчэй інакш.

Ці не з самога стварэння свету жылі тут людзі. І куды больш разумныя за нас сённяшніх, нашы далёкія продкі, якіх ужо каторае стагоддзе шукаюць на зямлі, у акіяне і нават на Марсе, Месяцы, на Млечным Шляху вучоныя, даследчыкі ўсёй нашай планеты. Шукаюць людзей-волатаў, багоў, атлантаў, спрачаюцца амаль усе высакалобыя і яйкалобыя і не могуць прыйсці да згоды. А продкі нашы жылі, дзе мы сёння жывём. І мо былі не багамі, не арыямі, не атлантамі, а такімі, як і мы. Мо толькі больш укаранёнымі ў зямлю, прыраслымі да яе. Вады, дрэва, неба.

А Атлантыды і атлантаў, як мы іх сёння ўяўляем, мо ніколі і не было. Была Атлантыда духу, невымяральнага і непараўнальнага з тым даволі смярдзючым і брыдкім душком, які мы набылі сёння. І наканавана нам было зусім іншае, велічнае і вячыстае, што засталося толькі дзе-нідзе на зямлі і ў чалавеку як дзіва. Мы вырakліся сваёй будучыні, збіліся з тропу і пайшлі інакш, як моўлена, сваёй, правільнай дарогай. Вынайшлі кола, а потым і ядро. І пакаціліся на іх і за імі ў нікуды. І збылі,

страцілі тое, што мелася, што злучала нас з сусветам і космасам, бо і сам чалавек — істота сусветная, касмічная.

Але наш касмічны гасцінец, ростань сусвету, зарос пагостамі, выгарадзіўся сценамі журбы і плачу, мармуровымі і гранітнымі мемарыяламі помнікаў і крыжоў, па кожным з нас, мёртвых і жывых. У крывавай бойцы кожнага з кожным і з самім сабой выжылі, здолелі захавацца толькі адзінкі, і то, калі справа тычылася жыцця і смерці не іх асабіста, а некага вельмі дарагога, крэўнага ім, каб было каму плакаць па іх. Так здолела захавацца і захаваць у сабе былое дзеля яго, свайго ўнука, яго бабуля, выцягваючы яго з таго свету ўжо. І нездарма на тую хвіліну так дзівілася вуліца. Бабуля адмовіла смерці і пры гэтым, як гаварылі пазней, нібыта сама знікла, пераўтварылася ў нешта ці некага зусім іншага, хто вырас, сягнуў аж у неба, засціў сонца і ці не спыніў сам час, бо яна і яе ўнук на нейкае імгненне прапалі з людскіх вачэй. А потым узніклі зноў.

І гэта сведчанне таго, што дух былога яшчэ жывы, што космас, сусвет яшчэ з намі і ў нас. Валадароў космасу, волатаў духу цягнула і цягне да зямлі людзей: добрае прыпадае да добрага.

Толькі паразумецца зямному і касмічнаму пасля ўсяго, што адбылося, а больш — адбываецца цяпер, пакуль не дадзена. Было не дадзена з той спробы, з таго часу, калі людскія палеткі яшчэ калісь тут прараслі крэменямі, і спробы другой, больш набліжанай да нас, на самым пачатку дваццатага стагоддзя, у Сібіры, у Тунгускай тайзе.

На падлёце да нас і нашага мора Герадота касмічныя спадарожнікі пацярпелі аварыю. Рэшткі карабля абрынуліся на мора і ўтварылі ў зямлі вялікую праломіну. У тую праломіну, як у прорву, канчаткова ўжо, і пайшло наша былое мора разам з нашымі продкамі. А нам былі дараваны толькі камяні. Па нашай зямлі ва ўсе бакі, дзе сёння нашы палеткі, дзе мы аром, сеем і

збіраем ураджай, разляцелася начынне таго касмічнага прышэльца — крэмені. Крэмені, з дапамогай якіх тут спакон веку здабывалі агонь, нават не цямячы, што агонь той — толькі іскрынкі жару нябёс. Нам нарачона ад яго адно высякаць на трут агеньчык і прыкурваць.

Крэмені, вогненныя пісьмёны сусветнага розуму, вечныя знакі на нашых палетках: рукапісы не гараць. Прыйдзе час — і камяні загавораць. Набудуць голас, бо мы жывім іх кроўю, што ні стагоддзе — палавінім яе і сябе. А кроў не вадзіца. Яна прабіваецца з глыбіні зямлі, выходзіць са страчанага намі мора Герадота, аказвае сябе соллю. Бунтуе наша мора, то пнуцца, лічы, з таго свету да нас нашы продкі. Плачуць горкімі і салёнымі слязьмі па нас. Некаторыя з іх ужо тут, сярод нас. Мо гэта дзеці індыга, якія пачалі нараджацца апошнім часам. Мо пакуль яшчэ і камяні, крыжы, якімі прарастаюць старажытныя могілкі святой нашай Тураўшчыны і Полаччыны. То просіцца вонку і падае нам знакі наша зніклае, але не супакоенае, скрадзенае мора. І прыйдзе час, прыйдзе час. Мы набудзем страчанае.

А пакуль што спраўна ціснем вынайдзеную намі карчоўку — толькі на гэта нашага розуму хапіла, — цішком папіваем пладова-выгаднае чарнільца, душымся бульбай, з-за якой нас не без пагарды нараклі бульбашамі, больш глядзім сабе пад ногі, моўчкі смаркаемся ў анучку і часта бегаем за хлеў. А куды нам яшчэ бегаць у Пупляндыі? Усё ў нас ёсць, усё мы маем: і чарку, і скварку. З кім бы падзяліцца яшчэ? Бульбашы такія ж людзі, як і ўсе астатнія. Толькі з адзнакай памяркоўнасці. І Біч быў цалкам нашай пароды, толькі ўсмешлівы, гуллівы. Коцік, што з яго возьмеш.

Але калі ён трапіў у непадробны ўжо рай на пупе зямлі, дзе і зачаўся, яму было не да смеху. Бо яго паўторна ў той рай зацягнулі гвалтам. За шкіркі вышмаргнулі з добра ўладкаванай гарадской кватэры, кінулі ў чэрава нейкага смярдзючага і пагрозліва рыклівага страшыдла

і павезлі. Ён шалёна супраціўляўся, бо ўвогуле з-за сваёй свавольнай і дзікай натуры няздольны быў трываць нават самага нязначнага прымусу, гвалту.

А што прымус і гвалт будуць, ён зразумеў загадзя, зранку, бо, хаця яшчэ і не зусім дарослы, быў ужо, як і ўся іх парода, надта праніклівы, кемлівы. І калі прыспеў той час браць яго за шкіркі, ён схаваўся, знік без следу і знаку, і добрую гадзіну яго шукалі па ўсіх трох пакоях, шафах і нават прыбіральні, кухні. Шнырылі, шнырылі — няма чорта кудлатага. Нарэшце пад газавай плітой на кухні пазналі па зялёным хіжым пробліску вачэй. Але і тады ён не даўся ў рукі, перабег з кухні ў адзін пакой, потым у другі, плішчыўся пад ложкі і канапы. У пакоях перавярнулі ўсе крэслы. Але ката як карова языком злізала. Не кот, а сапраўдны Біч Божы.

— Кінь ты яго тут. Вымерхаецца — азавецца, — не вытрымала жонка.

— Куды ж кінь, ехаць трэба, не на адзін, пэўна, дзень, — ціхенька запярэчыў ёй гаспадар. — Ён жа тут пераверне ўсё дагары нагамі, пагрызе і падзярэ ўсе твае шпалеры.

Наконт шпалераў пагроза была слушная і не беспадстаўная. Біч даўно ўжо ўпадабаў дзерці шпалеры. Прынамсі ж, ведаў, што гэта шкода, і прыпадаў да іх цішком, калі над ім не было аніякага вока. Распусна выгінаў спіну, распускаў хвост, задзіраў угару лабастую галаву, востранька натапыранымі ад асалоды вушкамі стрыг паветра і пракудзіў, пракудзіў над шпалерамі. Пры гэтым, зараза такая, ні на хвіліну не забываўся, сцярог кожны гук, кожны шэпт і шолах. І гаспадарам варта было не тое што паказацца, а толькі натапырыцца ў думках — не кот, а тэлепат, — як ён з усіх ног з неймаверным спрытам маланкава кідаўся прэч. Гаспадыня добра ведала гэту яго зладзеяватую адметнасць і шкадлівасць, таму незадаволена буркнула:

— Адзін кот, адзіны толькі біч, а столькі клопату, што ты, што ён, хто толькі ў каго ўдаўся.

І цяпер тое ж паўтарыла. Гэта быў камень ужо ў агарод гаспадару, і не першы камень. Гаспадар, узрушаны і ўзбуджаны ўжо крыху зацягнутымі першымі вясновымі зборамі на лецішча, засердзіўся:

— У катоў і кошак жаночая натура,— мовіў ён амаль яшчэ памяркоўна.

— Уга, ды твой Біч — гэта мой біч. А ты цалуешся з ім.

— Раўнуеш, — сказаў гаспадар усё яшчэ памяркоўна.

— Шкадую.

— Каго?

— Сябе, твайго Біча, цябе...

— Пашкадаваў воўк кабылу — пакінуў хвост ды грыву.

—То ж, гляджу я, вы ўсе валяецеся, конікі чортавы, загрызеныя намі, жонкамі. Без хвастоў.

— Пілуеш і пілуеш, як тая лесапілка...

— А-а, дык я яшчэ і лесапілка!

— Ачахні, у рай выбіраемся, а ты настрой на дарогу псуеш.

— Ранавата нешта ты ў той рай сабраўся. Ды табе кожны дзень — райскі. А ў мяне расада вяне. Памідоры канаюць, перцы чэзнуць. А тут яшчэ ты. Хапала аднаго чорта на маю галаву, дык і другі навязаўся.

Вось так гаспадары ў той дзень, уранні яшчэ, і палаяліся з-за Біча. Толькі лаянка гэта карысці не прынесла і, па ўсім, ніколькі не кранула ката. Ён так і не паказаўся. Вынікала, трэба працягваць пошукі, бо не кінеш жа яго ў хаце аднаго. На лецішча вызбірваліся і ехалі надоўга. Выйсце знайшоў гаспадар.

— Нясі пыласос, — загадаў ён жонцы.

Тая ці не з хвіліну думала, што гэта на яго найшло: то не прымусіш пыласосіць, а тут... Думала доўга, але ж сцяміла і нават прылашчылася:

— Які ж ты ў мяне мудры. Во заадно і прапыласосіш, даўно б так, родненькі. А то з-за ката...

Справа была ў тым, што кот ненавідзеў пыласос. Ніхто не мог і галавы прыкласці, што за пагроза яму была стоена ў ім. Але варта было толькі ўключыць пыласос, як кот літаральна вар'яцеў, уцякаў так, што і лап не разгледзець. Пудзіўся пыласоса нават і тады, калі той маўчаў, азіраўся на яго, калі бачыў яго ў спакоі ў куце, але ж насмельваўся набліжацца, глыбакадумна, толькі ўжо без усмешкі. Доўга ўглядаўся ў яго, лыпаў вачыма і асцярожна кратаў лапай.

Вось і цяпер варта было гаспадару толькі прайсціся з уключаным пыласосам па пакоі, як Біч, хвост трубой, выхапіўся са сваёй схованкі, скочыў зверху шафы — нягоднік, увесь жа час сядзеў і наглядаў, які вэрхал з-за яго тут узнялі, слухаў сварку гаспадароў. Апошняе асабліва было крыўдна гаспадыні. Яна ўхапіла яго, калі ён наладзіўся даць лататы ў другі пакой, затрымала за хвост.

— Ты што робіш? — закрычаў на яе гаспадар. — Катоў нельга цягаць за хвост.

— Я яго б не толькі за хвост, — адказала гаспадыня. Я яго б... — але ўслых не выказала, за што б яна яго, прытуліла і нават пагладзіла.

Біч яе ласку адмовіў усім сваім напружаным і і адразу ж пацяжэлым усерджаным целам. Толькі было позна ўжо выяўляць сваю натуру, злосць, моц і волю. Біча, захутаўшы ў старую куртку, больш каб ён не драпаўся, панеслі на вуліцу і вывалілі ў салон легкавіка. Але і там ён адразу ж выказаў свой нораў, ні хвіліны не ўседзеў на адным месцы, снаўдаў і поўзаў па салоне, часам нешта вынюхваў, але не засяроджваўся на гэтым, імкнуў да шкла зачыненых вокнаў, толькі не запыняўся і на мітуслівасці дарожнага руху, не вельмі вабіла яго і пацішэлае наваколле, калі ўжо выехалі на шашу.

Плакаў. Плакаў голасам і жыватом, па-дзіцячы несуцешна і няспынна. І супакоіць, даць рады яго енку не здолелі, пакуль ён сам не змарыўся і заціх. Зашыўся

ў неймаверна вузенькую шчылінку пад вадзіцельскім крэслам і прымоўк, здавалася, да канца дарогі. Але і гэта толькі здавалася. Неўзабаве ён вылузнуўся і з-пад крэсла, узабраўся на калені гаспадару, уталопіўся на дарогу, што кулялася на яго. І гэта імклівае кулянне прыйшлося яму не даспадобы. Ён зноў пачаў па-дзіцячы каўкаць і круціць з боку ў бок галоўкай з пакрыўджана натапыранымі вушкамі.

— Не круціся, бо прышпілю рэменем ці ўшпілю, — пагразіў гаспадар.

Невядома, падзейнічала пагроза ці Біч нарэшце знайшоў тое, чаго прагнуў: утульнае яму месцейка — амаль што за рулём легкавіка, як сапраўдны кіроўца, а мо зацікавіў яго малады бярозавы гаёк, што пацягнуўся абапал дарогі, ён супешыўся ўжо канчаткова і, падобна, упершыню за ўсю паездку набыў зноў сваю славутую і нязменную ў гуморы ўсмешку.

Гаспадар зірнуў на яго і таксама заўсміхаўся. І зусім не таму, што быў цалкам задаволены міралюбствам свайго ката. Некага нагадаў той яму, і так, пэўна, нагадаў, што ён адразу і прыдумаць не мог — каго. Толькі праз нейкі ўжо час цюкнула: міністра. Міністра фінансаў, якога ён часта слухаў і бачыў па тэлевізары, калі той спяваў рамансы пра айчынныя фінансы. У таго былі такія ж востранька натапыраныя вушкі і вечная ўсмешка на вуснах. Такая ж саменькая, як і ў яго коціка. Не хапала толькі кацiных дабрадзейна разведзеных убакі вусікаў. А Біч і з вусікамі быў выліты міністр. Толькі і розніцы, што ў апошняга ўсмешка адна і тая ж, нязменна добразычлівая і чамусьці сумнаватая. А ў Біча пераменлівая: то шчырая і вясёлая, то горкая, паблажлівая, а часам і пагардлівая.

І гаспадар адчуў гонар за свайго ката. Яго ўсмешкі былі разнастайнымі і багатымі на адценні пачуццяў. Хаця яго Біч быў сапраўдным Бічом, жабрак жабраком, за свой век і адзінай ламанай капейкі не бачыў, а міністр сядзеў на мяхах грошай.

— Быць і табе міністрам, — пацвяліў ката гаспадар. — Са сваёй усмешкай можаш нават і ў прэм'ер-міністры выбіцца, а мо... — Але пра гэта «мо» нічога не дадаў.

Дарога далей была без асаблівых прыгод і выбрыкаў ката і жонкі, як і павінна быць, калі набліжаешся да раю. Толькі перад заездам ужо на падворак лецішча гулка і суладна падалі голас суседскія сабакі, як у бочкі гаўкнулі. Аўчаркі. Адна, маці, сапраўднай вартаўнічай каўказскай пароды. Кудлатая, трохі расплывістая, касалапая і кульгавая. Нагу ёй пашкодзіў гаспадар коламі легкавіка, яна ўпадабала ў спёку адпачываць пад ім. Ад чаго й пацярпела. І хаця была жанчынай, імя мела мужчынскае: Сеня. Так ужо атрымалася, у самым дзяцінстве гаспадары пераблыталі пол, нараклі Сямёнам. І таму цяпер звалі яе Ксенькай альбо Аксінняй. Аксіння ўрадзілася вельмі разумнай і была прыроджаным правакатарам: поп Гапон у сабачым абліччы. Любіла ўтварыць шкоду, але так, каб самой пры гэтым застацца ўбаку, пазначыць свае шкадлівыя намеры і пусціць наперад сына.

Сына звалі Сэмам. Быў ён рослы, цыбаты нават. У адрозненне ад маці гладкапоўсцевы, паджары, сумнавата запаволены, адвечна задумлівы на яўрэйскі лад і прыгаломшана блазнаваты. Як хвосцік, усюды цягаўся за маці, шанаваў і слухаўся яе, угадваў усе жаданні, нават і думкі, бо іншым разам забягаў і наперад ім, як адчуўшы тое, што толькі цьмяна тлела і ледзь цямілася ў яе шыракалобай і пракудлівай лабаціне. Ад чаго яму больш і даставалася, і ён падоўгу хадзіў унурыўшыся, з вінавата падцятым хвастом і паніклай галавой. А маці, як ні ў чым ні было, лежачы на ганку веранды, нявінна паклаўшы галаву на лапы, адно толькі лыпала вялізнымі рудымі вачыма, як бы жалілася сонечнаму небу: во глядзіце, які ў мяне няўдалы сын, хоць бы хто-небудзь пашкадаваў мяне цукровай костачкай.

Цяпер жа маці і сын былі ў згодзе і з вартасцю спраўлялі сваю ахоўную сабачую спрадвечную службу,

якую Біч па сваім каціным паходжанні таксама ж спрадвечна ненавідзеў і не трываў — баяўся, а мо і грэбаваў. І зараз зноў няўклюдна зашыўся пад крэсла вадзіцеля і не аказваў сябе да той пары, пакуль не застаўся адзін, а сабакам не надакучыла гундзець, і яны змоўклі. Тады Біч ціхенька вышкрабся з легкавіка — гаспадары пакінулі дзверцы яго адчыненымі, — скочыў долу, памацаў лапамі зямлю, на якой толькі ў мінулым годзе з'явіўся на свет, дзе цяпер павінен быў жыць, панюхаў паветра. Зямля і паветра былі знаёмымі, яго роднымі. Тут не выветрыліся яшчэ яго пахі і кволая памяць галодных і халодных восеньскіх, перадзімовых пакут. Але ён цяпер не наракаў на мінулае. Наадварот, яму было шчымліва-радасна. З адчуваннем таго, як гэта шчымлівая радасць даўкім камяком, пачынаючы з горла, распаўзаецца па ўсім яго целе, пружыць хвост і лапы, ён скочыў на памост з габляваных дошак пры хляве і агледзеўся. І не стрымаўся, сцяўся сам у той жа даўкі і пругкі камяк неад'емнага ад яго ўсёпаглынальнага шчасця.

Кацінае шчасце, тым больш з такім імем, што ў яго, — Біч, не мае голасу, як і наогул кожнае шчасце: галосіць бяда. А шчасце маўчыць, бо яго можна і спужаць, яно любіць толькі самое сябе, купаецца ў самоце, адзіноце. І калі гавораць, што коцік муркоча ад задавальнення, — гэта зусім не так. Ён прарабляе гэта дзеля іншых, дзячыць ім, надае настрою. А сваё ж кацінае насамрэч шчасце носіць у сабе моўчкі, такі ўжо характар, такія звычкі. Такая парода — усё як у тутэйшага люду.

Углядаючыся ў наваколле і ў самога сябе, маўчаў і Біч, прыпаўшы да прылашчаных вясеннім сонцам дошак памоста. Доўга маўчаў, не адчуваючы на сабе ніводнага пабочнага вока, нячутна пасопваў асаладзелым ад родных пахаў надзвычай чуйным і чамусьці ўзмакрэлым носам. Першая вясна яго жыцця агортвала, брала яго ў свае абдымкі, была яна яшчэ нясмелай, толькі

абяцанай яму наперадзе, адраджэнча-бунтоўнай і ўсёпаглынальнай уладарнасцю. Цяпер жа яна ішла па зямлі яшчэ прытоена, скрадзена ціха, запасячы моц на аднаўленчы выбух. Выбух сокаў, квецені, росту і вар'яцтва ўсяго існага. Але Біч бачыў і прадчуваў гэты будучы выбух, выбліск неба, сонца, прарыву да яго саду, агароду ў падрыхтаванай гатоўнасці, падатнасці аддацца нарачонаму і наканаванаму грэшнай і святой зямлі. Нават цяпер была яна ўжо крыху цяжарнай прагай жыцця і задавальнення. Велічна і даравальна нястрыманая гэткай парой, нікім і нічым яшчэ не апаганеная. Сардэчная, бясконцая ў сваёй адухоўленасці і неабсяжная. Такая неабдымна-велічная і неабсяжная, што Біч мімаволі згубіўся ў ёй, не вытрымаў, нема ўсклікнуў:

— І гэта ўсё маё?..

— Ды-ды-ды, ты-ты-ты, — пацвердзіла ў недалёкім лесе жаўна.

— Ку-ку, ку-ку, ку-кіш, — пэўна, не пагадзілася з ім зязюля, закувала на голы і няўтульны лес.

— Кукіш табе, кукіш табе,— шчыра адказаў ёй Біч. — А я сваё нікому не аддам.

І не пайшоў следам за гаспадарамі ў хату, бо быў трохі пакрыўджаны на іх. Неяк усё ж не зусім па-людску атрымалася. Гэта ж яго павінны былі пусціць паперад сябе ў новую, яшчэ не абжытую хату. На ўлазінах ён, кот, заўсёды гаспадар. Але сёння ўсё не так, як калісь у людзей. Біч ад замілаванасці забыўся, што гэта ён сам парушыў правілы, схаваўся, стаіўся, калі трэба было бегчы бегма прывячаць і асвячаць жытло. З катамі такое здараецца. Яны, зразумела, не зламысныя, адыходлівыя на крыўду, але памяці ім іншым разам бракуе, кароткая яна ў іх. І гэта, пэўна, няблага, бо што б мы рабілі, калі б і ў іх была памяць доўгая, што б яны зрабілі з намі.

Да таго ж у Біча меліся яшчэ і падставы заставацца і далей на падворку. Яго тут вывучалі. Біч пачаў ужо

адчуваць на сабе нейкае чужое вока. Ён прынюхваўся да свайго новага тубыльства тут, і да яго прынюхваліся, прыглядаліся. З дабром, з пагрозай — гэтага зразумець ён не мог. Але было, было пільнае вока на ім, і дыхам чужым, мо нават і не зямным, наносна патыхала. Хаця і не такім ужо чужым, нешта было знаёмае, блізкае ў тым духу, але, як гаворыцца, не бойся радні далёкай, перасцерагайся бліжняй. І Біч палічыў за лепшае схавацца, нырнуў пад дошкі каля хлява і адтуль пачаў цікаваць, хто ж гэта набіваецца яму ў сваякі.

Нерухома і цярпліва, на што толькі здольная назіральная і паляўнічая кацінася парода, да змяркання сядзеў у сваёй схованцы. Гаспадар ужо не аднойчы выкульваўся за парог, бегаў па падворку і галёкаў:

— Біч, Біч, Бічык...

І гаспадыня дапамагала яму:

— Біч, Біч, Бічык...

Ага, нязлосна адзначаў кот, не высоўваючы з-пад дошак і носа: цяпер я вам Бічык, а зусім нядаўна быў кацярам. Паплачаце тут без мяне, хопіце ліха з мышамі адны.

Ён быў ужо ўпэўнены, што мышы тут ёсць. Яны нават пацвельвалі яго, толькі здалёку, з норак пад яблынямі, каля цёплых і жывых каранёў якіх уграваліся, імі ж і харчыліся. Жывіце, пакуль я добры і сыты, — маўкліва, засяроджаны на сваім, адказваў ім кот. А сам не толькі зрокам, слыхам — усім целам цікаваў наваколле, перапоўненую жыццём, невядомым яму насельніцтвам, цішу.

Безумоўна, нехта адзін хаваўся ў кустах вольхі, вербалозу і крушыны з калінай, што прыпалі ці не да самай хаты і спаўзалі на бераг невялічкай, амаль сухой копанкі. Хаваўся спрытна і няўлоўна, нібыта адвечна быў спрактыкаваны на гэтым. Але ж Біч таксама недарэмна паходзіў са следапытаў. Тое-сёе змячаў, бо назіральнік быў трохі нахабны і занадта ўпэўнены ў

сваім уменні стойвацца. Толькі ж і ён быў няпросты, вучаны пакаленнямі і пакаленнямі каршакоў і мышэй. А яны кату настаўнікі — дай божа кожнаму такіх. Таго, хто таіўся ў кустах, выкрываў шэпт зрэдку ацалелых сухіх лісцяў на крушыне: штукар і хавальнік дыхаў на іх і перагаворваўся з імі. А Біч умеў слухаць.

Хтосьці другі засеў, як прылёг адпачыць, прыкархнуў і ў самой копанцы. Ён, відавочна, быў больш звыклы да вады, твані, і ў абмялелай копанцы яму было прыдатна, хаця не надта паваротна. Ён задыхана варочаўся ў вільготным яшчэ, падапрэлым шыгаллі, раскудлачаных зімовым сіберным ветрам рэштках чароту і рагозу. Апроч гэтых двух меліся тут і іншыя. Каля новай, яшчэ толкам не абжытай хаты ўжо тулілася шмат нябачных і непазнавальных істот, пэўна, як гэта заўсёды бывае і павінна быць. Чалавеку толькі здаецца, што ён бытуе сам-насам з самім сабой. Каб толькі ж ён ведаў, колькі гэтых неспазнаных істот жыве нават у ім. А колькі іх побач, вакол.

Вясковая хата чалавека, такая ўжо завядзёнка, першнаперш поўніцца даўніной, тым духам і духамі, на якіх і з якімі ён гадаваўся і рос, прырастаў і ўрастаў нагамі, галавой да роднага краю, да сваёй бацькаўшчыны. Інакш і быць не можа. Інакш — гэта перакаці-поле, пра якое мала хто тут і ведае, хаця калі-некалі чужыя ветры і прыносяць, прыгортваюць тое перакаці-поле і да нашых бясплодных пяскоў і засеяных камянямі палеткаў, навалач і набрыдзь таксама ўсюдыісная.

І Біч не здолеў распазнаць, чаго болей вакол яго новага котлішча — дабрыні і прыязнасці ці зла і пракуды. Ніштаваты быў набыты ім рай, як гаворыцца, хранавата ваша вата, прапускае дым. І таму Бічу было трохі непамысна, кісла ў носе. Ён ва ўсім любіў грунтоўнасць, як яе любіць кожны сапраўдны гаспадар і селянін. Тубылец і мужык. І кот. А за мінулы з восеньскай пары час, калі яго, падшыванца, падабралі, абмылі, накармілі

і нават знасілі ў лякарню да дактароў, зрабілі такія-сякія працэдуры і прывіўкі, відавочна выправіўся, падрос і падабрэў. У ім ужо нічога не засталося ад хуліганістага колішняга кацяняці, пусценькага і нават, здаецца, пазначанага вясковым ластаўчыным рабаценнем не толькі на твары, але і на выпнутых з галадухі рэбрах.

Цяпер ён нагадваў сапраўднага ката, Кацяру, і даволі годнага, гожага і прывабнага. І было ў ім вялікае абяцанне, абяцанне будучай спадчыннай пароды. Мяса на ім, праўда, мелася яшчэ малавата, але ж, як кажуць, былі б косці, а мяса нарасце. А косці ў яго былі на дзіва і зайздрасць усім іншым навакольным суайчыннікам і супляменнікам. Быў ён шырокі ў крыжы і лабасты. Хібіла трохі пасярэдзіне, паміж лобам і крыжам, — шыі і хрыбціны. Але і ў такім стане вужыны яго касцяк быў пругкім, гнуткім і моцным. Масцю ў мышастага, балотна-рудаватага жарэбчыка з сівізной, са зменліва-рознакаляровымі, але някідкімі, чарнява-шэрымі падпалінамі не зусім яшчэ паспелых яблык па баках. Але больш пасавала яму чорная з ільсняным водбліскам шырокая і доўгая пасма ўсцяж верху цела і іскрысты нагруднік ад шыі да пярэдніх лап. Німб наперадзе яго і да вушэй, амаль такі ж, што можна наглядаць на вельмі старых абразах, якія зрасліся ўжо са старажытнасцю хаты і непадробнай верай яе гаспадароў.

Нічога не скажаш, кот цяпер быў варты хоць у прэм’ер-міністры, хоць... Не, вышэй не варты, бо вышэй у нас ужо не ўсміхаюцца, толькі пахмурна грозяць ды сыплюць абяцаннямі выкрыць і пакараць і больш падобныя на гракоў, што на чорным ворыве зямлі следам за трактарам вышукваюць і глытаюць выпаўзняў. Толькі ў міністры, што распараджаюцца грашыма, а калі ўжо вышэй, то ў амерыканскія прэзідэнты з іх раз і назаўсёды прыклеенымі гумава-сіліконавымі ўсмешкамі на вуснах. А ў нас жа пры такіх строях — яшчэ і ў набажэнска-царкоўныя іерархі, на якіх часам

без прыкрасці і глядзець нельга, як яны ўцалоўваюцца з уладарамі зямнымі. А тыя ў іх жа царкве падносяць і перастаўляюць, падаюць ім свечкі. Такім чынам, Біч быў цалкам варты наканаванага і прызначанага яму раю і, зразумела ж, Пупляндыі. І таму ён неадкладна рушыў пазначаць тэрыторыю, свае межы ў ёй.

Справа гэта была як далікатная і нават інтымная, так і адказная: трэба было аберагчы сваю зямлю ад нашэсця якой-небудзь новай і неспадзяванай набрыдзі, бо хапала і сваёй, што міма яго волі атабарылася ўжо тут. Але што ўжо ёсць, тое ёсць, а лішняга ён не хацеў. Управіўся з гэтым Біч ужо ўпоцемках, знясілены і даволі высмяглы. І не дзіва, столькі тут слупоў і слупкоў панаставілі, чалавека на кожнага з іх не хапіла б.

Сухенькі, як выкручаны, пасля гэтай цяжкай, але абавязковай працы ён пацёгся да вады, да копанкі. Але копанка не асвяжыла яго, бо вады ў ёй амаль не было. Хаця мелася ў падземнай глыбіні яе нешта зусім іншае. І гэта іншае як прыгаломшыла коціка і ці не пазбавіла яго волі. Імкнулася пазбавіць, падпарадкаваць сабе, але Біч не даўся. Пачаў раз'юшана дзерці сухі глей на самай сярэдзіне копанкі, маленькім, непрабітным для травы лапіку, што сподачкам блакітна кругліўся пад месячным святлом.

Коціку на гэтыя яго дзеянні як нехта з глыбіні адказаў, азваўся. Ён прыпаў вухам да падрапанага ім глею. Прыпаў надоўга, знерухомеў. І слухаў, слухаў. І пачутае ім, пэўна, прыйшлося яму даспадобы, таму што неўзабаве ён вольна раскінуўся ўсім целам на сподачку і завуркатаў, як бы мовячы нешта ў адказ на пачутае ім з падзямельнасці, уступаючы з ім у змову і хаўрус. І поўня, мядзяным святлом сягаючы ў блакіт сподачка і рудое, крыху таксама мядзянае вока коціка, нібыта асвячала гэта яднанне нябачнага, глыбінна зямнога і жывога і ўсмешлівага, улагоджанага коціка.

Што і з кім ён гаварыў, што гаварылі — гэта да пары да часу засталося сакрытым...

У хату ён уваліўся праз знарок пакінутыя адчыненымі дзверы недзе ўжо на світанні, данельга стомлены і выпетраны, як пабіты.

— Валацуга, — папікнуў гаспадар, — прыйдзеш яшчэ так позна — будзеш начаваць на падворку.

Біч падумаў пра сябе, у якія ж рукі ён трапіў. Не каб падзякаваць, дапамагчы, пагаварыць, як з чалавекам (а ў яго было што расказаць) — усе навокал толькі лаюцца. Праглынуў горыч і пакрыўджана, моўчкі прыпаў да пастаўленага яму ўсё ж у куце сподачка з малаком: хоць на гэта хапіла розуму. Малако спатоліла яго смагу і суняло крыўду, бо як няма бабы, у агародзе якой не расце для ўнукаў бобу, так і кату няма хаты без малака.

Так пачалося яго раяванне на пупе зямлі. Рай жа і ў Афрыцы рай, як у той знакамітай з шматзначнай назвай краіне Гандурас: часам з макам, а часам і з такам. Але ж наракаць не ў звычцы катоў, як самі яны сцвярджаюць, трэба жыць, як набяжыць, што ўжо ўсім, тое і бабінаму ўнуку, у нашым выпадку — таму ж кату, патомнаму Бічу ў бласлаўлёным куце.

А тое, што кут гэты бласлаўлёны, адчувалася тут на кожным кроку. Ён складаўся з сямі палян і сямі курганоў, бачных здалёку і адусюль — як гэта было і на прарадзіме славянскага і праваслаўна-боскага колішняга чалавечага братэрства. Як і тады, там, паміж гэтых курганоў, бруілася некалі, пэўна, велічная, а цяпер ужо сціплая рачулка. Курганы, відавочна, у свой час былі яе берагамі, а сёння адбегліся, адцураліся ракі, ці яна адцуралася іх, і тырчэлі, як сем пупоў, сярод зялёнай роўнядзі азімых, яравін і некранутых плугам неўрадлівых палян, на якіх, як на святочных сталах, засланых белымі настольніцамі, раскашавалі, правілі баль, а мо і трызну, людзі, што ў свой час у сівой даўніне жылі тут.

На некаторых жа з курганоў яшчэ і сёння не сатлелі сляды былых селішчаў, гмахаў, а мо і палацаў. Пры памяці яшчэ тутэйшых жыхароў на адной з курганных выспаў стаяла царква, на другой — помнік цару — вызваліцелю ад прыгонніцтва, на трэцяй месціўся маёнтак пана. Чацвёрты ж курган, па ўсім, яшчэ з часоў паганства быў прыстасаваны ці не пад ахвярнае капішча, бо і сёння людзі і нават звяры і нагой не патыкаліся яго. Нядобрае, гаварылі, месца, паганае і злое, мярцвіла, не трывала жывога духу. І толькі адзін, зусім ужо стары і нягеглы дзед распавядаў, што вяла на вяршыню той выспы торная дарога, хоць па ёй ніколі ніхто не хадзіў. А зручна было, дарога напрасткі злучала дзве вялікія вёскі, а ўсе, хто ні ішоў, давалі кругаля. На саменькай ужо вяршыні кургана стаяла нешта ўвогуле недалыжнае. Незразумелае і нязвыклае гэтаму краю: камень пад нейкі будучы помнік ляжаў, ці помнік з каменю, а мо то і сам зямны пуп пагрозліва вытыркнуўся тут. Здалёку дык крыху нагадваў чалавека, што ўрос па тулава ў курган. Бліжэй — як на самай справе пуп, няўмела завязаны ці ўжо трохі развязаны, распяразаны, зморшчаны павевамі вятроў часу. Зусім жа зблізу... Ніхто не мог з пэўнасцю сказаць, што, бо ніхто не наважваўся падысці паглядзець. Гадалі. Больш маладыя кпілі: наш неапазнаны лятаючы аб'ект, толькі ляжачы. Гаварылі так таму, што мода тады пайшла на гэтыя неапазнаныя лятаючыя аб'екты. І вялікае мноства развялося іх па ўсім свеце. Вёска прагнула таксама займець яго, убачыць на свае вочы. Але ніяк з-за свайго невуцтва, а мо і цемрашальства не магла зразумець, як усе сведкі апазнаюць тыя неапазнаныя лятаючыя аб'екты. Тое, што яны сапраўды неапазнаныя, лятаючыя і аб'екты, а не што-небудзь іншае. Напрыклад, сусед вынес на двор і з прыкрасцю шпурнуў у неба праз плот галавешку, што, апошняя, доўга тлела ў ачахлай ужо печы, выстуджваючы хату.

Так тут жартавалі. Але жарты жартамі, а гару з каменным ідалам усе абыходзілі бокам. Толькі неяк пасля вайны знайшоўся адзін мужны. Салдат, што вярнуўся з фронту і быў смелы, забавіўся на вечарынцы ў суседняй вёсцы, пайшоў напрасткі, і дзяўчат, якія былі разам з ім, пацёг за сабой. Без прыгод яны дасягнулі вяршыні пагорка. І тут убачылі перад сабой дзіўную постаць. Нешта ўзвышалася перад імі там, дзе быць каменнаму балвану. Нешта захутанае ў вялікую белую прасціну. Дзяўчаты пудліва прыціхлі, а салдат кінуўся наперад ім і сцягнуў тую прасціну:

— Заўтра прыйдзеш прасіць, а я не аддам... — выгукнуў.

У адказ яму быў гучны рогат, полымя і страшэнны выбух. І больш таго салдата ніхто не бачыў. А ўсе дзяўчаты, што ішлі разам з ім па кароткай дарозе праз горку, доўга хварэлі і ціха адышлі на той свет.

Вось такія тут дзівосы з мясцовымі курганамі. З адным толькі, астатнія, здаецца, мірныя і лагодныя. На іх і сёння моладзь ладзіць на Купалле і Сёмуху гульбішчы і любошчы. Паганцы, нашчадкі паганцаў, таму так і бавяць свой малады час. Праўда, не занятымі цяпер засталіся толькі тры з курганоў. На самым вялікім аднавілі, узвялі зноў царкву — святой Ганны. Наводдаль ад яе паставілі на другім кургане зноў помнік цару-вызваліцелю. На падноўлены п’едэстал прыладзілі мармуровую дошку, што адшукалі ў падмурку былога ў савецкія часы свінарніка, цяпер разбуранага з-за адсутнасці свіней. Трэці курган, на якім месціўся раней панскі палац, асядлаў сваім селішчам нейкі новы рускі, ці пераніцаваны новы беларус — з былых партыйных дзеячаў. На чацвёртым узвялі помнік жыхарам і салдатам, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Так што вольнымі засталіся толькі два курганы. Адзін з іх небяспечны. Над ім і коршак ніколі не кружыў. Толькі стары і самотны груган наважваўся праведваць яго. І

тое — у змроку ўжо, амаль уначы, мо часам і начлежнічаў там.

І Біч у першы ж вечар змеціў, як той сівы груган стомлена, ледзь варушачы крыламі, у прыцемках пацягнуў да ідалішча і прапаў недзе каля яго. І як пранізліва і падазрона Біч ні ўзіраўся туды, угледзець таго гругана не здолеў. Ідалішча бачыў, а гругана — не. Нібыта тое ідалішча і было самім груганом. Біч узяў гэта на прыкмету сабе і быў рады нават, што яму будзе чым заняцца. Такіх загадкавых заняткаў у яго ўжо была процьма. Таямнічы быў край, загадкавы, мо нават і празмерна таямнічы і загадкавы.

Паміж курганоў блішчэла сем адводкаў, ад ракі. Адводкі гэтыя былі ўжо рукатворныя. Па іх, пэўна, каталіся на лодках, ладзілі рэгаты і спаборнічалі калісь паны і панскія госці, забаўлялі паненак, прызначалі ім рамантычныя спатканні на вадзе, сярод квецені белых і жоўтых гарлачыкаў, пад навісам вецця задумлівых вербаў, што з абодвух бакоў атулялі водныя каналы. Відавочна, колішнія паны добра разумелі прыгажосць і што такое жыць у сваю асалоду. Былі з так званых культурных. Род мясцовых паноў і сёння яшчэ не страціў слыннасці і знакамітасці, хаця рэвалюцыя і раскідала яго па ўсім свеце. У Амерыцы, Канадзе, Францыі ды Італіі і ў нашы дні жывуць мясцовага паходжання музыкі, скульптары, мастакі, біёлагі і фізікі. Спарадзіў іх тутэйшы рай, сёння, на жаль, прыкметна спаганены і прыніжаны, але ж цалкам яшчэ не спустошаны, не вынішчаны. Мо ад яго мінулай слыннасці, ласкі і даброт павялася і яго каціная парода, нізведзеная цяпер да бічавання.

Толькі коцік на новым месцы пра сваё былое бічаванне адразу ж забыўся. Жыццё пайшло такое, што не было калі ўзгадваць мінулае. Не хапала дня, каб засвоіць і павітацца з бягучым. Былы яго знаёмец сабака, артыст і спявак, некуды час ад часу знікаў, прападаў, як гэта ці не заўжды надараецца з усімі сапраўднымі

талентамі ў няўчассе, падаваўся ў старцы ці хаваўся недзе пад плотам. А сужыцель яго і ўладальнік, былы таксама таленавіты артыст і рэжысёр сталічнага тэатра, ужо наступным ранкам галасіў за агароджай хаты, клікаў гаспадара:

— Тры рублі пазычце. Цыгарэты выйшлі. Хлеба няма...

— І пераначаваць няма дзе, — не без з'едлівасці зазначыў гаспадар, таму што добра ўжо ведаў свайго суседа.

— Не, пераначаваць ёсць дзе, а вось з іншым...

— Дык на тры рублі што ты іншае можаш купіць?

— Ну, не тры рублі, а тры тысячы, якая ўжо тут розніца. Зняўшы штаны, па валасах не гладзяць. Аддам заўтра ці пазаўтраму.

— Разлічымся на тым свеце вугалькамі, — казаў гаспадар, працягваючы пяцёрку, ці пяць тысяч рублёў, і добра ведаючы, што ніякага заўтра і пазаўтраму не будзе. Але такая ўжо тут была завядзёнка, своеасаблівы вясковы рэкет: плата тубыльцам, каб нічога не цягнулі з селішча і, крый божа, не пусцілі чырвонага пеўня.

Рэжысёр браў пяцёрку і не без годнасці кланяўся, схіляў галаву, гладзіў ката і дадаваў:

— Премного и исключительно благодарен. Буду міма ісці — занясу.

«Ага, занясеш, — думаў пра сябе Біч, але думаў не здзекліва, са спагадай. — Занясеш, калі не надарвешся», — і не ўтрымліваўся, жаласліва і без грэблівасці, хаця і без замілавання, лізаў даўно не мыты палец, які беспамылкова знайшоў за вушамі ката самае радаснае яго месца.

Добрасуседства было наладжана. Цяжэй гэта далося з сабакамі, маці і сынам — Сенькай і Сэмам. Усім вядомае: жывуць як кот з сабакам — спраўджвалася і тут, у раі, і ці не з падвоенай сілай. Надта ж чуйнымі аказаліся маці з сынам. Біч не паспяваў і з хаты выйсці, ступіць за парог, як яны ўжо ўзнімалі вэрхал і на злом галавы капацелі са

свайго ганка, на якім да гэтага бестурботна палежвалі, уграваючыся на сонцы, няйнакш як нашкіпінараныя ці шыльцам пад хвост прыспешаныя.

Біч, калі трохі ўжо асвойтаўся і паразумнеў, прыстасоўваючыся да глупства сабак, пачаў іх дурыць, таму што, як вядома, ад лому няма прыёму, апроч другога лому. Кот цішком праслізгваў следам за гаспадаром ці гаспадыняй з хаты. Тут галоўнае было, каб не прышчамілі хваста. Але на гэта ў ката хапала спрыту. Таксама цішком ён пракрадваўся да суседскага плота і зноў жа скрадліва па плоце, паліруючы яго чэравам, узбіраўся на самы вільчык варот. Сабакі маўчалі, і ён нейкі час маўчаў. А потым нечакана і прарэзліва дурным і даволі гнюсным голасам пачынаў верашчаць. Маці з сынам адразу ўскідваліся і ледзь не збівалі адно аднаго з ног, імчалі на гэты голас. Вар'яцелі ад шаленства, скакалі адно перад адным, нібыта танчылі. Усім целам біліся аб жалезныя вароты, усё роўна як намагаючыся паваліць. Але вароты сусед варыў трывалыя, узяць іх можна было, пэўна, толькі дынамітам.

І Біч адно здзіўлена наглядаў зверху за іх раз'юшанымі скокамі. Тапырыў вусы, пасміхаўся ў іх і як у непаразуменні хітранька лыпаў вялізнымі і бліскучымі, зялёнымі ад радаснага ўзрушэння вочкамі. Запытальна схіляў уніз, да сабак, цяжкую галаву: чаго вам, ёлупні, трэба, з чаго гэты вы так усхадзіліся? Хочаце пагаварыць — калі ласка. Залазьце да мяне, пагаворым.

Такі здзек Біча з сабак доўжыўся іншым разам да гадзіны, пакуль з двух бакоў не прыбягалі ўстрывожаныя гаспадары. Прарабляў такое з сабакамі Біч больш удзень. Удзень, пры сонцы, цікавей было, ды і сведкі меліся. Але іншым разам штукарыў і ўначы, асабліва пад поўню, калі чамусьці вельмі хацелася сваволіць, гарэзіць, а мышы вакол, наадварот, рабіліся такімі пільнымі і асцярожнымі, што амаль да самага ранку ў Біча бурчэў і з некім перагукваўся пусты страўнік. Вось тады ён

і вучыў, настаўляў сабак, як патрэбна паводзіць сябе суседзям з ім, катом. Толькі на вароты ўжо не дзёрся, сноўдаў каля шчытна збітага плота, а не, дык і шморгаў праз маленькую, з мышыны лаз, дзірачку, прыгледжаную загадзя, праз плот, трохі пракудзіў там і перабіраўся зноў на сваю законную тэрыторыю. А суседскі падворак разлягаўся ад сабачага енку, тупату і брэху. Суседзі ж ранкам беглі да яго гаспадароў прасіць, каб яны не выпускалі нанач ката на двор.

Біч шыўся пад печ, слухаў іх гаворку і думаў сам сабе: чаму гэта яго не трэба ноччу выпускаць на двор? Ці не лепей узяць на шворку сабак, што ён у параўнанні з імі? Яны ж такія вялікія і дужыя. За чужую дурасць ні адзін кот не павінен адказваць.

— То, пэўна, вожыкі, вожыкі поўзаюць па падворку і нервуюць вашых сабак, — адгаворваліся гаспадары. І тут Біч звычайна вылазіў з падпечча, выцягваўся ўсім целам на падлозе, аж прыпадаў да яе пысай, носам, узняўшы ўгару азадак, пазяхаў, як пераконваў, што ён сапраўды ні пры чым, што ён не ён і шкода гэта не яго. На самай справе вожыкі, вожыкі, мышаеды гэтыя, ва ўсім вінаватыя. І не заўсёды лгаў. Вожыкаў у наваколлі было шмат. Аж пяцёра жылі пад яго хатай. Біч даволі часта наглядаў, як яны — чацвёра маленькіх і пятая маці — шэрымі клубочкамі каціліся па садзе, шапочучы па апалым лісці, і, нячутна слізгаючы па роснай траве, выходзілі з нары ці лежбішча больш ранкам альбо ў прыцемках. Так што Бічу тут шанцавала, было на каго спісаць яго начныя забаўкі. І лішні раз пад гэтых вожыкаў можна было беспакарана пацвеліць сабак.

Але шанцавала яму ўсё ж да пары да часу. Як водзіцца, калі ўнадзіўся жбан па ваду хадзіць, то пакуль ужо не разаб'ецца. Так і з ім, як з тым жбанам, адбылося. Знянацку, нечакана для сябе, наскочыў аднойчы на сынка, і добра яшчэ, што на дурнаватага Сэма. Хаця ён, пэўна, быў не такі ўжо бязмозглы, спецыяльна,

пакінуўшы маці, падчэкваў яго каля лазу праз плот, дзе ім найбольш патыхала. Паныла, відаць, даўнавата ўжо сядзеў перад той дзіркай, як ён жа сам перад мышынай нарой. Толькі што ў носе не калупаўся. Сабачая цярплівасць усё ж саступае кацінай.

Біч толькі паткнуўся на чужую тэрыторыю, як Сэм чорнай хмарай навіс над ім, але ўхапіць і нават абслініць не паспеў. Біч кульнуўся ад яго пашчы праз спіну і ўжо памкнуўся даць лататы. Ды куды толькі? Наперадзе раз'юшаны хіжы звер, адзаду агароджа, з правага боку асіна, з левага — бяроза, і ён што тая ліса перад воўкам, зашчэмлены паміж дрэвамі. Уцячы было немагчыма. Дый дзе гэта відана, каб каты ад сабак бегалі, калі ім, бедным, дзявацца няма дзе: смялейшага за зайца на свеце звера няма. Біч без доўгіх ваганняў уступіў у бойку з аўчаркай.

Спачатку, для папярэджання, урэзаў яму лапай, напоўніцу выпусціўшы кіпцюры, па носе. У галаве яшчэ мільганула, які ж ён малайчына, што не даўся гаспадыні абрэзаць тыя кіпцюры, як прадчуваў, што самому спатрэбяцца. І спатрэбіліся. Кот, што індзеец, які здымае скальп з грынга, зачапіў валасатую скуру Сэма на галаве, ледзь не нацёг яе таму на нос. І раз'ятраны Сэм быў ужо гатовы на забойства. Але і Біч быў на гэта гатовы, што ён і пацвердзіў у наступнае імгненне голасам. Па-вужынаму, толькі больш працягла і густа, сыкнуў, сцяўся ў жалезны камяк — з усіх бакоў не поўсць, а спрэс калючы дрот — і тым камяком, пыхаючы ці не маланкамі, прынайтаваўся да зямлі, агаліўшы выскал белых бязлітасных скальпелькаў-зубікаў: мілуй жа мяне такога, вазьмі за рубель дваццаць.

Не з вялікага, канешне, розуму Сэм паспрабаваў узяць. Толькі зноў жа, які б ні быў сабака, ён здольны ўзяць ката і нават парваць, калі той не стаіць, а бяжыць. І Сэм атрымаў ад Біча ўсё належнае яму. Заліўся юшкай, так кот узараў яму смаркаты нос. Дзіўна было, як

ацалелі вочы. Ад болю, а мо і ад нечаканасці такога з ім абыходжання і крыўды, сабака зайшоўся нутраным працяглым хрыпам. Біч адчуў у яго ўсё яшчэ грознай паставе здзіўленне і нават нерашучасць. А ў чорнай глыбіні па-іўдзейску заўсёды сумных, павернутых у сябе вачэй Сэма — пробліск думкі. Збег адразу вялікага мноства думак, хаця і не надта пэўных: разгубленасць, павагу і... І паразуменне.

Так гэта было ці не, але з тае бойкі Сэм абыходзіў яго бокам, дарогі не саступаў, але і не кідаўся напярэймы кожнаму кроку Біча. І брахаў хутчэй па абавязку, чым па сапраўднай злосці і нянавісці, як бы пры гэтым ні правакавала, ні падбухторвала яго маці. Біч у раі, па ўсім, набываў статус грамадзянства. І наперадзе ў яго за гэты статус было яшчэ мноства боек, перамог і параз, хаця ў наш час сцвярджаць, дзе ў нашым раі перамога, дзе параза, немагчыма. Рай, мо як і пекла, не ведае і не прымае межаў размеркаванасці. Усюды трэба хадзіць асцярожна і азірацца. Калі сапраўды хочаш жыць і раяваць на гэтым свеце. Біч лішні раз упэўніўся і спатыкнуўся на гэтым, лічы, на роўным месцы.

Разам з гаспадаром з нейкага часу ён наладзіўся хадзіць на рыбалку і ўпадабаў гэтую справу. Бічу было прыемна і капаць разам з гаспадаром чарвякоў увечары, наглядаць, як яны вычварна круцяцца, апынуўшыся на святле, і іншым разам чапянуць лапай, каб не выдзыгаліся, супакоіць, на зуб жа браць гідаваў. Усцешна было яму яшчэ на падыме сонца свежым росным ранкам следам за сваім чалавекам выйсці з хаты. Праўда, сышоўшы з ганка, мокрай травой грэбаваў, усё ж хоць і былы, але інтэлігент. Пакуль можна было, ішоў па жэрдках плота. І толькі калі яны заканчваліся, саскокваў долу. Але і тут сцярогся тупкай сцежкі. Трапіўшы на траву, спяшаўся да сухенькага і не парослага ёй месцечка, высока ўздымаючы пярэднія лапы — адну, другую — і страсаў

ці то пыл, ці то вільгаць, як пасля ўмывання. Нічога не скажаш, акуратыст быў, распанеў у раі.

І далей міла-дорага было глядзець, як яны ўдвух з гаспадаром крочаць па дарозе да рэчкі. Чалавек клопатна, засяроджана, таксама ж клопатна, маўкліва і кот. Такі суладны рух у прадчаканні любага абодвум занятку, кароткія хвіліны былі больш за ўсё па душы Бічу. Ён быў роўны з чалавекам, сябра, таварыш і паплечнік, хаця іншым разам цягнуўся за гаспадаром ценем збоку ці адзаду, нібыта баяўся, што той перадумае і паверне дамоў, а ён заступае яму туды дарогу.

То былі хвіліны, што рэдка выпадаюць нават паміж роднымі і блізкімі людзьмі. Хутчэй гэта пра іх кажуць: ціхі анёл праляцеў, ці Бог па небе, а мо і па душы чалавека ходзіць босым. Хвіліны, калі ва ўсім наваколлі, па ўсёй зямлі панавала ўжо адно толькі — лагода. Паразуменне і пяшчота ва ўсім існым. Свет быў толькі-толькі, якую хвіліну таму, створаны. І ў ім не было яшчэ ні сквапнасці, ні зла, ні хіжасці, звер і чалавек — калі ён ужо меўся — былі адзінымі ў памкненні проста жыць і бласлаўляць жыццё.

Братэрства, вялікая і непарушная братчына.

Вось так было і на самым ранні, калі кот з чалавекам кіраваліся да рэчкі, да вады, з якой абодва ў пэўны час выйшлі, з'явіліся на свет і ўпершыню здзівіліся яго прыгажосці і таму, што яны ёсць. І на волкіх яшчэ барвах сонечнага агню і зямной і не прасохлай, не ачахлай яшчэ з ночы спатнеласці пачатку новага дня яны абодва былі што дзеці. Дзеці, якія яшчэ мо і не нарадзіліся, з улоння маці толькі праглі дабрыні гэтага свету і віталі яго. І больш гэтай прыязнасці і вітальнасці, нікуды не дзенешся, а мусіш прызнаць, больш было ўсё ж у звера, у ката.

І кот, звер чараваў ёй чалавека, бо менавіта ён быў бліжэй да зямлі. І чалавек на абуджэнні яе падпарадкоўваўся і прымаў яго зверхнасць, бо гэта

звярынае прыманне свету было і яго сутнасцю. А Біч, што нячутным ценем цягнуўся за ім, толькі сцвярджаў гэта. Нагадваў, хто на самай справе на гэтым свеце гаспадар, у каго болей духу і не згубленай, не страчанай яшчэ зямельнасці, хто нас мо якраз таму на гэтым свеце і зменіць.

Хаця Біч меў мо большую схільнасць не да ракі і вады, ціхмянай прахалоды. Не хапала ў іх полымя, агню, супрацьпаказаны агонь вадзе. А кот і ўначы іншым разам бліскаў з поўсці іскрамі. Было ў яго іх, зямнога і нябеснага аганьку, празмерна. Забаўляўся так, каб не страціць сваё, кацінае. Да ўсяго, нашчадкавай яго памяці спёка была бліжэй. Спёка і гарачыня пяску. Але ж, як кажуць, з ваўкамі жыць — па воўчы выць. Толькі хто як выў, гэта яшчэ пытанне і пытанне. Біч трымаў свайго гаспадара ў лейцах. Не даваў яму волі ісці і рабіць што-небудзь без яго дазволу і прысутнасці, хаця той думаў інакш. Адвечная памылка чалавека, яго самасці. А насамрэч... Усякую справу Біч патрабаваў ад чалавека ўзгадняць з ім. А калі чалавек настырыўся — заплятаў яму рукі і ногі. І ў чалавека мімаволі ўсё падала з рук, ён спатыкаўся і галавы не мог прыкласці, чаму.

Так, Біч заўсёды трымаў свайго гаспадара ў лейцах. Калі ж у таго была ўжо вельмі пільная патрэба сысці ці з'ехаць куды-небудзь аднаму і далёка, бег за ім да самага расстання. І не проста бег, а крыкам крычаў на ўсю акругу, толькі што без слёз плакаў, абурана скардзіўся, бо без яго пачуваў сябе адзінока і пакінута. Сумесныя ж паходы на рыбалку абуджалі яго прыдатнасць чалавеку, годнасць і цеплілі яго маленькае сэрца, што так прагла дабрыні і, пэўна, ужо і кахання.

Тым больш што рыбалка была яму спажыўнай і смачнай. Уся ж яго кацiная радня заўсёды прагнула і прагне апроч малака яшчэ і рыбы. І малаком Біч быў здольны наесціся, а вось рыбай — ніколі, як вясковыя дзеці гарбузікамі. Нават калі выпадала яму той рыбы

ад пуза, і пуза ўжо больш не трымала яе, Біч працягваў каўкаць і прасіць, каб далі яшчэ. Ну хоць маленькую. Няздольны ж праглынуць тую маленькую, хапаў яе, нёс ў грады і закопваў там, на будучае.

І рыбалка ў Біча заўсёды была ўдалай у адрозненне ад гаспадара. У рацэ, падобна, вадзілася і буйная рыба, білася ж, ускідвалася, толькі кругі і хвалі па вадзе. Але гэта вялікая рыба чамусьці кожны раз абмінала вуды гаспадара. Лавіліся ж маленькія акунькі, плотачкі і печкуры пад іх жа памеры — дробязь і непатрэбства. Непатрэбства гаспадару. Тут жаданні і погляды гаспадара і ката разыходзіліся. Таму кату было іншым разам і ніякавата, маліў неба, каб тое пасылала як мага больш менавіта драбязы, бо яна ўся з прыкрасцю выкідвалася на бераг — яму на патрэбу. Біч адчуваў, што гэта нядобра, што ён недзе здраджвае гаспадару, ды толькі захаваць справядлівасць, утаймаваць і перасіліць сябе не мог. І каты не святыя.

І дзе ж тут перасіліш, набярэшся справядлівасці, калі драбяза, непатрэбшчына — гэта яго. І яна такая смачная. А смаку дарослых, больш-менш прыстойных рыбін ён не ведаў, іх складваў сабе ў садок гаспадар.

Абавязкі Біча на рыбалцы былі простыя. Ствараць чалавеку кампанію, сачыць за яго абавязкамі і настроем. Збіраць акунькоў-матросікаў, пячкурыкаў і маленькіх плотачак, што так і наравілі знікнуць, зашыцца ў траву. Але як і дзе ім схавацца ад яго? Кожную рыбіну Біч сустракаў вітальным ускідваннем угару галавы, нехапатлівым позіркам за тым, як яна б'ецца, падскоквае на беразе, усцешлівым і супакойваючым дотыкам лапы да яе пругкага і пахкага яму цела. І ўсмешкай.

Пасля таго, як Біч спатольваў першы нясцерп ласункаў, яго звычайна ахоплівала задумлівасць, з паставай тутэйшага паміркоўнага колішняга дзядка. Ён не без ласкавасці, мякенька прыціскаў рыбку да травы і то даваў ёй вольнасць, то зноў нерухоміў, нязводна

трымаючы яе ў сваім сузіральным полі зроку. А сам пры гэтым як бы адсутнічаў ці быў вельмі далёка ад яе. Далёка ў часе і прасторы, мо нават там, дзе той рыбы было яму ўдосталь. Пэўна, узгадваючы тую шчаслівую пору, Біч пачынаў гуляць з рыбкай, ні даць ні ўзяць — як футбалісты з мячыкам на стадыёне на пацеху гледачам. Падкідваў угору іншым разам і праў, прымаў на галаву. Толькі гэта яму хутка надакучвала, мо не надта быў прыязны да таго футболу, а мо і таму, што не было гледачоў. А больш, пэўна, таму, што з рыбамі гуляць было нецікава: рыба ж не мыш, мазгоў у ёй усё ж малавата. Яе трэба есці, і ўсё. Што Біч спраўна і прарабляў — чаго ж гэта ён з самага ранку ногі вярэдзіў.

Быў у яго на рыбалцы і яшчэ адзін абавязак: сачыць за паплаўком. З гэтым, праўда, спраўляўся і сам гаспадар, толькі ён, кот, лепей. Вока больш спрактыкаванае на самыя нязначныя ўхілы паплаўка на вадзе. А да кручка часам падыходзіла такая драбяза, што толькі ён здольны быў гэта змеціць, адчуць. І тады Біч ці падаваў голас, ці торкаўся лобам у локаць рыбаку. Такім чынам ён адрабляў сваю прысутнасць на рыбалцы, даказваў, што не нахлебнік, не тусовачны дармаед, халяўшчык, хаця пра яго гаспадар іншым разам і забываў.

Гэта калі траплялася надта ўжо маленькая рыбінка. Гаспадар з абурэннем здымаў яе з кручка. Пляваўся і раздражнёна шпурляў зноў у ваду, звычайна прыгаворваючы:

— Ідзі назад, прывядзі маму...

Тут ужо абураўся з бязглуздасці чалавека Біч: навошта тая мама, не хапала яшчэ жанчын на рыбалцы. Хай Сэм пільнуецца сваёй мамы, а яны ж абодва самастойныя. І ў такія хвіліны быў гатовы спіхнуць чалавека з берага ў рэчку ці кінуцца ў яе самому: такая ж смаката — і міма зубоў. Яго законная здабыча марна ляснулася. Але ўсё роўна пры ўсіх недарэчнасцях гэта быў сапраўдны рай і яго сапраўднае раяванне ў ім пры рэчцы і з уловам.

Хаця гаспадар часам і папікаў яго:

— Лайдак, дармаед вусаты. Любіш соладка есці, Любіш катацца — любі і саначкі вазіць. Ладзь вуды і здабывай сабе харч сваім гарбом.

— А твой горб навошта? — муркаў яму ў адказ Біч. — Колькі ездзіць на ім, не аруць, не сеюць...

— П'явак і на дарослай рыбе хапае.

— Дык ты мяне не толькі за дармаеда, але і за п'яўку маеш? І тут, у раі, на мяне Санёк завёўся.

— Не, не, мурло вусатае. Ты велікаваты, нават занадта вялікая мне п'яўка...

Чарговае нішто на кручку спыняла іх сардэчныя перамовы, прымірала аднаго і выклікала ўжо сапраўднае абурэнне другога.

Вось так яны мілаваліся каля вады і мілавалі адзін аднаго.

Але, як гаворыцца, нядоўга музыка іграла. Так ужо заведзена на гэтым свеце, варта толькі распусціць губу і аддацца шчасцю, як цябе адразу ж тварам аб падлогу, а то і ў што-небудзь больш гідкае і нават смярдзючае. Найбольш крыўдна — у сваё ж, каб не надта патураў ты самому сабе і не забываўся, што свет вялікі і ў ім намешана ўсяго як у торбе з вялікага горбу. Калі вечарам табе край весела і смешна, то няйнакш заўтра зальешся слязьмі. Такія пераборы ва ўсім і паўсюдна. Выключэнняў няма. Біч недзе ўжо трохі ведаў пра гэта, трохі здагадваўся, але толькі трохі. Поўнае веданне ўсім і кожнаму даруецца толькі ў апошнюю хвіліну, калі позна ўжо вучыцца і ўспрымаць навуку. Часам позніўся вучыцца і Біч, і найбольш цярпеў ад гэтага, таму што пачынаў звыкаць жыць у дабры, на ўсім гатовым, што супярэчыць існасці і сутнасці жыцця. І гэта спраўдзілася ў самым хуткім часе.

## РАЙ ПАЧЫНАЕ ПАКАЗВАЦЬ ЗУБЫ

І не толькі зубы, але і кіпцюры. Вельмі жорсткія і бязлітасныя, хутчэй пякельныя. Біч зведаў іх, калі выправіўся да ракі на тую ж рыбалку. Толькі ўжо адзін, без гаспадара. Дарога была знаёмая, і вада знаёмая, і рыбы ў ёй, прынамсі драбязы, не паменела. Нікольki яна яшчэ не вырасла, была і заставалася яго наедкам і здабычай. Але колькі ён ні паласкаў лапы ў вадзе, ні выстаўляў кіпцюроў накшталт кручкоў, гэты наедак брацца не жадаў, абыходзіў бокам. Ды яшчэ і пацвельваўся, плёхаўся то пасярэдзіне, то зусім каля другога берага. Калі што да яго і падплывала, — з макавую расінку і такое вёрткае і непаглядна празрыстае, як слюдка крыла пчалы ці слязінка на шчацэ немаўляці, што Біч пры ўсім сваім спрыце і ўмельстве на якія б там ні было ловы кожны раз заставаўся з носам.

І тут ці не ў адчаі ўжо распазнаў нешта прыдатнае і вельмі ж спажыўнае яму на той час. Цень спачатку ўбачыў, і пакручасты, звілісты вірлівы струмень вады за тым ценем, і імкнуў ён да берага, на яго. Біч падрыхтаваўся сустрэць яго належным чынам, як сустракаў усё, што бегала, лятала ці поўзала, а ў дадзеным выпадку і плавала. Вялікага страху ў сваім жыцці ён яшчэ не ведаў, хаця абачлівасці яму не бракавала, але меркаваў, што вялікі страх — гэта таксама нешта вялікае, накшталт суседскіх сабак, з якімі ён цяпер лёгка спраўляўся.

А тут з вады выпаўзла нейкае непаразуменне. Так, даволі ладных памераў, страх, страх, але ж не да жуды. Нешта падобнае на знаёмых яму ўжо мышэй. І хвост такі ж доўгі, і вушкі як мышыныя, і мордачка, толькі ў некалькі разоў большая, з раздабрэлага пацука, адно — масці іншай, не шэрай і чорнай, а рудой, як бы падсмаленай. Мыш напалову ўжо вараная ці печаная. Ды, падобна, недапечаная ўсё ж. І піскнула амаль пamышынаму:

— Ну, усё, трапіў жучка ў панскую ручку. Адальюцца вусатаму мышкіны слёзы.

Пагрозліва так піскнула. Толькі тая пагроза была вечнай у мышэй. Каты слухалі ды спраўна харчылі іх. І цяпер Біч адпаведна адказаў вялікай мышы:

— Укусіла жучка сабачку за балючае месца, за...

Але ж не хлусяць, калі гавораць: і крывая палка аднойчы страляе. Часцей, праўда, у печы, у агні. Біч спазнаў гэта па-малалецтву, пэўна, запознена. Пагроза толькі пасунула яго да бойкі. Натура. І ён без ваганняў скочыў напярэймы свайму адвечнаму пагражальніку: пакусаемся, пагуляемся. Так уж нарачона, і не толькі катам: перад тым як схарчыць некага, — пагуляцца з ім і прылашчыць, саладзей есца.

І толькі ў скачку ўжо, калі нягожа было адступаць і нешта перайначваць, адчуў, што творыць самому ж сабе бяду. Адчуў па жоўтых, прыпечаных, уклёпаных у пашчу іклах, па імгненна набытай невядомай яму істотай стальной напружанасці падсмаленага, як яму спачатку здалося, цела, па адчувальным паху забойства, прагі крыві і знішчэння.

Але адступацца было позна. І Біч ухапіў пасланца, бясспрэчна, самой апраметнай за шыю. Толькі спрабаваць перакусіць тую шыю было тое ж самае, што і дрот. Істота вылузнулася, прыняла баявую стойку. А быў гэта вадзяны пацук, якога каты няздольны ўзяць не столькі з-за іх сілы, як зацятасці, заўсёднай падрыхтаванасці да нападу і забойства, нават бяссэнсавага.

Біч гэтага, канечне, не ведаў. І мо толькі няведанне выратавала яго тады. Бойка доўжылася не менш за

гадзіну. Каштавала кату пакусанага носа, скрываўленай і скасабочанай морды, амаль адарванага вуха. А за што найбольш ганебна і крыўдна было кату — пацук укараціў яму хвост. Пэўна, прыдушаны ўжо Бічом да страты пульсу, намёртва, на апошнім выдыху ўхапіў ікламі за хвост. Як ні напружваўся кот, колькі ні матляў ім з боку ў бок, не адпусціў, пакуль той не адарваўся.

Біч яшчэ доўга аддыхваўся на беразе рэчкі, пазіраючы на супакоенага ўжо назаўсёды пацука. Яму цьмяна мроілася прысутнасць каля яго яшчэ нейкага трэцяга, расплывіста-прывіднага. Па ўсім, ён і дапамог яму, бо сам справіцца з гэтай узніклай з вады пачварай Біч не здолеў бы. Зубы яе ўжо былі на яго глотцы, што смылела яшчэ і цяпер. Жыць жа яму заставалася зусім нядоўга. Але тут як бы каляровы туманок, туманок яго разрэджанай крыві, ускалыхнуўся перад яго вачыма. То было нешта жывое, хаця і нябачнае. І адразу ж іклы пацука на яго глотцы расцяліся, нібыта хтосьці наступіў і расчавіў пачвару, прыгнёў, так, што іклы выпнуліся і разышліся. Каляровы туманок уваччу і перад вачыма знік, Біч адчуў палёгку ў дыханні і астатняе з пацуком дарабіў сам, праўда, цаною страты хваста. Хваста было шкода, але больш карцела паглядзець на выратавальніка. Толькі нікога ні побач з ім, ні на вадзе не было. Але Біч быў упэўнены, што быў, быў. І адкуль ён з'явіўся, куды дзеўся? Адно толькі мовіў: «Выжывае дужэйшы і гожы. Жыві, пакуль я дабрадзейны».

Нешта надта ж ужо часта яго рай пачаў сутыкацца з апраметнай, як ушчыльную сышліся яны тут. Сашчапіліся, і ў гэтым сашчапленні якраз і апынуўся ён, Біч. Шанцуе гэтым Бічам, няма толькі на каго перакласці гэты шанец, падзяліцца з кім шчасцем, што выпала на іх долю. І Біч пацягнуўся дадому, цяжка несучы ў чалавечую хату сваё кацінае шчасце і змадзелы ўкарочаны хвост, нават не азірнуўшыся на яго рэшткі, ахвяраваныя ў гонар яго перамогі. І ад таго было яму крыху непамысна: чаму

гэта ўсе перамогі даюцца стратаю хваста, як ты яго ні падцінай? Калі і далей так, хутка ўсе навокал будуць бясхвостыя. І ці не сам чалавек застаўся без яго з-за сваіх вялікіх перамог?

Ён да сутоння адседжваўся пад насцілам каля хлява, залізваючы раны і збываючы ганьбу, гоячыся прахалодай сырой зямлі. І толькі пасля заходу сонца, у цемры сарамліва праслізнуў у хату, зашыўся пад печ і не паказваўся нікому на вочы цэлы дзень. Гаспадар убачыў яго толькі пад вечар наступнага дня, калі ён вылез на святло, і не столькі паесці, а схадзіць на двор і чаго-небудзь каўтнуць. Убачыў і жахнуўся, ухапіў на рукі, прыціснуў да сябе. І яны абодва доўга і суладна плюскалі крыху вільготнымі затуманенымі вачыма. Біч баяўся, што яго будуць ушчуваць, лаяць. Але абышлося. Гаспадар пазней ужо, калі ўсё пачало зарубцоўвацца, нават быў і недзе рады, канечне, не баявым ранам Біча, а страце ім кончыка хваста. Каб жа зразумець і падзяліць яго радасць, варта толькі прыгледзецца да вясковых катоў. Амаль усе яны караткахвостыя. Гаспадары, а больш гаспадыні ў пэўны час абсякаюць ім хвасты, каб больш пільнаваліся сваёй хаты і не швэндалі па чужых селішчах, і кошках, вядома, таксама. Чалавек нават і катоў, братоў сваіх меншых, падраўновае пад сябе.

Рана ці позна такую ж экзекуцыю свайму кату вымушаны быў бы прарабіць Бічу і яго гаспадар. Але ён усё адкладаў і адкладаў. Шкада было ката, рука не падымалася. А тут вырашылася ўсё само, мо з большымі стратамі і болем, але без яго ўдзелу. І Біч, здаецца, быў задаволены. Стаў спакайнейшы — усе спакайнеюць, нават людзі, калі ім абсякаюць хвасты, — больш абачлівы і сапраўды пільнаваўся хаты. Навука трымацца яе, хаця і каштавала страты ўласнага хваста, пайшла на карысць.

Больш пільнавацца хаты, рупіцца і дбаць аб ёй ката вымусілі яшчэ і клопат, абставіны, што ўзніклі са здароўем гаспадара. Біч даўно прыкмеціў, што той

апошнім часам кволіцца. Неяк нават упаў, страціў прытомнасць. Узлез на лесвіцу, каб абрэзаць на вінаградніку каля хлява адмерлае за зіму голле. Бадзёра ўскінуў угару галаву і адразу ж зніякавеў. Няцямна і няўпэўнена намацваючы прыступкі лесвіцы, яшчэ спусціўся долу. А тады пайшоў кругамі, як на добрым падпітку. Потым распаволена і зусім абвяў, лёг на зямлю, доўга намацваючы яе растапыранымі пальцамі, як не ўпэўнены, што ён сапраўды на зямлі, а не на якіх-небудзь арэлях. І Біч зразумеў, што гэта навала, хвароба.

Гаспадар папраўдзе хварэў. Хварэў даўно. Мо і невылечна ўжо. Сялянская звычка — лячыцца, калі позна ўжо, калі, як гаворыцца, і да Лучанка прыходзіць Ханок. Асабліва блага пачуваў сябе гэтай вясной. Таму так і рваўся на лецішча. Там яму лягчэла ад аднаго толькі погляду на маладую траву і незадымленае вясковае неба, а яшчэ больш ад безупыннасці таго кола абавязкаў, што накладвала на яго вясковае жыццё, яго пячорнага ідыятызму. Хаця гэта прыдумка гарадскога лайдака і ненавісніка вясковага люду. Гэты ідыятызм надае ім жыццё: корміць, поіць і смешыць. Дазваляе жыць і пасвіцца. Менавіта дзякуючы яму ён адчуваў бясконцасць зямлі і свайго існавання, хаця і прыгаворанасць. Адвечную і адначасова прывідную прыгаворанасць жыць і не жыць, быць і не быць, з кароткімі ўсплёскамі асэнсаванасці і непадробнасці свайго існавання, існавання ўкладзенай і запаленай у ім іскры Творцы. Гарэння і выгарання пакідаючы пасля сябе не толькі попел, але і жар.

І той жар, тая іскра ў ім была ўжо на сыходзе. Доктар, свяціла навукі, прафесар, а мо і акадэмік, да якога ён прабіўся на прыём, пасля даследавання на розных медыцынскіх прыборах і прыладах, гожых і бліскучых навуковых дурылках, прызначыў яму толькі год жыцця:

— Сасуды галаўнога мозга — поўная нікчэмнасць і ўбоства...

Прафесар ці акадэмік паходзіў з мужыкоў, з тых, каго называюць глыбамі чалавецтва. І гэта глыба перад ім была з вялікім залатым ланцугом на шыі і груwасткім ці архірэйскім, ці мітрапалітаўскім крыжам, таксама залатым. Мо таму і лічыла за лепшае не стрымліваццa, рэзаць праўду-матухну ў вочы, і, здаецца, не без асалоды і задавальнення.

— Ідыёт? — адзінае, што знайшоўся на тую хвіліну ён адказаць свяцілу.

— Хто? — калыхнуўся да яго пазалотаю шыі доктар.

— Я, зразумела.

— Хутчэй нябожчык.

З такім прысудам ён быў ужо гатовы і пакінуць кабінет доктара. Але той злітаваўся, спыніў яго на парозе ўжо:

— Запішыцеся ў прыёмнай на чаргу. Дацягнеце — будзем чысціць ярэмную вену.

І ён цягнуў, валачыў сваё цела праз зіму і вясну ў лета, на якое была прызначана аперацыя. Не распускаўся, стараўся не даваць сваёй хваробе патачкі, бо гэта было звыкла яму яшчэ з маленства. З таго ж маленства ведаў, што які б дужы ні быў чалавек, а ў яго целе ў наяўнасці амаль усе хваробы свету. Чалавек хварэе ў суладнасці з сусветам. Варта толькі якой-небудзь з хваробаў аддацца, знайсці яе і пачаць думаць аб ёй, як яна адразу ж і акажа сябе. Таму здаўна ўжо ніхто з сялян стараецца не выносіць свае хваробы на людзі, трываць іх моўчкі, самому дбаць пра сваё здароўе. Толькі так і на гэтым трымаецца свет, каб пераканацца ў гэтым, варта толькі ўключыць тэлевізар. Паўсюдна галімае блядства, густа прыпраўленае кроўю: войнамі, тэрарызмам і тэрарыстамі, рабаўніцтвам, галасам: «дапамажыце, дапамажыце» ды забойствамі, крадзяжамі. І хто гэта ўсё прарабляе, як не звёўся яшчэ на зямлі здаровы хлеб, бо чалавека, што яго вырабляў, ужо няма.

Няма ні былога здаровага сейбіта, ні былога дужага аратага. Хлябы з колішняга перайначаны, цвітуць не толькі ў полі, але і на стале, у боханах і скібах. Сеецца і ўзрастае, каласіцца брыдота і пошасць, і труцяцца ёю яшчэ не народжаныя дзеці. Адмаўляюцца нараджацца, бо насенне гнілое. І ўся мярзотнасць жыцця напаказ, напаказ, зімой і ўлетку, і чым далей, то ўсё больш гідасна і нават зухавата, з выхваленнем, безаглядна. А чалавек павінен азірацца, каб чуць і бачыць свае сёння і заўтра. Жыць акуратна і крыху нават патаемна. У бядзе — не стагнаць і жаліцца прылюдна, У шчасці і долі — не прагнуць больш таго, што не здольны праглынуць. Захоўваць сябе і сваё, але не быць і сугнеем.

З перакананасцю ў гэтым ён і ішоў па жыцці, лішне нікому не муляючы вока, не назаляючы ні Богу, ні людзям, ні нават чорту. Хаця яго не аднойчы спакушалі і анёлы, і чэрці. І чарцей вакол яго і ў ім было куды больш, чым анёлаў, толькі ён не надта даваў ім волі. Так ужо склалася ў яго жыцці, што з чарцямі ён ладзіў лепей, чым з анёламі, як, дарэчы, усе ў гэтым кутку, дзе чорт на чорце едзе і чортам паганяе. Іншым разам хлопчык выйдзе надвячоркам на вуліцу, бачыць — кола коціцца ці абруч. Які ж вясковы хлопчык мінуе, каб не прыбраць яго, не палянуецца нагнуцца, ускінуць на штыкеціну?

Добрае кола — светлая мара малечы той пары. А тое, што трапілася яму, было надзвычай ладнае — вобад пад шыну грузавіка. І не якой-небудзь з’езджанай і нядужнай палутаркі, а сапраўднага ЗІСа, амаль новае, у заводскай яшчэ фарбе і нікольні не ржавае. Хлопчык уявіў сабе, як заўтра з тоўстага, але пругкага дроту зладзіць рагачык, счакае, калі ўсе вісусы збяруцца на вуліцы. Вось тады з’явіцца сярод іх і ён. Здыме са штакецiны, папхне для разгону сваё кола і павядзе, пагоніць яго рагачыкам па тупкай каляіне дарогі, толькі пыл будзе курэць і сыпка ападаць долу ды пяты яго мільгаць. А што ўжо шоргату і звону будзе, пра гэта і гаварыць няма чаго.

Аднак адбылося ўсё зусім не так, як яму ўяўлялася з вечара і ноччу. Раным-раненька, яшчэ да ўзыходу сонца, ён порсценька выхапіўся з хаты і адразу ж зірк туды, дзе павінен быў вісець вобад, а яго няма. Хоць крыкам крычы, хоць плачам плач — няма дый годзе. Нідзе няма. Толькі суседка, не старая яшчэ, сакаўная і дужая заўсёды кабеціна нараскіраку ледзь коўзаецца па сваім падворку, нібыта ёй кол паміж ног увагналі, касавурыцца, стогне, сярдзіта і скоса пазірае ў яго бок.

І яму адразу ж цюкнула, што ўчора гэта быў ніякі не абруч і не вобад, а яна, суседка, котам кацілася, на шабаш да сваіх таварак. Пра тое, што яна вядзьмарыць, даўно ўжо ўпотай пагаворвалі на іх вуліцы. А ён выкрыў, заступіў дарогу і пасадзіў на кол. Дзіва яшчэ, як уратавалася. Але чаго дзівіцца: вядзьмарка ж, вядзьмарка.

І такое тут ці не на кожным кроку. Было, неяк ішоў яго аднавясковец з гасцей, не сказаць, што зусім п'яны ўжо, але, зразумела, не без таго, хто ж з гасцей цвярозы ходзіць. І ўбачыў ён наперадзе сябе на дарозе гурму касцей. Беленькія ўсе, што хустачкі ў дзевак на вечарынках, адна бялейшая за другую. І то падымецца каторая, пахістаецца з боку ў бок, як вітаючыся ці спрабуючы танцаваць, пабліскае белымі ўборамі, то сцішыцца і зноў ляжа. Чалавек пасля пачосткі ў гасцях быў смелы і не вельмі здзіўлены ўбачаным, таму і не прамінуў прайсці моўчкі міма тых костак. Пагаманіць хацелася. За належнае прыняў і тое, што косткі, калі ён параўняўся з імі, пачалі шоргацца адна аб адну, пагрукваць і перашэптвацца. Чалавек не зважыў і на іх бурклівае пагрукванне і на шэпт. Адно толькі кінуў, не збіваючыся з нагі:

— Косці, косці, прыходзьце да мяне ў госці. — Мо паэт быў, а мо проста пасля чаркі любіў гаварыць услых і рыфмавана.

Але толькі запаліў ён ужо ў сваёй хаце святло, бачыць — паселі на ўслонах вакол стала белыя косці

і гасцюючь. Усе да адзінай, пэўна, бо яму за сталом і ўшчаміцца няма дзе, давялося да трэціх пеўняў баляваць разам з імі стоячы. А на наступны дзень вельмі балелі косці, яго ўжо косці, смылелі, шчымелі і нылі, усё роўна што пасля таго, як цалюткі дзень тавар пасвіў, адводзіў чаргу, набегаўся. А больш нічога не было. І ў роце не брыдка, і галава не балела. І з хаты нічога не прапала, падлога чыстая і стол прыбраны.

Хаця якраз на стале ён і баяўся ўбачыць якую-небудзь непатрэбшчыну, бо даводзілі людзі, якім патрапіла з нячыстай сілай падымаць чарку, а ён не сумняваўся, з кім браў фэст, дык вось пасля таго фэсту, ад яго прысмакаў, калі чалавек ачомваўся і цверазеў, была адна толькі брыдота: конскія яблыкі, надаралася, яшчэ свежыя, парныя і цёплыя, ды апалавіненыя ці поўныя пляшкі з конскай мачой, тое, што елася і пілося як за вяндліну і пяршак. Чалавеку відавочна пашчасціла. Чэрці яго былі з памяркоўных.

Увогуле тутэйшыя чэрці, пэўна, усе з памяркоўных. Ладзіць з імі было можна. На самай справе, як жа гэта са сваім чортам ды не ўжыцца. З бальшавікамі ж ужыліся, на што ўжо яны непрадказальна і пакручаста пры тыкімі былі. А як здольны былі спакушаць, конскія яблыкі і мача цукеркамі і кока-колай здацца маглі б. Збілі з тропу цэлыя народы і часткі свету. Збілі, звялі надоўга, ці не адно стагоддзе народ будзе азірацца, як да сённяшняга дня азіраецца, на колішняе паганства і на добрых цароў.

Тутэйшыя ж чэрці былі зусім не бальшавіцкай пароды, з дурам, шалам, але не да рэшты звялося ў іх яшчэ такое-сякое сумленне і нават гуллівасць. Прытрымліваліся яны і тубыльскай памяркоўнасці. Мо нават і не памяркоўнасці, а самога тубыльца, мужыка, бо чаго варта было іх штукарства без чалавека, мужыка і тубыльца? Зведзены гулі з ім, няма іх — значыць, няма і самога чорта, аніякай нячыстай сілы. Яна ж існуе толькі пры чалавеку, як, даруйце мне, пэўна, і сам Усявышні,

Творца. Веру ўсё ж творыць чалавек, таму і ўсе чэрці такія доўгажыхары на гэтым свеце. І чалавек сёння яшчэ больш, чым учора, няздольны разлучыцца з ім. Асабліва цяпер, калі ўсе чэрці — людзі, а людзі — чэрці.

Яшчэ да петавання ў раі знайшоў свайго чорта і ён. Згарбузаваўся з ім у дзяцінстве. І не па сваёй ахвоце, быў ён насланы на яго. І ён на самым пачатку здагадваўся пра гэта насланнё, ведаў, хто гэта прырабіў яму. Тая ж суседка-вядзьмарка, якую ён незнарок пасадзіў на кол. Таму асабліва і не крыўдаваў на яе. Гэта ж каго хочаш пасадзі на кол, не ўзрадуецца і ніколі не забудзецца, адпомсціць.

У той час яго больш займала і цікавіла тое, як пачуваецца пасля таго, як пабываў на кале, чалавек, асабліва жанчына. Якім жа гэта месцам яна спадобілася ўсесціся? І што з ёй будзе далей? Час яму такі наспеў цікавіцца ўсім, што тычыцца жанчын. Гэта ў тую пару абудзілася ва ўсіх яго хаўруснікаў-равеснікаў. Інтарэс быў пякучы і непадробны, вулічны, яшчэ і таму, што другая жанчына з іх вуліцы, праўда даўнавата ўжо, перакуліла і выліла на сябе чыгун з варам. І лучыла ж таму вару патрапіць якраз туды, куды зусім ужо не трэба, нягожа і непрыстойна кіпню трапляць, бо там заўсёды свой маецца. Доўгі час уся вуліца спачувала жанчыне, абгаворвала гэту падзею. Больш, канечне, дарослыя, але і падрастаючае пакаленне, блазнюкі і смаркачы, таўклі тое ж. Займала пытанне, як і ўсё там у абваранай. Нарасло што-небудзь свежае і кудлатае ці ўжо назаўсёды так і засталося, як у дзяўчынкі або ў абсмаленай і абшчыпанай куры. І ці не гэтым тлумачыцца, што тая, абвараная, заседжваецца ў дзеўках.

Неяк познім вечарам, калі цемра пачынае найбольш даймаць не спакушанае цела і ўжо амаль прыстойна агаляцца, гаварыць пра самае патаемнае і сорамнае, ён і выхваліўся перад хаўруснікамі, што і за ім ёсць мужчынскі подзвіг: вядзьмарку ўсадзіў на кол. Ды

так, што цяпер яна, як прысядае, вохкае і ўскрыквае. Прызнаўся ў геройстве пад вялікім сакрэтам і нават паклясціся прымусіў: крыж на пузе — нідзе, нікому і ніколі ні слова. Як не ведаў, дзе і з кім жыве і бавіць час.

На наступны ўжо дзень і ці не з ранку самыя дасціпныя і дапытлівыя — а гэта, лічы, усе падшыванцы з іх вуліцы — прыліплі вачыма да тыну, тачылі насы праз штыкет да падворка суседкі. Толькі сам ён і не патыкаўся на вуліцу, адседжваўся ў сенцах, у каморы, пільнуючы праз заснаванае павукамі акенца ў ёй тое, што адбываецца. Прадчуваў, што там можа быць, і адначасова саромеўся і баяўся. Больш усё ж баяўся.

Але суседка адчула яго страх, як праз сцяну ўбачыла яго. Шуганула падшыванцаў ад свайго плота праклёнам і як для гэтай мэты выстаўленым з хлява сахаром. Абтрэсла рукі ад таго сахара, падышла бліжэй да іх хаты і ўталопілася ў шыбіну каморы, дзе ён ажно млеў ад страху, пякла позіркам доўга і пільна, нібы даводзіла яму: бачу, бачу цябе, нідзе ты ад мяне не схаваешся. І, здаецца, павуком-крыжавіком пранікла да яго ў камору. Пасля скрыжавала рукі на грудзях, нешта пашаптала. Ён ці то міргнуў, ці то на імгненне заплюшчыў вочы і не змеціў, як у руках у яе апынулася, няйначай неба падало ці птушка нейкая, хутчэй варона падкінула — слізганула, выраніла і знікла, як у апраметную, — чорнае пёрка. Суседка пачала дробненька дзерці тое пёрка і перакідваць падзёркі праз плот, якраз пад акенца каморы. Справілася з пяром, нешта пашаптала, тройчы пахітала галавой, падцяла тонкія, па-вужынаму бяскроўныя вусны. Тройчы сплюнула і паказала кулак.

А ў неўзабаве, ці не ў той жа дзень, ён знайшоў пад дубовай завалай каля варот курынае яйка. Дзіўна, як яно апынулася там. Надаралася, што куры неслі на падворку яйкі, але пры гэтым столькі было крыку, квахтання. А тут усё ціха, і яйка навідавоку, нібы спецыяльна пакладзена так, каб ён убачыў. І нехта ж перасцярагаў яго браць

тое яйка і несці ў хату. Загадваў наскрозь пракалоць іголкай, выдзьмуць змесціва і выкінуць у крапіву. Толькі і яйка цягнула яго да сябе. І ён не саўладаў з той цягай, узяў яйка, занёс у хату і выпіў сырым, хаця і душыўся ад грэблівасці. Але ж быў прымус.

З тае пары з ім усё і пачалося. Удзень было добра, як і да гэтага нязменна. Ён да змроку гойсаў з хлопцамі па вуліцы, ганяў па яе пыле і прыску злашчаснае кола, але ўжо іншае, гуляў у пекара і хованкі. Але варта было толькі дабрацца да ложка, а цемры ў пакоі згусціцца да непрагляднасці, у якой знікалі нават цені, заплюшчыць вочы і мо самую крышачку прыкархнуць, затрымацца напаўкроку паміж мінулым днём і надышоўшай ноччу, як ён нібыта сыходзіў з гэтага жыцця, трапляў немаведама куды. Хаця пакой быў яго і ў ім усё здавалася нязменна знаёмым, але трохі як перакручаным і перайначаным і непрыхільным. Ад палацяў, дзяружак, паветра да яго ўласнага цела.

Па хаце блукалі, хісталіся па сценах цьмяныя цені нябачных стварэнняў. І тыя стварэнні, ён адчуваў, не трываюць яго, грэбуюць ім. Будзь іх воля і трохі сілы, яны б сцёрлі яго да пылу, да тла, тлену і праху. І тло яго і прах утапталі б, раздзьмулі б па шчылінах падлогі. Але, на шчасце, здані не маюць сілы, ні рук ні ног — адно толькі жаданне і ўменне падбухторыць, пад'юдзіць каго б там ні было на шкоду і вычварнасць. І яго яны ўвесь час спакушалі і пад'юджвалі на гэта. А ён не згаджаўся, бо, лежачы, на мяжы явы і прытомнасці, не меў сілы супраціўляцца.

І ў гэтай узаемнай знясіленасці і нямогласці нараджалася нешта зусім ужо нялюдскае і вырадлівае. Недзе з нетраў мо і яго свядомасці з'яўляўся Ён. Хто? — цяжка і, пэўна, немагчыма адказаць. Вынырваў цішком з прадоння і неасэнсаванай глыбіні блытаніны яго думак, казытлівай маўклівасці ценяў, іх бесцялеснасці. Ад іх жа набываў плоць і гук. Доўга тупаў па падлозе, не

паказваючы сябе цалкам. Набліжаўся, аддаляўся ад яго ложка, нібыта даваў яму звыкнуцца са сваім абліччам. А ён ляжаў у здранцвенні, захінуўшыся дзяружкай, баючыся лішне паварушыцца і нават дыхнуць. Паволі і няўзнак уласная бездыханнасць навальвалася на яго так, што адымала нават мову. А ён прагнуў ужо азвацца, пагаварыць з ім. Толькі слова ў яго не было. І ў таго прыхадня, па ўсім, таксама слова да яго не было, хаця ён бачыў яго ўжо цалкам.

Здаецца, і нічога была тварына, нават нечым і прыемная і прыязная. Толькі гэтыя прыемнасць і прыязнасць як незямныя, адчужаныя, засяроджаныя на сваім, на ім жа самім, іншасветным. А апратка была чалавечая, толькі старадаўняя, нібы ён выхапіўся з іншых часоў — разначынец другой сярэдзіны пазамінулага стагоддзя, крануты, прыпалены ўжо і стагоддзем вялікіх рэвалюцый, а больш змен і людскіх зрухаў паслярэвалюцыйных — ЧК, НЭПа, калектывізацыі і іх наступстваў. Ад чаго ў яго адзенні і твары адначасова прысутнічалі нейкая сваяцкая блізкасць з састарэлым вучоным, нарадавольцам, папом і паповічам, падпольным рэвалюцыянерам і з прайдзісветам. Шчырым сумленным чалавекам і неверагодным круцялём і шэльмам. Як гавораць, ні Богу свечка, ні чорту качарга.

Ён жа больш схіляўся, каб залічыць яго ў кагорту чарцей, але такіх, якім і ў апраметнай няма месца. Людскія ж, тутэйшыя чэрці былі ўсё ж больш падобнымі на непадробных чарцей, больш прадказальна аблічнымі. З імі, як адзначалася вышэй, усё ж можна было паразумецца, ужыцца. І таму тубыльцы паблажліва адносіліся да сваіх нячысцікаў, часам нават дагаджалі ім, каб яны не прываджвалі, баранілі ад чужой нячыстай сілы.

Ён жа патрапіў ці не на самога Люцыфера. І галавы не мог прыкласці, каб калі ўжо не пазбавіцца яго, то

хаця б улагодзіць. Амаль да апошняга часу ён мардаваў і зводзіў яго. Не проста наведваў ноччу, а душыў, адбіраў сон, мову і веру нават у тых жа добрых і спрыяльных, свойскіх чарцей.

І гэта вычварнае паяднанне колішняга ўсё ж, пэўна, чалавека з д'яблам, старажытнасці з сучаснасцю, пераніцаванне папа ці паповіча ў бальшавіцкага камісара нечым нават і прыцягвала яго. У яго была парода, якую пачаў ужо губляць чалавек, але парода нянаская, д'ябальская. Паджары, сухарлявы, востранькі тварам, з пранізлівым поглядам. Сам ён, здаецца, бачыў і прыкмячаў усё, але ніколі не дазваляў зазірнуць углыб сваіх вачэй, у якіх адчувалася сіла, сталістасць астылага жалеза. Падводзіла, праўда, барада. Яна была сівая, доўгая і рэдкая, пра якую кажуць — казліная. Але на гэтым яго казлінасць, далучанасць менавіта да жыхароў ніжняга паверха заканчвалася. Хіба мо толькі пах, што сыходзіў ад яго, трывалы пах кашары, ды яшчэ ногі выкрывалі — сухія і, пэўна, тонкія ў косці, абутыя ў чачотачныя, белыя з чорным, шчыблеты. Такі ж стракаты, у чорна-белую клетку, быў на ім і пінжак, што не надта пасаваў да чорнай скураной шапкі. Нянаскасць апраткі і пагрозлівая маўклівасць, заўсёдная сцятасць бледных і тонкіх, адно толькі пазначаных губ яскрава сведчылі аб яго прышласці. У адной асобе сабраны сістэмы, эпохі, вякі, стагоддзі. І не з лепшых.

І ён ніколькі не сумняваўся ў прышласці яго начнога наведніка, прыналежнасці да ніжніх паверхаў жыцця. Хаця і тут гэта жыццё бралася такое, што ніжнія і верхнія яго паверхі ўжо злучаліся і браталіся. І часам было проста немагчыма адрозніць чалавека ад чорта, чорта ад чалавека. Мяжа паміж тым і гэтым светам была відавочна парушана.

У краіне, ды і ў свеце ўваходзілі ў моду рэвалюцыі. Відавочна набывала размах адна з іх — сексуальная. Пэўна, астачарцелі і палітыка, змаганне за волю, правы і

наедак. Таму што ў рэшце рэшт пасля чарговай перамогі ім даставаўся толькі кукіш, і без масла. Вырашылі за лепшае разняможыць цела, плоць, інстынкты. Вынікова літаральна атрымалася: «за что боролись, на то и напоролись».

Слабая палавіна чалавецтва першая адчула гэта і напоўніцу ўздыхнула разняволеным целам. Другая ж палавіна была заўжды гатова і рада старацца. Разняволенасць цешыла. Ды яна ж не толькі жыватворыць, але і мярцвіць. На свеце няма большага за волю забойцы. А яго прадчуваннем апошнім часам і жыў чалавек. Задышка прыпала на яго і зямлю. Не хапала паветра. Зямля захлыналася ад барацьбы і перамог чалавека. А чалавек знямогся ад сваёй шырыні, разняволенасці, што мо і неўпрыкмет пачалі спраўджвацца нарокі Ф. М. Дастаеўскага. Чалавек пачаў падвужвацца, губляць здольнасць памнажацца, пладзіцца. Пэўна, першымі амаль згубілі здольнасць, па сцвярджэнні вучоных, зубры ў Белавежскай пушчы — ці не пасля лёсавай чаркі гарбаты там на траіх, што толькі дзякуючы ёлачцы ды палачцы, без болькі выжываюць, — чалавечая парода ўвачавідкі пайшла на звод, як некалі маманты, пачала адыходзіць у незваротны, зусім не птушыны вырай. Прыгасла пракаветная іскра Божая.

І як заўсёды, калі чаго няма, тое больш і ўзгадваецца: галоднай куме пірагі наўме. Так усчаліся бясконцыя спрэчкі пра сэнс існавання. Пачыналася, як гаварылі ў свой час, з ідэалаў, а мімаволі заканчвалася пад коўдрай. Хаця і без наступстваў. Можна і так, як у тым колішнім вершаваным: «Наша справа не раджаць...» Краіна, свет пераўтварыліся ў планетарны бардэль, у якім бралі верх тыя, хто апынуўся наверсе. Але гэта, як заведзена, тое, што ніколі не тоне. Спешчаныя і спакушаныя дабротамі і зверхнасцю ўласнага Алімпа, яны не саромеліся спакушаць іншых, быдла, што жыло, задраўшы галаву да таго ж іх райскага ўжо Алімпа і ў неба ў чаканні, калі

ж гэта прыспее час раяваць і яму. А да таго раявання зліваліся ў экстазе сваёй вялікай прадвызначанасці, абранасці, задаволеныя, што хоць такім чынам ды іх ужо вылучылі і дазволілі злучацца. І не абы-якія людзі, а з тых, што ў гэтай справе спазналі толк. Пячорны, жывёльны рай і рай рафінаваны знітоўваліся, ядналіся. І вярхі хацелі, і нізы маглі, праглі аднаго. Мех развязаўся, нячыстую сілу ўганаравалі, выпусцілі на волю. Усё стала дазволена.

Пралетарыі, а больш пралетаркі вешаліся і ліплі да тых, каго з такім імпэтам не так даўно выкаранялі. Хаця яшчэ не гучала:

— Пан, пасцель пасцелена, калі ласка прыгнятаць...

Прагучыць неўзабаве, калі зноў, у каторы раз пачнецца зваротны працэс. Паўтор мінулага. Толькі мала хто з прыгавораных ужо тады здагадваўся аб гэтым. Амаль усе апантана і згодна ішлі да апошняй рысы, да краю, не зважаючы, што на тым краі іх паставяць ракам, бо тыя ж ракі, што кіравалі імі, прадалі іх сваёй жа ракавай раскірачанасцю, надкусанасцю і выедзенасцю ў іх лепшага, добрага, вечнага.

Свет перакруціўся. Таму што ўсе навокал былі ўжо апалавіненыя. Спачатку прымусова, а потым па сваёй ахвоце пачалі перабірацца ў нябыт. Рэшткам душы не ставала жадання жыць. Апалавіненыя душы прагнулі спачыну.

А ён, змарнаваны і знядужаны сваёй апалавіненасцю, насланнём пекла, спакушаны зямнымі небажыхарамі, спяшаўся будаваць рай, знемагаючы ад захаплення велічнасцю мэты. Выжыльваўся да страты прытомнасці, узводзіў браму рая, свята верачы прарокам і месіям, бо, нягледзячы на ўсе шматлікія бясконцыя падманы, заставаўся вернікам. Пісаў і перапісваў кожны раз нанава сваё жыццё і на новым месцы, там, дзе і жыць, здавалася, немагчыма. І заўсёды з чырвонага радка і з непахіснай надзеяй і ўпэўненасцю. Шчыра радаваўся

нават пакутам, часам задаволены, што менавіта на яго долю яны выпадаюць, што ён сярод абраннікаў і творцаў светлай будучыні, так жаданай у дзяцінстве Зямлі Саннікава і прывідных, хаця і незразумелых яму Айкуменаў і Проксімаў Цэнтаўраў.

І яго начны прыхадзень і душыцель, падобна, супакоіўся. Мо дасягнуў свайго і знік, а мо і зжаліўся, зразумеў, што на гэтым свеце і без яго чарцей удосталь, здаўся, не маючы рады перамагчы ці пераплюнуць іх пры ўсім сваім тагасветным спрыце і штукарстве. І ён з цягам часу неяк забыўся пра яго. Забыўся зусім, хаця нешта неасэнсаванае ім і вярэдзіла душу, асабліва ў вераб'іныя ночы, на маладзік і поўню. Сярпок маладога месячыка ўсцешваў яго. Нагадваў пра пожню ў расе, з адскокам маладой травы, складзеныя ў крыжы, копы і бабкі снапы з пругкімі, звешанымі долу вусікамі каласкоў з паспелым зернем, што чакала току, хаты, печы. І зноў зямлі. А яшчэ за гэтымі крыжамі, тарпамі і сціртамі мроілася яму на краі недазжатага поля неапазнаная постаць жняі, што павольным рухам стомленай рукі, у якой сіне пабліскваў спрацаваны серп, выцірала даланёй спатнелы лоб. І гэта вабіла яго так, што ён чуў, як тахкае і ўсміхаецца ў грудзях сэрца.

Усё было інакш на поўню. У ёй мелася нешта неабсяжнае і не зусім лагоднае. То быў далёкі і ніяк не прылучаны да яго свет. Свет, які прыпадаў то да правага, то да левага яго пляча. Сама поўня спускалася з неба, усаджвалася яму на плячо, як ён некалі ўсадзіў на плот, на штыкеціну злашчасны аўтамабільны вобад. І тады яму цяжэй дыхалася і думкі пачыналі мітусіцца і блытацца. Усё як тады, калі ён, немачны і выпетраны змрокам і бяссоннем, не мог варухнуць ні нагой, ні рукой, нават языком. Усё паўтаралася, хаця ўжо ішлі зусім другія часы, нават зусім іншая эпоха. Яму мроілася, што яго мучыцель пайшоў на павышэнне, узяты на неба і цяпер паскудзіць яму ўжо з самога Месяца.

І чым далей, тым яму рабілася горш і горш. Тое, што можна было вытрываць па маладосці, у сталыя гады станавілася ўжо няўсцерп. Ночы пайшлі такія доўгія і няўтульна змрочныя, а дні зусім кароткія, з нячастым праблёскам сонца і туманамі ўранні і з такім жа даўкім, зацяжным сутоннем, што сонечнае святло не паспявала і пратачыцца на зямлю скрозь нізка прыпалыя да яе хмары: і зімой, і летам усе нязменным пахмурным кветам.

Адзінае, што крыху ўсцешвала, — навамодная тут расліна рапс, якім усё часцей і часцей засявалі калгасныя палеткі. На якую патрэбу і каму на спажыву, ён не ведаў. Але ён найбольш раскашаваў цяпер там, дзе некалі раслі жыта і пшаніца. Жоўценька і разложыста цвіў сярод лета, глушачы ўсе іншыя краскі і колеры. І гэты было добра, было падобна, што само сонца апусцілася на зямлю, прылегла на ёй і калі ўжо не грэла, то ўмольна і абяцальна, хаця і нядоўга, свяцілася, лагодзячы людское вока і прыцягваючы навакольных працавітых пчол.

Але прыспяваў час жніва, будылячая рапсавая ралля на халодным ветры і амаль ужо восеньскай макрэчы туманоў хутка чарнела, зелень травы не магла праз яе прабіцца. Вока і душу зноў агортвалі туга і абыякавасць да аднастайных праяў нейкага як бы здранцвелага і замарочанага навакольнага жыцця. І хто каго ўжо гнёў, хто каго душыў — прырода чалавека, чорт яго ж, ці сам чалавек еў поедам сябе, немагчыма было і ўявіць. Дый ці варта ўяўляць? Наш век здатны на тлумачэнні. І мо гэта сёння адзінае, на што ён здатны. Толькі распусці вушы — такую лапшу навесіць. Адкуль толькі яна бярэцца, калі ў гаршку і на талерцы — пуста?

І ў гэтай уладнай пустаце марнела і чэзла душа, яе як не было. Нібыта яна ссохлася ў яшчэ жывым яго целе, выйшла, адбеглася ад яго. Але недалёка, таму што іншым разам ён чуў яе голас, стогн, енк, крык і плач. Чаму і па кім яна плакала, можна было толькі здагадвацца.

Здагадка была балючай і спапяляльнай. Яго ўласная душа не ведала літасці, спусташала і забівала вартыя жалю рэшткі жыцця ў ім. Ён зводзіў сябе, і яго зводзілі пустэчай доўгіх тлумачэнняў, бясконцых абяцанняў і безагляднай, хаця і адначасова пераканаўчай усёабдымнай хлусні, такой, што аж смярдзела ўсё навокал і патыхала кашарай. Кашарай і свінюшнікам. Мімаволі здавалася, што тая ўладная і смярдзючая хлусня мовіцца не словам, а гноем. Таму брыдка было і выкрываць яе. Адзіны толькі сорам, сорам, сорам і жаданне ўмыцца і пачысціць зубы. І з чыстымі рукамі і тварам, без гадкага паху ў роце, нікому не замінаючым дыханнем, збыць усё, збегчы, уцячы, знікнуць. Хоць пад зямлю праваліцца.

І ён без прыкрасці і нараканняў гатовы ўжо быў праваліцца нават у тартарары, каб нікога і нічога не бачыць і не чуць, аддацца свайму чорту: чорт з ім, няхай ужо дадушвае, бо той душы ў ім ужо няма. Яна даўно ўжо ў пекле, і ў такім, што чарцям там няма чаго рабіць. Толькі ўціраццa і бедаваць з нагоды сваёй беспрацоўнасці і крызісу чалавецтва.

Але як ні дзіўна, менавіта ў такія часы ён пачынаў спяваць, смяяцца, гучна рагатаць. Спяваць, хаця ні голасу, ні слыху не меў. Неверагодна, але гэта здаўна за ім ішло. Ці ён сам за гэтым ішоў. Калі рабілася да краю ўжо няўсцерп, калі ён сутаргава шчыра і ахвярна перапальваў сваё жыццё на амбонах айчыны, вялікіх будоўлях будучага раю, бічуючы, — а гэта было самае сапраўднае бічаванне, як ён пазней зразумеў, — з канца ў канец бамжаватай краіны ад аднаго інтэрната да другога, з намёта ў намёт, а то і проста начнога гібення на голай зямлі, калі ўжо і самаспаленне не грэла, ён заўсёды адбіваўся ад адчаю спевамі і смехам.

Так было з ім і тады, калі яго, можна сказаць, ужо не было. У машыне хуткай дапамогі праз абіўку і метал яе ён убачыў над сабой зорнае неба і без ваганняў пайшоў, ступіў у яго, у бясконцае і зорна-ласкавае неба

свайго дзяцінства і маладосці. Невядома, ці спяваў і смяяўся, ідучы ў яго, бо ніколі болей не бачыў сваіх спадарожнікаў-ратаўнікоў, брыгады медыкаў, якія везлі яго ў бальніцу. А вось дакторка, рэаніматарша, пасля таго як выцягнулі яго з таго неба, вярнулі зноў на зямлю, пісьмова зацвердзіла і паказала яму запіс, як ён радасна і зусім не па-людску развітваўся з гэтым светам і рэаніматарамі: не кантактны, паводзіны неадэкватныя — смяецца і спявае...

Адзіны толькі Творца, пэўна, ведаў, чаго б дамогся ён, прыгавораны да спеваў і смеху, каб на шляху яго не сустрэўся нейкі дзіўны чалавек, няўлоўна нечым нагадваючы дзядка на цаліне, але ў той жа час і зусім адрозны ад яго. Сустрэўся ў цягніку, некуды ехаў ён, некуды ехаў і той чалавек. Нечаканы спадарожнік толькі зірнуў на яго:

— Э, браце, ды ты ж сапсуты. Сурочаны...

— А што, гэта так адразу і відно?

— Каб жа не відно, каб жа не відно...

— І што відно?

— А тое і відно, што перагавораны ты, прыроблена табе, надкусаны невядома кім.

— Цэлы ж яшчэ, здаецца.

— Усім так здаецца. Толькі сапраўды цэлых на зямлі амаль ужо і не засталося. Бедныя, бедныя людзі... Калі ўжо нарадзіліся, то не хочуць, а вымушаны жыць, пакуль зямля носіць і трывае іх.

— Навошта ж яны тады нараджаліся?

— А каб спазнаць сябе. Гэта адзіная сёння на зямлі ў чалавека праблема. Іншых у яго няма. А жыццём яго кіруе страх і любоў — дзве мыліцы. І абедзве ў цябе падламіліся.

— Няпраўда, — пачаў пярэчыць ён таму чалавеку. — Я зведаў страх і замілаванне. І сёння ў мяне няма ўжо страху. А замілаванне яшчэ не страчана.

— У тым і бяда ўсіх спакушаных і надкусаных. З чужога страху цябе і сурочылі. А да свайго страху нараджэння ты і прыгавораны. У кожнай любасці ёсць яшчэ і вера. У сённяшняга чалавека веры няма. Гэта не пра Бога, я пра веру ў жыццё. А гэта ў яго ўкрадзена, падменена прывіднасцю і імгненнем асалоды. Што падсвядома яшчэ ад пячор і першабытных вогнішчаў ідзе за чалавекам: чалавек жа — толькі трызненне па самім сабе. А насамрэч яго няма, ёсць толькі хцівае жаданне быць заўсёды і паўсюдна. Якраз гэта і зводзіць яго. І ад таго, хто абудзіў гэта ў табе, хто вінаваты ў тваім насланні, я цябе вызвалю. Тое ж, ці вызвалішся ты ад самога сябе, — ужо твой клопат. Выхвараеш сваю самасць, пазбавішся самазнішчэння і самаедства — будзеш здаровы. Хаця гэта сёння і немагчыма. Сёння ўсе здаровыя толькі на могілках.

— Гэта праўда, гэта так, — пагадзіўся ён. — Але ж, але ж... з жыцця, якое б яно ні было, не вылузнешся, таму і не варта на яго і самога сябе наракаць. Трэба, толькі захоўваць сябе... Як звер захоўвае сябе і свой берлаг... — Ён хацеў яшчэ нешта дадаць, але адчуў, што і так ужо перабор. Ёсць рэчы, пра якія ўслых гаварыць не варта, ёсць словы, па якіх трэба жыць, а не мянціць языком. І тыя рэчы, тыя словы ён хацеў захаваць у сабе. А яго спадарожнік, пэўна, чакаў гэтых слоў і не дачакаўся. Але ўсё ж адзначыў:

— Разумна, слушна гаворыш. Маўчыш. Сам сябе і іншых яшчэ чуць і слухаць не развучыўся. Гэта сёння дарагога варта. Хочаш зразумець мяне — вось табе мой адрасок.

І на гэтых словах выпадковы спадарожнік прадыктаваў яму свой адрас. На тым яны і развіталіся. Ён не ведаў, пойдзе да таго чалавека ці не, бо не надта верыў ужо словам, не надта верыў ведунам, знахарам ці, як стала сёння модна пазначаць іх, экстрасэнсам. Занадта ўжо развялося іх апошнім часам. І ў вялікіх гарадах, і ў малых

вёсачках яны пладзіліся і множыліся, як бройлерныя куры на пеніцыліне і біялагічна актыўных дабаўках. Найбольш жа актыўна — жанчыны. Кінулі нараджаць дзяцей, пачалі нараджаць самі сябе ў тагасветнай існасці.

Нараджаліся, як гаваркія і гаворачыя галовы палітыкаў, у спецыяльна прыстасаваным для гэтага сучасных тэлебройлерах ці не метадам дзялення, што амёбы, інфузорыі-туфелькі. Мажныя і сакавітыя жанчыны самага, як кажуць цяпер, рэпрадуктыўнага ўзросту, што сцякалі і плавіліся целам па зусім не тагасветнай увазе і ласцы мужчын, апантана месіяннічалі адразу пра ўсе на свеце магіі, белую і чорную, пекла і рай, замаўлялі, здымалі сурокі, валхвавалі, чаравалі і кудзеснічалі навыперадкі з безгалосымі і бясполымі стрэмкамі-спявачкамі. Пэўна, для большай перакананасці ў сваёй годнасці абвешвалісяневерагоднай колькасцю золата, каштоўных камянёў і крыжамі, здаецца, непадымнымі і мужчынамі-святарамі. Іх зазыўная і шчырая пошасць дзіўным чынам спалучалася з тым жа відавочным трызненнем, што неслі на блакітным воку тэлескрыняў гаворачыя галовы палітыкаў і ўсе наваяўленыя месіі-правадыры.

Чалавек, якога ён сустрэў у цягніку, ніколькі не быў падобны на іх. У ім былі і сціпласць, і разважлівасць былога прапаведніка, праўда, з замесам дробнага і раскаянага ўжо беса, але мясцовага, паляшуцкага разліву, хаця нешта ў яго пародзе было і іншароднае. Надта ж смуглявы ён быў, як падкураны і падпечаны. Але і з гэтага дзівіцца не выпадала. Такія кідка-чарнявыя мужычкі не-не дый пракідваюцца на Палессі, карэнна тутэйшыя, мо ад блізкасці да агню колісь шматлікіх тут гутаў, рудняў, смалакурань. А мо і яшчэ ад якой-небудзь нагоды: пры балоце, у карчах сярод чорных вольхаў нарадзіліся ці ў тых жа карчах іх бабулю некалі дагнаў, прыціснуў цыган, а магло быць і наадварот: бабулька дагнала цыгана.

Магло быць і такое, свет вялікі, усякае ў ім здараецца, а цыганы здаўна аблюбавалі станавіцца тут у летнюю пару табарам. І пакуль іх кабеты шырокімі спадніцамі падмяталі вясковыя хаты, цыганы таксама не губляліся, не трацілі марна часу. Некаторыя з іх заставаліся тут і назаўсёды: табар не толькі краў і зводзіў тутэйшых дзяцей, але дадаваў ім і сваёй крыві, паляпшаў ці пагаршаў мясцовую пароду. Выхоўваў найлепшых кавалёў, меднікаў, конюхаў і канакрадаў.

Вось і гэты чалавек быў, пэўна, з той жа кагорты былых грэшнікаў, што цяпер раскаяліся, ці святароў, што ўпалі ў грэх. І ён пайшоў да яго не з даверу, а хутчэй з дасціпнасці і цікаўнасці: паглядзець на свае вочы, як гэта цяпер творыцца сучаснае сярэднявечча. І не ўбачыў нічога новага, лішні раз толькі ўпэўніўся, што ўсё новае — трывала забытае мінулае. Мо з-за адсутнасці нечага сапраўды новага гэта мінулае, на яго думку, вабіла людзей і ў яго не выклікала абурэння. Былі ўсе тыя ж таямнічыя нагаворы, паўзмрок асветленых толькі свечкамі пакояў, напакаваных сушанымі карэньчыкамі і зёлкамі, перасычаных іх жа водарам. Адно, што дадалося да мінуўшчыны, — гэта наяўнасць сучаснай тэхнікі. Ад каляровай музыкі, прайгравальнікаў да камп'ютара са шматлікімі прыстаўкамі-прыбамбасамі, што вывяргалі з сябе то пошум лесу, то спевы невядомых птушак, то рокат марскіх хваляў.

Пад усё гэта ён, пэўна, мусіў бы засынаць, збаўляцца наслання і сурокаў. Толькі сон яго не браў, з заплюшчанымі вачыма яму больш карцела засмяяцца і прасачыць, чым жа ў гэты час займаецца смуглявы вядун і чараўнік, што ён іншым разам і праробляў, выклікаючы незадавальненне экстрасэнса. Але развіталіся яны прыстойна, не шкодзячы намаганням аднаго і хаваючы нявер'е ў іх другога.

Толькі нявер'е яго вельмі хутка пахіснулася. Яму было загадана ў той жа дзень схадзіць у царкву,

памаліцца і паставіць свечку. А роўна апоўначы выйсці на скрыжаванне трох дарог, тройчы перахрысціцца і кінуць праз левае плячо слоік з просам. Кінуць і, ні з кім не загаворваючы, ісці дамоў.

Штосьці незвычайнае і невытлумачальнае пачалося пасля наведвання царквы. Яму было вельмі строга наказана, каб ён па дарозе нічога і нікому не даваў і не браў і нічога і ні ў кога, хто б ні сустрэўся. А сустрэўся яму меднатвары коратка падстрыжаны рыжаваты дзяцюк. Пабліскваючы рыжым жа залатым зубікам, прапанаваў купіць залаты ж гадзіннік. І вельмі танна, усяго за тры рублі. Ён аслупянеў: каб чыстае золата, ды на дарозе, ды амаль дарэмна — такога з ім яшчэ не здаралася. Ну, бывала, знаходзіў тры, нават дзесяць рублёў, калі і на хлеб капейчыны не было, а тут самае пароднае і дарагое японскае «Сэйка».

Ён добра ведаў у гэтым толк. Адчуваў, што такое проста так не выпадае. Адчуваў, ведаў і людзей, якія вось так, на хаду, на бягу цішком збывалі нейкія рэчы, і заўсёды пазбягаў іх. І яны абыходзілі яго бокам. Гэты ж упіўся кляшчом:

— Ну не хочаш за тры рублі — вазьмі за рубель. Проста так вазьмі, бо ты падабаешся мне.

Не знаходзячы слоў, ён адмоўна пахітаў галавой. Убачыў, як наліваюцца чырванню шчокі прахожага, адчуў, як ад іх цененька патыхае кашарай. Павярнуўся ўжо абысці яго, і абышоў, толькі той падаўся следам за ім:

— Калі не купляеш, то дай хоць закурыць.

Ён зноў адчуў выразны пах кашары, але не той, апраметна далёкай, тагасветнай, а зямной і зусім блізкай, якую ў пэўны час крыху спазнаў і сам. Кашары цалкам чалавечай — з Акрэсціна ці яшчэ бліжэй — з Валадаркі. Адчуў і не змог адмовіць дзецюку, хоць і разумеў, што гэта няправільна, што гэта насуперак самому сабе, што яшчэ прыйдзецца, прыйдзецца каяцца. Натура і звычка класці ў працягнутую руку зусім не камень перамаглі ўсе

забароны і наказы. Ён даў дзецюку цыгарэты і запалкі. За што яго ледзь не пабіў экстрасэнс, калі ён пераказаў таму гэта здарэнне. Але крыху пазней, занатаваўшы гэты выпадак у якасці дакументальнага доказу сваёй сапраўднай сілы, сваіх магчымасцяў, паглядзеў на яго, падумаў і сказаў:

— А мо так і трэба было. На тое мы людзі, калі носім у сабе нешта людскае...

І ён, як ні свярбела яму, пагадзіўся.

На ростанях абышлося без прыгод. Накрапваў дождж, кідаўся з боку ў бок сіберны вецер. Шпацыраваць апоўначы ў такое надвор'е ахвотнікаў не было. Нават сабачнікі не вылазілі на вуліцу. І яму было трохі непамысна і самотна, што гэта ён робіць, паверыў у нейкія забабоны, смешыць народ. Добра, што яго няма, няма каму і смяяцца, хіба толькі самому сабе і з сябе. Але ўсё загаданае яму ён выканаў сур'ёзна, хаця і не спадзяваўся, што з гэтага нешта будзе.

А нешта ўсё ж было, толькі не ў сэнсе яго здароўя. Крыху пазней, калі ён ужо і забыўся, як лекаваўся і здымаў сурок, яму пераказалі, што тая жанчына, якая навяла гэты сурок, звар'яцела, ды так неспадзявана і хутка. Звечара яшчэ была пры розуме, а калі суседкі прыйшлі яе праведаць, яна замешвала гліну з пяском, ляпіла з іх аладкі і ела. І пры гэтым танчыла, кружылася, пырхала матыльком па падворку і гучна рагатала. Адным словам, здзяцінела, вярнулася ці не ў тую пару, калі ён быў яшчэ падшыванцам. Што паўплывала на яе вар'яцтва — сышліся два нагаворы і адзін з іх чалавека, які ўзяўся лячыць, перамог, ці так ужо ёй было нарачона — на старасці здзяцінець, — прыходзілася толькі гадаць. Верыць, не верыць і сумнявацца. Употай у душы ўсё ж верыць, бо так ужо створаны чалавек — з большым даверам у неверагоднае, у падман.

Мо ад гэтага даверу ён і сам доўгі час пачуваўся лепей. Знайшоў у сабе здароўе адбудавацца, паставіць хату.

Прыдбаць коціка, пераканаць жонку ў патрэбнасці яго. Перабрацца хаця на лета з пякельна-тлумнага горада ў ціхі вясковы рай. Начны прыхадзень раз і назаўсёды адчапіўся ад яго. Мо таксама здзяцінеў, звар'яцеў і кінуўся ў прочкі, шукаць некага больш даступнага і маладога. Падрастала ж моладзь. А старыя і чорту ўжо былі непатрэбны. Паплечнікі з іх нічога не вартыя, хутчэй бы выпхнуць на той свет, каб гэты абнаўляўся для новых падманаў і пераніцоўкі зношанага ўжо бамжавання і бічавання.

А ён раяваў у сваёй зношанасці і непрыдатнасці звар'яцелага ад панавання рэкламы даброт сучаснасці, спажывання гэтых даброт і ўвогуле спажывання, жадання ўсім адразу забагацець, а што значыць — пазелянець, бо зялёныя, даляры, змянілі чырвоных і белых, якія ў свой час брацкай кроўю ўгнойвалі гэтую зямлю. Свет ішоў на скрут галавы ад бясконцага медыя-шоу, зачароўваўся і балванізаваўся чорнай і белай магіяй сярэднявечча, захлынаўся і заходзіўся ў экстазе ад сексу, парнухі, чарнухі і крыві. Ужо бабулі-пенсіянеркі, у свой час засвоіўшыя азы камсамольскай распусты, пісалі ў рэдакцыі газетаў, званілі на радыё і тэлебачанне, просячы падказаць ім, якога памеру патрэбны, згодна з новымі школьнымі праграмамі і прадметамі — рэформы школ, іх унукам-трэцякласнікам прэзерватывы і кантрацэптывы.

Усё гэта абмінала яго, як рэчка абмінае камень. Ён нарэшце дамогся свайго. Набыў свой рай, у пошуках якога непрыкаяна гойсаў па чуж-чужаніне. Толькі раяваць яму давялося нядоўга. З нейкай пары ён пачаў прыкмячаць, што нешта ці нехта гняце яго, прыгінае да зямлі. Толькі ўздыме галаву, узвядзе вочы ў неба, як яму нібыта даўбешкай па лбе. І пайшла, пайшла галава кругам, і ногі што ватныя. Пэўна, некаму было не даспадобы, што вельмі ўжо часта падымае ён галаву, прыглядаецца да зорак і месяца, бачыць сонца.

Асабліва нямоглася яму, калі на небе сярод белага і яснага дня адначасова свяціла сонца, і не адно, не сыходзіў з яго месяц. У так званыя злыя дні, калі ўсё навокал, здаецца, кволілася і марнела. І рыба не клявала, хаваючыся ўглыб, у дно ракі, і птушкі пераважна маўкліва сядзелі на гнёздах ці на дроце ЛЭП, і звер залягаў па берлагах і норах. Нават мышы не шкрабліся ў хаце.

Хто насылаў такія дні на зямлю і ўсё існае, каму яны былі патрэбны, хто сыціўся іх д'ябальскай энергіяй, невядома. Але некаму яны ўсё ж, пэўна, і спрыялі, Таму што чым далей, іх рабілася ўсё болей і болей, як і пошасці чалавека. Мо гэта злая яго пошасць і злая пошасць неба ў такія дні злучаліся і прыцягвалі стоеную адно ў адным і ў самім чалавеку злыбеду, што ўсклянь перапаўняла зямлю і працягвала, працягвала прыбываць, набрыняць гідасцю ад расставання абодвух полюсаў і леднікоў, пагражаючы неўзабаве затапіць, паглынуць усю планету, чалавека, безумоўна хворага на яе і заразнага, найбольш грэшныя народы і краіны.

Адным з такіх дзён быў прыгаломшаны, паплыў і ён, затоплены, абвалены небам, адначасова двума сонцамі і месяцам на ім. Прыставіў да хлява лесвіцу, каб разабрацца, што там з вінаградам. Паспеў яшчэ абрэзаць адзін з парасткаў. Знявечаная голька адразу ж усплакнула, пырснула на ўзняты ўгару лоб сокам, ён папікнуў сябе, што позніцца ўжо з абрэзкай. І тут адчуў, што неба над ім пачало камячыцца і збягацца, разам з месяцам і сонцам, непадымным цяжарам класціся яму на плечы і нібы цвік, але цвік гнілаваты, іржавы і гнуткі, убіваць у зямлю. Як ён апынуўся на той зямлі, у памяці не засталося, толькі пах яе, як пах першага ад каровы пасля ацёлу малака, малодзіва ды нясмелае зялёнае казытанне маладой і яшчэ не пругкай, не загрубелай травы ў шчаку і ў самы кончык вуснаў, нібы ён цалаваў тую траву ці яна яго ўжо галубіла. І кроплі вінаграднага

соку, што падалі ў вочы з абрэзанай ім лазы, адлічвалі яму апошнія хвіліны.

Вось менавіта пасля гэтага ён і пайшоў па дактарах. Вынес прысуд акадэмік ці прафесар, пра якога ўжо згадвалася, медыцынскае свяціла, больш падобнае на разбойніка з вялікай дарогі, толькі з крыжам на шчодра зарослых падсіўлена-чорнымі валасамі грудзях, які дараваў яму тады толькі адзін-адзіны год жыцця і загадаў праз месяц-другі прыйсці да яго на кантроль і ўжо на аперацыю

Але, як заўсёды гэта з ім адбывалася, калі было ўжо зусім безвыходна і заставалася толькі адно: кладзіся і памірай, нехта з таго ці гэтага свету пачынаў яму зычыць, падымаць і весці, вяртаць да жыцця, даваць, а часам і падкідваць амаль пад ногі тое, чаго не хапала, што было незваротна, здавалася б, страчана па яго ці чужой віне, волі ці прыхамасці.

Гэта было дзіўна, неверагодна, але так было. І незлічона, як з тым дзецюком, што, нібы чорт з табакеркі, натрапіў на яго пасля царквы. Але там, па ўсім, ішло ад нячыстай сілы. І выпрабоўвалі яго на хцівасць — адвечную мярзотнасць, што закладзена ў чалавеку. А яму ж часта надаралася так, што як той рыбе — ні назад, ні ўперад. І тут нехта як рукамі адводзіў і разводзіў яго бяду. Мо маці з сястрычкай, перад якімі ён быў у неаплатным даўгу, заступіўшы іх век, мо бабуля, што так упадала па ім пры жыцці, — святы бязгрэшны анёл-берагун, якому яны перадалі яго. А мо і зусім наадварот, мо тая ж самая нячыстая сіла, ён не выключаў гэтага, вяла яго, ашчаджала і захоўвала для нейкіх сваіх мэт.

Ён шмат думаў пра гэта і ў рэшце рэшт спыніўся на тым, што такое, як і яму, увогуле даравана кожнаму чалавеку. Толькі адзін успрымае гэта непрыкметліва, як нешта будзённае, звычайнае і выпадковае. Другі ж бачыць, адчувае за гэтым Боскі промысел, намёк на тое, што не ўсё на гэтым свеце з чалавекам так ужо

безнадзейна, што можа ён яшчэ і ўратавацца, калі сам таго захоча, не апусціць рукі і ачысціцца. Дзеля гэтага, як ратавальны круг, і даецца яму выпадак — зусім не выпадкова. Не выпадкова...

Але як бы там ні было, дзе, як і кім бы ні парадкавалася яго жыццё, ён ачомаўся тады зусім не дзякуючы сабе. Яго, здаецца, нехта зноў выхапіў ці выпхнуў з таго свету. Крыху свярбела шчака, і не толькі ад дотыку маладой травы, у той траве бегалі, казыталіся маладыя вясновыя, яшчэ галодныя і худыя мурашкі і, падобна, выпрабоўвалі яго на спажыўнасць, і капаў, капаў зверху на знямелы твар сок з абрэзанай ім жа вінаграднай лазінкі. Капаў буйнымі кроплямі на лоб так, што пырскі дасягалі вачэй. І вочы былі халодныя і мокрыя, нібыта гэта не вінаградная лаза, а ён сам ужо тагасветна, з глыбіняў зямлі, дзе караніўся вінаград, аплакваў сябе. Але апроч усяго гэтага, відавочнага, зразумелага і вытлумачальнага, адбывалася нешта такое, чаго ён адразу не мог і ўцяміць. А ўцяміў — не паверыў.

Біч, распластаны на ўсю шырыню, як падышоўшае ў дзяжы цеста, пульхным клубком расцёкся па яго грудзях — ці то сядзеў, падцяўшы лапы, ці то ляжаў — і каб толькі сядзеў ці ляжаў. Ён лізаў, умываў яго, пачынаючы з-за вушэй, мыў шыю, там, дзе браліся валасы, пасоўваўся языком далей, па ўсёй патыліцы, перабіраўся і затрымліваўся на жылах ніжэй шыі да грудзіннай упадзіны. Пасля таго браўся ўжо і за лоб, залысіны на ім.

Таго, што кот умывае ці ўжо абмывае яго, адразу ён не ўцяміў, не адчуў. Мо нават і таму, што скура на твары ўжо задубела і амярцвела, не адгукалася кацінаму языку. І неба крыху яшчэ ўсё ж працягвала ўгінацца і хваляваццa, як мора падчас невялікага шторму. Але яго ўжо не цягнула на ваніты, і дыханне супакойвалася, і сэрца не тахкала, і ўсярэдзіне было прыліўна цёпла, калі не сказаць горача. Таму ён і падумаў спачатку, што

супакаенне, цеплыня сыходзяць ад самога цела коціка, і толькі потым дапяў, што гэта Біч так апякае яго языком, нібы голіць насухую, бо наспружынены язычок яго аказаўся нечакана цвёрдым і скальпельна-вострым, амаль што хірургічным.

— Чаму ж гэта ты без наркозу?— намогся ён яшчэ выціснуць з сябе, пажартаваць, толькі яго ўсмешлівы каток на гэты раз, па ўсім, не быў настроены на гумар. Штосьці толькі мяўкнуў, хутчэй нават буркнуў, і то жыватом, бо язык быў заняты: не мяўкай ты сам, маўляў, чалавеча, ляжы і нішкні цяпер. Прыйдзе час — пагаворым.

Так ён зразумеў тады свайго ката, і, пэўна, не памыліўся, бо той быў заняты галеннем і мыццём яго, а потым і прычэсваннем, як у вельмі прыстойным салоне-цырульні, ці не гадзіну яшчэ, і што дзівіла яго на тую хвіліну і потым, валасы не скочваў у каўтун, не пакідаў, збіўшы ў камяк, а складваў адзін да аднаго, сапраўды як самы што ні на ёсць спрактыкаваны цырульнік, адно толькі не хапала парфумы, адэкалону. Але ён не наракаў, таму што ўсё жыццё абыходзіўся без парфумы, не трываў паху адэкалону. На той адэкалон у яго на ўсё жыццё захавалася сялянская, вясковая сінкразія — непрымальнасць.

Біч, скончыўшы сваю справу, цяжка споўз з яго, хутчэй, адваліўся, як адвальваецца п'яўка, перасычаная дурной кроўю хворага чалавека. Споўз і, хістаючыся, унурыўшы галаву і падцяўшы хвост, адно толькі кароценькія вушкі вытыркаюцца ды вусікі падрыгваюць, знясілена зашыўся пад дашчаны насціл хлява. А ён, нягледзячы на тое, што толькі хвіліну ці мо крыху болей таму быў ужо недзе не тут, даволі борздзенька ўстаў на ногі і, стараючыся не падаць выгляду, каб не палохаць жонку, падыбаў у хату, да ложка.

Але яго жонку не так проста было надурыць удаванай бадзёрасцю, што яго таксама заўсёды здзіўляла. Не, на

падман яна паддавалася, іншым разам ішла насустрач яго падману сама, толькі не тады, калі гэта тычылася яго здароўя, самаадчування. Жонка пазнавала яго нямогласць праз паветра і ці не праз сцены. Пра гэту яе асаблівасць і ўвогуле ўласцівасць жанчын адчуваць тое, што ён называў бліжнім, акаляючым блізкіх людзей космасам, па жонцы ж ён даўно і добра зведаў. І гэта не заўсёды было ва ўцеху і радасць яму: няблага, няблага, што яна такая відушчая, але ўсё ж каб не ў такой меры, каб крышачку, крышачку меней. Інакш само ўжо існаванне мужчын губляе сэнс.

І цяпер жонка адразу ж пазнала, што яму блага, закудахтала, замахала крыламі: што, ды як, ды дзе, ды чаму...

Звычайны набор жаночых, а больш жончын набор вельмі цяжкіх для чалавека пытанняў. Па-першае, ён, як тая ж большасць мужчын, не меў прывычкі жаліцца. З маленства яго не распусцілі шкадобай і пяшчотай. А па-другое, ці знойдзецца на свеце мужчына, здольны адказаць на ўсе жаночыя, тым больш жончыны пытанні. Хацелася б іх мець, чуць і захаваць, нават заспіртаваць для будучыні і прыкладу нашчадкаў. Ён адбіваўся, наколькі заставалася яшчэ сіл. Але ўсё ж мусіў быў здацца, шануючы яе ахвярнасць. Ахвярнасць, уласцівую ўвогуле жанчынам.

Мо гэта і ёсць аснова жаночага характару. Толькі ў большасці з іх гэта нешта імгненнае, пакуль не знікае магнетызм узаемнай прыцягальнасці ці не заканчваюцца нейкія хімічныя ферменты, наяўнасцю якіх сёння спрабуюць растлумачыць каханне вучоныя. Іх жа звязвала нешта іншае. Яны абое былі з сірот, нецярплівыя. Нецярплівыя да імгненняў, крыўдавалі і наракалі, што яны такія кароткія, прагнулі доўжыць і доўжыць іх — бясконцую і светлую радасць пачуццяў. І адсюль, пэўна, яе ахвярнасць да яго была ахвярнасцю

назаўсёднай ужо заручонасці, як і яго — да схону, чым адно аднаму яны часам і надакучалі.

Такі ж непраходны магнетызм ахвярнай прыцягальнасці ён адчуў і з боку прыгрэтага ім коціка. Калі той завіхаўся над ім ля хлява, ён думаў, што гэта выпадковасць і ўсё забудзецца як толькі ён падымецца і ўбярэцца ў хату. Але мінаў дзень за днём, а кот, як наняты, што медсястра ці медбрат, вечарам і ранкам мякенька тэпаў да яго ложка. Хаця трэба адзначыць, ложкаў асабліва не прывячаў, калі і прыладжваўся спаць у іх — толькі ў нагах, аддаваў перавагу цёмным куткам і печы.

А тут ускокваў на грудзі ці жывот, здзіўляючы яго, колькі ў такім маленькім целе пругкай жывой сілы і вагі. Падбіраўся бліжэй да галавы. Доўга перабіраў нагамі, тупаў па грудзіне, нібы вымагаючы адтуль нейкага водгуку, рэха. Нарэшце ўладкоўваўся і змяіна напружаным і насцярожаным чырвоненькім лязом язычка пачынаў перабіраць валасок за валаском на яго галаве. І што цікава — ніколі не слінявіў ні скуры, ні тых жа валасоў. Асабліва рупіўся каля пашчэнкаў, паміж сківіцамі. Іншым разам і пакусваў іх, браў на востранькі зубок, але адразу ж і адпускаў, адчуўшы, пэўна, сутаргавы цёк крыві ў венах.

Час ад часу адпадаў і часцей, калі дабіраўся ўжо да чупрыны. Яму здавалася, прычынай гэтаму — даўно ўжо не мытая па-сапраўднаму галава. І кот трохі грэбуе. Ён прасіў у яго прабачэння ўголас і ў думках, спрабаваў пагладзіць, прылашчыць свайго Біча. Але той ласкі яго не прымаў. Сцепваўся і лапай адводзіў яго руку. Стомлена і вельмі шырока пазяхаў на ўсю шырокую, як гумавую, пашчу, ківаўся зверху ўніз і з боку ў бок лабастай галавой і зноў утыркаў сваё змяінае джала менавіта туды, куды яму хацелася, нібыта хтосьці направўляў тое джала.

Неўзабаве ён прывык да гэтых ранішніх і вечаровых кацiных умыванняў, чакаў і трохі баяўся, што яны

скончацца. Але кот быў абавязковы і выконваў сваю работу без прагулаў і выхадных. І яму была прыемная гэта абавязковасць. Прыемнае не столькі само ўмыванне, колькі тое, што паўставала за ёй у яго памяці, што яна нагадвала яму.

А мімаволі перад ім паўставала бабуля. І ў коціку, і ў бабулі было штосьці аднолькава знаёмае і роднае яму. Ад іх сыходзіў адзін і той жа лясны, восеньскі пах, пах сумнаватага перад ападам ліста дрэва, толькі што выпітага сырадою. Хаця не-не ды наведвала думка, што яго Біч п'е не толькі малако, але і добра шаткуе мышэй. Думка такая пракідвалася, а вось мышынага паху ён не чуў, як, грэшны, ні прынюхваўся. Што здавалася яшчэ адзіным у ката і яго бабулі — гэта засяроджанасць і адрачонасць, задуменная адсланёнасць, з якой яны абое ставіліся да яго. Заглыбленасць у нешта сваё і такое, што не дадзена зведаць ні яму, ні каму-небудзь іншаму. Гэта было нешта мо і тагасветнае, звярынае, і адначасова чалавечае. Пячорнае, але спачувальна-ласкавае, незрадліва-ўсмешлівае. Усмешлівае адначасова таму свету, адкуль сыходзіла, свету гэтаму, яму і ўсім добрым людзям.

І яшчэ думалася яму, што абое яны, бабуля і Біч, мо і не зусім зямнога паходжання, нашчадкі колішніх людзей, каторыя жылі тут даўно, прыйшлі з неба, несучы ў сабе доўгажыхарства. Яго ж бабуля яшчэ на сто трынаццатым годзе ўпраўна вадзіла каня, калі абганялі бульбу, адно толькі наракаючы, што Бог дараваў ёй жыць, прыбраўшы амаль усіх яе дзяцей. Доўгажыхарства ўласцівае на зямлі толькі некім, пазначаным Творцам. Пра гэта сведчыць Падкаменная Тунгуска, дзе ўпаў так званы сёння ў свеце метэарыт, Курская магнітная анамалія, дзе цяпер жывуць людзі найбольш доўгага веку. Нешта падобнае ў свой час адбылося і тут, толькі з-за сціпласці і памяркоўнасці тутэйшых людзей гэта засталося невядомым свету.

І менавіта таму ён пачаў свята верыць, што гэтага коціка даслала яму са свайго вечнага спачыну бабуля. Яна, яе душа ўвасобілася ў галоднае і халоднае кацяня, чаму гэта кацяня адразу і пазнала яго, знайшло, дапяла на марозе, ужо амаль канаючы, яго хаты. Убачыла яго і ўсміхнулася яму ўсмешкай таго свету. Ведае, што ён шукае яе магілу, прыадчыніла яе, каб ён не маркоціўся, выпусціла, перадала сваю душу таму, хто здолее знайсці яго.

І менавіта з гэтым ратаваннем ішоў праз ноч коцік і цяпер выцягваў, адбіваў яго ў магілы. Бабуля выцягвала, вяртала і адбівала яго ад смерці. Цяпер ён зразумеў сваю прыхільнасць і замілаванне да коціка, даверлівасць і прыязнасць коціка да яго. Ён жа ні на хвіліну не адлучаўся ад яго, не тое што на рыбалку, у прыбіральню за ім хадзіў. А калі ўжо надаралася яму ад'язджаць на дзень-другі ў горад, бег па дарозе за ім і мяўкаў, енчыў, горка плакаў, як прадугадваў, што разлучацца ім ніяк не выпадае. А сустракаў, як бласлаўляў, з усмешкай, часам ледзь прыкметнай, дзе радасць не кідкая, а толькі ў вачах, паставе, ва ўскінутай да яго і неба галаве.

Вось чаму больш за ўсё і ўразіла яго пры першай сустрэчы гэта ўсмешлівасць яшчэ зусім маленькага тады і змарнаванага коціка, яна была добра вядомая яму, толькі ён к таму часу пачаў ужо збываць сваю памяць. Былі добра вядомы яму і ўсе звычкі коціка, тое, як ён хадзіў, стаяў, азіраўся, усе тыя рухі і пасы, якія ён прарабляў, лякуючы яго: задуменнасць, адрачонасць, пазяханне, launch перaтупванне і выпростванне лап, тое, як ён спыняў імі нецярплівую мітуслівасць яго рук.

Трохі дзівіла толькі адно, да гэтага ён чуў, што да лекавання больш здатныя кошкі. Гаварылі, яны больш чуйныя да стану чалавека, мо таму, што ў іх больш ад тагасветнасці і ад той жа жаночай самаахвярнасці. А тут жа была не котка, а кот. Адкуль жа ў яго ўсё гэта бралася — няйнакш перадалося ад жанчыны. Ад бабулі,

ад іх узаемнага суму адно па адным, не адмерлай і, пэўна ж, ніколі не ўміручай памяці жывых і мёртвых, Нябачнай павуціністай нітачцы падчас бабінага лета, што дрыжыць у зажураным небе, калі палавіняцца і пусцеюць лес і зямля, сувора сірацеее перад набліжэннем халадоў неба, адлятаюць у вырай апошнія птушкі.

Па ўсім, Бічу шмат чаго перадалося, не толькі ад адной яго бабулі, але, наколькі ён мог меркаваць, і ад усяго яго роду. Усіх яго родзічаў, што ў свой час убачылі тут неба і прайшліся па гэтай зямлі, і зямля прыняла іх з узаемнай згоды. І тых, хто пайшоў на той свет без згоды, заўчасна. Іх заўчаснасць і нязбытасць абрынулася на тых, хто застаўся, на ўсё існае. У першую чаргу нязбытасць жыцця і заўчаснасць смерці маці і сястры. Нябожчыкі не толькі замаўлялі на тым свеце слова за яго, але адтуль жа ці не прымушалі яго жыць і за іх. А гэта значыць не складваць раней часу рук і спраўляць недаробленую імі работу.

Толькі гэту работу спраўляць належным чынам ён не надта здолеў. І Біч нібы адчуў і зразумеў гэта, кінуўся хоць нечым замяніць яго і, наколькі хапала яго кацінага разумення, накарміць. Гаворка ідзе не пра тых мышэй, што цягаў ён у хату яму, падкладваў на ганак і ў ложак. Гэта былі дзіцячыя забавы. Ён хутка перарос іх, раз і назаўсёды ўцяміўшы, што ні гаспадар, ні гаспадыня мышэй не ядуць. Але ж у акрузе вадзілася і іншая жыўнасць, упаляваць якую, канечне, было значна цяжэй, але ж і больш ганарова.

Яшчэ ў самы першы дзень свайго бытавання на лецішчы, унураны і пакрыўджаны тым, што з ім абышліся так не па-людску, прымусова, амаль за шкіркі, выцягнулі са сховішча ў гарадскім пакоі і завезлі ў тую ж клятую вёску, у якой ён нарадзіўся, кот адчуў, што пад дашчаным памостам каля хлява, апроч яго, туліцца яшчэ нехта. Нехта жыве яшчэ і ў копанцы. Толькі хто — разбірацца тады яму не выпадала. Доўгі час, калі ён

ужо асвойтаўся ў вясковым жыцці і прыняў яго зусім не ў якасці ссылкі і зняволенасці, а так, як і належыць прымаць радзіму — якая ўжо ёсць, іншай не дадзена, — з тымі іншымі ён ніяк не мог сутыкнуцца, хаця носам чуў: тубыльцы тут, нікуды не сышлі, толькі сцерагуцца яго. І гэта сцеражэнне было ўзаемным, бо кот з цягам часу пачаў адчуваць іх увагу і пагрозу. Тым жа сваім носам, як вымяральнікам — дарэчы, самым дакладным у свеце вымяральнікам, — ён вызначыў зусім не маленькія памеры таго, хто атабарыўся ў копанцы. Хвацкая была істота, што нагамі, што вушамі далёка не радня таму ж вадзяному пацуку, з якім ён схапіўся на беразе рэчкі. І да нейкай пары ён перасцерагаўся рызыкаваць. Хопіць яму і адной вялікай перамогі. Хвост жа так і не адрос, дый на носе белыя пісягі сівеюць. Але хвароба гаспадара, а ў сувязі з гэтым адсутнасць свежай рыбы і мяса — марожаных курыных шый і лівернай каўбасы — вымушалі яго думаць і рупіцца за двух, да подзвігаў. Надакучыла сапраўды горш за горкую рэдзьку тоўчаная, хаця і забеленая малаком бульба. Ад той бульбы, жаліўся ўжо гаспадар, ад крухмалу ў ёй стаяць адны толькі падкаўнерыкі. Паляваць жа на мышэй не ставала часу, дый пературшчыў ён ўжо іх столькі, што яны, здаецца, паразумнелі і добра цяпер ведалі, хто тут гаспадар.

Дый падужацца, паказаць сілу і спрыт карцела: лекар-то ён лекар, але ж трэба некаму і морду набіць, а не то так і звядзешся ў дактарах. Маладосць брала сваё. Яго ўмельства і паляўнічы спрыт былі адпрацаваны тысячагоддзямі. Ён не здрадзіў ім і цяпер. Неяк прысеў, знерухомеў пад дашчаным памостам ці не на цэлы дзень, як сфінкс на пірамідзе егіпецкіх фараонаў у чаканні будучыні ці мінуўшчыны, зладзеяў ці турыстаў, ніяк не зважаючы на пешых і едучых на вярблюдах бедуінаў, што самотна пераадольвалі пясочны тлен часу зблізу і наводдаль яе. Падобна таму ж старажытнаму, абыякаваму да навакольнага

жыцця сфінксу, паводзіў сябе і ён. Проста чакаў, толькі кароткія вушкі наструненымі антэнамі сівых валаскоў ды выпнутыя цененькія дроцікі вусоў час ад часу ледзь прыкметна падрыгвалі і пакручваліся мо нават ад яго сцішанага дыхання. Так ён чакаў і дачакаўся.

Істота, пэўна, выбягала падхарчыцца, таму з'явілася сытная і не вельмі абачлівая. Лоб у лоб сутыкнулася з ім у прахалодзе паўзмроку памосту. Ад нечаканасці пісклява ўскрыкнула, заенчыла, што немаўля ў калысцы, і памкнулася задам выкаціцца вонку. І выкацілася, толькі ўжо з катом на ўздыбленым загрыўку, непамерна даўгалыгае і вушастае. Ён асядлаў цыбатага вушасціка і прагарцаваў на яго сухіх, зусім не прыдатных да такой гарцоўкі лапах метраў з дзесяць. І тут усё адбылося, як і тады, амаль як тады.

Вершнік з Біча аказаўся няўдалы. А тут яшчэ і «каняка» яго ўзбрыкнуў, ды так, што само неба загойдалася. І Біч не ўтрымаўся, праз галаву кульнуўся на зямлю. Толькі, як вядома, з якой б там ні было вышыні каты заўсёды падаюць долу на ўсе чатыры лапы. На ўсе чатыры лапы ўпаў і ён. Непаразумела залыпаў вачыма. З такім жа непаразуменнем, не адбягаючыся, пазіраў на яго хмызнякова здзіўленымі вочкамі і вушасцік, толькі скоса. Касенькі быў.

Няўжо кітайца ці японца ўпаляваў, падумаў Біч. А яшчэ паспеў адзначыць, што ў яго доўгія не толькі вушы, але ж і занадта сухія жылаватыя заднія ногі. Не, зусім не падобны ён быў на кітайца, а тым больш на японца. Гэта раздумлівасць у спалучэнні з назіральнасцю і падвяла Біча. Ужо ў наступнае імгненне вушасцік развярнуўся. Біч таксама прыйшоў у рух, толькі крыху саступіў яму ў спрыце, за што адразу і паплаціўся, таму што зноў падвяла тая ж разважлівасць. Вушасты паказаў яму сапраўдную бегавую даўжыню сваіх ног. Даўжыню, жылаватасць і рухавасць, з чаго немагчыма было не здзівіцца. На яго, на Біча, у свой час наракалі,

што ён піянерчык-барабаншчык. Цяпер жа перад яго пысай мільганулі ў паветры такія барабанныя палачкі, якія б лепей яму ніколі не бачыць. З імі можна было ісці не толькі ў барабаншчыкі, але нават і ў АМАП, такую «Зорку Венеру» здольны былі яны сыграць, што розным там Багдановічам з Міцкевічамі і іх нашчадкам і паслядоўнікам на ўсё жыццё моташна стала б.

Прыблудны амапавец так сыграў, адбіў, як на барабане, на непаразумела выцягнутай галаве Біча тую ж «Зорку Венеру», такі дробат утварыў, што толькі пыл на яго скуры закурэў і чамусьці над усім яго каціным целам нібыта палавічок выбілі ці вытраслі. Біч злавіў вушастага на памкненні паўтараць гэта выбіванне палавічка — мала яму паказалася аднаго разу. Злавіў на пераможнай ужо свечцы таго, перад тым як даць лататы. Спачатку ўчапіўся за кароценькі хвост, мо такі ж, варты толькі жалю, як і ў яго цяпер, а мо яшчэ і карацейшы. Праехаўся цяпер ужо не верхам, а за хвастом колькі метраў, тармозячы ўсімі чатырма лапамі і распнутым на зямлі целам. Вушасцік завіхляў азадкам, крута выкрнуў шыю.

Гэта было яго апошняй памылкай. Біч расцяў зубы выпусціў з рота абмылак хвосціка і пчолкай паднырнуў пад тую яго шыю, упіўся ў гарлянку. Упіўся мёртва, засляпіўшыся, гатовы сам сканаць на яго шыі, але не расцяць зубоў. Прымусіць зрабіць гэта можна было толькі палкай, забіўшы яго да смерці.

Гаспадар выскачыў з хаты ў калідор, пачуўшы, што там творыцца нешта неверагоднае, такі вэрхал, такі грукат, што і мёртвага маглі падняць. Заяц яшчэ рухаўся, адбіваўся ад ката, але неяк безнадзейна, млява. І кот ніколькі не зважаў на яго спробы падняцца. Ён ляжаў на зайцы, ласкава прыпаўшы да яго рыжага боку галавой, склаўшы на ім жа пярэднія лапы, дазваляючы яму варочацца пад сабой і барабаніць, біцца заднімі нагамі ў ашаляваныя сцены.

— Гэта што ж ты ўтварыў?— толькі знайшоўся што сказаць гаспадар. — З якіх гэта пор каты з мышэй перайшлі на зайцоў. І ці кот ты?

Біч з пачцівай замілаванасцю зыркнуў у яго бок пацягнутым туманком вокам, у якім не астылі яшчэ і радасць, і гонар, і здзіўленне: сапраўды, што ж гэта ён утварыў?

— Ну, і што мы рабіць будзем з тваёй здабычай?

Біч паблажліва ўсміхнуўся і ўзняў галаву ўгору, імкнучыся ўжо крыху праясненымі вачыма зазірнуць у вочы яму. Кот, па ўсім, добра ведаў, што цяпер трэба рабіць з яго трафеем, няцямнасць заўсёды такога разумнага чалавека ці не дзівіла яго: што рабіць, што рабіць — есці.

Тое, што зайцоў ядуць, чалавек і без кацінай падказкі ведаў. Але яму, нягледзячы на ўсе дзівосы і намаганні Біча, каціны, не выключана, гаспадарчы клопат пра сваю хату і гаспадароў, было шкада гэтага маладзенькага зайчыка. І коціка было шкада. Гэта ж так рупіўся небарака, не кожнаму чалавеку шанцуе, даруецца такая прыязнасць да таго, хто аднойчы прытуліў яго, паспагадаў яго кацінай долі. А яшчэ гавораць — звер, звер. Звер сёння пайшоў двухногі.

А той, што на чатырох нагах, сапраўды яго брат, як сёння кажуць, брат яго малодшы. Толькі ж ці на самай справе ён малодшы? Ці можна адказаць, хто з іх двух старэйшы, хто маладзейшы? Калі ўжо меркаваць па тым, у каго больш захавалася першапачатковага прыстойна-людскага, то атрымліваецца ўсё наадварот. Старэйшы брат даўно ўжо згубіў, патраціў і размяняў на сваю зверхнасць самога сябе. У ім сёння больш звярынага, чым у звера, і жыве ён па страшных, жудасных законах, у вечным спапяляючым яго прытворстве, блудзе і мярзотнасці, куды як далёка адбегшыся ад сваёй першастворанасці, наканаванасці, чаму застаўся непарушна верны малодшы брат.

А быў жа час. І былі яны роўныя сярод водаў, лясоў, неба і сонца. І не дзялілі яны паміж сабой ні лясоў, ні водаў, ні неба, ні сонца. Хто спакусіў чалавека на аднаасобнае валоданне гэтым царстве зямным? Хто спакусіў чалавека розумам, спакусіў на зверхнасць і вялікую кроў? Што развяло брата меншага і брата большага? Што звядзе іх зноў і прымусіць папраўдзе ўжо пабратацца, створыць зноў былую братчыну? А яна край як сёння патрэбна, каб вярнуць чалавека на зямлю, а гэта значыць, да яго, да самога сябе. Інакш яму застаецца толькі адно — засляпіцца і прэч, прэч, бегма бегчы з гэтай наканаванай яму, брату яго і іх нашчадкам зямлі, бо яна ўжо не трывае на сабе жывога, адмаўляецца трываць. Шалее зямля, вар'яцее чалавек у яе ўлонні.

Ён са шкадаваннем глядзеў на зайчыка, які, падобна, ужо канаў ці прыкідваўся, што канае, прымружыўшы вока. Кот жа, лежачы на ім, адпачываючы, як паляўнічы на скуры забітага мядзведзя або тыгра, лавіў яго позірк, пэўна, у чаканні прызнання і ўхвалы. А ў яго на душы было пуста, не ведаў, што і рабіць з упаляваным яго катом зайцам.

Калі ж нарэшце ўсё ж надумаў, наважыўся ўзяць касенькага, кот, нібы прачытаў яго думкі і зразумеў яго намер, натапырыўся, зашыпеў, засыкаў і стаў у баявую стойку, гатовы цяпер біцца з ім за сваю здабычу. І пачаў ужо біцца, калі ён схіліўся над небаракам, адпіхнуў ката і працягнуў рукі да зайца. Біч паказаў зубы і ляпнуў яго лапай па пальцах. Але ляпнуў мякенька, стаптанымі да скуры падэшвамі, не выпускаючы вонку кіпцюроў, перасцерагальна абурана адбіваючыся ад яго агрызкам укарочанага хваста.

Давялося ўзяць ката за шкіркі, аднесці ў хату і замкнуць дзверы, бо незамкнёныя ён даўно ўжо спрактыкаваўся адчыняць сам. Зайчык усё ў той жа прытворы палежваў на падлозе. Чалавек узяў яго на рукі, адчуў, што той небагата саступае ў вазе Бічу, кілаграмы

пад два. Яшчэ не дарослы заяц, але ўжо і не малец. Ай ды кот, ай ды Біч, калі б нарадзіўся чалавекам, даў бы дыхту не толькі зайцам. А так — прападае ў хлопца талент. Але і ў кацінцым абліччы не губляецца, не раз яшчэ, пэўна, акажа сваю паляўнічую і гаспадарчую здабытковую натуру.

І як у ваду глядзеў. Не паспеў аднесці ў поле, бліжэй да лесу, выпусціць там зайчыка і трошкі паназіраць за ім, як ён дае дзёру, выпісвае перад ім кругі і васьмёркі, вярнуцца дамоў, вызваліць з-пад хатняга арышту Біча, як той адразу ж стрымгалоў падаўся ў лазняк каля копанкі пры селішчы, сярдзіта нешта вякнуўшы на бягу. А ён праз некаторы час зноў быў вымушаны выхапіцца ў калідор. Бо той вэрхал, што ўтварылі Біч з зайцам, паўтараўся.

На гэты раз — і дзе толькі вышнырыў — прыцёг варону. Як саўладаў з ёй, незразумела. Варона не жадала падпарадкоўвацца кату і без прымусу заходзіць у хату, будучы ўжо ў калідоры. Абмежаванасць памяшкання не давала ёй развярнуцца, пазбаўляла птушынага манеўру, да якога яна была здатная на прасторы. Але і ў калідорнай абвужанасці і непрыстасаванасці да птушына-кацiных змаганняў яна выказвала немалы спрыт. Распасцёртымі крыламі так лупіла па кацінай пысе, што толькі пырскі і шматкі поўсці ва ўсе бакі ляцелі. Пры гэтым, канечне, ляцелі і з яе пух і пер’е. Але ўсе роўна яе змагарская пастава бругана пыхала лютасцю і адвагай, хаця перамога відавочна была на баку ката. Бо тут было яго жытло, яго хата, і ён быў у ёй гаспадаром, а не зломкам-пустадомкам, адстойваў гонар і званне ўладальніка.

Гаспадар шкадаваў варону значна меней, чым зайчыка. Заяц быў бяскрыўдны, хаця нейкі і бязглузды, як прыпылены пустым мехам з-за вугла. Гэта ж трэба наважыцца жыць, лічы, пад хатай чалавека, пад самым бокам у сабак. Але ў кожнага свой розум. Розум жа вароны быў хіжы і амаль як у чалавека — крыважэрны

Яна цягала са шпакоўняў і жэрла маленькіх шпачанят, цікавала, калі ў адлёце бацькі, крадком апускалася да шпакоўні і падробным голасам шпака ці шпачыхі пачынала клікаць агаладалых немаўлят. Тыя цягнулі з гнязда голенькія шыі, зявілі жоўценькія роцікі — тут і выхоплівала іх са шпакоўняў варона.

Паскудства паскудствам, а розум мае. І ці не гэтая хіжая і крыважэрная нелюдзь ужо ідзе на змену чалавеку. Але як бы там ні было, ён не дазволіў Бічу забіць і гэту чорную птушыную душу. Такая ўжо была ў яго натура. З некаторых пор абмінаў чарвякоў і казюрак на сцежцы, каб незнарок не расчавіць. Хто ведае, якую, чыю душу носіць іх брыдкае цела.

Біч не надта супраціўляўся, калі гаспадар адбіраў у яго варону, толькі чамусьці доўга і пільна прыглядаўся да яго. А потым унурыўся і па сваёй ўжо ахвоце пайшоў у хату, матлянуўшы на развітанне ў плечы ўжо яму хвосцікам, як пальцам паківаў: не, чалавеча, не, нічога ты не кеміш у нашым кацiным жыцці. Вучыць цябе і вучыць. І то невядома, ці будзе толк. Схаваўся на печы ў самым цёмным куточку паміж шыйкай коміна і бярвеннем сцяны. Не спусціўся нават на таўчонку, забеленую малаком.

Думаў, што ўжо ўсё, скончылася іх сяброўства і лекаванне. Ён не прыняў кацiных дароў — і кот адмовіцца ад яго. Усё жывое ж часцей і хутчэй мярцвее не ад чужой варожасці і нянавісці, а ад пагарды, адмаўлення і здзеку са шчырасці сваіх жа родных людзей. І кацінае племя было і застаецца больш чуйным, калі ім пагарджаюць, калі няма водгуку на іх сардэчныя парыванні.

Так, ён думаў пра ката, думаў, што той не даруе яму і адчужаецца яго. Але тым жа вечарам, толькі значна пазней, чым да гэтага, Біч прыйшоў да яго. Умыў, прычасаў, супакоіў душу. І прыходзіў яшчэ і труждаўся роўна тры ранкі і тры вечары. А на чацвёрты ранак скочыў яму на грудзі, абмяўшы пад сабой коўдру, сеў,

пасядзеў, пазяхаючы, і пачаў умываць самога сябе. Умываўся раздумліва, не марудна, але і не хапатліва, як гэта сёння ўмываецца ў горадзе перад працай ці службай заняты люд, прыгадваючы, што яму давядзецца ўдзень рабіць. Мыўся з грунтоўнасцю селяніна, старога чалавека, што нямытай рукой за хлеб не возьмецца, больш селяніна пасля працяглай і цяжкай хваробы, якому яго здаровае і чыстае цела ў асалоду. У асалоду тое, што ён можа з узыходам сонца са смакам памыцца.

З вясковым смакам селяніна мыў сябе, прыхарошваў, як ад нечага ачышчаўся, і Біч. Асабліва прыемна назіраць было, як ён апратваў лапы, неяк па-жаночы ўздымаючы іх угару, спачатку праходзячыся чырвоненькім язычком па голых чарнявых апушках пальцаў з падцятымі кіпцюрыкамі, а потым вылізваючы і вышчыкваючы нават нешта ўжо і паміж саміх схаваных у поўсці пальцаў. Старанна расчэсваў грудку, каб ніводзін валасок не вытыркаўся і не тырчэў сам па сабе.

Умыўшыся, скочыў з ложка на падлогу, усміхнуўся яму нейкай новай, без былой ужо юрлівасці ўсмешкай, больш паглыбленай у нешта сваё, надзённае. Павярнуўся і мякка патупаў да дзвярэй, увесь час азіраючыся на яго ў ложку, нібы прапаноўваючы яму неадкладна падняцца і ісці за ім. Намякаючы, што надта ўжо заляжаўся ён у хаце, на вуліцы ж куды лепей, там нават зайцы водзяцца, а вароны распусціліся ўжо данельга.

Гэты каціны намёк ён зразумеў. Сапраўды ж, з гэтым ляжаннем запусціў усю работу. Час, час браць сябе ў рукі. Да таго ж даўно ўжо прыспела пара зноў ехаць у клініку, да прафесара, на кантроль. Першы з дванаццаці месяцаў, дараваных яму, закончыўся. Ён хуценька сабраўся, пайшоў да аўтобуса. І што было дзіўна, кот упершыню хацця трошкі і прабегся за ім, але без галасу і енку. А на павароце дарогі, перад асфальтам, спыніўся. І на аўтобус ён садзіўся, ехаў да горада са спакойнай душой. Не тлумячы асабліва галавы, што на гэты раз скажа

яму, які вынесе прысуд не надта прыязнае да яго пры першай сустрэчы медыцынскае свяціла. Распрануўшыся, укладваўся ён, як у калыску, а хутчэй у дамавіну, што піхнулі, нібыта ў апраметную, да зеўры грувасткага, пагрозліва пануючага ў даволі цесным памяшканні прыстасавання, якое звалася тамографам. Тамограф моўчкі, як час і век, паглынуў яго спавітае жахлівай цемрай, ахопленае з усіх бакоў металам, чыгуном і сталлю, бездапаможна-пакорлівае цела і адразу ж загуў, а потым, здалося яму, і зароў. Пэўна, быў ён гэтаму цуду-юду не вельмі спажыўны.

Роў надсадна і доўга, нашмат даўжэй, чым пры першым абследаванні. А вось медыцынскае свяціла на гэта раз аказалася ўжо зусім не гаваркім, хаця выхаванасці яму, па ўсім, не дадалося. Увогуле за мінулы месяц, а мо і два, у ім нічога не змянілася. Як быў бандытам з вялікай дарогі, так ім і застаўся.

— Чаго прыпёрся? — спытаў ён, парушаючы загусцелую цішыню спертага апаратурай, яе сталёвым гарачым дыханнем, цеснага і змрочнага пакоя.

— Дык вы ж загадвалі самі. На кантроль.

— Калі гэта я загадваў?

— Ды не так ужо і даўно... Яшчэ сказалі, што жыць мне засталося толькі год.

— Год? Ды цябе і доўбняй за год не ўтаўчы. Пайшоў прэч! Ідзі, ідзі і не прыкідвайся.

— Дык...

— Дык, дык — будзе індык. Нічога ў цябе няма. Здаровы ты, здаровы. Ідзі і не азірайся... Пастаў толькі ў царкве свечку і памаліся.

Прафесар амаль выпхнуў яго з апаратнай, але на самым ужо ганку прытрымаў, дакрануўшыся да яго рукі:

— Прызнайся, скажы, пакуль нас ніхто не чуе, — што ты рабіў, што прымаў, хто цябе лячыў? Я ведаю, на свае вочы бачыў: было ж, было, а куды дзелася?

Ён хацеў расказаць усё пра ката і бабулю. Але задумаўся. Такі сур'ёзны, відно па усім, вучоны чалавек, ніколі яму не паверыць. Ніхто на свеце не паверыць, як не дае веры і сам, таму, крыху блазнуючы, сказаў:

— Само, пэўна, рассмакталася.

— Ага, само яшчэ ні ў адной бабы не рассмоктвалася...

Замоўк, паглядзеў на яго падазрона, але і з прыязнасцю, запытальна. Працягнуў з роздумам і не без болю:

— Кажуць, што ўсе хваробы чалавека ад нястачы і немачы і адна толькі — ад задавальнення. Лухта і глупства. Найвялікшая і мо адзіная хвароба чалавека — ад самога чалавека: хлусня. І яна невылечная, пакуль жывы носьбіт яе, жыццёвы падмурак, п'едэстал, які чалавек узводзіць, здаецца яму, дзеля дабрабыту бліжняга, дзеля трываласці свету, а на самай справе толькі каб ямчэй скочыць з яго да карыта, у рай. Гэта самае магутнае збудаванне. А трымаецца яно згодай чалавека з самім сабой і светам на пяску — на самападмане, апраўданні сябе і свайго страху. Бо ведае — з пяску ён, на пяску і сярод пяску. Адсюль усе нашы немачы, уцёкі ў хваробы, якіх у нас няма, якія мы абуджаем і нараджаем у сабе з таго ж страху, з самападману, з той жа хлусні. Як на маю думку і думку і вопыт хірурга, лекара, нешта падобнае адбылося і з табой. Чаго маўчыш? Ці не так?

Ён быў захоплены знянацку, здзіўлены пранікнёнасцю бандыта і ўрача. Не, не, і сярод іх, сярод прафесараў і акадэмікаў таксама гады ў рады пракідваюцца разумныя людзі, калі маўчаць. І мелася, мелася ў яго, што адказаць акадэміку. Хаця і імкнуў да праведнасці, апошнім часам было яму ў чым вініцца. Не перад людзьмі, а перад светам, самім сабой, пра што ведаў толькі ён. У чым не прызнаўся б святару на споведзі, мо толькі самому Богу на страшным судзе. І тое — не-не. Не. Стаіўся б, пасаромеўся. Лепш у пекла. Бо тое ж пекла — сам ён. Няхай жа ўсё згарыць, спрахне разам з ім. Ніхто не дазнаецца, не ўведае. Такім чынам, і не адновіцца, не

прарасце з вечнага пяску яго супакаенне, сакрытасць ад свету яго зямнога пекла.

Не, не, калі і сам ён маўчыць, то выдае за разумніка, хаця і не надта праведнага. Таму што, ні разу не пачырванеўшы, твару не зносіш. І прафесар, нібы пачуўшы яго, загаварыў з ім ці не на яго маўклівай мове:

— Чалавек яшчэ не адкрыты, закаркаваны. А калі адкаркуецца — павінен знікнуць. Бо апроч магілы, архіва і музея нікому не будзе патрэбны. Яго пасадзяць у слянку, заспіртуюць, і нехта будзе пацiху папіваць той спірт і даліваць у посуд вады.

І на гэта яму было што адказаць прафесару. Нешта падобнае ён адчуваў падчас сваёй хваробы. Час і прастора распачалі з ім нейкую дзіўную, як зваротную, ад нараджэння, гульню. Час збягаўся, сцягваўся і ўкарочваўся. Прастора пашыралася і павялічвалася. Яго жыццё губляла сэнс. Так дагарае, пэўна, свечка. Воск яшчэ не аплыў, а кнот, нітачка ўжо... Гуллівая жыццёвая Айкумена набывала берагі. Ці губляла іх. Клубок бабуліных самапрадных суровых нітак раскруціўся да кончыка, смуроднага чаднага паху.

Апошнім часам, бясконца хварэючы, ён пачаў ужо рыхтавацца. Рыхтавацца туды. І хацелася, хацелася яму прыйсці туды не зусім, як пражыў жыццё, у белых апратках. З некім там сустрэцца і з годнасцю пагаманіць, а з некім і разабрацца, даць дыхту. А таму ці белыя яго апраткі. Таму ён не-не і пачаў пачытваць сур'ёзныя кніжкі. А часам надта сур'ёзныя. І таго-сяго з іх набраўся. Вось і цяпер яму карцела нешта чытанае, вучонае, вечнае і прымiральнае, мовіць у адказ медыцынскаму свяцілу, бо тое, пра што гаварыў ён, выспявала ўжо і ў ім. Але стаіўся, пасаромеўся, як заўсёды баяўся і саромеўся як сваёй, так і чужой вучонасці. Ніякавеў перад адукаванымі людзьмі, расслабляўся з імі толькі пад добрую чарку. І акадэмік як зразумеў яго:

— Вось табе мая візітоўка. Прашу, а я рэдка каго прашу, пазвані. Сустрэнемся, чарку возьмем, пагамонім.

І на гэтых словах доктар працягнуў яму візітоўку, яны паціснулі рукі і развіталіся. Назаўсёды, бо ён быў прымхлівы і не менш як разумнікаў стараўся абыходзіць бокам дактароў: цурайся ліха — і будзе ціха. Селянін, вясковы чалавек адвеку цураецца сваіх хвароб.

Дамоў ён ехаў з непраходным адчуваннем, як па сэрцы, у грудзях ціхенька варочаецца і спеўна вуркоча Бічык. Гавораць, што добрая справа, шчасце ідзе да нас хадою голуба. Але іншым разам яго прыносяць, даруюць нам не толькі галубы, але і коцікі.

Адно было яно ўкарочаным, накшталт таго ж кацінага хвосціка. Не паспеў ён удосталь і напоўніцу параяваць у сваёй Пупляндыі, як на яе абрынулася адно няшчасце за другім. І не проста няшчасце, а пошасць нейкая, нібыта сапраўды аднекуль з апраметнай з'явіўся чорт з мехам за плячыма, развязаў той мех, з яго ўсё і пасыпалася. І пайшло на скрут галавы.

А пачалося ўсё зусім не ад чорта і, пэўна ж, не ад чалавека. Хаця хто яго ведае: у кожнай бядзе і ў кожным пастраху трэба ўсё ж перш-наперш шукаць чалавека. Чорт жа, як заведзена, заўжды пры ім, чакае толькі моманту, каб аказаць сябе. І вялікая чартаўшчына аказала сябе і ў раі на Пупляндыі, нечакана, непрадказальна і дзіка. Не людзі, не звяры і не гады лясныя ці зямныя, а птушкі распачалі вайну. І зноў жа не якія-небудзь сарокі, вароны і коршакі, а самыя рахманыя і слынныя тут, знакавыя гэтаму краю. Каморнікі, Антоны, Лялекі, Буслы.

Бусліная пара, здаецца, спакон веку гнездавала на старой ліпе, што высілася і раскашавала каля самай занядбанай хаты ў прапашчай ужо ўвогуле вёскі. І хаця лічыцца, што ліпа — дрэва боскае, але на гэты раз тут мо якраз яна была і вінаватая ў паміранні вёскі і хаты. Мо вёска, нязгодная з сваім кананнем, перабралася ў тую ліпу, а людзі, замест сябе, аказалі свету буслоў на

яе вяршыні, як помнік сабе — селяніну, яго хаце і ўсім іншым нашым шматлікім вёскам, што заўчасна сышлі ў нябыт, адляцелі ў вечны вырай.

Да той старасвецкай ліпы гарнуліся і людзі старыя, што яшчэ гібелі тут, не паспеўшы разысціся па вечных ужо сваіх селішчах і адно толькі прасілі ва Усявышняга — хуткага спачыну. І мо адчувалі набліжэнне таго спачыну каля боскага дрэва. А пад ім сапраўды было няблага. Зямля тупкая, хаця трошкі і засмечаная лузгамі ад гарбузікаў і сланечніку, недакуркамі. Лавачка ж зноў і цьмянае святло з акенца занядбанай хаткі, у якой дажываў свой век былы артыст і рэжысёр, а цяпер, як ён сам гаварыў пра сябе, пісьменнік. Што ён толькі мог напісаць пра сваё няўдалае жыццё? Але ж нешта пісаў. Пісаў, бо да самага ранку не тухла ў яго хаце электрычнасць. Піць ён не кінуў, але ажаніўся. Жонку ўзяў з мясцовых — мастачку-фларыстку, а гэта значыць — малявала яна не пэндзлем і фарбамі, а пялёсткамі кветак. Карціны свае прадавала ў горадзе на базары. Грошы прапівала разам з мужам-пісьменнікам. Тыповая сёння з'ява ў новым мастацтве і мастацкіх сем'ях.

Але старым, што вечаравалі пад ліпай, хаця яны і абгаворвалі такі лад жыцця, было прыемна, што і ў іх вёсцы ёсць свой пісьменнік, свая мастачка. Радасці і пэўнай нават святочнасці дадавалі і старажытнасць іх дрэва, тое, што на ім гняздуюць буслы. Радасць гэта была, канечне, неасэнсаванай, падсвядомай. Але ў вясковым, сялянскім побыце толькі падсвядомае і з'яўляецца сапраўднасцю. Такім падсвядомым з'яўлялася і адчуванне, веданне, што ў іх буслоў у хуткім часе вылупяцца бусляняты. Бацькі паставяць іх на крыло, і тое крыло панясе іх на край свету. Такім чынам, зніцуецца іх існаванне, далёка сягне за межы той зямлі, дзе яны звекавалі. І што ні кажы, а гэта таксама ўжо шчасце.

Толькі іхняму тубыльскаму шчасцю не дадзена было ў той год збыцца. Тут іх адвечная памяркоўнасць, іх надзея і ўпэўненасць у непарушнасці боскага свету былі спляжаны, разбіты ў друз. Да іх ціхмянай пары буслоў унадзілася, пачала прылятаць пара нейкіх буслоў-валацуг і пустадомкаў, што да гэтага часу яшчэ не акублілася. Дзень-другі як разведвала, прыглядалася, кружыла над вёскай, старой ліпай. Апускалася, садзілася каля яе на соткі. Атабараная, акубленая пара, здавалася, не звяртае на сноўдалаў увагі, толькі мо крышачку больш, чым трэба, звешвала з кубла долу чырвоныя дзюбы з кругла застыглымі гузікамі вочак і назапашанай з каптуром у іх непарушнай вечнасцю. Не здагадваючыся, што апошняга яны пазбаўленыя ўжо. Ні тады, ні крыху нават пазней не здагадваліся пра гэта і людзі, упэўненыя, што век іх пры сваіх амаль што хатніх буслах будзе доўжыцца і доўжыцца. Іх не тычыцца, што свет ужо даўно звар'яцеў і перакуліўся. Гэта ж недзе там, далёка, а тут цішыня і спакой. Неба, сонца і родная зямелька зычаць і спрыяюць ім і ў час адыходу.

З гэтым, з мірам, яны ўвечары і заснулі, а прачнуліся ранкам ужо сярод вайны. Біліся дзве пары буслоў. Спачатку на старой ліпе, у кублe. Прыхадні, як месершміты, пікіравалі з неба, наровячы крылом, што шасі, нагамі, а не, дык хоць дзюбай ударыць, ушчыкнуць, успароць пер'е тых, што пільнаваліся кубла і ліпы, селішча. І дамагліся свайго.

Бойка ўжо ішла на зямлі, калі людзі набеглі. Хаця гэта гучна сказана — набеглі. Не маладзёны ж з хатаў, што з магілаў, выдзіраліся, а пакуль яшчэ ставіліся ў боты валёнкі, і буркі шукалі, кійкі і тэпалі, чыкільгалі, валюхаліся — у буслоў былі чырвонымі не толькі дзюбы і ногі, там-сям і пер'ейка ружова апырскалася, стала бел-чырвона-белым.

Старыя не адразу і ўцямілі, што тут адбываецца, хоць век звекавалі ўжо і не аднойчы бачылі, як кроў

праліваецца, трушчацца чарапы, канае, адыходзіць на той свет чалавек. Але каб таксама і птушкі, ды яшчэ якія — буслы, страцілі птушынае, перакінуліся ў людзей, нішчыць сябе і сабе падобных пачалі! Такое нават не снілася і не трызнілася ім. І таму разнімалі яны, білі буслоў старэчымі кіёчкамі, не зважаючы, дзе свае, дзе чужыя. Развялі, разагналі. Але бойка паміж бусламі ўсчалася на другую раніцу. І з перапынкам, дзякуючы ўмяшальніцтву людзей, доўжылася да змяркання. І на другі дзень вёска дапамагала выстаяць сваім буслам. Тыя яшчэ самі лётам дапялі свайго кубла на вяршыні ліпы. Чужынцы адступілі пешшу. І толькі на аселіцы вёскі, каля старыцы ракі, каўтнуўшы вады, нязграбна і цяжка ўзняліся ў неба.

І надышоў дзень трэці. І зноў завіталі чужынцы. Нельга сказаць, што тое, што там адбывалася, можна было лічыць лютай бойкай. І адна пара птушак, і другая паводзілі сябе даволі млява, стомлена. І вёска ўжо думала, што канчаткова абараніла сваіх птушак. Пра тое ж пад старой ліпай і гаманілі амаль да апоўначы, радаваліся і ганарыліся. Толькі рана яны радаваліся. Клаліся спаць пры буслах, а прачнуліся — іх ужо не было. За адну ноч вёска страціла буслоў, і галавы прыкласці не здолела, чаму, як і калі гэта адбылося. Чаму буслы выракліся іх хатаў, асірацілі іх. І куды яны, параненыя, сышлі, у які вырай адляцелі.

Увогуле яны ж не зяляліся зусім. Пераказвалі, што недзе за ракой ужо добра па вясне прыбілася пара буслоў, села на воданапорную вежу. Хадзілі глядзець. Не, няма. Казалі, што ў суседняй вёсцы, дзе буслы былі так званымі радыстамі — гнездавалі на тэлеграфных слупах, ладзяць сябе кубло сярод лета нейкія дурныя прыблуды. Дапялі і туды. Ніякіх прыблудаў не знайшлі. Зніклі, зніклі з іх вёскі буслы назаўсёды. І каб толькі адны буслы. Пачалі знікаць, сыпацца людзі.

Як ужо гаварылася, побач са старасвецкай ліпай стаяла занядбаная хата, як спараджэнне і працяг той ліпы. Сплеценыя ў сівыя каўтуны невялічкія карані яе жылавата прыпадалі да самага ствала дрэва, гонячы водмаладзь. Карані ж вялікія, пэўна, яшчэ здаўна змазоленыя нават і лапцямі, а больш ужо ў нашы дні — чаравікамі і ботамі і проста голымі нагамі вяскоўцаў, ва ўсе бакі далёка адбегліся ад матчынага дрэва наўпрост, ушыркі і ўсцяж вясковага людскога шляху. І зусім не выключана, што самы магутны з гэтых каранёў, адзін ці ў суполцы з браткамі-волатамі, пайшоў далей усіх, дасягнуў агароду, падворка меўшага атайбавацца тут чалавека, намогся, выпнуўся ўжо гатовым падмуркам будучай хаты. І працягваў расці да той пары, пакуль учэпіста і карэнна не паўстала селішча, хата чалавеку.

Вось у той сёння ўжо спарахнелай хаце і туліліся мастачка з пісьменнікам, выпертыя з горада. Хата ўвачавідкі ўрастала ў зямлю, нібы зямля тая расступалася перад ёй. І творцы кожны раз засыналі і прачыналіся з адчуваннем падрыхтаванай, выкапанай ім яшчэ па жыву магілы. Але на гэту сваю прычыненасць і далучанасць да таго і гэтага свету не наракалі. Зімой гналі і ўсцешваліся самагонам, навуку вытворчасці якога дасканала засвоілі, далася тая навука ім лягчэй, чым давалася творчасць. А наступствы былі тыя ж самыя: салодка пілося, ды горка адрыгалася.

Што яшчэ, улетку, нягледзячы на спёку, пілося ім з большай асалодай, чым зімой. Гэта было, канечне, няправільна, не па-людску, але так было: з песні слова не выкінеш. Пад песню яны і пілі ўлетку. Спявала старасвецкая пракаветная ліпа. Пчолы спявалі, што з усяго, пэўна, свету наляталі на яе шчодрую, спавіваючую ўсё наваколле водар і квецень. Іх хата, ніколькі не зважаючы на сваю прыгаворанасць, а мо і тагасветнасць, убірала ў сябе іх руплівыя хоры, уздымала і надавала моцы іх спевам, як па мабільніку, бяздротава праз

глыбіню зямлі перадавала тым, хто навекі ўжо супакоіўся ў той глыбіні. Усцешвала чыстых і нячыстых, а заадно ўжо і іх, грэшных, непрыкаяных і крыху п'янаватых, чаравала музыкай зямнога раю.

Але нечакана тым летам неўзабаве пасля бойкі буслоў і знікнення іх тая музыка скончылася. Пчолкі, боскія дзеці, як і буслы, адцураліся старой ліпы, перасталі раіцца ў яе вецці. Ліпа, як тое было і раней, зацвіла. І ў свой час, і шчодра, і водарна. Толькі пчол яна чамусьці не прываблівала. Калі якая-небудзь яшчэ набліжалася да ліпы, то адразу ж паварочвала прэч, абмінала яе, ні крылом, ні лапкамі, ні ратком не чапляла жоўценька і бухмата натапыраны шарык яе пераспелай, так нікім і не ўцалаванай квецені. І жоўта-сіні дымок самотна клубіўся ў паветры і ў незапатрабаванасці ціха ападаў на зямлю, фарбуючы яе ў атрутна-зеленаваты колер. Пераважны колер зямлі паблізу атамнай станцыі ў першую чарнобыльскую вясну. Толькі тут ужо тварылася ўсё без якіх б то ні было зрушэнняў, самахоць.

Вёска неяк прапусціла дзікае і выклікальнае цвіценне ліпы і адчужанасць да яе квету пчол, самаразбурэнне адвечнага і наканаванага. Людзі як раптам аглухлі і аслеплі, хаця не маглі, павінны былі бачыць пад ліпай мёртвых пчол, а шмат і шмат іх, боскіх дзетак, памірала, падала долу толькі пры набліжэнні да боскага дрэва, што спакон веку адорвала іх слодыччу, а цяпер нішчыла. Абыякава і няўважна аднесліся да знікнення пчол жыхары вёскі. І той, і гэты свет як не схацелі нічога ведаць і бачыць. Прапала музыка, сышла з хатаў людзей. І на тым і на гэтым свеце, пэўна, не засталося яе прыхільнікаў і слухачоў.

...Прапала музыка. І не якая-небудзь сённяшняя — джазава-рокавая, дзяруча-металёвая, а вечная, неўміручая, з якой яны нарадзіліся і зжыліся, успрымалі мо нават і не слыхам, а цёкам сваёй крыві, ладам свайго сэрца, думак. Так ненадакучліва, рупліва і спеўна

назаўжды асвяціла, надала высакароднасць цяжкасці іх існавання просценькая вясковая пчала, ціхенькае, але бясконца дбайнае казытанне яе маленькіх крылцаў.

Яна прачыналася рана, на самым пачатку абуджэння зямлі і сялянскай душы, калі прыспяваў клопатны час той душы, час аплодняць зямлю, араць і сеяць. І першай пачынала займацца гэтай адвечнай вясковай справай пчала. Толькі-толькі выкідвалі квецень слівы і вішні, як пчала ўжо смычком крылаў, іх шолахам, нецярплівым пераборам лапак, пацалункам сваіх вуснаў пачынала іграць на іх пялёстках. І суладная боская музыка з дня на дзень мацнела і набірала прыгажосці і арганнай вышыні да стомы доўгага летняга дня, пакуль ад той жа стомы не чырванела запаленае, загнанае пчоламі на захад, на самы краёчак неба сонца. Але пасля гэтага боская музыка не заканчвалася, яе працягвала стомленае і напятае, выструненае да апошняй жылкі цела чалавека і салоўкі. То была найвялікшая гармонія і суладнасць жыцця і ўсяго існага на свеце.

І раптам усё гэта знікла, распалася зямная і нябесная повязь, адухоўленасць, пчолы сканалі. Прапала адвечная вулічная вясковая музыка, сышла ад людзей і іх хатаў. І на тым свеце, пэўна, не засталося ўжо прыхільнікаў яе і слухачоў. На вуліцы, у хаце, у вецці дрэў і на душы чалавека стала вусцішна і ціха. Вёска, яе душа, не чула і не слухала саму сябе, нібыта таксама адцуралася не толькі свайго цялеснага, зямнога, але і нябеснага паходжання і існавання. І гэта было недалёка ад праўды. Паветра, якім чалавек дыхаў, аказалася пазбаўленым мілагучнасці, музычнасці.

Неўзабаве пасля сыходу буслоў, калі ліпа, здаецца, ужо высмягла атрутай і амаль перастала меціць зямлю паганкава-бледнай немаччу, суседзі адзначылі: нешта даўнавата не відно нідзе ні пісьменніка, ні яго жонкі-мастачкі. Няўжо іх так прысушыла мастацтва, што яны і носа нікуды не кажуць і за хлеў не бегаюць? Хаця з

чаго мастакам сёння за хлеў бегаць? А вось тое, што і тэлевізар не ўключаюць, і дымок хлебны над хатай не курыцца, і вокны вечарам не свецяцца, — насцярожвала. А яшчэ больш насцярожвала цішыня. Нешта ж надта няправільнае было ў ёй, пагрозлівае. Калі нашы творцы квасяць, то абавязкова ж з лямантам, мацюгамі і бойкай. А тут і скаромнай прыпеўкі не чутно.

Пайшлі праведаць. Дзверы былі расчыненыя, а над імі вісеў плакацік: «Не пужайцеся — гэта я». Пісьменнік вісеў пасярод хаты на бэльцы. Ужо счарнелы. Густа патыхала брагай. На стале стаяла недапітая пляшка гарэлкі. Мастачку знайшлі ў гародзе, амаль распранутую, збітую пры жыцці, а мо і ўжо па смерці, на горкі яблык.

І акрываўлены яблык ляжаў каля яе твару. Адкуль ён узяўся? Спець і падаць яблыкам быў яшчэ не час. Ды і не было побач яблыні. Падобна, гэтая мёртвая жанчына, не дачакаўшыся святога Спасу, толькі што яго нарадзіла. І нараджэнне, як і смерць жанчыны, было пакутлівым.

Той недаспелы яблык быў таксама збіты, як б'юць, чавяць яго дзеці, каб не быў такі кіслы. Таму яго не ядуць, а смокчуць. Як бы падпякаюць жаданнем прыспешыць лета і паспытаць садавіны. Каб выцягнуць з яго летні водар, падносяць да твару, падпякаюць прагным гарачым языком і вуснамі. І калі яблык цьмянеў, крыху нават жаўцеў — працюкваюць зубам, часцей за ўсё левым востранькім іклом, як гэта робіць вампір, што прагне жывой крыві.

Так быў працюкнуты і яблык, што ляжаў каля рота нежывой жанчыны. Працюкнуты, але, здаецца, адначасова і праточаны кімсьці жывым і вёрткім, накшталт чарвяка. Надта акуратненькая была праколінка, бы свярдзёлкам зробленая. І нешта жывое, пазбягаючы людскога вока і святла, здаецца, знаходзілася яшчэ ў яблыку, прытоена і пагрозліва хавалася ў ім.

І сапраўды, калі падымалі жанчыну, незнарок варухнулі і яблык. На зямлю выкацілася ці то напаўвадкая,

рухомая, падобная на ртуць, толькі чорная кропелька, ці то нешта жывое і скручанае ў чорную капежную кропку. Ды так хуценька выкацілася, што ніхто і не паспеў прыкмеціць: ці то выпала з яблыка, ці то са збітага на горкі яблык твару жанчыны, яе рота, языка. Кінулася ў вочы толькі тое, што там, дзе датыкнулася зямлі, раптам як агеньчык усхапіўся. Усхапіўся і адразу ж знік, патух, нібы зацягнуўся чорным туманком і дымам. Вясковыя людзі — гэта толькі гараджане лічаць іх напаўсляпымі і няўважнымі — бачаць усё далёка наперад і не менш як на тры метры ўглыб. І тут кожны з іх адзначыў: нядобры знак. Але ўголас ніхто гэтага не мовіў: не памінай ліха, пакуль ціха.

А то было сапраўднае ліха. Хаця на тую хвіліну пакуль яшчэ проста страх. Той самы, з якім зжываецца чалавек і які пакідае яго, якога ён пазбаўляецца, дзякуючы адпушчэнню, Боскаму промыслу ў самую апошнюю хвіліну свайго жыцця, зведаўшы, што на гэтым свеце яму больш няма чаго баяцца. Страх канае ў чалавеку паперад, і толькі потым адлятае яго душа. Але так адбываецца, калі чалавеку прыспеў ужо час яго выраю. Калі ж гэты вырай заўчасны і тым больш прымусовы, самазабойны, чалавек перш пазбаўляецца душы. А страх застаецца ў ім, выспявае ў жуду і жах. Вось чаму самазабойцаў хаваюць не на могілках, а за іх плотам, каб яны не перашкаджалі адпачываць там людзям, не неслі і не распаўсюджвалі свой страх сярод нябожчыкаў. Пакідалі яго сярод жывых на зямлі. Бо ніхто не ведае, у якую пачвару ён здольны пераўтварыцца, куды і да каго ў прасторы і часе пракладзецца яго дарога, у мінулае ці будучае, хто ад яго заплача, а хто і зарагоча, дзе, як і ў каго ён пераўвасобіцца на зямлі: Ірада, Юду, Гітлера, Сталіна, ці ў некага яшчэ ненароджанага, але вартага ўсіх чатырох разам.

Жывы, хаця пакуль яшчэ і невідушчы, не маючы ні рук, ні ног і таму не аказваючы сябе, — страх котам

каціўся па зямлі. Адкуль ён узяўся? Ці сапраўды толькі нарадзіўся, ці заўсёды патаемна жыў у старой хаце гэтых наогул добрых і прыязных людзей, дастаўся ім у спадчыну? Сядзеў сабе на камешніку нішкам, пакуль у хату не прыйшло забойства. А мо і людзі яго, страх той, нанеслі. Прыбеглі падзівіцца, што тут адбылося, жахнуліся смерці. Спарадзілі, далі яму жыццё, выпусцілі на волю.

І той людскі вясковы страх пакаціўся па зямлі. Чорным падкалодным гадам папоўз з агароду на вуліцу. Падпоўз пад штыкетам і, абочынай, абмінаючы сялянскія хаты, — сапраўднай сілы ў ім яшчэ не было — прашыўся за аселіцу. Набіраючы хуткасць, пацягнуў да лесу і балота. Спачатку вузенькай стужкай, што фабрычнай ніткай працінаючы, агніста цярэбячы сабе дарогу. Спатоліўшы першы голад і трохі, пэўна, акрыяўшы, пашыбаваў ужо больш спора, выпальваючы на сваім яшчэ не вельмі шырокім, як жужалем пракладзеным шляху траву, кветкі і нават маленькія дрэўцы, што не паспелі яшчэ гонка адскочыць ад зямлі. Але выпальваючы не зусім, пазбаўляючы іх толькі колеру, фарбаў і адданасці зямлі і небу, сонцу. Яны жухлі і крохка падломваліся, падалі ніц. Не грэбаваў землянымі чарвякамі-выпаўзкамі. Неяк вельмі спрытна выцягваў іх з глыбіні, ці то яны, дурні, самі вылазілі на яго.

Не абмінаў жукоў, смаўжоў і казюрак, што пазашываліся ў цвіль змакрэлых лістоў і вільготнай глебы. Толькі іх ён не еў, падобна, усё ж грэбаваў. Высмоктваў да амярцвелага неспажыўна-фіялетавага хіціну жукоў-гнаевікоў, трушчыў, пераціраў той хіцін і выкідваў. Нішчыў усё жывое на сваім шляху, што ляжала на паверхні і хавалася ў зямлі.

Перад балотам, якое пачыналася за вёскай, напакаваўся, пэўна, ужо набраўся моцы, раздабрэў, прыпыніўся. Доўга, амаль да змяркання корпаўся ў балотнай твані, жаберы. І выкапаў з купіны пад лазовым

кустом маленькі чалавечы, па ўсім дзіцячы, чэрап. А мо і не дзіцячы і не зусім чалавечы. Мо то быў чэрап малпы, якая не паспела своечасова збегчы адсюль у Афрыку, а мо і нейкага вельмі і вельмі старажытнага, выкапнёвага чалавека ці родзіча яго. І ці не магілу таго родзіча і шукаў, набіраючы сілы, страх, бо надта ж доўга, з нейкім толькі яму вядомым разуменнем завіхаўся, коўзаўся у перапрэлай, не аднойчы палітай кроўю зямлі. І было яшчэ нешта знакавае ў той зямлі. Рэшткі непазнавальнага ўжо нечага ён знаходзіў і выцягваў сабе на пагляд і адразу ж злосна адкідваў. Да той пары, пакуль з рухомага плывістага пяску, ці не падземнага плывуну, вядзьмарскай крыніцы, нешта жоўта-рудое і бязносае невідушча лыпнула на зямлю пустымі вачніцамі. Поўня, як воскам, заліла тыя вачніцы зіхатлівым святлом. Васкова асвяціўся цалкам і ўвесь чэрап.

Страх падцёг той чэрап да сябе, прыпаў, ахутаў яго цемраддзю. І ў той цемрадзі як перамовіўся з ім, перакінуўся словам: гучала, гучала там слова, білася аб закрайкі цемры, няздольнае прарваць яе. І, пэўна, не тое, што патрэбна было яшчэ вясковаму страху, якога ён прагнуў пачуць, дзеля якога і выклікаў з таго свету мёртвы плывун. Таму што чэрап пазбавіўся цемры. І быў ён ужо зусім не руды і жоўты, а сіні. І страх сам ссінела затросся, ці то вывучаючы яго, ці то спрабуючы спажыць спарахнелую тагасветную костку. Уцягваўся, запаўзаў праз сківіцы з адным ацалелым на іх, з’едзеным карыесам стагоддзяў зубам, праз шчыліну рота ў сярэдзіну чэрапа, які, падобна, ад гэтага аж распірала. Ён трашчаў па швах. І пустыя яго вачніцы ўспыхвалі аспідна-чорным полымем. Над абодвума, страхам і чэрапам, уздымалася і раўла, укручвалася ў млосны і дрыготкі аксаміт угрэтага за дзень летняга неба віхура. Празрыстай лейкай навісала над імі, нібы хацела зліць на іх нешта з неба, увагнаць іх зноў у нябыт падземнага плывуну. З лейкі той сыпаўся, цёк тонкім струменем

сатлелы пыл, пэўна, даўно памерлых ужо зорак, прах мінулых тысячагоддзяў, непахаваныя парэшткі чужых сусветаў. А мо то былі і парэшткі будучых сусветаў. Кроў, кроў, кроў. Страх хіжа і прагна паглынаў усё гэта амаль бяззубым ротам безыменнага чэрапа. І зявіў той рот нават тады, калі віхура даўно ўжо сціхла, нібы пагражаў цяпер самому небу ці некаму нябачнаму адсюль у тым небе. Васіліскава прарастаў чырвоным грэбенем.

У балоце сярод пракаветнай дрыгвы, дзе ніколі не ступала нага чалавека, страх-васіліск адлавіў трох вялізных чорных жабаў, адну гадзюку і рабую, што калгасная карова, балотную чарапаху. Чарапаха, непрабівальна і глуха спавітая, закаваная ў касцяную камізэльку наліплых на яе старажытнае цела стагоддзяў, зведала, пэўна, амаль усё на зямлі, перажыла не адзін Чарнобыль, не адну радыяцыйную хваробу, а мо і саму смерць усяго існага на планеце. Была знаёмая і са страхам і цяпер пазнала яго. І, адпаведна былым адносінам, павіталася з ім. Стрэліла ў чорнае нутро яго гадавай пашчай нечакана доўгай і вельмі рухомай шыі і прагрызла, як прыпякла, ладную дзірку. І страх не ўтрымаў, выпусціў чарапаху. А чорных жабаў з невялічкімі, ледзь пазначанымі рожкамі — жаба не жаба і слімак не слімак — і гадзюку праглынуў без следу і знаку. Праглынуў і набыў цела, і было яно падобнае адразу да жабінага і гадзючага. Галоўка з усіх бакоў сплюснутая — мёртвы, васковага колеру чэрап з пустымі да прадоння непрагляднымі бялёсымі вочкамі з іншасветным, без лютасці, але і без цікаўнасці — смяротна абыякавым позіркам. Квадратная плямістая ўзорная афарбоўка верацённага цела, нібы на ім нейкія гросмайстры ў свой час гулялі ў шахматы. Мо і сёння працягвалі яшчэ гуляць. Гэта ўсё было ад гада, а вот чэрава — жабіна, вельмі цяжкае, распёртае — перасычанае, а мо і цяжарнае, як прыняла ўжо яна тут некага і некага панесла. А самае галоўнае ад жабы — рожкі, чырванаваценькі,

з жаўцінкай, як у маладога пеўніка, грабеньчык. І чырвонае ў ім, відавочна, пераважвала, ірдзела кропляй жывой крыві.

Наваяўленая пачвара, набыўшы цела, пераўвасобіўшыся ў гада, пачала гойсаць па балоце. Толькі рухі яе былі цяпер больш асэнсаваныя і раздумлівыя, нібыта яна хацела нешта ўспомніць, некага ці нечага шукала. Шукала і не знаходзіла, ці знаходзіла зусім не тое. Балота як расступалася, адчынялася перад ёй, і з яго паўставалі людзі і звяры — нелюдзь ужо, што аказвала сябе толькі на імгненне і адразу ж бралася прахам. Але імгнення было дастаткова, каб назаўсёды здзівіць: колькі ж гэта балота паглынула жыццяў, колькі людзей у свой час, пэўна, так і не пахаваных і не прыбраных, увабрала і сатліла.

Толькі гэта тло людское, па ўсім, нікольк не цікавіла гада, хаця ён не абмінаў ніводнай купіны на верхавым балоце, шыўся ў кожную, як у магілу. Нейкі час поркаўся там і выхопліваўся вонку. Значна больш гэтых знакавых могілкавых купін яго прываблівалі дзе-нідзе ацалелыя сярод белага моху лужыны, як сподачкі, усклянь налітыя чысцюткай вадой.

Ён даваў нырца ў тыя сподачкі, верацяном укручваўся ўглыб. Асаблівай глыбіні ў іх, пэўна, не мелася. То былі ці старадаўнія, сёння ўжо амаль высахлыя крыніцы, ці зацягнутыя торфам, таксама старадаўнія праломіны, утвораныя калісь зніклымі тут зоркамі, парэшткамі мо і леанідаў, што ў свой час дасягнулі гэтага балота. Дасягнулі і супакоіліся, схаваліся назаўсёды, як і людзі, што ступілі ў гэта вясковае пракаветнае верхавое балота, выпнутае з сівой даўніны на пагляд жывым, каб яны дзёрлі тут белы сфагнавы, не ведаючы цвілі мох для сваіх хат, збіралі лекавыя ягады — буякі і журавіны. Тут нараджаліся, тут і каналі.

І зусім не выключана, што гэты мох і тыя ягады, буякі і журавіны, былі дараваны вясковым людзям небам. І

ці не з вялікай журбы. Былі пасланы небам і ўзышлі на праху тых, што ў невядомасці ціха сканалі тут, пацёгшы разам з сабой на той свет і казань свайго жыцця і смерці. Журботна праклюнуліся і крывава выспелі на магілах саміх нябесных пасланцоў, бо селі яны не на сушу, а на мора, памяць аб якім яшчэ не ўмерла тут, толькі заплыла, зацягнулася тванню, як зацягваецца, зарастае тванню, жаберам і раскай, пераўтвараецца ў балота — дрыгву і багну з цягам часу ўсякая ціхая і спакойная вада — затокі і старыцы калісь вялікіх і велічных рэк.

Зямля і час спраўна і дбайна ўпакойваюць і стагуюць адмерлую ўжо мінуўшчыну, але знакі пакідаюць, мо для ненароджанага яшчэ нават. Такія знакі праблісквають і ў людской памяці. Яны праблісквають сёння і тут у казанні паданняў і ў чужых пісаннях. І калі ў іх ёсць хоць каліва праўды, то яна ніколі не згасне, захаваецца хаця бы знакава.

Вось такіх, пэўна, знакаў у верхавым балоце сярод пракаветнага белага моху, недаспелых буякоў, зусім яшчэ зялёных журавін, перасохлых крыніц і шукаў наваяўлены гад, мо каб нешта ўзяць ад іх, а мо каб звесці ўжо дашчэнту. Але, па ўсім, не знайшоў. Выйшаў на аблямцаваны чэзлымі бярозкамі край балота. Пакруціўся, як азіраючыся, і бордзенька павалокся ў бок клятага кургана да каменнага ідалішча пры месцы, нарачоным у народзе чортавым акном.

Толькі мала хто ведаў, што тое акно было зусім не чортавым. З таго ж няведання яго так назвалі. На самай жа справе гэта быў адзін са знакаў жывой памяці мінуўшчыны. Чортавы вокны, як гаварылі ў народзе, да меліярацыі меліся тут паўсюдна, пры кожным балоце, у кожнай багне і дрыгве. Імя сваё яны атрымалі таму, што былі бяздонныя. Ніхто з людзей не здолеў вымераць іх глыбіню. А папраўдзе ж яны ніколі не былі вокнамі апраметнай. І чорт не меў да іх аніякага дачынення, баяўся іх, як толькі той жа чорт баіцца ладану і крыжа.

То былі вочы, так лічылі колісь найбольш дасціпныя і дасведчаныя з людзей. Хаця ніхто з гэтых дасціпных людзей з пэўнасцю не мог сказаць, каму тыя вочы прыналежалі, чые яны былі: самой зямлі, нейкай невядомай істоты, якая з глыбіняў той жа зямлі адсочвала, што творыцца на гэтым свеце, пераказвала нябожчыкам, бацькам і дзядам, што з таго свету ўжо не толькі цікавалі за імі, але ад нечага і перасцерагалі. А мо, а мо... Гэта самі яны з далёкай будучыні, ужо адышоўшы, але не зведаўшы супакаення, сінню і блакітам сваіх вачэй прабіліся на гэты свет, каб бачыць яшчэ і неба. Нашчадкі і продкі людзей, што колісь жылі тут і будуць жыць далёка яшчэ наперад, пабраталіся на тым свеце, у страчаным у гэтым краі іх моры, моры слёз, журбы і смутку, але і замілавання, шчасця і радасці, пабраталіся бяздоннем і вечнасцю сваіх душ дзеля пакінутых імі, каб служыць ім вокам, павадыром у неабсяжнай прасторы вечнасці. У той самай прасторы, у якой сёння ўжо няма чаму заплываць багнай і дрыгвой, у якой пайшлі ўжо гуляць з іх сатлелага праху сухавейныя тарфяныя буры, што дасягаюць Месяца. Сам Месяц прымае ўжо прах чалавека.

І ў такую сухую буравейнасць узбунтаванага людскога праху нешта незразумелае адбывалася і ў так званым воку зямлі на старажытным кургане. З ім увогуле былі спрэс адны неспадзеўкі і непаразуменні. Пачаць хаця б з таго, што вада ў гэтым краі, нягледзячы на блізкасць ракі, залягала даволі глыбока. А тут жа горка, курган. Толькі ў праломіне таго кургана, як у добрым калодзежы, вада не зводзілася ніколі. Праўда, узровень яе на маладзік значна паніжаўся, да зорнага ў цемры, апраметнага бяздоння, а на поўню дасягаў паверхні зямлі, нібы гэта поўня прагла піць і падцягвала ваду з глыбіні, каб Месяцу ямчэй было прыпасці да яе. Умыцца самому, зачэрпнуць вадзіцы, каб падвесяліць, умыць на зямлі ўсё, што высмягла ад маладзіка да поўні. А высмягла, пэўна, добра, таму што

амаль адразу, як толькі гад пакінуў верхавое балота, яно закурэла. Спачатку дым слаўся нізам і неўпрыкмет. Але варта было дыхнуць лёгкаму ветру, як пыхнула і закурчавілася полымя. Адкуль узяўся агонь, было незразумела. Хто быў падпальшчыкам, гэта засталося тайнай за сямю пячаткамі.

А прыпала такое якраз на поўню, калі вада ў бездані чортавага акна ці вока бунтоўна ўзрушылася і прыбывала, ды так імкліва, што поўня ці той жа гад маглі піць яе ўжо нагбом. На яе празрыстай сподачкавай роўнядзі праявіліся і ўзышлі зоркі. І гад, здалёку яшчэ згледзеўшы іх блякла-прымружанае мігценне, не марудзячы, паднырнуў пад іх. Толькі, па ўсім, лепей яму было б нырнуць не ў нябесную ці зямную студню, а ў вар, кіпень смалы. А мо і на самай справе так і было. Ён даў нырца ў тую смалу, бо толькі апараны і нашкіпінараны здольны з такой хуткасцю выхапіцца з глыбіні на паверхню. А супакоеная было вада зноў узрушылася, заструменіла з бездані доўгімі і нібыта жывымі белымі звілістымі струменямі. І тыя струмені, дасягаючы паверхні вады, здзекліва і ўсмешліва шпокалі бурбалкамі. І нехта з глыбіні, з бяздоння так зароў, што, здавалася, угнуўся і сам курган. А гад сутаргава выпнуўся лукам раз, другі і пругкімі скачкамі, што лугавы восеньскі конік на сенажаці, паскакаў, як пасыпаўся ўніз, прэч ад загаворанага стагоддзямі старажытнага кургана. У бок вёскі, аціхлых і зажураных пад поўняй, ацалелых яшчэ сялянскіх хатаў, што, здаецца, крыху пакалыхваліся, люляліся і хаваліся, як у багне, у прыпалай да іх спарахнелых штандар начной смузе.

Ён аб'явіў сябе, хаця і значна паменшаны да звыкла г давых памераў, каля хаты Біча наступным ужо ранкам, у агародзе. Якраз паспелі першыя клубніцы, і гаспадар з гаспадыняй пайшлі выбіраць іх. Паласавацца першай ягадай падахвоцілася ўнучка. Ёй даручылі найлепшую

граду, дзе клубніцы былі ці не з яблык, праўда, не вельмі вялікі, дзікі, але ж ладны, за адзін кус не возьмеш. І ягада ўжо як бы загадзя падзелена на два дабрачыя кусы, пад грабеньчык сплюснутая, з двух бакоў як суровай ніткай пасярэдзіне перавязаная — кус адзін, кус другі. І ўнучцы нават не трэба было тлуміць галаву, як і з якога боку ці краю пачынаць есці тую ягаду.

Яна ўзялася за гэту салодкую справу з самага краёчка грады і не надта паглыбілася яшчэ ў клубнічны гушчар. Наводдаль ад дзяўчынкі на другім краі грады нечым сваім каціным быў заняты і Біч. Корпаўся, кешкаўся, мружыў вочы то на сонца, то на пераспелую чырвань ягады, якая сама кідалася яму пад ногі, заступала дарогу, так прасілася ў рот. Але, як вядома, каты клубніц не ядуць. І таму ён толькі ўсміхаўся ім і сытна аблізваўся чырвоным, а на сонцы дык і ружовым, што налітая сокам ягадзінка, язычком. Аблізваўся, даючы знаць, што ён не галодны і клубніцы не яго ласунак. Але калі што, то ён згодны быць вартаўніком гэтых ягад. Уберагчы іх ад мышэй, бо тыя шаткуюць усё, а больш — паганяць птушак, верабейчыкаў, якія па гэтым леце ўжо добра ўнадзіліся ў грады, прыкрыюцца шырокім клубнічным лістом і знай сабе дзяўбуць і дзяўбуць самую сакавітую ягаду, з'есці ўсю цалкам не адужаюць, а спаганяць багата. І верабейчыкі зацята віліся і кубліліся пад страхой хлява і хаты ў чаканні і прадчуванні, калі прыйдзе іх час заняцца ягадай.

Вось такі неглумлівы замілаваны ранак выспеў тым летам на лецішчы. І раптам усё перамянілася, нібыта пастух на ўзыходзе сонца ляснуў пугай сярод вуліцы па ачахлым за ноч падселым прыску пяску. Увушшу гаспадара цененька зазвінела. Ён падумаў, што гэта зноў да яго падступае хвароба. Але не, звон быў, а галава не кружылася і зямля не гойдалася. Кінуў вокам на ўнучку, на ката пад грушай і здрыгануўся. Кот, натапыраны, што надзьмуты ветрам мех ці нейкім жэўжыкам капшук,

ярасна шыпеў і скаліў рэдкія, але колкія зубы. Такой лютасці ў ім не было нават тады, калі ён адбіраў у яго зайца. Гаспадыня ж спакойна збірала ў даёнку клубніцы, унучка не выказвала трывогі.

Ён кінуўся пад грушку, дзе лютаваў кот, і здранцвеў. Кот, што індыйскі заклінальнік гадаў, узад і ўперад, угару і ўніз раз'юшана ківаўся галавой і шыпеў скрозь выскаленыя, яскрава прарэзаныя бакавыя іклы, а ў адказ яму сыкала, хуценька хістала даўгім раздвоеным языком гадзюка. Унучку і гадзюку падзялялі ўсяго некалькі крокаў. Не будзь тут коціка, дзяўчынка немінуча натрапіла б на гадаўку.

Ён папрасіў унучку перайсці на другую граду. На яго голас узняла галаву і жонка:

— Што там? — спакойна спыталася ў яго.

— Ды нічога,— таксама спакойна адказаў ён.

— А ўсё ж? Чаго гэта кот так бесіцца?

— Ды здуру мабыць. Вужык тут, вужык.

— А, вужык,— сказала жонка. — Гэта мо і добра, вужы жаб ядуць, а яшчэ камароў нішчаць. Вужык звядзе ў нас камароў, і цябе не будзе каму кусаць. Праўда, унучка?

— Праўда, — пагадзілася ўнучка і зрабіла крок да грушы. — Хачу паглядзець вужыка.

Ён спыніў яе. А сам не зводзіў вачэй з таго вужыка. Вельмі дзіўны ж ён быў нават і для гадзюкі. Цела гада, хаця і нейкае ўкарочанае і брыдкавата таўсматае для гэтых увогуле зграбных і нечым нават прывабных воку істот. І сыкала яна без змяінай папераджальнасці і таго ж змяінага памкнення ў любую хвіліну порскнуць прэч. То быў сык спрактыкаванага забойцы, якога здольна парадзіць толькі апраметная, і ўтрапёнасць той жа апраметнай гучала ў яе сыканні. Забойствам прамяніла нязводнасць позірку.

Але не гэта больш здзівіла і напалохала яго. На галаве падзямельнага гада ў тры прыступкі рдзеў чырвоны грэбень. За свой век ён неаднойчы, жывучы сярод лесу

і балотаў, сутыкаўся з самым розным гадаўём. Але ж гэта стварэнне вельмі рознілася ад усіх бачаных ім. А давялося ж не толькі бачыць іх паўзучымі. Неяк ён трапіў у само г дава царства. Гуляў з сябрамі ў парашутыстаў. Залазілі вясной на бярозкі да самага верху, нагіналі іх і парашуціравалі, трымаючыся за голле і летучы долу. Вось так, парашуціруючы, ён апусціўся не на зямлю і траву, а ўляцеў у яму. У той яме ўзімку захоўвалася бульба і было нацярушана трохі саломы. А на саломе ляжалі сплецены ў клубок самыя розныя змеі — вужы і гадзюкі. Былі яны яшчэ квёлыя ад зімовай спячкі і такія ж зімова і зямельна, тагасветна халодныя і слізкія. Яго стрыжаныя пад Катоўскага валасы на галаве як выраслі нанава і ўсталі дыбам. Дыбам усталі валасы не толькі на галаве, але і там, дзе іх яшчэ і не мелася, дзе яны маглі ў свой час яшчэ толькі быць. І ці не яны ўзнялі і выхапілі яго з ямы. Тады ўсё абышлося спалохам.

А аднойчы ўсё ж яго і ўкусіла гадзюка. Ён драў лазовае лыка на верхавым балоце, каб высушыць, здаць каравачніку і збегаць у кіно. Захоплены справай, адразу ж і не зразумеў, што гэта кальнула яго праменька ў пяту. Нагнуўся паглядзець, пачуў шолах травы і зайшоўся крыкам. З-пад яго ног вілюгамі шылася ў лазняковыя карчы гадзюка. Спалатнелага і добра ўмытага слязьмі яго знайшоў незнаёмы яму дзед, прыбег аднекуль на яго галашэнне. Без лішніх слоў паклаў яго на купіну, дастаў з кішэні нож і распаласаваў ці не да косткі пяту. І доўга смактаў тую яго пяту, смактаў і сплёўваў. А потым тут жа ў балоце знайшоў нейкія зёлкі, як ватай абціснуў з усіх бакоў пяту белым мохам і абвязаў яго ж разадранай сарочкай. Прарабляючы ўсё гэта, той дзед не спыняўся і гаварыць, расказваў пра гадзюк. Аказваецца, тая гадзюка, што ўкусіла яго, цяпер прыгавораная ўжо. На ўзвіжанне, калі гадзюкам час сыходзіць, хавацца ў норы, зямля не прыме яе — у пакаранне за тое, што яна ўкусіла чалавека. І тады гадаўка выходзіць на дарогу шукаць сваёй смерці,

каб хто-небудзь злітаваўся над ёй і забіў. Інакш — яе смерць будзе доўгай і пакутнай, ад сцюжы і холаду, і нішто і ніхто не ўратуе, калі ўжо і зямля яе не прымае.

І цяпер, гледзячы на дзіўнага гада, якому мерыўся супрацьстаяць коцік, ён мімаволі думаў, што гэта тая самая змяя, якая калісь пакусала яго, усё ж нейкім чынам ажыла і прыпаўзла сюды, каб адпомсціць за сваю пакутлівую смерць. Толькі натрапіла на коціка, пасланца яму ад самога Бога.

І не змяя гэта, зусім не змяя, не гадзюка. А сам Васіліск, таксама пасланец, толькі пекла. Той самы Васіліск, пра якога ён яшчэ ў дзяцінстве ад бабулі наслухаўся столькі жахлівых казак і казаняў. Ад бабулі, якая перасцерагала яшчэ на самым пачатку жыцця ад сустрэчы з гэтай пошасцю, бо жывому няма ад яе паратунку, ці прыбярэ яна яго зубам з ядам, ці сурочыць вокам альбо языком, якіх у яе ажно два, а не — дык і спаліць у сваёй жа хаце, у ложку, жыўцом спаліць.

Між тым супрацьстаянне коціка і гада працягвалася. Ён не змеціў, каб сутыкаліся яны ўшчытную целам, настолькі імгненныя былі кідкі і выпады абодвух, таксама не ведаў, ці паспела гадзюка ўкусіць коціка яшчэ да таго, як ён убачыў іх сутычку. Але асабліва меркаваць і думаць пра гэта не выпадала. Ён падбег да хлява, ухапіў прыслонены да яго асінавы кол і ўжо ўзняў той кол над крывавым грэбенем гадаўкі, але апусціць не наважыўся. Грэшна было тварыць забойства пад сваёй жа хатай, паганіць сваёселішча. Дый хоць і нешта пачварнае было перад ім, але жывое, і не падымалася на жывое рука.

Тады ён адштурхнуў убок ката і нагнуўся, каб ухапіць гэтага неапазнанага паўзучага гада за хвост, перакінуць праз плот. Але ў апошнюю хвіліну хапіла розуму, перадумаў: яшчэ крутнецца і ўкусіць. Гадаўка, нібы таксама маючы розум, адчула, што вырашаецца яе лёс, звілася ў клубок, кольцамі прыпала да зямлі, як мёртвая, ляжала і не краталася. Ён прашыўся колам у

сярэдзіну нерухомага цела, рассунуў яго на два бакі. Падчапіў на кол гадаўку, падняў і панёс да плота. Шырока размахнуўся і перакінуў, шпурнуў яе напружанае і адчувальна цяжкае цела праз плот у поле. І больш ніколі не бачыў.

Толькі амаль апоўначы ўспыхнулі полымем шыбіны ў акне яго хаты, што выходзіла ў той бок, куды выкінуў ён гада. Спачатку падумалася, што гэта і сапраўды гарыць яго хата. Але гарэла насупраць, хата вялікіх пакутнікаў і вялікіх грэшнікаў — пісьменніка і мастачкі. Людзі, што збегліся на пажар, не сталі і тушыць яе. Не было чаго тушыць, дый гарэць было не надта чаму. Хата пыхнула, як знічка ў небе, і чаротавай страхой абвалілася, іскрыста пайшла ў зямлю і на неба. Людзі толькі моўчкі наглядалі за гэтым і бясконца хрысціліся. Але апроч людзей тут былі і яшчэ жывыя істоты, толькі іх ніхто не бачыў і не мог бачыць. Яны таксама паводзілі сябе маўкліва. Хоць і без жахання. Быў сярод іх і коцік, адзіны, пэўна, хто адчуваў прысутнасць пабочных. Ён і знік разам з імі нябачна. Куды дзеўся, не ведаў нават і гаспадар.

Кот тае ночы ўпершыню не начаваў у хаце, не аказваў сябе і не азываўся на голас гаспадара. Ад пажару ён пайшоў не да свайго селішча, а чамусьці ў высахлую каля хаты сажалку. Там ён даўно ўжо ўпадабаў сабе месцейка, мо для адпачынку, а мо і для журбы, развâжанняў і думак, а мо яшчэ для чаго-небудзь. Хто зразумее гэтых катоў, у кожнага з іх ёсць любае ім месцейка, куды яны ў пэўны час знікаюць, прагнучы адзіноты і спакою.

У Біча такім месцейкам у сухой сажалцы была маленькая пралысінка белага глею, як бы заўсюды вільготная, успатнелая. На той пралысінцы ён і прасядзеў рэштку ночы. І толькі поўня выкрывала яго ды нешта нашэптвала мігценне зорак, шолах чароту над галавой ды маўклівае ківанне чорнагаловых макавак рагозу.

Ад хаты ж гаротнікаў повідну засталася толькі печ ды глыбокая яма, у якую, пэўна, яна і пайшла. Старасвецкая ж ліпа, на першы погляд, засталася не кранутая агнём. Лісце хаця крыху і пажухла, але ўтрымалася на дрэве. А сам ствол моцна пажаўцеў, як гурок-насеннік, з якога выелі, выбралі насенне і па восені пакінулі на пустой градзе.

А яшчэ непадалёку ад згарэлай хаты, каля электрычнага слупа, можна было ўбачыць мёртвага сабаку-артыста, што нейкі час перабіваўся каля асірацелай хаты мастачкі і пісьменніка. Ад чаго сканаў той сабака, можна было толькі гадаць. Не было на ім ніякіх апёкаў, і поўсць нідзе не падпалілася. Вось толькі вочы былі выедзены, і неяк дзіўна выедзены, нібыта высмактаны. І адзін толькі кот доўга і нязводна ўглядаўся ў пустыя вачніцы мёртвага сабакі, у плеўкі, што засталіся ад вачэй. Углядаўся і стаpанна заплюшчваў вочы, паціху, задам адступаў і адступаў ад нябожчыка, нібы мёртвыя, высмактаныя вочы яго нечым пагражалі і яму.

НЯБЕСНЫЯ БЕГІ

Цмок пад салаўінае вар'яванне ў зарасніках чаромхі і алешніку рэлаксіраваў пры беразе ракі. Ён, канечне, пра гэтую рэлаксацыю нічога не ведаў, але ў яго ўсё для яе мелася: і рэлаксацыйны генератар, і мультывібратар, і нават фантастрон з санатронам. Але пра ўсё гэта ён таксама нічога не ведаў. Як кожны з нас нічога не ведае і не здагадваецца да пары да часу аб наяўнасці ў сабе нырак, печані і нават мазгоў і іншых розных адмысловых апендыксаў. Па сённяшнім нашым разуменні Цмок быў звычайны невук, хаця ён пра сябе так і не думаў. Наадварот, вельмі ганарыўся, падазраючы ў сабе вялікага вынаходніка.

А вынаходніцтва за ім было сапраўды вялікае, калі не геніяльнае. Ён прыдумаў і падараваў свету, а гэта значыць і навакольнаму люду, змеявік. Прыладу і прыстасаванне, без якога ў гэтых балотах, хмызах і карчах усё жывое даўно б змарнела і акачурылася, а перш-наперш акачурыўся б без пастаяннага паступлення так званай карчоўкі ён сам. І свет так нічога б не зведаў пра рэлаксацыю.

Нават японцы пры ўсёй вёрткасці іх розуму не дапялі ні да кундзіні, а мо і кундзідзіні, што з японскага перакладаецца як тая ж самая рэлаксацыя, а насамрэч значыць: ні пра што не думай, а рабі тое, што павінен рабіць. Таму кундзіні, а мо і кундзідзіні было даспадобы Цмоку. Яго б воля, ён бы ўвесь тутэйшы народ перавёў на японскую, хай бы кундзідзінькалі ўжо, калі пра свае слова забыліся, хаця прымусіць тамтэйшы люд кундзідзінькаць і без яго ахвотнікаў хапала. Хапае перакладчыкаў, а хутчэй укладчыкаў жывога і блізкага ў асінава-дубовыя труны, каб ніколі не ўваскрэсла. Хапае, толькі змеевіка ім усё роўна, як яны ні пнуцца, як ні тужацца, не прыдумаць. А ён прыдумаў, і народ яго зразумеў і падтрымаў, таму што ён быў непарыўны

з яго, народа, балотамі, карчамі і чортавымі вокнамі, з багнай і дрыгвой.

І думкамі ён ужо даўно зросся з усёй гэтай клятай няўдобіцай і каравасцю. Ад яе ўсё ў яго пачыналася, на ёй жа і трымалася, як трымаўся і сам ён, ішло і працягвалася. Толькі апошнім часам працяг гэты даваўся яму ўсё з большымі намаганнямі. І думкі пацяжэлі, і думаць пацяжэла. Звязваў гэта з меліярацыяй, з асушэннем, што падсякала і нішчыла яго карані і вытокі, зводзіла амаль усе калісь незлічоныя тут крыніцы, якія ў свой час, не выключана, і нарадзілі яго і, бясспрэчна, выгадавалі і ўтрымлівалі на гэтай зямлі. Зямля на вачах губляла свой зямны выраз і твар.

І таму Цмоку край як неабходна было мікіціць і мікіціць. І крыху наперад. А мысляром ён ніколі не быў і не пнуўся быць, увогуле да ўсіх мысляроў і нават уласных думак ставіўся калі не зусім ужо з пагардай, то вельмі і вельмі скептычна: столькі тысячагоддзяў мудрыкавалі, мудрыкавалі і так мудзёрна спахабілі і спаганілі зямлю і народ. Вось і Цмок пазбягаў памнажаць распачатыя высакалобымі разумнікамі пахабень і погань. Смеху ж варта — прыдумаць кола, з якога ні кола, ні мяла. Вось яно і пакацілася пад горку крута ўніз. Ведзьмакі і вядзьмаркі, якіх трэба было развешваць і развешваць па штыкеце, асядлалі яго, тое кола, і цяпер яно ўжо ўладарыць, месіць і плюшчыць зямлю і гнюсіць чалавека, які моліцца яму, утрапёна-пагібельна імкне на гэтым коле ці не ў апраметную і бяжыць, бяжыць за ім. А быў жа, быў знак і намёк.

Знак і намёк і цяпер яшчэ нязгасны ў даўніне часу. Пра клубок. Так, той самы бабулін клубок самапрадных нітак, які пацíху намотваўся і намотваўся на вечарніцах, а потым размотваўся і каціўся, каціўся. І вёў, вёў таго, хто выправіўся ў вялікую дарогу, крочыў за ім у велічнасць высакоднай будучыні, не крыважэрна прагнай і хцівай, нашаптанай невядома адкуль яўленай зямлі набрыддзю і спакушэннем бессмяротнасці, абяцанай, як ні дзіўна, самой смерцю, а ў дзень і святло, адзіна годныя жыцця і працягу ўсяго існага на гэтым свеце.

Ды, пэўна, на зямлі апошнім часам зашмат развялося індыкаў, якія, ні для каго ж не ў навіну, любяць думаць. А кожнаму ж добра вядома, што з гэтага атрымліваецца: індык думаў, думаў, дый у суп трапіў. Так ад вялікай задуменнасці канаюць не толькі адны індыкі. І мухі ад гэтага, надараецца, дохнуць. Варта толькі ёй залішне набрацца розуму, прысесці, схіліць долу ацяжэлую ад думкі галаву, як на яе адразу ж знаходзіцца мухабойка, а то і прывабная, на цукру ці нават медзе з дамесам, зразумела, дусту ліпучка ці такі ж прыцягальны атрутны мухаморчык у генеральскіх строях. І ўсё, пішыце пісьмы да запатрабавання, на той свет. І гэта добра, што мух на зямлі незлічона. Таму і дохнуць ім не перадохнуць, не зважаючы ні на грыпы, ні на СНІДы, ні на распаўсюджаны сёння сіндром хранічнай стомленасці ці нейкай яшчэ іншай, зусім ужо свінскай хваробы.

Усё гэта, нягледзячы на вынаходлівасць і вытанчанасць чалавечага розуму, не надта пагражала і Цмоку, хаця апошнім часам галава яго трашчала ад загрувашчанасці думкамі. Мільёны і мільёны, — квантавы камп'ютар, днямі вынайдзены, менш іх мае. Цмок сам часам дзівіўся, адкуль яны толькі бяруцца, дзе і як месцяцца і ці нельга хоць адну з іх каму-небудзь прадаць, альбо і задарма ўжо ўпарыць, закіндзініць тым жа кіндзідзіням. Хай і яны па-японску пакіндзідзінькаюць. Не ўсё толькі мыслярам, мухам ды індыкам пакутаваць.

Але ад такога пакутна-самотнага настрою Цмок прылаўчыўся хутка і ўмела пазбаўляцца. Ён увогуле быў не схільны ні да суму, ні да тугі. Проста ніколі не дазваляў сабе распускацца, трымаў у кулаку самога сябе і свае думкі. Толькі адна з іх была занадта ўжо надакучлівая, настырная. Цмок ужо некалькі стагоддзяў няздольны адкараскацца ад яе, гнаў прэч, а яна ўсё вярталася і вярталася. І да ладу ж давесці яе было немагчыма. То ўсё войны ды войны, а потым усе уніі ды уніі, прыгонніцтва і яго адмена і зноў жа адна за адной рэвалюцыі і рэвалюцыі — бязлітаснае і крывавае шаленства народу. Пяцігодкі, пяцігодкі і зноў вайна, выбухі патрыятызму і энтузіязму. Адліга, застой, галоснасць з перабудовай. Як толькі людзі на зямлі спраўляюцца з усёй гэтай шызой? Мо таму кароткі такі іх век. Толькі ж і гэта яшчэ не ўсё на іх тлумную бядотную галаву. На яе ж, слабенькую, яшчэ і дэмакратыя з дэмакратамі... І тут, падобна, гэта столькі разоў перакручаная галоўка ўсё ж не вытрымала, у некаторых мо яшчэ і працягвала ліпець на якой-небудзь адной-адзіненькай жыліне, а ў большасці разьбу сарвала начыста. Знесла клёпкі, збіла з капылоў і пад мікіткі панесла немаведама куды. Народ пачаў жыць віртуальна, скрынева-тусовачна, целам.

Галава ўсыхала, плакала, а плоць тлусцела так, што і ў дамавіны ўжо не ўбіралася. І гэта было падобна да вялікага галадамору, што час ад часу покатам каціў тут народ на той свет. Галадамор наадварот. Чалавек пашырэў і пацяжэў. І аддаўся толькі аднаму, усюды, дзе толькі было магчыма, пачаў лавіць кайф. Сэнс і існаванне яго сёння нагадвала жыццё падвопытнага пацучка, якога падвялі, паказалі кнопку задавальненняў. Вось зараз пацучок цісне і цісне тую кнопку, забываючыся на ежу, сон, адпачынак, дзяцей, на сваё спрадвечнае наканаванне: быць і заставацца — працягваць сябе і свой род. Цісне, цісне кнопку задавальненняў і захлынаецца ў іх, радасна адыходзіць у нябыт...

Да берага рэчкі, дзе сядзеў Цмок, падляцеў груган, няйнакш той самы, што атабарыўся на кургане, каля каменнага ідалішча, кінуў у ваду сухую скарынку хлеба, прытрымаў лапай, каб не знесла плынь. Чакаў, пакуль скарынка размокне і памякчэе, каб яе можна было ўжо есці. Цмок ухваліў гругана:

— Бач, і ты за трыста гадоў розуму панабраўся.

— Ага, — адказаў груган, — не за трыста, а за тысячу, не хочаш?

— Няхай будзе і тысяча — пагадзіўся з ім Цмок, — але ўсё ж паразумнеў. А гэтыя ніяк розуму не набяруцца, — хітнуў галавой у бок вёскі.

— Бо хлеб лёгка дастаецца, — груган пачаў дзяўбці і са смакам глытаць скарынку. — Хлебам ужо кідаюцца. Каб гэта мы, груганы, не падбіралі...

— Трэба ж нешта і вам з панскага стала.

— Такога не трэба, — адказаў груган. — Дармавы хлеб ненадзейны... І ты дарэмна гэта ўздумаў. Не вартыя яны яшчэ, не гатовыя.

— Не вам, груганам, мяне вучыць.

— Ну, не дык не. Глядзі толькі, каб каяцца потым не давялося. Каб зноў да нас на курган не пабег ратавацца. Мы можам і не прыняць, паперці ў каршэнь.

І на гэтых словах груган ухапіў у дзюбу скарынку, раздругі не надта зграбна скочыў па зямлі — на дармавым хлебе не вельмі палятаеш, — узняўся над ракой і скіраваў да кургана. А Цмок пацягнуў сваю надакучлівую думку далей.

Ён адчуваў і разумеў сваю неадпаведнасць навакольнаму жыццю, хісткасць і няпэўнасць існавання. Нават нейкую штучнасць свайго паходжання, толькі не здольны быў уцяміць, якога ж яна кшталту: аднекуль звыш, прабірачнага ці галаўнога, уяўнага, створанага са страху ці замілавання жыццём, яго фантасмагарычнасцю, фантазійнасцю і бязглуздасцю. Задумы д'ябла ці Бога. Але за стагоддзі і стагоддзі сваёй уласнай неўміручасці

ён ужо звыкся з самім сабой. Звыкся, што ён ёсць, і ўсё. Прырос да самога сябе: прывід, нешта жывое — не мела значэння. Як не мела значэння само існаванне чалавека, прыдуманага ці рэальнага. Яго прыдуманага, больш, пэўна, уяўнага жыцця, прыдуманага тут, падобна, таксама народу, які няўзнак недзе ў стагоддзях часткова самахоць, а больш прымусова страціў сваё імя і слова. Вось з усяго гэтага — памяці і забыцця — склаўся, з'явіўся і ён. Самы што ні на ёсць сапраўдны тубылец, тутэйшы, як і ўсе астатнія тут — жывыя і цёпленькія. І больш за ўсё жадаў, каб гэтыя жывыя і цёпленькія, тутэйшыя тубыльцы не зніклі, каб яны ацалелі і назаўсёды заставаліся тут, у гэтым краі. А разам з імі заставаўся і ён. І каб яго хаўруснікі, таксама невядомага і няпэўнага паходжання, памылка прыроды ці дар нябёс, пасланцы іх, ацалелі і засталіся, а пры іх — усе тыя шматлікія, каго яны тут узгадавалі на замілаванне небу, зямлі і часу. Толькі так, толькі разам усе яны здолеюць зведаць будучыню і адбыцца ў ёй, працягнуць іх агульны радавод.

Стагоддзі са два таму гэта наблізілася, амаль здзейснілася. Амаль здзейснілася. Не без яго, Цмока, ўдзелу і ўхвалы. Але верх узялі інакшыя Цмокі без роду і племені, праглоты. Усё захлынулася, патанула ў крыві, пайшло на шыбеніцы, зайшлося ад страху і ці не сканала ў навязанай чужынцамі тубыльцам так званай памяркоўнасці. І на сваё імя забыліся. І Цмок плюнуў на ўсё і ўсіх: не хочуць жыць па-людску, хай жывуць як могуць.

Плюнуў, кінуў, рынуў усё, адышоў ад мірскіх спраў і схаваўся, як здалося яму, назаўсёды ў такіх балотах непадалёку адсюль, у такой спрадвечнай багне і дрыгве, што і прыдумаць немагчыма. Толькі схованка аказалася ненадзейнай. Яго выкарпалі з той скрытні недзе ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя. Ды як яшчэ выкарпалі, наледзь ацалеў, бо адбілі нават памяць пра яго бессмяротнасць. Падпалілі, падсмажылі жыўцом

такім не зямным і не пякельным агнём і полымем, што ён толькі і паспеў змеявік свой уратаваць, самому, здаецца, ратавацца было позна ўжо. Такі смоўж, такі грыб расцвіў, разлёгся і пачаў смажыцца паміж небам і зямлёй, што ад балота, яго логава з багны і дрыгвы толькі пыл ды іскры засталіся. Атрутны попел і дым паляцелі па ўсім свеце. І адразу ўсё навокал стала атрутным. А ён па самым краёчку грыба слізгануў немаведама куды, ці то на Млечны Шлях, ці то ўглыб да самага цэнтру, пупавіны зямлі, дзе таксама было неверагодна горача і спякотна. Але ўсё ж не так. Той агонь зямны, ад ядра яе, ніяк нельга было параўнаць з агнём, створаным чалавекам. Менавіта яго, пэўна, можна было лічыць сапраўды ядзерным.

Але, як ні дзіўна, ачомаўся ён зусім не на нябёсах, не ў космасе і не пад зямлёй. Туды было яму яшчэ ранавата. Было наканавана яшчэ жыць і жыць. Пакуль стаіць Зямля. Нешта мо зрабіць, здзейсніць на гэтай планеце. Цмок выявіў сябе ў поўнай цемры і ў неверагодным холадзе, сярод стагоддзямі, а мо тысячагоддзямі зляжалага, спрасаванага снегу. І снег той ад вечнай мерзлаты і паўночнай цемры таксама спачатку здаўся яму чорным, хаця і вельмі лагодным пасля той патэльні, якую яму ўгатавала яго ласкавая і дабрадзейная радзіма.

Ён быў на зямлі, якая так і звалася — Новая зямля, і няблага пачуваўся. Адзінота і жахлівыя маразы былі яму нават даспадобы. Ніхто не дакучаў, ніщто не вярэдзіла душу. Жыццё тут даўно адышло ў тую ж вечную мерзлату, прыкрылася снегам, добра адглянцаваным часам. І сам гэты час, як і прастора, акіян і горы, здавалася, таксама замерзлі і застылі, пераўтварыліся ў вечны спакой і цішу. Спакой і цішу, якія ўласцівы і яго родным балотам, без усплёскаў, усхліпаў і мітусні. Усё тут было таксама замарожана, прыпаяна і ўкляпана ў Палярную ноч. І гэта ноч, зрэджаныя палярныя зоркі, палярныя ззянні больш, чым самае вірлівае жыццё, стасаваліся з вечнасцю.

Адзінае, што непакоіла Цмока, у гэтай вечнасці выстуджваліся, мерзлі жаданні і пачуцці. Змеявік мала дапамагаў, хаця без яго ўвогуле было б немагчыма. Ратавала толькі ўсведамленне таго, што ён не адзін так бядуе, белы мядзведзь, хаця і раскашуе, але ж, пэўна, і не нудзіцца. Недзе за тым жа палярным кругам ёсць бядотнікі і большыя, і без усякага падагрэву, без змеевіка гаруюць, валяць лес, здабываюць золата і руду... Тую ж самую руду на пагібель яму і сабе. І ім толькі зрэдзьчасу крадком выпадае чыфір. І свае ж, усе свае людзі, людзі балот, дрыгвы і карчоў, выжыльваюцца, кладуцца ў вечную мерзлату на чужыне. А ён тут, без перабольшвання можна сказаць, пануе і балюе.

Але гэта яго панаванне, добраахвотнае зняволенне і бежанства доўжылася не больш, а мо нават крыху і менш за дзесяць гадоў. Вялікая краіна зноў, у каторы ўжо раз станавілася ці то ракам, ці то дыбам — з ног на галаву, а мо і наадварот — з галавы на ногі. Надыходзіла эпоха вялікай, хаця і вельмі кароткай так званай адлігі. Адлігі, якую ён у поўнай меры ацаніў і адчуў адным з першых. Бо і сама яна, адліга, як гэта ні дзіўна, пачалася за Палярным кругам, сярод холаду і вечнай мерзлаты Новай зямлі. Тая адліга абрынулася на Цмока куды з большай сілай, чым сярод родных хмызоў і тарфянікаў. І мімаволі стварылася ўражанне, што гэта менавіта на яго пачаў паляваць чалавек, менавіта на яго забойства скіраваны геній зямной цывілізацыі.

Спапяляючы чалавека розум, ад якога ён сам жа больш за ўсё пакутуе і будзе пакутаваць, зведае такое, што і апраметная здасца раем. Не чакаючы трэціх пеўняў, ужо тройчы адрачэцца ад сябе і тройчы сябе ж пракляне, бо, не зважаючы на ўсю сваю пераўтваральную магутнасць, патраціў сябе на знішчэнне ўсяго жывога на зямлі, спадзеючыся, што ў гэтым якраз і крыецца яго прадвызначэнне. Страціўшы імя, мову, ён страціў і сілу, нададзеную яму Творцам. Страціў памяць на сябе

і пра сябе. Забыўся на тое, што ўжо меў, нарадзіў, апеў, выказаў, чаму даў волю і падараваў свету: на свае песні, казані і казкі, легенды і паданні. На тое, што стварыла з яго чалавека, народ, краіну.

А ён ганяўся за нейкім прывідным Цмокам, тым Цмокам, ад якога ж і сам нарадзіўся. І цяпер прагнуў знішчыць яго, не цямячы, што разам з ім назаўсёды ўжо знішчыць і сябе, бо, ствараючы сваю зверхнасць і звышмагутнасць, ён вычэрпваў і сябе, сваё існаванне ў сусвеце. Бомба ў яго галаве — гэта бомба для той жа самай яго галавы, якая першай жа і паплоціцца. А Цмоку што? Ён ужо даўно вечны, даўно ўжо паўсюдна — на зямлі і ў космасе. Адзінае яго жаданне, каб і чалавек разам з ім дакрануўся да таго ж космасу, адчуў яго вечнасць, неспазнанасць і бязмежнасць — сваю ж уласную касмічнасць. Нявымяральную і неспасціжную, дзякуючы якой нараджаюцца і існуюць на свеце Цмокі. Дык не ж, не ж...

Чалавек сёння жыве ўзбуджана, у роспачы і страху. І роспачнасцю сваёй развярэджанай душы творыць роспач і страх ужо ў сусвеце. Той страх Цмок зведаў на сваёй скуры і на Новай зямлі сярод антрацытавай іскрыстай цемры палярнага снегу. Другі замах на яго жыццё адбыўся на Новай зямлі трыццатага кастрычніка адна тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят першага года ў адзінаццаць гадзін трыццаць мінут. Над заснежаным архіпелагам, застыгласці маразоў сярод ночы ў раёне Матачкіна шара на семдзесят секунд узышло другое сонца. З Кольскага паўвострава бамбардзіроўшчык ТУ-95, кіруемы экіпажам у восем чалавек, даставіў цар-бомбу, выраб нумар дзвесце два (не блытайце толькі з грузам дзвесце, на паніжэнне чалавек пачаў гуляць падчас афганскай вайны: груз 200 — цынкавыя труны з нябожчыкамі). Выраб нумар дзвесце два важыў дваццаць шэсць тон, быў восем метраў у даўжыню і два метры ў дыяметры і ў тратылавым эквіваленце меў звыш

пяцідзесяці мегатон. Гэта была сапраўды цар-бомба з самым магутным да той пары тэрмаядзерным выбухам.

Невядома, ці здольны быў выратавацца ад яго Цмок, ці дапамагла б яму на гэты раз бессмяротнасць. Але пашанцавала. Сапраўды, каму нарачона ўтапіцца, той не павесіцца і не згарыць у агні. Цар-бомба апускалася на зямлю сістэмай парашутаў, асноўны з якіх быў плошчай у адну тысячу шэсцьсот квадратных метраў. Выбух адбыўся на вышыні чатыры тысячы метраў ад зямлі. Якраз гэта аддаленасць ад паверхні зямлі і даравала, пэўна, жыццё Цмоку.

Спачатку на вышыні пятнаццаць-шаснаццаць кіламетраў узнікла сфера, утварылася амаль новая планета блакітнага колеру, як і Зямля. Усё на самай справе нагадвала стварэнне планеты зямлі, толькі з зусім адваротным знакам. Следам за сферай — памаранчава-чырвоны вогненны шар, які засціў усё неба і працягваў разрастацца, паволі цьмянець па краёчках, астуджаючыся. Цьмянеў, пашыраўся, доўжыўся, недзе далёка ў небе набыў форму шапкі, вялізнага капелюха, накшталт шляпы губастага пераростка-баравіка на доўгай і бледнай, што ў паганкі, назе. Але пакуль тая нага ішла і шукала сабе апірышча на зямлі, шукала яго, Цмока, ён быў ужо за трыдзевяць зямель у трыдзявятым царстве. У зусім іншым вымярэнні прасторы і часу.

Добра патаптаў тую прастору. Глынуў нямала чужога часу. Але нідзе надоўга не затрымаўся. Вярнуўся з прочак зноў на родную зямлю, папраўляць надарваныя ў бежанстве здароўе і дух. А зрабіць гэта можна было толькі там, дзе нарадзіўся, на зямлі абяцанай, сярод родных і звыклых яму, яго духу, мяккіх, што пух, цёплых і гаючых тарфянікаў, распасцёршыся сярод каторых яму было так утульна і звыкла. Руды торф з перапрэлых дрэў, на голлі якіх ён некалі люляўся і гойдаўся, белы сфагнавы мох сухіх балот, на якім ён любіў адпачываць і проста качацца, дурэць, не забыліся яго, бо Цмок быў

сам часткаю гэтай сённяшняй посцілкі яго краю. Ён сам, можна сказаць, стварыў гэтае покрыва. Ствараў мільёны і мільёны гадоў, а покрыва дзячыла і стварала яго. Толькі цяпер Цмоку не заўсёды і ўсюды, як гэта было раней, шанцавала знайсці патаемнае ў тарфяніках месца, укрыцца, захутацца ва ўсё яшчэ не скамянелую коўдру сівой і ветлівай мінуўшчыны. Адно за адным знікалі знаёмыя яму балоты, знікалі тарфянікі, буравейным пылам, смеццем і брудам сыходзілі ў нябыт неабсяжнага, моўчкі паглынаючага іх ратавальнага і знішчальнага космасу.

І на роднай зямлі трэба было шукаць больш прыдатнага прытулку. Тут якраз распачалі будаўніцтва атамнай электрастанцыі, ядзернай крыніцы моцы, той самай пачвары, што ўжо каторае дзесяцігоддзе палявала на яго. Дзе ж схавацца бядотніку, па следзе якога бяжыць час-ваўкадаў, разняволены атам-монстр? Зразумела, самая надзейная хованка — за пазухай гэтага монстра. І Цмок атабарыўся пад чацвёртым рэактарам атамнай электрастанцыі. Добра прыдумаў, толькі нечага ўсё ж недадумаў.

Пасля таго, як гэты рэактар выбухнуў, на яго ж, на Цмока, пачалі і ківаць. Нібыта ён і ёсць тая нячыстая сіла, што ўтварыла вялікую бяду ўсяму свету. А ён жа ні сном, ні духам ні ў чым не вінаваты. Наадварот нават, лямантаваў у тым ядзерным пекле, толькі ніхто яго не пачуў: мірны, мірны атам. Мірны атам — у кожную хату. І кожная хата на зямлі займела той мірны атам. А Цмок сам ледзь выратаваўся ад яго. За тры хвіліны па яго прыляцелі суродзічы з бліжняга космасу. Не наважыліся нават і прызямліцца, пракінулі зялёны прамень, па якім ён выбраўся з таго дабрадзейнага пекла. Так яго пазбавілі роднага котлішча, каб не надта высоўваўся і больш памоўчваў. Так Цмок стаў беспрытульным і безгалосым бадзягам, бічом і бамжом у любым яму краі. Краі, які сам

і стварыў. Стварыў пад сябе і тых, хто яму таксама быў бясконца любы.

Бамжуе і бічуе. Больш бічуе, бо інтэлігентнасці яму, Цмок гэта добра ведае, відавочна бракуе. Ды і ставіцца ён да іх, да інтэлігентаў, не надта прыхільна. Гэта ж з іх дапамогай гэты кут зведзены да такога ўбоства, пастаўлены, падведзены да краю, за якім ужо бездань. А сам ён тут сёння проста Цмок — Цмок, якім у вясковых хатах пужаюць малых дзяцей.

Любасць да гэтых дзетак і гэтай зямлі і звяла яго да рэлаксацыі і кундзідзінькання — напаўяпонца. Цмок адмаўляў чужому голасу, што разлёгся на родных яму абсягах і аблогах. А толькі ж сіла і салому ломіць. І ён, Цмок, хаця яшчэ і не зломлены, але ж добра ўжо надломлены і надкусаны. І гэта вымушала яго неадкладна і канчаткова вырашыць: схіліць галаву, здацца і зноў кінуцца ў прочкі, цяпер ужо назаўсёды сысці з роднай зямлі, не пакінуўшы тут ад сябе і знаку, ці ўсё ж паспрабаваць нешта перайначыць.

Вярнуць, даць людзям тое, што ўжо было ў іх, што яны мелі, ды не ўтрымалі, не зберaглі. А цяпер енчаць, галосяць і скуголяць, як той сабака, нябожчык сёння ўжо, што выдаваў сябе за вялікага і таленавітага акцёра, што прыкуты, як на гуслях, іграў сабе і іншым на сваім уласным ланцугу, яго гаспадар, таксама нябожчык, былы рэжысёр пагарэлага тэатра і пісьменнік. Але ж ці патрэбна каму-небудзь гэта вяртанне мінуўшчыны, ці не позна ўжо што-небудзь вяртаць? Старасвецкая ліпа пры селішчы мастакоў хаця і не згарэла яшчэ датла, але ж насенне з яе выбрана і прыпечана. Ці ж здольна яно пазбавіцца апраметнага агню, адрадзіцца, узысці, пусціць парасткі?

А яшчэ ў гэтай няпэўнасці, мо поўнай ужо незваротнасці былога ладу жыцця яго засмуціў пачатак новага, трэцяга тысячагоддзя. Яно было сапраўды знамянальна новым чалавеку, яго прызначэнню, зямлі.

Да гэтага часу жыццё тут спакон веку трымалася на трох кітах: на плузе, касе і сякеры. Дваццаць першае стагоддзе адразу адмовіла кожнаму з іх, выкрыла спустошанасць і знясіленасць чалавека і зямлі. І больш чалавека, які быў ужо ці зусім не патрэбны планеце, якая пачала сама ратавацца ад яго.

Спачатку адабрала ў чалавека плуг з-за яго непрыдатнасці і неадпаведнасці новаму часу ў руках селяніна, яго нядужнасці ў параўнанні са стальным аратым. Потым тое ж самае прарабіла з такой жа нагоды і з касой. За імі пачаў распадацца і сам круг, выпеставанае і запушчанае чалавекам кола яго існавання. Пайшлі на спачын плуг з касой — не стала ў вёсцы і жывёлы. А без яе і без касы заняпалі сенажаці. Паўсюдна пайшла буяць трава, сталі непраходнымі, пачалі зарастаць усе былыя сцежкі, дарогі, берагі рэчак і азёр. І не проста пустазеллем, а травамі і раслінамі прыблуднымі і атрутнымі накшталт чужынскага ядавітага баршчэўніку, травамі, сярод якіх не тое што чалавеку — і ветру не дыхнуць. І ў немачнай бездыханнасці, задушанасці былых палетак і сенажацяў усчалося нестрыманае памнажэнне так званай заедзі — сляпнёў, аваднёў, камароў ды машкарэчы. Гнюсу.

І ўсё: ні ў поле, ні на луг, ні ў лес, ні да вады нагой не паткнуцца. Лятучая пачвара і брыдота жыўцом заядала і быдла, і чалавека, і звера. Чалавек, такі разумны і магутны, такі вялікі, здаўся дробным, але ненажэрным крывасмокам, якіх сам жа выпусціў з парванага прагрэсам меха.

Больш за плуг і касу пратрымалася сякера. Але, каб упраўляцца з ёю, зніклі ў вёсцы ўжо рукі. Адным іх адбілі. Другія ж, пэўна, больш спатрэбіліся на тым свеце, куды яны і выправіліся. Заставаліся толькі спадзяванні на рукі жаночыя, вечныя рукі ўдоў. Толькі яны ўжо не здолелі ўправіцца з сякерай. Іх жа сыны і дочкі панеслі свае рукі ў чуж-чужаніну, адцураліся саржавелых сякер,

роднай зямлі і хаты, пайшлі ў прочкі. У белы свет, як у капеечку. Патрацілі сябе, свой кут, бацькоўскую справу на тую ж капеечку, спусцілі яе ў гарадскія айчынныя і замежныя ўнітазы. На тыя ж і ў тыя ўнітазы і пайшло жыццё амаль пагалоўна ўсіх. У магчымасці павярнуць яго зноў у былое рэчышча Цмок моцна сумняваўся.

Ужо наважваўся і сам распачаць новае бежанства. Утрымаў яго клопат пра свой хаўрус. Што ні кажы, а ўсе ў ім ад аднаго кораня. І раслі ж разам, і сталелі. Без яго яны зайдуцца ад журбы забыцця, сканаюць і асіроцяць гэты кут. Але такі клопат мог бы і не спыніць Цмока. Найбольшую ролю адыграла, уразіла яго слязінка.

Слязінка ката і чалавека і стрэчныя іх усмешкі, калі яны ўпершыню сышліся, убачылі адно аднаго. Слязінка і ўсмешка — замілаванасць і чаканне пазнавання. Абодва яны яшчэ не развучыліся смяяцца і плакаць адначасова і гуляць у дзіцячыя гульні. Чалавек яшчэ не выхвараў страту свайго першага коціка, якога вымушаны быў усыпіць. І гэта абнадзейвала. Нейкае вялікае абяцанне было ў слязінцы чалавека і ката. Карані яго бралі пачатак са збытай ужо, здаецца, незваротна мінуўшчыны, і Цмок вырашыў не пакідаць гэты кут, а, наколькі магчыма, спрыяць яму, а мо і пераствараць, рабіць тое, чаго ён заўсёды імкнуўся пазбягаць. Але тут пайшоў насуперак сабе і сваёй натуры: што ж гэта за жыццё, калі і заступіцца ні за каго нельга? Не парадзець і кату. Конь на чатырох нагах і то аступаецца.

Але ж, падобна, за гэту кульгавасць і ўласнае адступніцтва яму адразу даводзілася і сплочваць. Ніякай рэлаксацыі сёння не атрымлівалася. Як нехта перабег яму дарогу, напусціў блазных і пустых думак. Не атрымлівалася нават не зліццё з вечнасцю, а самае просценькае — падцягнуць да сябе месячную сцежку, што ўжо даўнавата злучыла два берагі ракі і, сцякаючы з нябёс медзяным і срэбным туманком, зазыўна бруілася

ў бляклых росах сенажаці. Цмоку ж край трэба было на гэту сцежку, яго ўжо недзе чакалі. А ён усё бавіўся. Сцежка ўвесь час, як жывая, што вераценца на белай выспе жвіру, вылузвалася з пальцаў і без намёку нават на вецер збягалася і моршчылася пасярод ракі.

Цмок ужо не раз ухопліваў край той сцежкі, падцягваў да сябе, выпростваў, каб ступіць на яе, але ў самы апошні момант тая выслізгвала, ірвалася і бралася, кідалася рабіцай у бакі. Нешта было не так. Ці то настрой не спрыяў яго занятку, ці нехта перашкаджаў яму, дражніўся з ім. Такіх гульняў і пацешак з сябе Цмок не прывячаў. Ён прыглёдзеўся да другога краю сцежкі і ўбачыў, што там таксама хтосьці варушыцца. І не проста варушыцца, а займаецца той жа справай, што і ён. І з большым спрытам і больш весела, сапраўды гулліва, нібы пацвельвае яго, але хаваючыся ў прыбярэжнай асацэ. Адны толькі кароткія вушкі вытыркаюцца. Па тых жвавых вушках Цмок яго і пазнаў і таму супакоіўся:

— Грабі да мяне.

— А чым грабці? — высунуў з асакі вусатую морду Біч. — Мае лапці ваду прапускаюць.

— То разуйся, скінь іх.

— Ага, скінь, скінь, калі ўсе ў адзін голас: не хадзі, не хадзі босы. Ты ж першы адтопчаш ногі. Так што плаўся лепей ты да мяне.

— Чаму гэта, што я, катоў не бачыў?

— А я, думаеш, не бачыў Цмокаў?

— Не думаю, — адказаў Цмок, — радня ўсё ж, радня. З аднаго карэньчыка.

— Вось нарэшце і паразумеліся. А то ўсё кот ды кацяра, Біч ды бічара.

— Ага, Цмок ды Цмок. Цуда-Юда... Ну, дык як будзем?

— Як будзем, як будзем... Калі гара не ідзе да Магамета...

— Нешта я цябе не зразумеў, — не без падазронасці звярнуўся да Біча Цмок, калі той ужо быў на яго

беразе. — Ты гэта пакпіў з мяне ці сапраўды так шануеш сябе: хто з нас гара, а хто Магамет?

— Думай, думай, — адказаў Біч. — У цябе галава большая за маю, большая нават, чым у каня.

Яны яшчэ крыху паўсміхаліся, паздзекаваліся і пакпілі адзін з аднаго. Але хутка гаворка пайшла амаль што сур'ёзная, а то і вельмі сур'ёзная, хаця зноў жа на паўжарце і пільным прыглядзе і нават ці не прынюхванні і абнюхванні адно аднаго. Хаця абодва яны пайшлі з аднаго кораня і сапраўды былі родзічамі, наканаванне ў іх было рознае і век іх розніўся. Разышліся дарогі. Кот у свой час пайшоў да чалавека, а Цмок палічыў за лепшае аддаліцца ад яго. Хто выйграў, хто прайграў — хто ведае. Бясспрэчна толькі адно: каля чалавека ў кожнага, як і ў самога чалавека, век кароткі, пакутны і гаротны. Але ж, але ж... Адным словам: але ж. І гэта не намі прыкмечана, моўлена і назаўжды зацверджана. Хаця час ад часу той, хто прымкнуў да чалавека, горка і каецца потым. Каецца, ды не разлучаецца. Здаўна ж усім вядома: каго мы любім — таго і чубім. Толькі ўся праўда пра любоў: палюбіў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву. Хаця мо з чалавекам наконт яго крыху і не так. Чалавек толькі ўкараціў яму хвост ды ўвесь час наровіць дзвярыма яго прышчаміць. Але гэта больш гульня, спакуслівая чалавеку, а мо трохі і помслівая. Таму што не чалавек прыручыў яго, ката, а ён, кот, прыручыў чалавека. Мякенька, схаваўшы кіпцюры, на падушачках лапаў увайшоў у яго хату і жыццё, запаў яму ў душу. І пайшлі яны, пайшлі разам, як пабраліся.

І ў гэтай заручонасці, як ні круці, у пройгрышы каты і коткі. У іх на паверку больш чалавечага. Таго, што толькі наканавана чалавеку, а каты гэта маюць. У іх ад нараджэння і паходжання прысутнічае ўменне валодаць прасцягам, часам і іншымі светамі. Каб чалавек толькі ведаў, дзе ён бывае ўначы, убіваючыся ў цемру, а часам проста ўцякаючы ад холаду, абыякавасці і абмежаванасці

чалавечай прасторы душы. Збягаючы туды, дзе таксама ёсць людзі, але інакшыя. Якія адцураліся чалавека, адбегліся ад яго. Дзе птушыным дыханнем дыхаюць нябёсы. Зоркамі раяцца ў небе ўгодныя яму людзі. Час, прастора нарэшце шлюбна паяднаныя, доўжаць і доўжаць вечнасць. Дзе чалавек можа пераўтварацца, перакінуцца ў якую заўгодна істоту, што водзіцца там, — ён сам існасць усяго існага.

Але ж кот абраў зямлю і чалавека. Таму што ў іх неспадзяванасць і невядомасць. Зямля і чалавек яшчэ без аброці, почапу, яшчэ па-дзіцячы гуляюць з прывідамі, зданямі свайго жыцця, што вельмі даспадобы катам. А да ўсяго — тут ёсць мышы. Але апошняе так, да слоўца. Да слоўца Біча, яго і чалавека, — сапраўды Біча Божага на зямлі, якому назаўжды і незваротна адданыя каты.

— Чаго гэта ты сярод месячнай сцежкі сёння коўзаешся? — спытаў Цмок Біча.

— А каб тое сам я ведаў, — адказаў Біч. — Але, калі па шчырасці, эмігрую.

— Добрая справа, — ухваліў яго Цмок. — Я сам не аднойчы эміграваў.

— Ну і што?

— А нічога.

— Зусім нічога?

— Зусім. І нічога.

— Тады...

— О, толькі тады і застаецца. Тады толькі ой, калі ўжо нічога не застаецца... Каб зведаць жыццё, варта і на тым свеце пабыць.

— Я ўжо там амаль быў, — не без суму мовіў коцік. — Нічога прыемнага.

— Так, нічога прыемнага. Толькі амаль — не лічыцца. Хаця ўсе да гэтага амаль прывыклі... Адвучаў цыган кабылу есці. І амаль адвучыў. Толькі яна здохла. І не амаль, а цалкам.

— Ну і што з гэтага? — спытаў Біч. — Коні дохнуць. І не ад работы. Аўса не хапае.

— Гэта так, з аўсом сёння нявыкрутка. Але зноў нічога. Коні адкідваюць капыты ў сваім жа хляве, — адказаў Цмок. — А колькі ўжо вас, коцікаў, бамжоў, бічоў эміґравала, сышло ў прочкі, пайшло ў бежанства адсюль у чуж-чужаніну. І я ў іх ліку быў. А паміраць — алюшкі ў родны хлеў. Не пра сябе кажу, мне смерць не пагражае, але ж бессмяротнасць імкнецца спачыць на роднай зямлі — лягчэй дыхаецца і на тым свеце каля роднай хаты, у родным і звыклым табе балоце, клятай, але сваёй багне і дрыгве. А колькі, колькі вас супакоілася ў роспачы на чужыне. Вер мне, усе яны, усе, нават і мёртвыя, пнуліся да вечнага спачыну менавіта на бацькаўшчыне. І толькі крыкні, пакліч іх сёння — устануць і рушаць туды, дзе ляжаць іх бацькі і дзяды, да сваёй яшчэ дзіцячай, незабыўнай калыскі, да костак родных, хай ужо і сапрэлых.

— Ведаю. Усё гэта я ведаю, — унурыўся Біч. — Таму мне і страшна.

— Гэта з чаго табе страшна?

— А страх. Страх прачнуўся.

— Пра гэта і я ведаю. Брацік прачнуўся. Ажыў наш брацік, Васіліск.

— Ажыў. І ўжо нічога можа тут і не ацалець.

— Пакуль не надта бойся. Ён яшчэ сляпы.

— Ужо не сляпы, — адказаў Біч. — Ужо відушчы.

— Калі паспеў, толькі ж уначы...

— Вось уначы і паспеў. Да ўзыходу сонца, пакуль раса вочы не выела, ён і скраў сабе вочы. Ґвалтам набыў у...

— Ну, тады і нам трэба спяшацца, — перапыніў Біча Цмок, — пакуль па расе ён і нам вочы не выеў. Падцягвай сцежку, удвох ужо пабрыдзем.

Але пабрысці ім адразу не выпала. Месячная сцежка не давалася ні Бічу, ні Цмоку, вылузвалася, як гэта і раней. І абодва яны былі вымушаны яе лавіць ужо не з

берага, а ступіўшы ў раку. Што кату было не даспадобы, халоднай рачной вады ён пабойваўся, трохі грэбуючы, а больш памятаючы пра існаванне ў ёй пацука, дый Цмок усё сваё жыццё імкнуўся пазбягаць бягучай вады, плыні. Плынь загойдвала яго і кідала ў шаты. Толькі тут не было куды ўжо дзецца. Яны ўжо і не ведалі, што рабіць. Як з сярэдзіны рэчкі, з малочнага туманку, што неяк няўзнак адскочыў ад угрэтай за дзень, а цяпер ужо крыху астылай вады, пачуўся смех. Ды такі залівісты і малады, нібы ў поўнай цішы сярод ночы ў гняздзечку сярод белай квецені чаромхі расколваліся, шпокалі і трэскаліся яйкі салоўкаў. Усе, колькі там было выкладзена, толькі не разам, а адно за адным. І салоўкі дапамагалі ім калоцца. Дзяўблі асталяванымі ў прадчуванні свайго папаўнення і працягу роду дзюбкамі бубны выспеленых імі ж да напятасці і гатоўнасці парвацца, лопнуць шкарлупіны яек, нібыта пазвоньвалі ў званы ці білі ў барабаны. І ў адказ ім са зняволення і спавітасці цемры таксама пазвоньвалі. То прасілася вонку, дазволу, святла і салаўінага голасу бацькоў новае жыццё. Новае жыццё прагла дыхання, прасторы, водару чаромхі і месячнай сцежкі, якая будзе заўжды чараваць іх і якую ўзаемна будуць чараваць яны. То аказвала сябе вечнасць.

А смяялася пад гэты нячутны і стоены ў ападаючых пялёстках чаромхі звон нараджэння новага жыцця Русалка. Яна ж, лежачы сярод ракі на вялікім пляскатым валуне, вышараваным да адпаліраванасці ці то ёю ж, ці то часам, блазнавала з месячнай сцежкай, перашкаджаючы Цмоку і Бічу ўхапіць яе і выпрастаць, каб выправіцца ў дарогу. Ступіць і пайсці туды, адкуль яна была пракладзена і куды вяла. На Месяц, які гэтай парой апратваў сябе, мыўся і купаўся ў зямной рэчцы.

— Што ж гэта ты творыш? — узбурыўся Цмок, за забаўкамі Русалкі прапусціўшы зараджэнне маладога

салаўінага племені, стварэнне вечнасці. — Утаплю, утаплю.

Адказам яму быў смех Русалкі:

— Паспрабуй утапі. Толькі спытай у мяне: колькі вас, маіх тапліўцаў, на той ужо свет пайшло. А я ўсё непатапляльна-жывая.

— Не перажывай, я з іншых. У мяне атрымаецца.

— Што ж, мо і так. Толькі ты забыўся, што аднойчы ўжо ўтопленаму не можа пагражаць шыбеніца. Спытайся ў яго, — Русалка паляпала хвастом і абедзвюма рукамі па валуне. — Ён больш старажытны, чым ты. Гэты пласкатвары і ведае больш за цябе. Ты прыгледзься толькі да яго. Бачыш, бачыш, які ён, — сапраўдны пласкатвары.

Валун, што разлёгся пасярод старажытнай, хаця цяпер і абмялелай ракі, на самай справе быў незвычайны. Падобна, ён апынуўся тут, каб некаму на ім было зручна і ўтульна адпачываць, як у ложку, мо нават любіцца і мілавацца. Здалёку ўначы, мо менавіта таму, што ўначы і здалёку, і ў ціхім бруенні рачной плыні ён няўлоўна чым больш нагадваў чалавека. Чалавека, што доўга, вельмі доўга ішоў аднекуль, здарожыўся, сцёрся, нібы на яго бясконцым гасцінцы яму дзьмулі, абдымалі, шаравалі і чысцілі яго не толькі зямныя ветры, але, не выключана, і іншабыційныя і касмічныя. Дапяўшы да гэтай зямной ракі, каменным сваім целам рассунуў яе задумлівыя ласкавыя воды, даручыў ім ачысціць сябе ад спадарожнага бруду і стомленасці. Лёг як у калыску часу і на стагоддзі і стагоддзі.

Тут, па-за спрахлым разбураным млынам, зніклым ужо бяздоннем былога віру на мелкаводдзі сярод спагады ціхай аховы і замовы белых і жоўтых гарлачыкаў, лілей, прыбярэжнага дзівасілу, пэўна, і набрыла на яго русалка. Набрыла і на поўню кожны раз ішла на спатканне з ім, загарала і дужэла ад яго мужчынскай старажытнай прысутнасці і цвёрдасці і

месячнага святла, што бласлаўляла іх украдзенае ў ночы і ў неба каханне. Вось чаму цяпер яна смяялася і так блазнавата гаварыла з Цмокам.

На гэтыя іх галасы з навісу чаромхі на месячнае святло наважыўся выйсці і Берагун. Ён даўнавата ўжо стоена знаходзіўся тут, у кустах пры беразе ракі. Дарэчы, як у поўным зборы прысутнічаў і ўвесь хаўрус. Толькі ніхто да пары да часу не аказваў сябе, бо ўсе ведалі нораў Цмока. Якую б то ні было справу ён любіў рабіць сам, каб ніхто яму не дакучаў ні вокам, ні парадамі, ні мітуслівасцю ўдзелу. І няшчасны быў той, хто забываўся пра гэта, асабліва пад час, калі Цмок быў заняты рэлаксацыяй. Цяпер жа Берагун палічыў, што з рэлаксацыяй ужо скончана, і смела ступіў да Цмока. Ступіў смела, а гаворку пачаў збянтэжана і нясkладна:

— Ну, ты чаго... Глядзі ўжо там... На ражон не лезь, бо мяне побач не будзе.

— Ды ўжо ж, мы пастараемся, — адказаў Цмок, кіўнуўшы ў бок Біча.

— Ага, асабліва гэты коцік пастараецца... Казаў я табе — мяне бяры.

— А я табе казаў, мне там сіла і ахова не патрэбны, не алігарх жа і не прэзідэнт. Калі што...

— Ведаю, ведаю. Смерць табе не пагражае. Але ж надараецца, аднойчы і дзеўка раджае... Ты вось што, агледзься там і перадай прывітанне ад мяне нашым людзям.

— А што, вашы людзі цяпер ужо і там? — трохі здзекліва спытаў Берагуна Цмок. Але той адказаў яму на поўным сур'ёзе і з націскам:

— Нашы людзі цяпер усюды.

— А, дык гэта ці не вашы людзі днямі з дзідамі і лукамі на Пскоў тут праходзілі, дарогі пыталіся?

— Нашы людзі не толькі да Пскова, нашы людзі і куды далей сягнулі.

— Ну, то і добра, ну, то і цяпер дай бог нашаму цяляці...

— Як і твайму кату — гэтаму былому інтэлігентнаму чалавеку...

Біч, пачуўшы пагардлівыя словы, толькі ўсміхнуўся і змоўчаў. Такі ўжо ён урадзіўся, як увогуле ўсе каты — маўчаць, але думку маюць, маюць і слова, толькі трымаюць яго ў сабе. А адказаць Берагуну яму мелася што. Тым больш, што асаблівай прыязнасці паміж імі за гэту вясну так і не ўзнікла, хаця Бічу ўвесь час нешта свярбела і прыгадвалася — з бойкі яго з пацуком. Нешта было там звязана з ім. Толькі ён не зусім упэўнены — было ці не. Вось таму і не даў волі языку, хаця і карцела, яшчэ як карцела. Ведаў нават і кот: больш разумны той, хто маўчыць.

Дапамог Лесавік, што як з-пад зямлі вырас, ці, хутчэй, адліп ад барадатага, парослага зялёным мохам струхлявелага ўжо і ўчарнелага альховага пня. З самага пачатку гаворкі стаяў тут, прыкінуўшыся пнём, і нячутна соп яго сапрэлым духам і духам ужо даўно зніклага адсюль лесу, спрахлага журботнай памяццю зямлі. Цяпер жа мо палічыў, што гаворка пайшла крыху скрыўлена. Але выказацца наконт гэтага яму не даў Дамавік, які таксама даўнавата ўжо і скрытна знаходзіўся на беразе ракі, дарэчы, разам з усім тутэйшым хаўрусам і, відавочна, недзе паспеў ужо крыху падвесяліцца, бо ціхенька нешта сам сабе спяваў.

І добра, што сам сабе, не ўголас. Бо тое, што ён спяваў, на чужыя вушы слухаць было не варта: непрыстойныя прыпеўкі і гуллівыя, хаця і самотныя песні прапашчага, якія выдаваў за народныя. Але ж, мяркуючы па асобных сакавітых слоўцах, ён сам гэтыя песні і складаў, бо сам жа і быў раней яшчэ за гэты народ тут прапашчы. Пра што ўвогуле трэба сказаць: прапашчых у Пупляндыі заўсёды было значна болей, чым знойдзеных. Знойдзеным тут, у раі, не надта раявалася. Іх, падобна, больш вабіла сапраўднае, без прыкрасці ўжо і балбатні пекла, у якім

хаця не блыталі пуп з сэрцам, не выдавалі той пуп за сэрца.

І Дамавік загаварыў ад шчырага сэрца:

— Прабач мне, корчык, і памаўчы, — гэта ён мовіў, звяртаючыся да Лесавіка. І адразу ж Цмоку, праўда, пакланіўшыся апошняму, паклаўшы руку на грудзі: — Не, Цмок, эпта маць, ты як хочаш. Эміграваць-то эмігруй, а змеевічок усё ж пакінь тут нам. Прапашчым пакінь хоць што-небудзь, каб і ў іх нешта мелася сваё, у сірот ды вечных пакутнікаў.

— Любіш ты, сірата памяркоўная, прыкідвацца ды прыбядняцца, — неўзлюбіў яго слоў Цмок. — У цябе ж каля самай прызбы пад ігрушкай...

— То не лічыцца, то не лічыцца...

— Дай мне дагаварыць, сірата казанская. Не лічыцца... у цябе ж пад той грушкай — і аўтамат Калашнікава, і мінамёт, і гарматка-саракапятка...

— Ну і што, Цмок? Там у мяне і танк — трыццацьчацвёрка. Але ж усё гэта без змеевіка — нуль без палачкі.

— Ёсць, добра ведаю, што ёсць пад кожнай хвойкай і па змеевічку.

— Зразумела, што ёсць, — пацвердзіў Дамавік. — У нашага брата ўсё ёсць. Але ж ты лепш за мяне ведаеш, колькі сёння міліцыянтаў, колькі АМАПа. І ты думаеш, што яны непітушчыя, што яны толькі на казёнку — каго сцерагуць, таго і абіраюць, той ім і налівае? Не, браце, не, эпта маць. Той, хто іх корміць і поіць...

— Вох, вох, як усе любяць чалавечынку, — гэта ўлез у гаворку ўжо Вох, — жывымі і дня не будуць, каб нейкага жабрака не злавіць і не паласавацца ім. Вох, вох...

— Так, Вох, твая праўда, Вох, але не ўся, — не дазволіў выказацца і Воху Дамавік. — А ўся праўда ў тым, што і гарматка, і танк, і змеевічкі пад хвойкай — гэта ўсё маё, і баравічок з сыраежкай, і бульбінка ў агародзе — на чорны дзень. На чорны-чорны. Мы прадугадлівыя і

запаслівыя. Іх апарат — на мой апарат. Толькі я не пра сябе аднаго дбаю. Хачу, каб нешта мелася і ў калектыве. Ты зірні толькі на гэты калектыў, калгас. І ўвесь гэты калектыў-калгас просіць.

— Усе просяць? — засмяяўся Цмок, а разам з ім і Біч, які, прынамсі, усміхаўся ўжо даўно, з самага пачатку выступу Дамавіка.

— Просяць, — цвёрда адказалі ў адзін голас усе, хто знаходзіўся ў гэты час на беразе ракі. — Просім, просім, просім.

Нешта адпаведнае выгукнула і Русалка з пласкатварага каменя, непрывычна задуменная і маўклівая. Здаецца, і сам камень азваўся зажураным словам. Цмок павярнуўся да яго і да Русалкі, паказаў ім кулак, а ўсяму калектыву — калгасу, хаўрусу — сплёў вялізную і чорную, як прыгарэлы бохан хлеба, у якім нават ад жару адскочыла скарынка — так вытыркнуўся вялікі палец, — дулю.

Але, на дзіва, хаўруснікі ўзрадаваліся гэтай дулі і хорам выгукнулі:

— Дык гэта значыць, што ты вернешся?

— А вы думалі...

— Так мы і думалі. Былі ўпэўнены. Толькі сумняваліся.

— Верце і сумнявайцеся. Кукішаў у мяне хопіць на кожнага з вас.

— Вось і добранька. Вось і хораша, Цмок. Мы будзем радыя.

— Ды ўжо ж парадую, парадую. Дабрачай дуляй кожнага з вас.

— Не сумняваемся, не сумняваемся, — за ўсіх адказаў Берагун. — Так заўсёды на гэтым свеце: каму пірог з макам, а беднаму Бэрку — толькі дуля з такам.

— Вох, вох, і мне ўсё жыццё з такам. Таму я і Вох, ці, па-сучаснаму, поўны лох, хаця ўжо і ссівеў і адно толькі воблака ў штанах. Але ж нічога — паражыў гаўно сабачае, паражыву і быдлячае. Вохі ды лохі... Скрозь тут адны толькі Вохі ды лохі. На іх і гэты край трымаецца...

Толькі на цябе ды на гэтага ўсмешлівага прыдурка коціка, збытага ўжо тут былога інтэлігентнага чалавека, адна і надзея.

— Надзея — адвечная маці дурняў, — сказаў Цмок.

— Не, не так, — запярэчылі яму Лесавік з Дамавіком. — Са змеевіком у карчах мы не вымрам. Супраць лому няма прыёму. Але кожнаму апарату можна супрацьпаставіць другі, свойскі апарат. І гэты апарат, твой змеявік, у нашай і тваёй дарозе — гэта сёння самае тое, што трэба. З ім у гэтых карчах і мы ацалеем, і ты не прападзеш. А калі ўжо што — складу яшчэ адну песню прапашчых. І разам з небам паплачам. Пад песню сёння так хораша плачацца.

— Дамовіліся, братка. Яраслаўны ці Яраславічы вы мае. Плачце хорам, — развітальна мовіў Цмок. — А мне з гэтым вусацікам час ужо ў дарогу. Чакайце, чакайце і спадзявайцеся.

Біч слухаў хаўрус з пазнаваннем у ім сябе. Кожнаму з іх ён даводзіўся ці не родзічам. Хаця б узяць таго Лесавіка. Лесавіком, лесніком быў і застаецца сам — такое ў яго было імя — ад паходжання і існавання, пакрасу, стану жыцця. Люд тут ніколі не бедаваў, не галадаў. Прамаўлялі: не ўродзіць поле — дасць вада. А калі ўжо і вада нічога — дасць лес. З полем, вадой, лесам назаўжды быў заручоны тут чалавек. А каля чалавека не бедаваў і ён, кот.

Выцерабіўся і прыбіўся да чалавека. Дамавік паклікаў: маркотна ў хаце яму і чалавеку, без яго, Лесніка. І хваста няма каму прышчаміць. Да ўсяго ж у хаце дзеці заводзяцца. А з кім ім пагуляць? Дый прывучаць іх з маленства трэба не толькі да гуляў, але і да клопату. Падыхаць адным паветрам і духам з брацікамі меншымі. Добрымі расці будуць, прыязнымі і лагоднымі пры пракаветных бедаках Вохах, сціплых Цвіркунах, каля свойскіх Дамавікоў і Лесавікоў. Узяць да прыкладу хаця б тую ж не заўсёды ўсімі любую Русалку. У купальскую ноч пнецца яна да людзей, вогнішчаў, моладзі. Вянкамі сваёй

будучай долі ці нядолі выцягваюць яе з віроў дзяўчаты на выданні. І Русалка месячнымі сцёжкамі, абуджаныя сумным успамінам па азоранай расе горнуцца да сваіх родных, пакінутых колісь па сваёй і чужой волі хатаў, на ганку якіх сняць іх у такія ночы каты і коткі, гнаныя яшчэ жывымі Русалкамі венікам ці дзеркачом. Каты і коткі, без якіх у купальскую ноч хата няпоўная. Сняць іх Русалкі ў вірах. Сняць хату і чалавека.

Пры поўні нешта падобнае прымроілася, пэўна, і Бічу, і Цмоку. Сталелі і дзяцініліся адначасова абодва.

— Канчай перакур. Як загадаў чорт у пекле курцам, задаволеным аматарам табакі, што сядзелі па горла ў копанцы з гаўном. Зоймемся прысяданнямі, — адарваў Цмок Біча ад яго думак і мрояў.

І Цмок з Бічом узяліся зноў лавіць і падцягваць месячную сцежку, каб з берага ступіць на яе, не замачыўшы ног. На гэты раз усё атрымалася ў іх больш упраўна і хуценька. Месячная сцежка нібы сама падбегла да прыбярэжнай, чысцютка вымытай, амаль шоўкавай асакі. Мо то і рыбная драбяза, што шчыравала сярод ці не роўных ім маленькіх каменьчыкаў ды такога ж сама рачнога жвіру, амаль безаблічная яшчэ малеча, не разведзеная па сваіх пародах, печкуры, акунькі, плотачкі ды жэрахі, што толькі днямі аказалі сябе з нябыту, дапамаглі. Наладзілі, пракінулі масток паміж небам і зямлёй, рэчкай — іх калыскай і спрадвечнай калыскай — зоркамі, Месяцам, космасам — усяго існага ў бездані неабсяжнага сусвету.

І ўжо недзе праз хвіліну-другую Цмок з Бічом ступілі на набітую і самую праменькую ў свеце, аздобленую зоркамі дарогу, якая, не выключана, і створана дзеля гэтай планеты па імю Зямля. Створана, каб наблізіць і звязаць яе з неабдымнасцю і неабсяжнасцю сусвету і часу і наканаванага ёй таксама жыць роўнай сярод роўных космасу, калі знойдзецца хоць адзіны хто-небудзь на Зямлі, варты гэтага космасу. Месячная сцежка

сама пацягнула іх да вітальна зыркіх і задумлівых на поўні зорак. А каля старажытнай ракі стаіўся ў чаканні іх вяртання, вяртання прасцяцкага ўсмешлівага коціка і хітравана Цмока — адзін кажу, а тры наўме — абнадзеены імі народзец. І толькі неапазнана — сумна ці радасна — усхліпвалі ў зарасніках чаромхі ад зямной ужо вечнасці салаўі ды цененька папіскваілі, зявячы месячнага колеру дзюбкі, і ўначы прасілі ежы птушаняткі, якія толькі што, пад поўню, вылупіліся з яек. І з ціхім шолахам сыпалася, падала долу шкарлупінне тых яек — напамінак кароткага зняволення нованароджаных, ад якога пазбаўлялі іх бацькі, апратвалі родныя і дарагія ім, але і пакутныя кублы-турмы, хаты, якімі яны былі прывязаны, прыкуты да мілага іх сэрцу спадчыннага бацькоўскага краю. Краю, якога, нават маючы крылы, немагчыма пазбавіцца.

На Месяцы яны апынуліся на мяжы дня і ночы, у так званым Цырку Платона. І першы, каго тут сустрэў Біч, быў Цмок. Біч разгубіўся. Месячны, касмічны Цмок і рыхцікі сабраў зямнога ці нават падземнага, балотнага і багнавага. Толькі добра прыгледзеўшыся, коцік убачыў розніцу паміж імі. Тутэйшы монстр быў значна больш дагледжаны, больш самавіты. І хутчэй нагадваў мафіёзі сіцылійскага ці амерыкана-калумбійскага паходжання — цыгары толькі не хапала. А ўсё астатняе, што патрэбна патомнаму мафіёзі, мелася. І твар, што выраблены з каменю, добрага гатунку граніту з усімі пражылкамі, жылкамі, яскрава і калярова пазначанымі, ці не знарок падкрэсленымі, высечанымі зубілам альбо выразанымі разцом калдобінамі і баразнамі глыбокіх маршчынаў. З таго ж высакароднага граніту, а мо чырвонага ці жалезнага дрэва і тулава. Рухі не мітуслівыя, упэўненыя, і ўсмешка на пародным твары ўпэўненая і, падобна, шчырая, не падробная і не змушаная.

Зямны Цмок аблiччам i паставай вiдавочна саступаў яму. Хаця камень, крэмень зямных бегаў i вандровак, апёкаў i выстуджванняў адчуваўся i ў яго целе, цвёрды, нязломны. Але ж толькi недагледжаны, як бы злёгку пакусаны i абсмактаны доўгiм бытаваннем сярод балот, дрыгвы i тарфянiкаў. I колеру ён быў пераважна балотнага, рудога ды бурага, падзолiстага ды суглiнiстага, калгасна-савецкага, як тыя вясковыя небаракi, з якiмi ён даўно зжыўся, знiтаваўся, больш схiльныя не да чыстага пiтва, а да пладова-выгаднага, фабрычна атрутнага i мутнага агдамычка ды партвейнчыка № 777 — тры сякеркi i такой жа вады з калодзежаў, падзямельна злучаных са свiнафермай цi фермай буйной рагатай жывёлы.

Не, прайграваў, прайграваў зямны Цмок свайму месячнаму сабрату. Калi апошнi выдаваў на боса мафiёзi, ачольнiка клана i сям'i — боса, то зямны Цмок на першы пагляд ледзь выцягваў на дробнага гангстара, айчыннага пахана, што абодва яны адразу з першых слоў, пракiнутых iмi, i пацвердзiлi:

— А ты, я гляджу, усё пануеш, — цi то папiкнуў, цi то ўхвалiў зямны Цмок месячнага.

— А ты, я гляджу, усё бамжуеш.

I яны ляпнулi адзiн аднаго па плячы. Добра ляпнулi, не стрымлiваючы сябе, з усяго маху, так, што, здаецца, i Месяц пахiснуўся. А абодва Цмокi ўстоялi. «Цiкава, — блазнавата падумаў Бiч, — бiцца будуць цi не?..» Падсвядома яму хацелася, каб яны сышлiся на кулаках i яго, зямны, Цмок адолеў Месячнага. Але да бойкi не дайшло. Яны яшчэ выпрабавальна патузалiся хвiлiну-другую i зноў жа абодва засталiся непахiснымi, на нагах i пры ўсмешцы.

— Ёсць яшчэ ў табе сiла, — крыху, здаецца, здзiўлена мовiў мафiёзi.

— Была сiла, калi мацi насiла, — цi не прыбядняючыся, адказаў яму гангстар.

І тут набеглі іншабыційнікі, луніды. У Біча і вочы на лоб палезлі, бо гэта былі ніякія не луніды, а самыя што ні на ёсць хаўруснікі, з якімі ён толькі што развітаўся на беразе зямной ракі. Цырк, дый годзе, аж перасмыкнуў вусам Біч. Недарэмна і абазваны Цыркам. Ці ж варта было, каб паручкацца з імі, перціся на Месяц, амаль за паўмільёна кіламетраў пнуцца ў космас кісялю хлябаць, калі ён горш за рэдзьку прыеўся ўжо і дома. Як гаворыцца, ад Масквы да Ракава жытка аднакава. Таксама атрымліваецца на Зямлі і Месяцы.

Але ж, крыху ўжо асвойтаўшыся, зразумеў, што не — не аднакава. Іншая была тут жытка, такія, ды не такія былі і хаўруснікі. І паводзінамі, і дагледжанасцю, і яшчэ нечым адразу і няўлоўным, нахілам нават галавы, засяроджаным, здаецца, толькі на сябе, павернутым у сярэдзіну сябе, трохі грэблівым, трохі адначасова абыякавым і здзіўленым вокам і ротам, поўным усіх ацалелых і бялюткіх зубоў яны паходзілі на яго суайчыннікаў, тых жа ракаўцаў, масквічоў і мінчукоў не больш чым замежныя турысты, амерыканцы, французы і шматлікія іншыя шведы, як удаў паходзіць на труса. Таму нават ва ўзросце дзьмухаўцоў ці не сваім жа пяском высцілаючы дарогу, ганарыста, як па ўласным пакоі, шпацыруюць па ўсіх чужых весях і далях, носяць сябе, як усклянь чарку віскі. Вох, да прыкладу, вясковае хатняе воблака ў штанах, а хутчэй без штаноў, нагадваў тут задуменнага і адухоўленага прафесара нейкіх навук і анёла, які ўзняўся з пляча Бога Саваофа, выпырхнуў на волю з касцёла ці царквы.

І Біча агарнулі сум і туга, а з пячор непадуладнай яму свядомасці пачала наплываць раздражнёнасць. Нават злосць, ніколі раней не ўласцівая яму, бо ён успрымаў усё, што акаляла яго, як шчаслівую наканаванасць, сярод якой проста трэба быць, бытаваць — жыць. Жыць, як набяжыць, ні на што не наракаючы, канечне ж, варушыцца, дбаць і рупіцца, памятаючы, што ўсё ў жыцці

ад нараджэння да схону непаўторнае і даравана не толькі яму, а таму па магчымасці сціскацца, стрымліваючы сваю і чужую назолу і нахабнасць, каб табе ніхто не адтоптваў лапы і ты іх нікому не адтоптваў. Чаго ж ён не прымаў і не любіў — гуляць па чужых правілах. Увогуле не любіў правілы. Правілы ў яго былі свае. Яны ніколі не змушвалі ісці насуперак сябе, гвалціць сябе, у адрозненне ад тых правіл, якія паўсюдна ўсталяваліся сярод усяго існага на зямлі, прымушалі зазіраць некаму ў рот, падладжвацца пад некага. Да паўсядзённай маленькай і вялікай хлусні і здрады ўсяму свету, страты, зноў жа, перш-наперш сябе.

Нешта падобнае цяпер адбывалася і тут, на Месяцы. Яго ўкручвалі, спрабавалі ўкруціць у гульню па нейкіх невядомых яму правілах, вытанчана-прывідных, чым на зямлі. Пэўна, менавіта таму і падсунулі зданяў — другога Цмока і хаўрус. І Біч ужо без замілавання, нават з падазронасцю прыглядаўся да іх іншабыційнасці.

Падсунулі, аказваецца, не толькі Цмока і хаўрус. Хату, што згарэла на Зямлі, падпаленая невядома кім. Там яна згарэла датла, дымам і попелам сышла ў нябыт разам з гаспадарамі — пісьменнікам, мастачкай і іх таленавітым сабакам, а тут стаяла цалюткая. Нібыта ўзнікла з мрояў ці трызнення, намаляваная, куды больш паглядная, прыўкрасная і гожая, чым на бацькаўшчыне, як з адмыслова апечанага, узгадаванага на любові і агні, выробленага найлепшымі дойлідамі свету негаручага вечнага дрэва.

І тое дрэва, нават ссечанае, у сценах хаты працягвала жыць, неўміруча расці і квітнець. Бруілася сярэдзінай месячным сокам, як прыліўна і адліўна па капілярах і венах бруіцца ў здаровым целе кроў. Толькі тут гэта кроў была не чырвонай, а высакародна блакітнай, нібы таго ж колеру нябёсы нараджалі яе. Сыцілі не шкадуючы, з вытокаў самога космасу, не ведаючага ні прымусу, ні ўціску і прыгнёту, бо яна, кроў гэта, вольная і свабодная,

аж ускіпала ў бёрнах гуллівымі зарніцамі блакітнага і бурштынавага агню, нібыта сілілася нешта сказаць.

І, падобна ж, гаварыла, гаварыла. Як гаворыць сам-насам з сабой на Купалу ў бары каля мурашніка папараць-кветка. Як гавораць толькі на зямлі адзін раз у год на тое ж Купалле — светажары — і ў ноч пад яблычны Спас старажытныя вясковыя могілкі, схаваныя ад няверлівага вока сярод пракаветнай дубровы ці такога ж пракаветнага сасновага бору. Занядбаныя і выгараджаныя калючым дротам па-над вечным спакоем нябёс, водаў у Прыпяці каля Чарнобыля, да якіх зараслі ўжо і людскія сцежкі. Месцы, асвячоным самім творцам, дзе ніколі не тухла свечка Боская, бо тут яе, услаўляючы Бога, выраблялі, плавілі, беручы воск, дараваны божымі дзеткамі — пчолкамі.

І шматлікія нябожчыкі, што пайшлі тут на вечны спачын, не зведаўшы яго, нагадвалі пра сябе, імкнуліся з таго свету падаць жывым вестку. На іх магілах загараліся, успыхвалі апоўначы адзін раз у год рознакаляровыя агеньчыкі накшталт пастаўленых пад струхлелымі ўжо крыжамі свечак. То аказваў сябе, струменіў са скляпенняў вечнасці, нязбыты ў зямным існаванні, прыхоплены і на той свет зямны дух продкаў, не маючы іншых магчымасцяў засведчыць сябе.

Могілкі нябожчыкаў тым духам перамаўляюцца між сабой, гавораць аб нясправўджаным і нязбытым, гавораць словам, якога мо так і не зведалі і не займелі на гэтым свеце. Нябожчыкам карціць выказацца. Бязгрэшныя перамірґваюцца ачышчаным тагасветнасцю полымем, што бярэ пачатак на самым пачатку жыцця яшчэ іх бацькоў, калі яны тым полымем, вогнішчамі падавалі знак бяды ці радасці, калі тымі ж вогнішчамі выпальвалі пад навіну будучыя палеткі, захопленыя барамі, дубровамі ды гаямі ляды. Чырвона злуюцца і куродымяць схроны грэшнікаў, хціўцаў, здраднікаў — на тым свеце дух іх

не мае сілы сапраўднага агню, нават на прыстойную свечку яго не хапае.

Але ўвогуле на Купалу і Спаса — недарма апошніх у нас ажно тры — усе вясковыя старажытныя могілкі ў агнях. Агонь сачыцца, прабіваецца з-пад зямлі, дзе ад могілак ўжо даўно знаку не засталося. І той агонь нікому з жывых не даецца ў рукі. Не давядзі гасподзь каму-небудзь спрабаваць патушыць яго. Ад такога чалавека не застанецца і знаку. Як не засталося гэтага знаку ад таго, хто намерыўся патушыць свечку, разжыцца прасцінай з плячэй каменнага чалавека на кургане каля вёскі ў Пупляндыі.

Не, няпростая, вельмі няпростая хата стаяла на Месяцы. Відавочна, зямнога паходжання. І апроч таго, што ззяла тагасветным зямным агнём, яна яшчэ і дыхала. Дыхала, зноў жа, па-зямному, чалавечым дыханнем і духам. Тым вольным духам, што сыходзіць ад свежаўзаранага па вясне поля, распластанага туманова, ільснянымі скібамі, як бохан толькі што з печы жытнага хлеба, у якім адначасова водар вясновай зямлі, усмешка ўрадлівага спелага лета, зажуранасць засмужанай восені і дух чалавека, аратага, сейбіта. Аратага, сейбіта з лустай свайго хлеба ў руках і на стале, чалавека, у якога яшчэ напятыя ўсе жылы, смыляць натруджаныя ногі і далоні. А цела, душа ўсцешаны, хаця толькі пра сябе, стоена, радасна і задаволена ўсміхаюцца.

Але ж пры ўсім гэтым той шчаслівай месячнай іншабыційнай хаце нечага і не хапала, каб быць па-сапраўднаму свойскай. Нешта было не так з ёй. А што, Біч ніяк не мог уцяміць. Нязвыклая чысціня, нідзе і пясок яму, кату, не грабануць, чалавеку не плюнуць і недакурак не кінуць, мышы непрыкметна не праскочыць — усё гэта не сказаць каб надта яго займала. Хаця залішне ўжо апратаных падворкаў ён не прывячаў: абавязкова ў адным з кутоў павінна мецца хоць трошкі павуціння, мо і сам зняважаны гаспадыняй павук, трошкі смецця,

венік і мыш пад венікам. Тут жа нічога з гэтага і быць не магло.

Хаця ўсё гэта дробязі. Справа ж была ў нечым зусім іншым, больш істотным, і Біч, прыгадаўшы зямную і не надта ж строгую хатку, зразумеў, у чым. Месячнай папанску дагледжанай хаце не хапала ліпы. Старажытнай пракаветнай ліпы, неаддзельнай ад хаты, што разам з ёй, яе каранямі брала пачатак з саміх глыбіняў зямлі. І так зжылася з хатай, што з ёй жа пайшла на той свет. Не было яе ўжо на Зямлі, не было і тут, на Месяцы. Мо і таму, што тут, на Месяцы, пэўна, немагчыма завесці пчол, божых дзетак, здольных апладніць вясновую квецень дрэва і тым надаць ім працягу, зямной і месячнай — касмічнай бясконцасці, непарыўнай бясконцасці самога космасу і Зямлі, сутнасці і існасці вечнасці.

Гэта крыху ўсцешыла Біча, надало яму гонару. Ён нават усміхнуўся першы раз, як трапіў на Месяц. Падміргнуў сабе чуйным вусам, таргануў таксама ж чуйнымі, завостранымі на кончыках вушкамі з цененькімі валасінкамі-антэнамі: не, і яны ў сваім балотным краі, зачуханыя ды закарэлыя, нешта адметнае маюць. Не толькі каўтун, лапці ды бульбу, пра якія ўжо прыкра і ўзгадваць, але яны ўсё яшчэ на языку кожнага чужынцадабрадзея, што бачыць у іх адну толькі рахманасць ды памяркоўнасць. Не, родненькія, браткі мы вам браткі, і вы нам браткі, але табаку курым сваю. Нават тыя, што не паляць, — толькі сваю.

Але такія думкі Біч дазволіў сабе толькі на імгненне. Толькі на імгненне раскапусціў усмешкай рот і распусціў жывоцік ды адразу ж сцяўся, засаромеўся: выхваляйся сваім дома, у сваёй хаце, а на чужыне прымай чужое. Засаромеўся сваіх пыхаў і ў тую ж хвіліну быў узнагароджаны. З хаты на парог ступіў нехта надта знаёмы яму. І не проста знаёмы, але і блізкі, прыязны. Ад нечаканкі ўбачыць яго тут Біч спачатку прыняў яго за суседа, пісьменніка, што не так даўно засіліўся.

І ўвогуле мо толькі напалавіну, ці, дакладней, на тры чвэрці, памыліўся. То сапраўды быў пісьменнік, але Біч ніколі не жыў з ім па суседстве, час развёў. Хаця яны нечым у жыцці былі вельмі падобныя, не выключана, што і з аднаго карэньчыка завязаліся. Яднала ж іх неадольная прага пазнання людзей, сусвету і космасу, толькі з яго, Біча, пісьменніка не атрымалася, а чалавек, што стаяў на парозе, адбыўся пісьменнікам, хаця на сваёй радзіме і не вельмі знаным. Але каго са сваіх слынных сыноў калі-небудзь прызнавала і прызнае айчына, асабліва ў сённяшні віртуальна-камп'ютарны і тэлевізійны час, які ўжо наракл: «абудзі ў сабе ідыёта» ці «давай замуцім»?

Для прыкладу і пацвярджэння, з айчыннай тэлескрыні тэлевядучы ў так званага інтэлектуала і эрудыта пытаўся: «Хто напісаў карціну Рэпіна "Бурлакі на Волзе"?» — «Вой, ведаў жа (ведала, ведала) цвёрда, хто напісаў гэтую карціну. Але ж забыўся (забылася), які кляты Рэпін напісаў гэтую клятую карціну...»

Але ж вернемся да таго, хто на мяжы ночы і дня стаяў на парозе месячнай хаты. На айчыне яго больш ведалі як мастака, хаця і не вельмі ўдалага. Самі мастакі за свайго сабрата па пэндзлю не прызнавалі, як і пісьменнікі не прызнавалі ў ім сапраўднага пісьменніка. І гэта ішло хутчэй ад недасведчанасці, а больш, пэўна, разгубленасці перад шматлікімі і няўрымслівымі талентамі гэтага чалавека, яго апантанасцю не толькі мастацтвам, а ўвогуле шырынёй і глыбінёй жыцця. І не адно толькі зямнога.

Ён займаўся адначасова археалогіяй, этнаграфіяй, фальклорам, філасофіяй. А ў дадатак яшчэ — і ці не гэты дадатак быў галоўным у яго жыцці — вынаходніцтвам. Шукаў і прадказваў суайчыннікам, чалавецтву шляхі яго касмічнай будучыні. Вынаходзіў апараты, сродкі дасягнення гэтай будучыні, з дапамогай якіх вандраваў не толькі па Зямлі, у якую быў закаханы, але і на Венеру,

Юпітэр. І, дарэчы, першым з суайчыннікаў наведаў Месяц. Нездарма ж адзін з самых слынных нашых паэтаў назваў яго тубыльскім Леанарда да Вінчы, павятовым Мікельанджэла. Толькі павятовым. Хаця ў гэтым краі ўсё толькі тубыльскае і павятовае. Ускраіннакрэсавае — падчарэўе.

А мо гэта і не так ужо блага і зусім безнадзейна. Яго прага пяра і пэндзля, пэўна, больш паходзілі ад непамяшчальнасці ў ім той пракаветнай і нікім не запатрабаванай брагі талентаў наскрозь павятовага яго краю. Талентаў, што заўсёды мелася тут усклянь. Усклянь, хоць нагбом пі, хоць чэрпай далонямі, а яны пераўтвараліся ў карчоўку і адгон, каб стацца першаком недзе далёка, далёка па-за межамі бацькаўшчыны і там звацца брэндзі, шампанскім, віскі ды каньяком. А звычайныя таленты пераўтвараліся на чужыне ў сусветна вядомых, выбітных асоб, нават геніяў.

Так адбылося і з гэтым павятовым Леанарда да Вінчы і Мікельанджэла Паўночна-Заходняга краю: сышоў з яго на вечнае супакаенне ў невядомасці і жабрацтве ў павятовай бальнічцы глухога мястэчка. Адраджацца пачаў у чужой сталіцы, у чужых акадэміях навук, каб адтуль наблізіцца да сваіх суайчыннікаў і сваёй бацькаўшчыны. Насамрэч, вечны вандроўнік, што пры жыцці ў краі балот і дрыгвы сягаў да зорак, а цяпер праз чужую ласку, праз час і прастору мецішся працерабіцца да бацькаўшчыны, застаючыся на ёй толькі безыменным прахожым.

Такім ён заставаўся і тут, павятовым бадзягам, не стасуючыся з месячнай шыкоўнай адмысловасцю хаты, мо то яшчэ тагасветнай, а мо ўжо і непраглядна будучай, што была дадзена памерлым ужо ці то іх нашчадкам на іх пачатку, ці нарачона напрыканцы. Таксама ж не стасуючыся з памяркоўным спакоем вечнасці аціхлых у цемры касмічных берлагаў зорак, што вабілі і зводзілі з розуму сусвет недасягальнасцю сваёй іншабыційнай

прыгажосці, зрэдку толькі падміргваючы Месяцу, які незразумела чаму прыпыніўся на нейкі час на Млечным Шляху. Адбегся ад Зямлі, не выключана, што і спакушаны нейкай невядомай зоркай. Але не дасягнуў яе, прыпыніўся на першым жа ці другім кроку, а цяпер роспачна то імкнуў зноў да сваёй калыскі, да Зямлі, то кідаўся ад яе прэч, у бок той жа красуні зоркі. Але нідзе ўжо не знаходзіў яе. Яна даўно згасла, згарэла, патухла ці адбегла ў касмічным каханні да нейкай невядомай планеты, якая, пэўна, таксама згарэла ад жарсцяў няспраўджанага касмічнага кахання сусветаў.

Павятовы вечны вандроўнік, нязменны прыхільнік і шукальнік неспазнанага, нарэшце набыўшы бясконца любы яму на Зямлі космас, быў, падобна, вельмі далёкі ад гэтых нябесных жарсцяў. Ён ніяк не стасаваўся і з Месяцам, якога так прагнуў дацягнуцца пры жыцці, бо і ў сваёй іншабыційнасці заставаўся надта зямным, сколкам, адбіткам сваёй павятовай, балотнай, непагляднай і занядбанай паўночна-заходняй краіны, крэсаў.

Сукаваты кіёк з пругкай, кручанай бярозкі ці вішэнніку, відушчага дарогу дрэва, прыпечанага, агорнутага сумам і смуткам лясных сцежак, аблашчанага рамонкамі ды васількамі палявых прасёлкаў, з алеевым сочывам трыпутніку, прасветлены жоўценькім абочыннага святаянніку, цягавітай бясконцасцю сівых гасцінцаў. Зрэбная торбачка праз плячо, напакаваная рукапісамі, скруткамі папер, кніжкамі, як у школяра пачатковых класаў. Добра зношаная, зведаўшая сцюжу і спёку, дождж і снег світка, даўгаватая, да каленяў — адзенне і коўдра, каб можна было дрогка і зябка перабыць ноч каля вогнішча ў лесе ці полі. Як у наравістага каня, што цягне добры воз, ускінутая ўгару, у неба, загадна прымушальная да руху, кроку, ступы, бегу галава.

Здаецца, толькі хвілінка — і ён, учапіўшыся вокам за зорку, узляціць, праламіць, раскрыжуе сваёй

павятовасцю касмічную цемру, залунае над Месяцам. Такія чорцікі, чэрці скачуць у яго балотнага краю вачах. І такія ж чорцікі, чэрці б'юць яму ў кожную рабрыну, падбухторваюць да лёту.

Але ніякага лёту не адбылося. Тут вечны вандроўнік не спраўдзіў жаданняў і спадзяванняў Біча. Убачыўшы адразу двух Цмокаў і аднаго коціка, ласкава ўсміхнуўся ім. І тройца адказала яму такой жа ласкавай усмешкай. Толькі ў Біча яна атрымалася крыху здзіўленай і разгублена-няцямнай, бо, на яго думку, гэтаму чалавеку вельмі не хапала ў павадыры коціка. Мо якраз яго, Біча, не хапала. Гэта ж як бы яны пасавалі адзін аднаму. Біч адчуваў сваю калі ўжо не кроў, то, безумоўна, пароду. Некалі яны былі адзінымі, і ў Біча мімаволі ўзнікла адчуванне, што яны зноў будуць адзінымі. Да таго ж усё ішло. Таму ён так прагнуў наведаць Месяц. Вяртанне магчымае, і ніхто не заступіць ім дарогу. Нездарма ж здаўна кажуць: будучае — гэта добра забытае мінулае, сучаснага ж, цяперашняга ўвогуле няма.

А павятовы Леанарда да Вінчы яшчэ раз усміхнуўся чакальнікам. І нібы ўжо зусім не ім усміхнуўся, павёў вокам перад сабой і на два бакі крутнуў галавой, як бачыў не толькі адных прышэльцаў, а процьму іншага народу. І ў Біча ўзнікла прадчуванне прысутнасці мноства іншага народу, толькі нябачнага, стоена-маўклівага. І сярод гэтага народу выразна адчуваліся пахі і яго, коціка, народцу, яго племені. Ды толькі пахі, самога народцу тут ужо не мелася. Хаця некалі ён быў, быў тут, і дух яго яшчэ не паспеў выветрыцца. Але і так люду хапала.

Да гэтага люду, здаецца, і звярнуўся небазнаўца:

Сабірайся, народ!
На ізбор'е на сход!
Гуй-га! Гуй-га!
З вечам радзіць, судзіць,
Як свой край бараніць.

Гуй-га! Гуй-га!
Бо ўжо вораг ідзець,
Смерць і голад нясець.
Гуй-га! Гуй-га!..

І гэта апошняе яго «Гуй-га» раптам як набыло самастойнасць, адарвалася ад вуснаў і скокам паскакала па знямела-маўклівых зморшчынах месячнага пейзажу, то абрыўна падаючы, хаваючыся на імгненне ў праломах, калдобінах і ямінах — упадзінах былых мораў, кратарах вулканаў, то выцягваючыся, выпаўзаючы з іх глыбіні на паверхню. А часам і імкліва выхопліваючыся, як з адчыненых наросхрыст дзвярэй хаты, нібы нехта выкідваў, носцакам гнаў прэч, і ад гэтага гону, ад наведвання падземнай хаты пушчанае чалавекам недалужнае слоўца, здаецца, толькі мацнела, набывала галоснасць, нібы амаладжвалася, прайшоўшы праз чорныя дзіркі невядомасці месячнай глыбіні. І небазнаўца, па ўсім, ведаў пра гэта пераўтваральнае і стваральнае амаладжэнне, уласцівае спадарожніку матухны-Зямлі.

Спадарожніку, які на самай справе таксама некалі быў Зямлёй, толькі чамусьці пакінуў яе: проста збег, ці памкнуў у сусвет, як Ной у свой час, ратуючыся ад залевы, патопу. Загрузіў гэты месячны каўчэг усім, што мелася на Зямлі, прыхапіў, а мо і скраў нешта яшчэ да гэтага часу невядомае, не знойдзенае і неапазнанае зямлянамі, але край неабходнае ім. І вось гэта неапазнанае аказвала сябе цяпер тут. І абодва Цмокі, здаецца, ведалі пра гэта, бо без здзіўлення, толькі вельмі ўважліва і задуменна слухалі, як крыху блазнавата, а больш вольна гуляе па месячных сцежках, морах і долах, падкінутае ім мо і на забаўку слова, разняволены голас чалавека, які ўжо сышоў з зямлі разам са сваім словам.

І сам цяпер ён радаваўся гэтаму адроджанаму і амалоджанаму на Месяцы слову, слухаў яго бліскавіч-

ны месячны смех і грамнічны рогат, задаволена ківаў галавой. А голас, а слова ўжо даўно памерлага творцы неўміруча разлягалася па прасцягах космасу, жыло, гуляла і нават сваволіла сярод амярцвелых камянёў. Прыпадала і аблашчвала стромыя скалы, з падскокам кацілася па маленькіх каменьчыках накшталт белых, блакітных, чорных — добра абгарэлых у нябесных бегах зямных крэменяў. Ці ўсё ж больш дакладна, крэменяў касмічных-метэарытных-каметных, выпаленых да душы ў сусветных вандроўках, і было іх тут, на Месяцы, нябесных, а мо і зямныя сярод іх пракідваліся, незлічона, як зерня жыта ў коласе альбо бобу ці гароху ў стручку — бо ўсе кругленькія, пругкія, як да нечага падрыхтаваныя ўжо. Ці не да прарошчвання і ўзыходжання. Таму што надта ж яны нагадвалі насенне, шчодрай жменяй кінутае з сявенькі дбайным сейбітам.

Па гэтай касмічнай ніве, ад аднаго да другога не прарослага яшчэ насення, кінутае творцам слова скакала з сокатам канюшыннага коніка, нібы жывячыся ад яго стоенай у іх сілай, адначасова і абуджаючы гэту сілу, памнажаючы яе да шматгалосся і спеўнасці хору, да музыкі яднання свядомасці сэрца і галавы, што гучыць у кожным жывым адзіны толькі раз — у прадчуванні вялікіх зрухаў.

Нешта падобнае адбывалася на Месяцы і цяпер. Мёртвыя камяні, камень скалаў, урослых у пракаветны пыл спадарожніка, панылыя валуны, крэменевае сеіва космасу, сутыкаючыся са словам, самі набывалі і голас, і мову. Камяні імкнуліся гаварыць. Іх голас яшчэ глух у паглынальным пыле, назапашаным тут, у пракаветнай знямеласці стагоддзяў аддаленасці ад матухны Зямлі яе спадарожніка. Але гэта багна, утвораная з непатрэбства і бясплоднасці месяцовых радовішчаў, была не здольная стрымаць слова, перашкодзіць яго руху. Яно пераадольвала перашкоды ці не паўзком. А ўсё ж пераадольвала, дасягала зноў скал, валуноў,

касмічнага сейва і ці не трэсла іх патрабавальнай сілай і ўмольнасцю зямнога гуку, людскога голасу, мовы. І камяні адгукваліся, працятыя ім.

І не толькі камяні. Працяла і зямнога Цмока, ды так, што ён ледзь не адправіў на той свет і Біча, нечакана грымнуўшы:

— Гуй-га, Гуй-га... — грымнуў так, што Біч аж угнуўся. Такога зычнага і даволі брыдкага голасу ён не чуў нават ад сваіх марцаўскіх супернікаў. Падобна, што і сам Цмок не чакаў і не здагадваўся, што здольны так крычаць. Але Бічу, хаця гэты рык і падкурчыў хвост, рэшткі яго, было больш цікава ці пакоціцца ён па Месяцы, як голас Творцы. Дарэчы, захоплены гукамі, ён сачыў, дакуль яны сягнуць, дзе спатыкнуцца і заглухнуць. І нідзе гэтага не адбылося. Голас Творцы пераадолеў усё на сваім шляху. А вось голас Цмока, хаця і значна мацнейшы, не выдаліўся за плато Платона і таросы Цырка. Гэта мо здзівіла і самога Цмока:

— Пэўная Гуйня, — мовіў ён услед свайму хутка атухламу рэху.

— Не гуйня, а Гуй-га, — паправіў яго небазнаўца. — Поўная гуйня яшчэ наперадзе, бывае часам і рэдкая.

— Адкуль ты толькі ўсё ведаеш, — прабурчэў Цмок.

— З-пад кур, як і ўсе мы, — незласліва адказаў яму небазнаўца. — А ты хіба яшчэ не разгадаў, што раней было — яйка ці курыца?

Пытанне было не з прыемных Цмоку. Бо, па чутках, а мо і плётках, Цмок нарадзіўся насамрэч з яйка. Яйка чорнага пеўня апоўначы пры стварэнні свету. Тое яйка чалавек, не выключана, што і сам Творца, тры гады насіў пад спатнелай пахай. Што не толькі займала Цмока, але і бянтэжыла. Брыдка яму было сядзець, хаця і ў яйку, пад спатнелай пахай. Няхай і самога Творцы. Нязгодны ён ніколі і ні ў каго сядзець пад пахай. Не падабалася яму такое седала: намёк на курынае паходжанне. А ці ж падобны ён на куру, а кура на яго? Кура ж не птушка,

квактуха. Дый адкуль узяўся певень, хоць і чорны? Манілі ўсе з яго з'яўленнем. І гэта была ці не першая мана, што вылупілася з нечых вуснаў. Памножылася, пайшла гуляць па свеце. І раскашуе сёння. А ён не хацеў быць яе бацькам. Хлусяць людзі, хлусяць. А ён не хлус. Ён Цмок. Гэта чалавек мо сапраўды ад малпаў, а ён сам ад сябе.

Таму Цмок толькі паморшчыўся ў адказ на словы небазнаўца. Але яго суразмоўнік ужо не бачыў гэтага, звярнуўся да коціка:

— Спазніўся ты сюды, братка, твае суродзічы на гэтым пытанні таксама галаву скруцілі. Ды так са скручанымі галовамі ўсе да аднаго пагрузіліся ў караблі і пайшлі ў сусвет шукаць адказу на гэтае далікатнае зямное пытанне. Таксама сумняваюцца ў тым, што паходзяць ад малпаў. Во што дзеецца на свеце, калі ў ім занадта яйкагаловых. А простыя людзі згодны паходзіць і ад гаршка, толькі б іх у печ не ставілі. Жывуць яйкамі, жывуць-ужываюць яйкі сырымі і на патэльні са скваркай ды пад чарку з цыбулькай і бульбінкай. А яйкагаловым...

— А, уга і ага, — спыніў небазнаўцу месячны Цмок. — Хопіць, хопіць, дзядзька, разышоўся, як халодны самавар. Ты ж не ў Вільні, а на Месяцы. І тут ужо надакучыла твая балбатня. Будзеш плявузгаць і далей, наладжу цябе зноў у твае паўночна-заходнія крэсы.

— Во так усюды, — крыху жартаўліва ўдавана, а больш з горыччу зазначыў павятовы Мікельанджэла. — Паўсюдна і ўсё на адзін капыл — спрэс адны злыдні ды дабрадзеі, каркуюць і каркуюць рот. Ні слова мовіць, ні дыхнуць. — І, відавочна, некага капіруючы: — Іно, людцы, яшчэ пабрыдзем...

І яны пабрылі. Два Цмокі, вечны вандроўнік і іх спадарожнік, маўкліва-задуменны коцік Біч, былы інтэлігентны чалавек. Пабрылі па, здавалася б, ціхамірнай і ў адрыве ад матухны-зямлі, скрыні Пандоры, пазбаўленай якіх б то ні было жарсцяў. Але гэта толькі

здавалася ім, мроілася, жадалася ў скручанай і звіхнутай зямной свядомасці.

Цырк Платона, адкуль яны пачалі свой шлях, быў, пэўна, насамрэч толькі цыркам, забаўкай даверлівым дзецям, мо з паблажлівай усмешкай таго ж старажытнага Платона, звыклага да штукарства яйкагаловага грэка ці чорнага пеўня з яйкам. А адразу ж па-за цыркам пачыналася сапраўднае жыццё. І вельмі густое, жорсткае і крывавае. Кулешык зусім не рэдкі з крышанамі чалавечыны. Жыццё цалкам зямное, і такога крутога замесу і ўзвару, такой канцэнтрацыі, нібы яны трапілі на нейкую колішнюю містэрыю ці сучасны кінатэатр, у якім ішлі амерыканізавана-абрасіяненае кіно, бандыцка-гангстарскі баявік, трылер ці хічкокаўскі «ўжасцік». А магло абысціся і без кіно. Яны проста, седзячы ў сябе ў хаце, уключылі тэлескрыню, а там якраз паказвалі апошнія навіны... І хаця ніякай навіны Бічу ў іх не было, і не кіно, не карцінкі па тэлевізары паказвалі яму. Гэта было яго паўсядзённае жыццё. Тое, з чаго ён паходзіў сам, з чым звыкся і зросся. Але адна справа — жыць сярод гэтых жахаў, і зусім іншая — бачыць іх збоку, калі цябе тварам у тваю ж блявоціну, у копанку з лайном па самую макаўку. У тваю ж яшчэ не астылую гарачую кроў. У твой смуродны ўжо гной і адбалелыя, адмерлыя жуду і страх.

А гавораць, што ў адну і тую ж раку, у адну і тую ваду нельга ступіць двойчы. Можна, можна. Толькі гэта рака, толькі гэта вада — мёртвая ўжо. Вада і рака, у якіх мылі нябожчыкаў — цябе нябогу. Твае тагасветныя памыі, якія цябе ж прымушаюць піць. І выдаюць за напой жывы, жыватворны і творчы. А насамрэч яго ні спажыць, ні выблеваць, як бы цябе ні ванітавала, якая б смага цябе ні паліла, бо ты сам ужо стваральнік і сейбіт памыяў — небыцця, мярцвячыны. Таго, што зблізу і не прыкмячаеш, гідзішся, але апраўдваеш выпадковасцю, збегам абставін, тым, што ты не першы і не апошні —

так жывуць усе і паўсюдна. А вось заўтра ты ўжо ўсё перайначыш, ачысцішся і за гэтым жаданым будучым ачышчэннем неўпрыкмет пачынаеш гадзіць і сам, бо перад гэтым ты таксама неўпрыкмет ужо страціў грэблівасць да брыдоты і гідасці свайго існавання. З мёртвай вады не выплываюць. Паратунак адзіны — толькі захлынуцца ў ёй, мо на апошнім судзе суддзя злітуецца і надыдзе абнаўленне.

І падобна, сведкамі гэтага змагання за пасмяротнае абнаўленне і сталі прышэльцы з Зямлі, бо сама Зямля, па ўсім, ужо не здольная была стаяць за сябе. Месячнае, касмічнае змаганне за Зямлю было жудасным і бязлітасным. Смерць у маўклівай сцішанасці сусвету, у пагардзе і забыцці на час і прастору ў бязважкай лёгкасці космасу правіла забойны крывавы баль. На Месяцы са спазненнем, а мо і з апярэджаннем — у перасцярогу сусвету — пракручвалася старое і бясконцае зямное кіно. Сусвету — кіно, а зямельнікам — іх нязбытая і па-за зямлёй рэчаіснасць.

Уздыбленая нячутнасцю выбухаў рушылася глеба, пракаветны друз і прах яе, нафтава ўчарнелы ад жывой чалавечай крыві і плоці, браўся тарфяна-рудым пылам і веяўся, імкнучыся ці то ў апраметную, ці то зусім прэч ад пагібельнай планеты, каб на ёй не засталося і знаку ад былога жыцця. Зямля пасылала космасу сігнал SOS. Што не браў агонь, то падбіралі і нішчылі нелюдзі, падальшчыкі. У прадвеснюю слоту шырокага дзедаўскага гасцінца, сярод натоўпу зняможаных людзей, хутчэй быдла, канаючы, падаў хлопчык. Людскі статак пакручаста абмінаў яго, як гадзюка абмінае спарахнелы баравы пень. Жанчына штурхала ў плечы маленькую дзяўчынку, надаючы ёй паскарэнне руху за статкам, ніцма падала на хлопчыка, захінаючы яго сваім целам і апраткай. Але ж з-за гэтай яе апраткі здрадліва вытыркаўся стаптаны абцасік чабатка хлопчыка. Адзін з нелюдзяў злітасцівіўся, захінуў той абцасік крысом світкі

жанчыны, другі — млява і абыякава тыцнуў штыхом карабіна пад яе левую лапатку. Жанчына сутаргава ўскінулася, прыўзнялася над сваім сынам, але ж адразу і апала, ужо мёртвая, пэўна, баронячы яго, хаваючы ад вока нелюдзяў.

А дзяўчынку, дачку, што маці скіравала рухацца за натоўпам, на тупкім лапіку зямлі пры балоце жыўцом дзерлі сабакі, упёршыся тоўстымі пародзістымі пярэднімі лапамі ў жывот і грудку, агалялі з лахманоў, ухапіўшыся чырвона-чорнымі пысамі за ногі. Разадралі надвая. І было відно, як у адной і другой палове яе цела трапечуцца лёгкія, і, штуршкамі пазбаўляючыся крыві, б'ецца, адганяючы жыццё, дзіцячае сэрца, і блякла астываюць сінія вочы. А потым гэтыя яшчэ пульсуючыя рэшткі, нібы два святлафоры, два стоп-сігналы некаму, кінулі ў вогнішча, што куродыміла за калючым дротам сярод бору пры гасцінцы. І вогнішча здрыганулася, пыхнула полымем, прымаючы чалавечыну. І такіх вогнішчаў сярод бору каля гасцінца было нямала, як кладаў на могілках. Ахоўнікам, качагарам з аўтаматамі і карабінамі навісу наперадзе было халаднавата ў прыбалацці крэсавай дрыгвы і багны.

Але дзяўчынка, імгненна імгненна абапёршыся на полымя і вуглі, устала на ногі і адразу ж выйшла з вогнішча. І не адна. Іх было ўжо дзве. З кожнай яе раздзёртай палавінкі — па жывой дзяўчынцы. А з куродымных вогнішчаў падымаліся, уставалі на ногі і іншыя. Незлічонае мноства негаручых дзяўчынак і хлопчыкаў. Ажыўлена падымаліся, падобна, не дзеля жыцця. Агнём і помстай свяціліся іх пустыя невідушчыя вачніцы. Дзятва выходзіла з агню і дыму, па ўсім, ужо навучаная вайне, з аўтаматамі і карабінамі забойцаў-ахоўнікаў. Не марудзячы ані хвілінкі, адразу ж пачыналі страляць. Па ахоўніках, па тых, хто знаходзіўся за калючым дротам, — сваіх бацьках — па ўсім, што рухалася, нагадвала жывое. Толькі што народжаныя

ці адроджаныя, абноўлена пачыналі са знішчэння — гэта была ўжо інакшая, новая сутнасць людзей — прыроджаных забойцаў, што прайшлі праз агонь і смерць і адрадзіліся, падобна феніксу, таму бязлітасныя. Толькі што памерлыя, а некаторыя, пэўна, яшчэ і ненароджаныя, з чэрава матак, ужо са зброяй, прагнулі крыві, відушча ўвасобіліся ў смерць.

Выклікала жуду не толькі тое, як яны тварылі смерць, але іх падрыхтаванасць, скіраванасць на яе тварэнне, спрактыкаванасць. Нібыта яны выходзілі не з чадных вогнішчаў, паўставалі не з попелу і дыму, а з векавых мурашнікаў, і, як кожная мурашка, ведалі сваю справу.

Агонь і дым у смуродных корчах і яшчэ жывой дзіцячай плоці, вогненны мурашнік спраўна гнаў усё новыя і новыя сонмы сейбітаў смерці, забяспечваў іх зброяй і патронамі. Таксама ж шчытна і купна, ланцугамі стаялі і шэрагі стралкоў, якім заставалася толькі адно: страляць і страляць, засяваць Месяц смерцю, нібыта месячны мурашнік нарадзіў зомбі, робатаў, манкуртаў. Здаўна, ці не з сатварэння свету, адзінасці Зямлі і Месяца, быў заняты іх вытворчасцю, нікольki не дбаючы пра наступствы. І наступства было адзіным — такая ж механічна-абыякавая, канвеерная вытворчасць смерці. Пагібель.

Сярод гэтых сонмаў знішчальнікаў Біч на імгненне ўбачыў і хлопчыка, што ўпаў сярод хлябі сакавіцкага гасцінца, прызнаў у ім свайго сённяшняга гаспадара. Але ў якасці каго ён там быў: стралка, падносчыка патронаў ці закладніка, са зброяй ці без, — не разгледзеў. Таму што ўсё ў ім дрыжэла, стагнала і плакала полымем, агнём. І яшчэ аднаго знаёмца ўбачыў сярод малалетак Біч. Свайго колішняга ратаўніка ў бойцы з пацуком. Ратаўнік быў ці наглядчыкам, а мо і камандзірам. Біч адмаўляў і адмаўляўся ад бачанага і ўласнай свядомасці.

Абодва Цмокі, зямны і месячны, старанна хавалі адзін ад аднаго вочы. Тутэйшы нават заплюшчыўся. Але і з-пад

самкнутых яго павек сачылася сляза. І сляза тая, на дзіва, была чыстая, як дыстыляваная. І таму невядома, палюдскі горкая і пякучая ці толькі касмічна дабрадзейнаспачувальная. Яго брацельнік, зямны Цмок, слязы ж не пусціў, а толькі грувастка раздзьмуўся і клекатаў усярэдзіне, пэўна, змеевіком, перапоўненым ды так ні разу і не спарожненым, што ўвогуле зразумела: зямная сляза і тое, што ліецца са змеевіка, — аднаго паходжання, аднаго змесціва, аднаго кшталту і напаўнення. Як аднаразовага ўжытку шпрыц з абязбольваючым.

Толькі здранцвенне зямнога Цмока было падманлівым. Так, пазбаўляючыся паўсядзённасці, ён думаў, хутчэй, зноў жа, рэлаксіраваў, збягаючы, як пад настрой, ці то ў далёкае мінулае, ці то ў такое ж далёкае будучае. Нельга сказаць, што яго не кранаў чужы боль і чужыя пакуты, але ён ужо даўно адхварэў на іх. Больш таго, людзі былі варты сваёй крывавай долі. Кроў-то была іх, вось і трэба было берагчы яе, ашчаджацца, а яны папусціліся, былі рады сваёй і чужой крыві. І з радасці стварылі вялікую кроў зямлі. Спачатку абакралі зямлю, а потым пачалі яе забіваць.

Але гэта іх справа. Справа людзей і зямлі. Спрахнуць — туды ім і дарога. Адвечная гэтаму зямному люду дарога ў нікуды. Зямля, чвартаваная, а мо і апалавіненая вар’яцтвам сваіх насельнікаў, тых, каго сама ж парадзіла і прытуліла, яшчэ мае сілу ўпарадкаваць іх. І каторае ўжо тысячагоддзе парадкуе. На зямлі ўжо даўно больш магіл, чым жывых людзей. І Цмоку ўжо не надта шкада іх, бо ён ведаў і лепшых. Толькі тых лепшых звялі і вынішчылі во гэтыя. Каторыя сёння зводзяць і нішчаць саміх сябе.

Цмока ж больш непакоіў яго ўласны лёс, і не ў сэнсе нават жыцця. Ён вечны. Толькі ж вялікае пытанне, дзе і з кім яго вечнасць. Быць вечнаму сам-насам з сабой — непрыстойна. Неўміручасць, бессмяротнасць нечага вартыя толькі сярод жывой вечнасці, той, што некалі вызваліла, паклікала яго з небыцця. Стварыла амаль з

нічога: трохі з гора, трохі са шчасця, страху, здзіўлення, спалоху і смеласці. І гэта злепленае з непатрэбства немаўля аказалася на дзіва жывучым: казка, казань, сказ — рошчына была з мукі, што малолася на жорнах часу, а зерне — з праху сейбітаў. І ўзыходзіла, радзіла тое зерне не толькі коласам, але і голасам, гукам і словам. Словам, сёння забытым і збытым. А разам з ім пачалі знікаць і казані, сказы і казкі. Гэта значыць, былі прыгавораны да забыцця, сыходу і выраю ўсе Дамавікі, Русалкі ды Вохі.

Вось і балела Цмоку, гэтага свайго народцу было шкада, а потым толькі ўжо і чалавека, які, мяркуй як хочаш, быў творцам, хроснай маці і хросным бацькам, спавівальнай бабуляй гэтага народцу. І таму ім было наканавана жыць толькі разам. І паміраць таксама — толькі разам. І па ўсім, першымі павінны былі адысці людзі. Ім больш даспадобы была ўсё ж смерць. Яны не вытрымалі свайго прызначэння. Жывыя, з плоці і крыві, на паверку яны аказаліся слабейшымі за тых, уяўных зданяў і прывідаў, якіх самі ж і стварылі. Надышоў, прыспеў час мяняць чалавечую пароду ці карэнным чынам абнаўляць яе. Асабліва гэтых, так званых творцаў ці вытворцаў, адзін з якіх знаходзіўся тут жа, на Месяцы, побач з ім, з Цмокам.

Кіпела кіпнем, бралася пенай і парай, сляпіла вочы сусвету жывая чалавечая кроў, а ён і не дбаў. Адно нешта занатоўваў, нешта запісваў у свае жоўклыя, падобныя на пергамент і ці не з чалавечай скуры паперы ды маляваў з крывавай натуры свае крывавыя малюнкі. Пэндзаль і фарбы яго былі таксама крывавыя. І Цмок не вытрываў:

— Чаму і навошта? — спытаў ён у творцы.

— А таму... І таму, і гэтаму!!

— Гэта ж каму — таму?

— Таму і пагэтаму. І ўсе. І конча... А хутчэй, самому сабе. Бо калі табе няма чаго сказаць самому сабе, не дакучай і іншым. Першы крык і апошні стогн заўсёды

толькі самому сабе. Вось і я заўсёды і паўсюдна як першы раз крычу і апошні раз стагну, — сказаў мастак. І Цмок замоўк, пэўна, зразумеў яго. Хаця паразуменне з творцамі давалася яму з цяжкасцю. Зноў жа не надта прывячаў ён гэту пароду, як лічыў, хлусаў ды пляткароў-краснабаяў. Гэта ж яны ўвялі ў вушы ўсяму свету, нібы ён, Цмок, жыўцом жарэ людзей... Хлусяць, хлусяць. Ну, схарчыў таго-сяго неўпрыкмет. На тое ж і воўк у лесе, каб заяц пад кустом не спаў у шапку. А сам чалавек за сваё жыццё колькі харчыць камароў ды мух. А самі гэтыя мастакі і творцы ды ўсе спрэс гуманісты колькі спажылі чалавечыны. Ці не іх жа спакушаным і вытанчаным розумам зямля і чалавецтва даведзены да краю, да бездані... Не, прарэджваць і прарэджваць трэба чалавечую пароду. Хаця на зямлі няма нічога больш учэпістага за пустазелле. Ведаць бы, дзе плевелы, а дзе зерне. Ён не ведае, і ніхто не ведае. Таму — толькі сыход і абнаўленне.

І новая братчына. Бо калі ўжо гіне самае нявіннае і бяскрыўднае — казка, калі зямля ўжо не ўбірае крыві, калі гэта зямная кроў хлынула ўжо ў сусвет і мастак пачынае нема лямантаваць, тварыць кроўю, — і ці мастак, ці не сам ужо Творца — ці не яго гэта апошні ўсхліп і стогн: «Гуй-га, гуй-га, гуй-га»? Аніякая гэта ўжо не гуй-га, а сапраўды поўная Гуйня. Без падання, казані і казкі, без гуку і слова. Забыццё і немач.

Біч, пэўна, больш за ўсіх адчуваў гэту немач. Немачнае здранцвенне раптам і разам як забіла яго, выпаліла жаданне і патрэбу жыць, ён адмаўляў ім. Адмаўляў, здаецца, пасмяротна, тагасветна ўжо, бо зусім не жанчыну там, на Зямлі, ці тут, на Месяцы, якая розніца, мімаходзь прыпіналі штыхом да яе дзіцяці, не дзяўчынку дзерлі жыўцом сабакі і жыўцом яшчэ палілі яе сэрца. І зусім не чужога хлопчыка несла на плячах чужая старая праз міннае поле, а пазней выцягвала яго ўжо з таго свету, адганяла смерць і загаворвала, вяртала

яму кроў, кроў забітых маці і сястры, што прыбралі ссівелы дзедаўскі гасцінец і агонь. Ён пазнаў усіх гэтых нябожчыкаў: пазнаў самога сябе ў кожным з іх. Усе яны падавалі знак, собілі яму ўжо з таго свету.

І не толькі собілі. Яны сабралі яго па крывінцы, з паветра, якім самі некалі дыхалі і якое яшчэ не знікла з пакінутай імі зямлі. Склалі, адрадзілі, абралі менавіта яго і паслалі, прывялі да таго адзінага, хто ацалеў з іх роду. Адрадзілі, паслалі і прывялі. Без напутнага слова і моўленага ўслых загаду і наказу. Толькі ж, пэўна, загад і наказ былі, былі, як заведзена, маўклівы загад мёртвых, іх праху, праху іх кароткага і пакутнага жыцця. Але ці ж здольны ён нарачонае і запаведанае яму захаваць, выканаць волю іх праху, калі сам цяпер ужо амаль што прах?

Біч, нібыта ў мораку, адчуваў, як меркне свядомасць і губляецца, агаляючы скуру, поўсць. Сама скура аблазіць, здымаецца паслойна, панчохай, як абнаўляльна здымае яе гадзюка ў наканаваны ёй час, ушчаміўшыся вузкім вёрткім целам паміж двух шурпатых пры карані лазін. Невядома, ці баліць пры гэтым балотнаму гаду, а Бічу балела, таму што разам з поўсцю і скурай гублялася і цела, нібыта яго чвартавалі, ці нават апалавінілі, як тыя ж сабакі распалавінілі дзяўчынку.

І з гэтым болем, але ўсё ж пры поўсці і скуры, як у тумане, ён пацёгся следам за Цмокамі і небазнаўцам назад да Месячнай хаты, якую яны зусім нядаўна пакінулі. І пакуль не паказалася тая хата, ішлі моўчкі. Толькі зямны Цмок спытаўся ў небазнаўца:

— А куды падзеліся луніды і пласкатварыя, пра якіх ты столькі трындзеў?

Небазнаўца, пэўна, трохі пакрыўдзіўся і дакарыў Цмока:

— Цёмны ты і ёсць цёмны...

— Цёмны, — пагадзіўся Цмок. — Цёмны, таму што жыву там, дзе некалі жыў і ты. У падчарэўі, у краі, дзе

даўно ўжо пераблыталі сэрца з пупам і яшчэ з нечым, чаго ў пласкатварых мо і няма.

— Ёсць, — адказаў небазнаўца. — І яны яшчэ некаму гэта пакажуць, пакажуць... Недарэмна ж аднаго з іх абрала Русалка. Прыспала. Але ён прачнецца. Другі ў цябе пад бокам, на кургане, трэці набірае сілы сярод мёртвых. На пагосце ў старажытным княстве. Прарос, узышоў каменным крыжам па-над вечным спакоем вады пры пяці рэках. Вялікае мноства шчыруе і рупіцца. Арэ, сее. А тыя, што тут засталіся, амалоджваюцца ў перастваральных дзірках. Бачыў праломіны — там яны. Я іх рыхтую, каб выправіць на зямлю. Яны прыйдуць яшчэ туды, усе збяруцца. Брат пазнае брата, і камяні загавораць...

Пра гэта ж самае завялі гаворку на развітанне і абодва Цмокі:

— Чакайце, чакайце, — сказаў месячны Цмок.

— Колькі ж можна? Нашы з табой: чакайце. Чужынцы: чакайце. Бальшавікі: чакайце. Дэмакраты... А жыць калі?

Гэта пытанне зямнога Цмока засталося без адказу, як ні прагнуў пачуць яго Біч. Але калі коцік са сваім Цмокам зноў ступілі на Месячную сцежку, ужо амаль наўздагон ім было моўлена:

— Была ноч — будзе і дзень. Вознік ужо напагатове. Вознік ужо запрагае каня. І Зямлі будзе пасланы знак. Будзе знак. Знак трэці. І апошні.

## БРАТЧЫНА

І была ноч. І быў дзень. І быў знак. Трэці, апошні.

І была братчына.

У тую ноч яму соладка спалася. І хацелася спаць, бо сніў нешта хаця і неўразумелае, але прыгожае. Нешта ўсё ззяла ў заплюшчаных вачах, зіхацела. І святло было не надта зыркім, супакойваючым. Ноч спавівала яго замілаваннем любасці і асалоды шчаслівага абуджэння. Як гэта бывае толькі ў дзяцінстве, калі ты ныраеш у цемру з неадольным і светлым чаканнем ранку, сонейка і прыемнага, адкладзенага з вечара на гэты абуджальны ранак занятку, у чаканні новага дня, які мо ніколі ўжо не скончыцца.

Але пры ўсёй любасці сон яго быў чуйны, поўны шэптаў, шолахаў і гукаў. Усе яны, здавалася яму, прыналежалі зусім не гэтай ночы. Наплывалі аднекуль здалёку, з мінуўшчыны, ад чаго хутчэй, чым звычайна, білася і тахкала сэрца, абмірала, смылела і шчымела. Зноў жа, як у дзяцінстве, калі сны такія падманна праўдзівыя, што не хочацца з імі разлучацца, хочацца ўвайсці і застацца ў іх і з імі назаўсёды. І сёння, уначы, у яго атрымлівалася гэта, ад чаго яму аж апякала пяты і свярбела пад каленямі. Нецярпліва свярбелі і рукі, нібы хтосьці прымушаў іх неадкладна справіць нейкую вельмі патрэбную работу. Справу, якая была зададзена яму яшчэ ў маленстве, а ён за ўсе гады так і не распачаў яе. Не распачаў рабіць наканаванае. Але што гэта, наканаванае, ён нават і ў сне не мог прыгадаць.

І мо менавіта таму нічога ў яго не заладзілася, калі прачнуўся. З самага ранку ўсё пайшло не так, не туды і не ўпраўна, як у зломка нейкага ці пустадомка. За што б ні браўся, усё валілася з рук, білася, трушчылася. Нават звыклая да яго рук сякера, і тая наравіла да шкоды. І будзь яго воля і ўлада над ёй, ён бы ўтапіў яе ці закінуў куды. З памяркоўных-то з памяркоўных ён, але заўсёды

гатовы адсекчы рукавы ўласнай сарочкі, калі надта ўжо яны распусціліся і матляюцца, замінаюць рабіць. І абсякаў неаднойчы тыя рукавы, нават у сарочак зусім новых, асабліва новых — не прыраслі яны яшчэ да яго. На калоду — шах злева, шах — справа. Спатрэбіцца, дык і руку так. Калі яна лішняя і шкадлівая.

І сёння ён ледзь не дайшоў да таго, каб абсекчы сабе рукі, бог мілаваў. А вось рукавы новай сарочкі ўладзіў. Але не супакоіўся, бо пачалося ўжо чорт ведае што. Поўная чартаўшчына і гуйня, а гуйня, як вядома, яна і рэдкая бывае. Прапала электрычнасць, хоць ты бяры вядро ды бяжы яе шукаць, як гэта было з ім на пачатку самастойнай работы. Штукары-электрыкі далі яму вядро і паслалі да бетоншчыкаў па энергію, а тыя ў гэтае вядрышча — літраў пад пятнаццаць — поўненька, з верхам нават, — адшкадавалі бетону. Смех дый годзе.

Але цяпер з электрычнасцю смеху не было. Кабель ад трансфарматара да хаты быў падземны, трохфазка. І яго аднойчы прабівала ўжо. Давялося з тыдзень біць шурфы і капаць канавы, каб знайсці прабой, згубленую фазу. Мышы ці пацукі пашчыравалі, таксама энергіі прагнуць. І вось, пэўна, тое ж самае пачнецца зноў. Лямпачка ў хаце, як сігналячы некаму SOS, SOS, SOS, доўга ліхаманкава тлела і мігцела. А потым развітальна лыпнула паміральнай кропкавай чырванню і патухла.

Ён яшчэ на нешта спадзяваўся, надта ж не хацелася зноў у далакопы. Тройчы бегаў да трансфарматарнай будкі, думаў, што абыдзецца, што гэта проста так выбівае фідар. Пстрыкаў кнопкамі і тузаў туды-сюды рубільнік. Але фідарны аўтамат — ён і ёсць аўтамат —

быў няўмольны. Па-вайсковаму казённа і суха шчоўкаў схаванымі ў яго ахоўным чэраве металёвымі сківіцамі і выключаўся. І нечага было спадзявацца на цуда.

А тут яшчэ ў хаце ні кроплі вады. А да гэтага ён заўсёды меў у галаве: хата не павінна заставацца без трох рэчаў: хлеба, солі і вады. Тут жа папусціўся. Усе вёдры і бітон сухенькія: ні гарбаты сагрэць, ні простай вады, каб даўкі ў горле камяк ад крыўды на самога сябе пракаўтнуць. Да чаго ж сённяшні чалавек аніякі не гаспадар у сваім селішчы, у сваёй хаце. Не гаспадар нават самому сабе. Калісь гаспадар, а сёння папіхач. І ці не назаўсёды толькі папіхач. Вынаходлівым розумам апошняга стагоддзя пастўлены на мыліцы. Сваёй волі, самастойнасці ні на грошык. Ад усіх залежыць, усім кланяецца, усіх просіць. Вось і з гэтай вадой. Раней, каб папіць яе, хіба трэба была яму электрычнасць, свідравіна, помпа, трубы? Свая ж пры хаце ці на вуліцы студня...

І якая студня ў дзяцінстве была на іх вуліцы, які глыбозны калодзезь, пад дваццаць метраў да вады, ад якой зубы ламіла і цела парным потам адразу ж бралася. Пра зоркі, што ні ўдзень, ні ўначы не зводзіліся ў калодзежы, і гаворкі няма. А яшчэ ў адно лета пры самай вадзе ляжаў там на дубовай штандары, жоўценька пабліскваў медалёк «За взятие Берлина». Бацькаў медалёк, ён гуляў ім з хлопцамі ў прысценак, бо не меў вялікага і зручнага пятака — пяці капеек. Гуляў і выйгрываў. Ды нечакана ўраніў, выпусціў з рук — на зоркі ў калодзежы заглядзеўся. Думаў, што ўсё, з канцом. Медаль толькі булькне ў ваду і знікне назаўсёды, патоне. Не знік, не патануў, лёг, як упячатаўся, на ўчарнелыя дубовыя грудзі прыдоння. І ён яшчэ доўга прыпадаў да зруба калодзежа, адшукваючы вачыма ў халоднай, але зорнай цемры бацькаў медалёк, пакуль бронза не схапілася зялёнай пацінай і не зраслася з п'едэсталам дубовай, як магілкавай, калодзіны. А калі гэта адбылося, браў вядро, даставаў і піў ваду са свайго калодзежа,

нібыта браў яе ў Берліне, і заўсёды адчуваў у ёй крыху гаркавы прысмак бронзы, медзі.

Сёння ж яго гарадская вада толькі з пахам хлоркі, грамадскай прыбіральні. А цяпер, па-за горадам, у вясковых калодзежах, яе і зусім няма. Няма ў яго вады, вады, няма электрычнасці, сарочкі, лічы, ужо няма. А тут яшчэ і кот пад нагамі блытаецца, што пута, кроку зрабіць не дае. Блытаецца, верашчыць і ўсё ў вочы зазірае. На рукі яго — дык і пальцы пакусвае, долу просіцца і скача, вылузваецца з рук.

Сам не ведаючы чаму, ён зайшоў у хлеў, дзе захоўваўся садовы інструмент. Агледзеў яго: мотаблок, косы, бензапіла, капаніцы. Не, нічога з гэтага зараз яму не патрэбна. А вось рыдлёўка... Рыдлёўка як сама кінулася яму ў рукі, нібы хтосьці яго падштурхнуў да яе, прымусіў узяць. І ён узяў, не цямячы чаму, навошта. Узяў. Доўга непаразумела і здзіўлена трымаў у руках, не ведаючы, куды яе падзець, што з ёй рабіць. І ў галаве не трымаў, каб нешта сёння капаць, тым больш калодзеж, думка пра які чамусьці неадчэпна круцілася ў галаве.

Патрэбна то патрэбна, але не такі ён ужо дурны, каб брацца за такую справу з налёту ды аднаму. Гэта толькі талакою можна, ды мець яшчэ чалавека, які больш за іншых ведае пра ваду, чалавека, мо і параднёнага з вадой. Вадзяніка, якому яна што маці родная ці каханка. Захоча — прыгалубіць і пакажацца, праблісне крынічным вочкам, аблашчыць і спатоліць вечнасцю сваёй лагоднасці і пяшчоты. А каго няўзлюбіць, то ён можа і звекавацць каля вады, высмягнуць каля яе, але так ніколі ўдосталь і не напіцца, а то яшчэ і горш — выхварае ад яе, улетку, у спёку скуламі пакрыецца, спаганіць сваю кроў.

І такое ён бачыў тут на свае вочы. Быў сведкам таму, як знікла крынічка, якая мо калісь дала пачатак гэтай рэчцы. Месца каля той крынічкі пры кургане, якіх безліч у гэтым краі, упадабаў адзін з багаценькіх

бізнесоўцаў, алігархаў, як сёння кажуць. Адбудаваўся, як некалі цэрквы толькі, храмы ці панскія маёнткі будавалі. Але ўсё яму было мала, намерыўся прыхапіць, прыватызаваць і крынічку. Выгарадзіў яе ад ракі, аздобіў гранітам, мармурам, ды яшчэ нейкія заморскія камяні прыцёг, на грудзі крынічцы той ускінуў. І парэбрыкі з тых камянёў пракінуў, склаў з іх жа сцены. Маўзалей, сапраўдны маўзалей, хоць занось, васпане, яснавяльможнага нябожчыка і хай ён там сабе вечна пануе. Мо так з цягам часу і планавалася. Але што адбылося насамрэч. Наваяўленая царква, маёнтак і палац не саступіць Мірскаму ці Нясвіжскаму, дзярэ вочы небу. Маўзалей слепіць сонца, так кожны дзень яго мыюць і шаруюць шампунямі. А ваду для гэтага бяруць і завозяць з рэчкі, бо тут яе няма. Крынічка знікла, прапала, як і не было яе. А рэчка непадалёку як цякла, так і цячэ, ніколькі не страціла ні бруістасці, ні плыні, працавітасці, нібы тая ж самая крынічка спадыспаду, па жылах, што, пэўна, павярнулі ўглыб зямлі, падсочвае і жывіць раку. А ў маўзалеі толькі тхло, сырасць, вільгаць ды жабы з жабянятамі і палонікамі раскашуюць.

І гэта было мо яшчэ і не дзіва, каб не ўздумаў бізнесовец, уладальнік маёнтка і маўзалея, адшукаць і вярнуць крынічку. Наняў рабочых, трох хахлоў, аднекуль з Сумшчыны ці Чарнігаўшчыны, што на той час блэндалі тут. Хлопцы што валы, кроў з малаком. Ім бы на радзіме пароду паляпшаць, а яны вымушаны былі карыстаць мясцовых пярэдаек — саламяных удоў ды смаркачак, вучаніц старэйшых класаў, таму што на Сумшчыне ды Чарнігаўшчыне апроч таго ж паляпшэння сваёй пароды, іншага занятку ім не прадбачылася. Беспрацоўныя яны былі, вось і туляліся па белым свеце, марна зводзячы сілу, час і насенне.

Гэта тройца хахлоў убіла лета, дамагаючыся даступіцца да вады, выкапаць калодзеж, вярнуць крынічку. Кожны дзень, вечар ім здавалася, што во

зараз яны дамогуцца свайго, таму што даўно пройдзены пясок і жвір, выбраны камяні і галька — дарэчы, вельмі роўненькая, як абсмактаная крынічкай, абцалаваная яе водамі, — пройдзены ўкрыўныя, замкавыя чырвоная і блакітная гліны, раскіслы ад блізкасці вільгаці мо нават падземнага плывуну сапрапельны спажыўны і лекавы глей, а сапраўднай вады ўсё няма і няма. І недзе ж тут яна, побач, зусім блізенька дыхае, увачавідкі горнецца да той жа галькі, мілуецца з прахам пракаветнага глею, а чалавеку не даецца, не паказваецца. Адно толькі, калі вока ў вока — чалавечае вока і вока кроплі вады — пуката міргне тады гэта кропля прадоннем зрэнкі, адарвецца ад каменьчыка ў сцяне калодзежа і абрынецца долу, на стаптаны абутак далакопаў. Іголачкамі распырскаецца па скуры іх чобатаў ці чаравікаў, нібыта папярэджваючы: гэта ўсё. І марныя, чалавеча, усе тваe намаганні, нічога з іх не будзе.

І не было. Хаця іншым разам звечара здавалася: ёсць, будзе. Вады на дне калодзежа збіралася пад падэшвы, абцасы абутку. Але ранкам яна знікала, як нехта высмоктваў яе і нават крыху падсушваў дно і абтупваў яго, бо ў ацвярдзелай сярэдзіне захоўвалася некалькі кропель, нібыта слёзак, як кот наплакаў. І больш нічога. Хаця і ён сам раз ці два браўся дапамагаць далакопам, таму што крыху ведаў гэту справу. Больш за іх быў спрактыкаваны адчуваць прысутнасць вады, капаць зямлю, прайшоў гэту навуку ў геолагаразведцы, у Саянах. Рабіў праходчыкам на пошуках золата, біў шурфы часам глыбінёй пад дваццаць метраў. Паказаў хлопцам, што такое двайны і трайны перакід грунту з дапамогай спецыяльных палкоў, як трэба дасягаць залежаў карэнных парод і садзіцца на жылу. Спрабуючы выйсці на жылу вады, кавадлам і ломам браўся ва ўсе чатыры бакі калодзежа.

Вокам і нюхам прадчуваў блізкасць і наяўнасць вады і ў той жа час недасягальнасць, уцёкі той вады,

калі ўжо непасрэдна набліжаўся, натыкаўся на яе. Вада іншым разам аж раўла ў глыбіні калодзежа, па-за ўсімі яго чатырма бакамі. І рабілася боязна, што яна вось-вось прарвецца, хлыне. І хлыне так, такім вадаспадам і фантанам, што не толькі пахавае людзей у калодзежы, але і затопіць усё наваколле.

Не хлынула, не прарвала, хаця ломік з бакавых шчылін выходзіў мокры і хвіліну-другую тыя шчыліны струменілі. Толькі квола, перарывіста, як дыхае хворы на астму чалавек. Дыхае канаючы. Струмень адразу ж надсадна, як на апошнім усхліпе, драбніўся, пырскаў і захлынаўся. А са шчыліны цягнула слабенькім ветрыкам.

Менавіта слухаючы той ветрык даланёй, адчуваючы яго пагрозлівую непрыхільнасць і варожасць, ён зразумеў, што справа тут мёртвая, безнадзейная. Калі паўсюдна ў гэтых мясцінах, нават не каля рэчкі, на пагорках, першы ваданосны слой залягаў на глыбіні шасці метраў, другі, больш моцны, на васямнаццаці, а тут пройдзена ўжо добра за дваццаць, — лавачку трэба неадкладна закрываць, бо яна нячыстая, надта ж нячыстая. І хутка, вельмі хутка будзе бяда, будуць нябожчыкі і пахаванні. Гэта ён добра ведаў, на ўсё жыццё ўсвядоміў, робячы яшчэ ў геолагаразведцы, шукаючы золата.

Зямля не любіць настырнасці і нахабнасці. Яна не трымае гвалту і бароніцца, захінаючыся смерцю. Калі яна закапыліць губу, гэта значыць, што ёй ужо край. І самае лепшае — паразумецца з ёй і адступіць, а то і засляпіцца — і прэч, прэч, пакуль яна цябе яшчэ не запомніла і не прыбрала, каб ты больш ніколі не дакучаў і не замінаў ёй.

Гэта ён і параіў хахлам пасля дваццаць пятага метра калодзежа, калі ў ім ужо адчувальна цяжка стала дыхаць, дыханне нябачнай вады і чалавека пачалі амаль што зліваццa ў адзінае, астматычна-хваравітае:

— Давайце, хлопчыкі, ногі ў рукі і прэч ад гэтай ямы. І як мага далей, лепш да ненькі Украіны. — Што тыя, пэўна, і зрабілі, бо ўжо наступным ранкам пасля гэтых слоў ён не знайшоў іх каля так і не дакапанага калодзежа. Толькі тры рыдлёўкі на кучы зямлі і бізнесовец каля іх паблізу ўзведзенага ім маўзалея для крынічкі. Дарэчы, з тым бізнесоўцам таксама пачало тварыцца нешта незразумелае, нядобрае. Ён перастаў даглядаць, мыць і шараваць шампунямі камяні маўзалея. Падобна, і сам мыўся гады ў рады, бо на твары яго пачала праглядваць цьмянай шэранню зямля, як гэта заўсёды бывае, калі чалавек ходзіць па краі жыцця. Пайшлі чуткі, што яго палац выстаўлены на продаж, гаспадар — банкрут. А ў хуткім часе яго арыштавалі. У турме ён неўзабаве і памёр.

Усё гэта чамусьці прыгадалася яму, калі ён ужо выйшаў з хлява, склаўшы рукі, абапёршыся падбароддзем на чаранок рыдлёўкі, слупам прыстыў сярод двара, не ведаючы, навошта яму гэта рыдлёўка, што з ёй рабіць і куды падзець. І яшчэ, невядома чаму і да чаго, прыгадалася, што вільгаць на ломіку, якім ён дзёўб бакі таго калодзежа, кропелькі вады, што нібыта слёзы на яго дне праступалі ранкам, былі як насамрэч слёзы — саланаватыя. Ён яшчэ падзівіўся абіральнай прыхамасці і звілістасці сваёй памяці. Як пачалося нешта зусім ужо незвычайнае — па за памяццю і розумам чалавека. Яго ўласнай памяццю і розумам.

Як хмара нейкая, а хутчэй светлае воблака праслізнула над галавой, злёгку круцянула, ускудлачыла валасы і, угрэўна выклікаючы торк крыві ў падушачках пальцаў, мякенька і цёпла пагладзіла голыя рукі, што ўсё яшчэ сціскалі чаранок рыдлёўкі. І тут ён мог паклясціся, што цяпло тое сыходзіла ад рыдлёўкі, ад дрэва яе чаранка, нібыта той зноў ажываў, набрыняў пазбытымі сокамі даўно ўжо ссечанага дрэва, сокамі разлучонай з ім зямлі.

Але клясціся не выпадала, як не выпадала ўцяміць, зразумець, наколькі праўдзівымі, а не моракавымі былі яго адчуванні, бо ўсё, што адбылося потым, вельмі нагадвала самы сапраўдны морак. Воблака мела зусім не ўяўную, не прывідную сілу і моц. І адразу ж выказала тую сілу і моц, спрабуючы зрушыць, выкарчаваць яго з падворка, адарваць ад зямлі. Толькі ён не паддаўся, хаця і добра пахіснуўся і па сваёй ужо ахвоце ступіў, рушыў з двара, на пшанічнае поле, што з яго боку аблямцоўвала вялікі загон рапсу ўжо ў квеце.

Пшанічнае поле гаварыла, але не мовай яшчэ гнутка паслухмяных ветру сцяблоў, не мовай відавочна пазначаных ужо зернем каласоў. То была незразумелая яму мова шматлікіх і нябачных лугавых летніх конікаў. Толькі яны маглі так касіць ужо скошаную канюшыну, абрынуўшыся як з неба, даўгалыга ўчапіўшыся за адну-адзіную ацалелую ад касілкі ці касы галаваста-ружовую кветку сенажаці. Скрыгат, скрып, сакатанне нябачных, неіснуючых конікаў забіваў вушы.

А пад гэту аглухласць у той жа час і на небе адбывалася нешта неспасціжнае. Воблака пашырылася, зрабілася больш шчытным і пацьмянела. Цьмянасць гэта займела межы і набыла абрысы чагосьці добра вядомага яму, але таксама добра і забытага. З больш свежай памяці, кніжнай і тэлевізійнай, здалося — падводнай лодкі. Але ўжо ў наступнае імгненне, пазбавіўшыся гэтай падсунутай яму кніжнасці і тэлевізійнасці, зразумеў: не, не падводная лодка. Здаўна, з маленства знаёмы яму і тым жа збытым маленствам прываблівы і любы — човен. Човен, як на плыні хваляў, хваляў, падобна, зусім не ветраных, а тых, што сыходзілі, дасылаліся прыязнай яму глыбінёй ракі ці старыцы, згодна пагойдваўся вастраватай дзюбай чорнага носа на вадзе.

І былі ў тым чоўне людзі, і не адзін чалавек, і не два. Але толькі абрысы, не пазнавальныя яго вокам постаці. Постаці, якія мо і не хацелі быць апазнанымі: хто іх

бачыў, хто іх помніць — той здагадаецца. І як жа яму было не помніць самога сябе? Хаця ён толькі аднойчы сярод ночы вось так, нячутна, амаль неіснавальна, забыццёва-морачна разам з дзедам і бацькам плыў на тым чоўне. Чоўне, як і калыска ў іх хаце, вымайстраваным з аднаго дрэва. Толькі човен з камля асіны і больш выпалены, а калыска — з сутунку, што застаўся ўжо ад чоўна. І выдзеўбаная далатамі і склюдамі, каб ён не дыхаў пахам дыму і агню. Але ж агонь усё роўна быў, у камінку пры печы ля яго ўзножжа і над яго галавой пад бажніцай, дзе звычайна ставілі свечку. Агонь у нагах, агонь над галавой. І абодва перад вачыма — у вочы і ўваччу, каб заўчасна не ўбачыць яго перад сабой, не ўзяць яго ў рукі, але і не забывацца, не забывацца, што ён блізка, побач.

Агонь быў і цяпер у тым, што нагадала яму човен. Толькі адзін ужо, невялічкае цяпельца паперад носа чоўна. Як і тады, калі ён, ашчаперыўшы барты чоўна, сядзеў пасярэдзіне яго, кіруючыся ці то ў нябыт, ці то ў вечнасць. Дзед, як злеплены з цемры, барадата веславаў на карме. Патрэскваючы жоўцю і смолам хваёвых каранёў, гарэла цяпельца на блясе крыху збоку наперадзе чоўна. Полымя таго цяпельца бронзай і меддзю накладвалася на ваду і твар бацькі, першабытна наструненага з самаробнай астрогай напагатоў. У той час яны займаліся забытай першабытнай справай. Лучылі рыбу, прываблівалі, чаравалі яе агнём, здабывалі астрогай. На агонь ідуць не толькі матылькі. Усё жывое з пячор яшчэ чаруецца ім.

І тут, побач з яго падворкам, тварылася штосьці данельга першабытнае. Па-за ім сівенька і руда барадзела кукуруза, дзідавымі шчыкамі абапёршыся на нерухомасць паветра. Недзе ў небе, над пшанічным полем, ды і на самім полі скрыпелі, сакаталі конікі, а здаецца, зусім не конікі: так яшчэ здольны шамацець, ходзячы па пожні, вожыкі. Але іх таксама не было відно, хаця яны і вадзіліся, жылі пад елкай, якую сам ён і

пасадзіў. Вырошчвалі рыжыкі, і надта гожыя, кругленькія, таўсмаценькія і бурштынава-цёплыя на пагляд, нібыта гэта насамрэч не грыбы, а бурштын такі вожыкавы — уцеха ім і ўборы. А ён амаль не браў, не рэзаў тых рыжыкаў, гэта было толькі іх, толькі вожыкава. Грэх жа малых крыўдзіць.

Але вожыкаў пад елкай было толькі пяцёра, столькі ён налічыў, назіраючы іх шэсце ў сонечныя дні: маці, што ступка ці дзяжа з колка-рыжаватымі слядкамі пацёкаў рошчыны па сваіх іголках, і чацвёра, здаецца, надта паслухмяных рухавых сынкоў, якія, пільнуючыся маці, кволенька след у след, што шэрыя шнурочкі, цягнуліся за ёй на сваіх яшчэ кволых, не зведаўшых дарог ножках, нябачных нават пад іголкамі.

Пяць вожыкаў мелася ў яго гаспадарцы, але калі на самай справе цяпер на пшанічным полі вожыкі, то пяццю тут і не пахне. Тут іх процьма і процьма. Жывых разам столькі, пэўна, і не сабраць, толькі калі падняць тых, што сваё аджылі, ды аб'яднаць іх з конікамі і запусціць такі гурт на поле, во тады яны здолеюць утварыць нешта падобнае, што адбываецца цяпер.

Адбывалася ж, выспявала штосьці сапраўды надзвычайнае, першастваральна-неверагоднае. Як з нябыту туманова разжывіста яўлены яму човен. Агеньчык у тым чоўне, неапазнаныя постаці ці то людзей, ці то коцікаў. Скрыгат, і сокат, і шолах шматлікіх безаблічных конікаў ці вожыкаў. А за гэтым і зусім ужо неверагоднае. Неверагоднае, але аднекуль і знанае ім, прысутнае ў ім, толькі як прысыпанае попелам. Попелам даўно прагарэлага вогнішча. Прагарэлага, а не атухлага. Недзе ў самай сярэдзіне таго вогнішча, бліжэй да ўгрэтай зямлі прыхавалася ацалелая адна-адзіная палахлівая іскрынка. І тая іскрынка нечакана пачала набіраць моц, абуджаць прах былога агню.

Усхадзіўся вецер, а потым узнялася і віхура. Пакручаста спружыністай лейкай абрынулася з неба, мецячы

сцёкавай шчылінай праменька ж туды, дзе ён стаяў. У яго мецячы, уцягваючы ў тую вузенькую шчылінку, нібы спрабуючы ўзняць і панесці, кінуць у бязмежжа і далеч сусвету. І гэта было знаёма яму, такое ўжо было з ім на самым пачатку жыцця.

Ён стаяў каля знявечанай вайной бабулінай хаты, пашчапанай асколкамі снарадаў. Адны з гэтых асколкаў, невялічкія, ужо зацягвала бурштынам разагрэтай на сонцы смалы, другія ж, большыя, яшчэ заставаліся навідавоку, сіне злоснымі скуламі тырчэлі ў бёрнах. Ён пазіраў на гэтыя бёрны, што плакалі пасляваеннай ужо, непатрачанай у ліхалецці смалой, цікаваў за маладымі вожыкамі, што корпаліся ў кастрыцы каля прызбы хаты. Вожыкі былі яшчэ што дзьмухаўцы. Маці важыха вывела іх на сонца, пэўна, каб яны сугрэліся і хутчэй раслі, таму ж і ён стаяў каля хаты з сонечным праменем на стрыжанай нагала галаве. Смактаў коржык, а хутчэй галушку, злепленую бабуляй з сыру і маку, каменна запечаную на чарані. Лавіў вастрыём кутніх зубікаў асобныя макавінкі, плюшчыў іх і мружыў вочы ад асалоды.

Якраз у такую салодкую хвіліну і ўзвіўся над ім і над хатай чорны смерч, спачатку ўздзіраючы з і без таго ўжо абрадзелай страхі прыхопленую сівым мохам дранку. А потым ухапіў і зняў з хаты, як шапку-аблавушку, і ўсю страху, пры гэтым не абмінуў і яго. Лёгенька, як пер’ейка, укруціў у свой вір, адарваў ад зямлі і панёс. Ён і павекамі не паспеў пліснуць, як ужо ляцеў. Ляцець было зусім не страшна, як ні дзіўна, — нібыта прарабляў гэта ўжо не першы раз. Ён даўно здагадваўся, што здольны лятаць, бо да гэтага лятаў у сне. Цяпер жа гэта адбывалася наяве, і тады ён, не перастаючы асалоджвацца смакатой галушкі, жадаў толькі аднаго: каб гэта доўжылася і доўжылася.

Але палёт быў вельмі кароткі, ім як пагрэбавалі, пазбавілі крылаў. Ужо недзе праз хвіліну ён са сваёй галушкай быў зноў на зямлі. Толькі прага палёту з таго

часу не пакідала яго, не пакідала вера, што ён можа і будзе лятаць. Яму, не толькі яму, усім людзям наканавана лятаць, без усякіх там самалётаў, верталётаў і парашутаў. Наканавана лятаць, як і хадзіць. І цяпер гэта жаданне лятаць, здаецца, здзейснілася. У адно імгненне ён быў у небе.

Толькі зноў жа тое морачнае імгненне было вельмі, вельмі кароткім. Хаця мо і не такім кароткім, бо ён не спасціг яго працягласці. Не паспеў спасцігнуць ні набранай вышыні, ні часу, ні адлегласці, набытай, дараванай ці абуджанай здольнасці лятаць. Адным словам, морак, і ўсё. І яму стала зразумела, што насамрэч гэты морак ёсць ні што іншае, як ён сам. Чалавек на зямлі, яго жыццё — толькі здань і прывід самога сябе. Толькі адвечны, пракаветны і нязбыўна салодкі морак таго, кім і якім ён сябе ўяўляе. Употай прагне быць. Сапраўднае ж ў ім адабрана ці ўкрадзена — вымарачана.

І, падобна, яшчэ адзін морак чакаў яго ў тую хвіліну, калі ён канчаткова ўжо ўверыўся, што здольны лятаць, здольны прыручыць і скарыць гэты смерч, апынуцца і зліцца з чоўнам, з вадой, па каторай плавіўся ў ім, з рыбінай, якая жыла ў той вадзе. Вярнуцца да той ночы, якая ўжо даўно адгарэла, спапялілася чорным вугельчыкам і пылам, пайшла ў нябыт. І вялікае пытанне, ці не атухла, ці захавалася хоць слабенькая іскрынка ў тым вугельчыку. Ён промільгам паспеў толькі так падумаць, але ўжо ў наступную хвіліну ўбачыў, што не атухла, не атухла. Мінулае падміргвае яму, іскрыцца.

Смерч сцішыўся, адбегся ад зямлі, цікуючы з неба ўшыркі расплюшчаным тарфяна-рудым вокам ці не за ім. Адчаліў, адплыў і човен, як яго ніколі і не было. А на пшанічным полі праменіла нябесным святлом, нібыта з глыбіні зямлі, выцягнутае каранямі той жа пшаніцы, узышло яшчэ адно сонца. Толькі было яно хаця і акругленае, як бохан хатняй выпечкі хлеба, але вельмі пакручастае. І дбайна, старанна пакручастае,

як скручваюць гаспадары вяроўку. Віюць яе з канаплі ці лёну, так вілавата могуць расці ў пароднага барана рогі. Такой вытанчанасцю і дасканаласцю формы, пэўна, можа валодаць толькі прырода, вада, ствараючы ці не на замілаванне і любасць сабе і сваім жа рачным насельнікам ракаўку, а яшчэ — рукі жанчын, што шчыраюць над ручнічком, каб павязаць ім абраз, твораць вышыванку.

І казачная ракаўка, і вышыванка на полі, створаныя з каласоў і сцяблін пшаніцы, дыхалі, іскрыліся і праменілі ўсімі колерамі вясёлкі, як сонца на небе — нязгасны і велічны твар сусвету. Нябесны твар, які з цягам часу перадаўся бажніцам, а потым увасобіўся і кроснамі на посцілках, ручніках, дыванах і вышыванках. У тых жа слуцкіх паясах. Цяпер жа гэты сонечны твар сышоў з нябёс і аздобіў адвечна вясковае пшанічнае поле ў тры правільныя навароты кругоў, вельмі падобных на тыя, што ставяцца на тым жа пшанічным поле з абмалочаных ужо снапоў саломы пасля дажынак — у торп, бабку, сцірту.

І было дзіўна, што ні адзін колас, ні адна сцяблінка не зламаныя і не пакудлачаныя. Каласы ляжалі вельмі шчытна, як уцалоўваліся, а сцяблінкі былі сагнуты на першым ад зямлі каленцы, і таму здаваліся крыху апухлымі, але таксама ніколькі не пашкоджанымі, працягвалі жывіць і спяліць колас.

І над гэтым зямным Ярылам, што праблісНуў, прылёг тут адпачыць, стаялі тры нябесныя Ярылы. Свяцілі два Сонцы і ўгрэты імі пагойдваўся Месяц. І яшчэ адно Сонца мелася тут, пры полі ўжо, на зямлі. На поўную сілу цвіў, цягнуўся да нябесных Ярыл рапс. Лашчыў сваімі зямнымі чыстымі, сонечнымі зыркімі вочкамі пасланца нябёс. А гэта сапраўды быў пасланец нябёс.

Абяцаны трэці і апошні знак чалавеку.

Чалавек прыглядаўся да гэтага знаку і не вельмі што цяміў у ім. Захопленаму знянацку яго воку

мроілася багата чаго. Але ж чаго толькі не прымроіцца развярэджанай душы і чакальна пахіснутаму сэрцу. То бачыўся яму крыж сярод гэтага знаку, то прывідна паўставала постаць нейкага яго даўняга знаёмца. Чалавека з торбачкай цераз плячо і посахам у руках. Але калі ён пачаў толькі прыгадваць таго чалавека, зірнуў на рыдлёўку, якую да гэтай пары так і не выпусціў з рук, то здалося, што гэта сам ён, праставалосы і струнава напяты і сцяты, стаіць пасярод круга, абапіраючыся на сваю рыдлёўку.

Збіты з тропу, ён ужо не ведаў, верыць ці не верыць сваім вачам, на якім свеце знаходзіцца і ці не з яго гэта сарвала страху, як калісь сарвала яе з бабулінай хаткі, плакаць яму ці смяяцца. Але тут кінулася ў вочы зусім ужо неверагоднае, пасля чаго, здавалася, усе, хто з'ехаў з глузду, сышоў з капылоў, ссунуўся па фазе, могуць спакойна запісвацца ў нармальных, псіхічна здаровых людзей. З задавальненнем у замкнёных пакоях і нават на вуліцы прылюдна пускаць бурбалкі. І ніхто не пакруціць услед ім пальцамі ля скроні. Самі такія.

Было дзіўна, як замылілася яго вока, чаму ён раней не ўбачыў гэтага. Пасярэдзіне нябеснага круга блакітна-выклікальна і непахісна стаялі тры кусцікі самых звычайных, што ні на ёсць зямных васількоў. І ў яго адразу ж мімавольна выдыхнулася:

І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора
Цьвяток радзімы васілька.

Гэта быў след. І хто б яго ні зрабіў, на якіх сузор'ях, след гэты быў цалкам зямны. І не проста зямны — тубыльскі. Толькі тубылец мог падкінуць яму такую сціплую, пракаветна знакавую кветку гэтага куту, гэтага краю. Ключ, ключык яго духу, душы: параднёная назаўсёды з ёй кветка, што адначасова і пустазелле ў жыце. Але якое пустазелле, калі над ім схіляе галаву

колас, калі блакіт яго і ў небе, і ў задуменных вачах вады азёр, рэк, старыц на зямлі, а цяпер во прыкмечаны, адзначаны і сусветам, ад якога чалавек, яго пшанічнае поле атрымалі пасланне, шыфроўку з букеціка васількоў.

І ён усцешыўся, ласкава ўсміхнуўся васількам. І васількі, здаецца, таксама ўсміхнуліся яму ў адказ. І коцік, што быў побач з ім увесь час, толькі крыху змрочны, задуменны да гэтага, падвяселена выскаліў востранькія беленькія зубкі. І, гледзячы на яго, ён цяпер ужо канчаткова ўпэўніўся, што гэта знак. Знак яму і яго коціку. Мо і зямлі, чалавеку на ёй. Толькі як яго разумець, як тлумачыць гэту піктаграму, пасланне сусвету, — не ведаў. Але ж коцік, падобна, быў дасведчаны больш за яго. Так, з выскаленымі зубкамі, але цяпер ужо выскаленымі ці не весела, Біч зрабіў пятлю вакол яго ног, ускінуў угару мордачку. Прыхарошаную. Нібы толькі што з цырульні, умытую не лапай і слінай, а шампунямі, выцертую свежым ручніком, адмыслова прасушаным на сонцы і абвеяным летавым ягадным вецярком. Цалкам разумна ўзняў угару тварык — пэўна, каб зазірнуць яму ў вочы і нават глыбей, працяць позіркам, як нешта нема мовіць яму, — і, прыціскаючыся да калашынаў, амаль што пацёг яго за сабой у бок сажалкі.

Да яе было недалёчка, усяго некалькі крокаў, але пакуль яны ішлі, усё наваколле, здаецца, пачало перайначвацца. Перайначвацца імкліва, гучна і крыху трывожна. Паветра адчувальна пахаладала, такім жа халадком агарнула і цела, бадзёрым, здаровым і ўсё ж нязвыклым такой парой. І на ўсіх сямі курганах нешта пагудвала, патрэсквала, лопалася, як рвалася вонку нейкая патаемная, прыхаваная ў іх глыбінях зямная ці падземная сіла. А самы патаемны з іх, сёмы курган дык і ўвогуле, здаецца, уголас стагнаў, хістаўся і рушыўся, як маючы намер адчыніцца, скінуць свой пракаветны надзямельны капялюш, пакланіцца на ўсе чатыры бакі і некуды пайсці. І, падобна, ішоў, ішоў ужо. Праўда, не

сам курган, відавочна спускаўся з яго, кіруючыся да знаку ў пшанічным полі, каменны чалавек. І груган, што звекаваў і ссівеў на галаве таго каменнага чалавека, цяжка памахваючы нягнуткімі ўжо, састарэлымі крыламі, ляцеў наперадзе яго, паказваў, невідушчаму, яму дарогу. І дрыжэла зямля ад яго хады. І дробам, шротам пырскалі ва ўсе бакі даўно ўляжалыя невялічкія камяні і схаваныя, прысыпаныя зямным прахам крэмені, котам каціласся следам за каменным сляпым сваім павадыром. Валуны сунуліся за ім жа няспешна, як плугам, вызваляльна пластуючы зямлю і ўсё новыя і новыя камяні.

Неспакойна, толькі надта ўжо напружана і пагрозліва сцішана было і на самой, даўно ўжо ссушанай да каравачна-ўчарнелага глею і ссінела-блакітнай гліны, сажалцы. Хаця, здавалася, якраз бы тут быць больш галасу і мітусні, бо там у поўным зборы знаходзіўся ўвесь хаўрус. Але было толькі вычакальна і одумна.

Цмок, Дамавік, Лесавік, Русалка, Вох, Цвіркун, Берагун. Усе яны сабраліся разам, як толькі што выйшлі з той бабулінай хаткі, у якой ён калісь рос, дужэў і пазнаваў свет. Хто вылез са шчылін яе бёрнаў, як пашчыпаных асколкамі снарадаў, з-пад падлогі, якой, дарэчы, у яго час амаль не было. Дошак у бабулінай хаце хапіла толькі каля стала да бажніцы, а ў сенцы ўжо ступалі па зямлі. З той зямлі нехта таксама ажыў і цяпер паўстаў. Нехта выйшаў з агню і вады, спусціўся з печы, лежачы на якой ён на бабіных вячорках і попрадках уведаў, што яны ёсць.

На нейкі час яны пакінулі яго. А цяпер вярнуліся, ці то мо і наадварот, ён вярнуўся да іх. І быў рады, што яны яшчэ жывыя і ён жывы. І гэта зусім няпраўда, што на свеце няма бессмяротнасці.

— Гэта яшчэ як паглядзець, — нібы падслухаўшы яго, сказаў Цмок. — З вяртаннем цябе, хлопча.

— Які я ўжо табе хлопча, — ён нават азірнуўся, ці няма каго за яго плячыма.

— А пытайся ў свайго коціка. Ён сёння ці не равеснік табе, а ўсё роўна — хлопчык. Хлопчыкі не старэюць. Хто спадобіўся быць ім, глядзець, бачыць і верыць, той ім назаўсёды ўжо і застанецца. Такая ўжо ў нас з табой запечная ды кужэльная доля. Але ж кужаль і печ жывучыя, могуць згуляць і на будучыню, як ты бачыў толькі што.

Біч у гэту іх гаворку таксама ўставіў свае два грошыкі. Нешта мармытнуў сабе пад нос, адышоў ад гаспадара і прылёг на любае яму ў гэтай сажалцы месцейка, на заўсёды крыху спатнелы лапік блакітнай гліны. І гэты лапік, нібыта адчуўшы на сабе жывое, пачаў і сам ажываць. Пачаў пульсаваць ці не ў такт сэрцу коціка, які на тую хвіліну не толькі ўсміхаўся, але, адрачона ад прысутных, ужо і спяваў. Спяваў, як маліўся. Малітоўна песенна звяртаўся да таго, хто быў пад ім, каго ён мякенька ўкрыў сваім целам. І той, як угрэты і прылашчаны коцікам, адгукаўся яму, падтрымліваў, падцягваў яго песню, якая ўсё мацнела і мацнела, нібы яе вяло ўжо шматгалоссе хаця і нябачнага, як тагасветнага, але вельмі вялікага хору ў суправаджэнні шматлікіх арганаў.

— Ты чуеш? — спытаў у чалавека Цмок.

— Чую, чую, хаця мяне і прыгаломшылі, але яшчэ трохі чую.

— Ну, тады яшчэ не зусім безнадзейна, калі трохі яшчэ бачыш, трохі чуеш. Застаецца апошняе — верыць. — Цмок запытальна зазірнуў у вочы чалавеку.

— З гэтым складаней, — адказаў яму чалавек. — Веру, веру ўсякаму зверу. Верыў, але, здаецца, ужо зняверыўся.

Хаўрус, пачуўшы яго словы, схіліў галовы. Завохкаў Вох, пляснула хвастом Русалка, зусім зніякавелі Дамавік з Лесавіком. І толькі Берагун амаль радасна ўсклікнуў:

— Гэтага і трэба было чакаць. Я, мы...

— Аціхні, — абсёк яго Цмок. — Бачыў я цябе, бачыў я вашых на Месяцы. Вашы сапраўды ўжо там. Ужо дзеляць,

рабуюць і заваёўваюць сам Месяц. Нешта вас не на тое і не туды павялі...

Берагун нязгодна і ваўкавата азірнуўся, але язык прыкусіў. А Цмок звярнуўся зноў да чалавека:

— Ведаю я тваю прыказку, і працяг яе ведаю: веру, веру кожнаму зверу, толькі не табе. У гэтым якраз і ўся справа: сабе ты не верыш. Азвярэў чалавек на добрае і праўдзівае слова. Вычарпаў сябе. Свайму слову ты не верыш. Прыспаў яго, як Русалка прыспала пласкатварага.

— Так я яго і прыспала ўжо, — абурылася Русалка. — Ён яшчэ жвавы, і такі жвавы... Вас яшчэ падварушыць. Хутка тут будзе.

— І гэта мне вядома, — Цмок нават не азірнуўся на Русалку. — А вось ты, чалавеча, слова сваё збыў, тое, дзіцячае сваё слова.

— Я-то не збыў...

— Не пра аднаго цябе гаворка, каб гэта тычылася толькі нас з табой... Ты толькі паглядзі, — Цмок крутнуўся вакол сябе і развёў у бакі рукі. — То не камяні, якімі ты спакон веку засяваў свае палеткі, рушылі сюды. Людзі, што нема скамянелі сярод сваіх жа ўрадлівых палёў, сярод жыта і пшаніцы. І не старажытныя курганы трасуцца і бунтоўна бурацца, і не груган віецца над імі. Ці не згодны ты, што гэта пракляцце тых, што ўжо былі і тых, што яшчэ будуць. Пракляцце, і ад яго адзіны толькі паратунак...

Цмок абарваў сябе і, не зводзячы вачэй, пачаў глядзець на чалавека.

— Які, дзе ж, у чым паратунак?

— Братчына, — коратка адказаў Цмок.

Чалавек маўчаў, і ўсё навокал раптам аціхла, замоўкла. Знямела, як ва ўсёй зямлі адразу адняло язык. І зямля стаілася як ў жалобе. У жалобе, смутку і нудзе. Ад жалобы, смутку і нуды скамянеў і чалавек, нібыта ў яго толькі што выдзерлі язык, выдзерлі жыўцом, і ён яшчэ крывавіў. І слова яго рвалася вонкі, прасілася, жыло

яшчэ ў ім, захлынулася ў гэтай яго салёнай, салодкай і горкай крыві.

— Дык ці чуў ты што-небудзь пра братчыну? — спытаў у чалавека Цмок.

Чалавек маўчаў.

Цмок паўтарыў сваё пытанне.

І зноў чалавек маўчаў.

І ў трэці раз звярнуўся да яго ўсё з тым жа пытаннем Цмок:

— Ці ведаеш жа ты, хлопча, што-небудзь пра братчыну?

І на трэці раз прамаўчаў чалавек.

Не, не такі ўжо ён быў невук. Тое-сёе ён ведаў пра братчыну. Але ж як нехта ці нешта пераціяла яму горла. Не ішло, не ішло ў яго з горла слова. А што тычыцца братчыны... Уга, якая магутная была тут яшчэ ў сярэднявеччы братчына. Мо самая магутная і слынная ва ўсёй Усходняй Еўропе: школы, школкі, універсітэты, шкаляры, студэнты, выкладчыкі — усе пад адным дахам тубыльскай братчыны...

— Я трохі не зусім пра гэту братчыну пытаюся, — перабіў яго думкі, як падслухаў, Цмок. — Я пра самы пачатак і запавет Творцы, яшчэ нават да слова. Бо не слова было на пачатку, а братанне. Братанне і згода ўсяго існага на гэтым свеце з зямлёй. Згода, еднасць і паразуменне...

— Ды ты камуніст, — падумаў чалавек.

— Не, хлопча, не, я тваё параджэнне, хаця і не ўпэўнены, што было на пачатку — яйка ці курыца, адмаўляю чорнаму пеўню, хто з нас каго стварыў. Я цябе ці ты мяне. І сам Усявышні, сам Творца, пэўна, сёння ўжо не ведае ці не ўзяў выхадны, калі нас ствараў, асабліва мяне. Адно толькі бясспрэчна: ён даў нам слова, абавязак і права. Права і абавязак славіць яго і яго слова. Права славіць яго, права славіць яго і яго слова. Права славіць цябе і мяне — нас. Менавіта з гэтым і з гэтага

мы. Не адзін Кашчэй Несмяротны ў яйку. Слова там, і мы ўсе. — Цмок паказаў пальцам на кожнага са сваіх хаўруснікаў. — Са словам і са слова ўсе мы вылупіліся, убачылі гэты свет, як, на маю думку, і сам чалавек. Са слова — гутарак, містэрый, вяртэпаў і апокрыфаў. І каб не прапасці знічкамі ў сусвеце, да гэтага трэба нам і вяртацца, што і загадвае нам той жа сусвет.

Гаварылася гэта Цмокам уголас ці толькі мроілася, чулася яму, так ён сам думаў. І быў згодзен са сваімі думкамі, што хаця і нема, але ўжо даўно выспявалі ў ім. А вось цяпер, калі ўсё так, па нябесным і па зямным, супала, сышлося, мо яшчэ і таму, што надта шкода было яму гэтага, амаль што прывіднага народу. Усіх гэтых Цмокаў, Вохаў, Дамавікоў і іншых, з якімі ён разам рос, якія ўвайшлі ў яго свядомасць як нешта край неабходнае, не менш, чым хата, хлеб, паветра. І цяпер ні за якія сённяшнія выгоды, ласункі, прысмакі не хацеў разлучыцца з імі. Як не хацеў ніколі разлучацца са сваім коцікам, Бічом — былым інтэлігентным чалавекам. На самай справе, інтэлігентным. І больш інтэлігентным, чым усе іншыя, разам узятыя, ці не ўвасобіўшым сёння ўсё тое, чаго так не хапала чалавеку, што чалавек ужо страціў.

Недарэмна ж, не проста так гэты ласкавы коцік выйшаў на яго, прыбіўся да яго хаты. Яго паслалі. Паслалі, як тую ж самую піктаграму з васількамі. Толькі піктаграма прыйшла аднекуль здалёку, з сусвету. А коцік наскрозь зямны, настолькі зямны, што больш ужо немагчыма. Нехта з яго родных, хто даўно ўжо парыць матухну-зямлю, падараваў яму гэтага коціка Біча, удыхнуў у яго свой непакой і клопат аб ім, душу сваю ўдыхнуў. І загадаў той душы знайсці яго, усміхнуцца яму і засцерагчы ад нечага. Такім чынам, яны даўно ўжо родныя, заручаныя і бласлаўлёныя тым і гэтым светам. Дзякуючы коціку ён гатовы на вечную братчыну і з гэтымі духамі зямлі, з Цмокам і яго хаўруснікамі, бо

гэта ж і яго хаўрус. Вечны хаўрус усяго існага на Зямлі: жывога і нябожчыка, прывіднага і сапраўднага, без чаго немагчыма існаванне і самой Зямлі, чалавека, што сведчыць аб іх шматаблічнасці, мярзотнасці і велічы, чаму ён і згодны на братчыну. Згодны.

Іншага, пэўна, хаўруснікі ад яго і не чакалі. Чалавек і Цмок нібыта ўжо даўно пабраталіся згодай, прыязна ўсміхнуліся адзін аднаму. Хаця іх абодвух з гэтай усмешкай крыху апярэдзіў Біч, як падаў ім каманду. Гледзячы на іх, заўсміхаліся і ўсе астатнія. Чалавек яшчэ падумаў, што яго кот нешта ўвогуле сёння не па чыну набраў волі і залішне камандзірыцца, як нехта прызначыў яго быць сувязным паміж хаўрусам і ім, чалавекам. У галаве яшчэ прамільгнула, што зусім нядаўна ён недзе бачыў гэтую вусатую з кароткімі вушкамі і хітра выскаленымі зубкамі морду. І ці не ў чоўне, што завіс над пшанічным полем. Але прыгадваць, так гэта было ці не, ужо не мелася часу.

Цмок, відавочна, быў заняты нейкай цяжкай і неадкладнай справай. А справа яго насамрэч была цяжкай. Ён лічыў, колькі ж тут, на дне высахлай сажалкі, сабралася народу. Народу было нямала. Апроч хаўрусу, прыйшлі яшчэ два суседскія сабакі, сабака, што загінуў пасля пажару, і адзін з вожыкаў прыклыпаў. Цмок спачатку лічыў усіх вачыма, але хутка збіўся. Тады пачаў загінаць пальцы. Пальцаў не хапала, да таго ж былі яны зусім нягнуткія, каструбаватыя, што ўсохлыя і ўсечаныя на старой хвоі сукі. І Цмок ужо канчаткова збіўся з ліку, быў упэўнены: нехта тут лішні. Ён доўга вышукваў таго лішняга, і кожны раз атрымлівалася — гэта чалавек. З чым Цмок не мог і не жадаў пагаджацца. Ён пачынаў лічыць зноў. І зноў атрымлівалася — чалавек. Чалавек быў трынаццаты ў гэтым збегу жывёл, звяроў і прывідаў. Цмок адмоўна пакруціў галавой, склаў з трох непаслухмяных пальцаў вялізную чорную дулю і выставіў яе небу. А чалавек, заняты той жа самай

справай, што да гэтага і Цмок, прыйшоў да яго ж высноў: адзін тут быў лішні. Але круціць дулю і паказваць яе небу не наважыўся, хаця падумаў, як усё паўтараецца. На той тайнай вячэры было таксама трынаццаць. І свет да сённяшняга дня не разгадаў, каторы з іх, трынаццаці прысутных, лішні, хто з'юдзіў. І ці ж з'юдзіў той трынаццаты. Таму што, па апошніх казанях, быў ён сынам апошняга і ўкрыжаванага.

Цмок дазваляльна кіўнуў чалавеку галавой. І той зразумеў, што ад яго трэба, бо рыдлёўка ўсё яшчэ была ў яго руках. Біч падняўся са свайго лежбішча, узняў галаву, ускінуў вочы на чалавека, злавіў яго позірк. Позіркі чалавека і ката сышліся. І чалавек, як вядомы поглядам свайго коціка, ступіў да яго былога лежбішча. Ён адзіны толькі раз капнуў, нават не капнуў, а дзёўбнуў лапатаю, і ўсё адбылося. І адразу, не так, як з калодзежам, што капалі заможнаму прайдзісвету.

Вада з разварушанага ім лапіка зямлі для разбегу, пэўна, спачатку толькі пазначыла сябе, прабілася вонкі некалькімі кроплямі, як слёзкамі. Потым выхапілася невысокім, у рост чалавека, струменем. Але той струмень імкліва рос і дужэў, паглынаючы глебу з-пад яго ног, выціскаючы з сажалкі тых, хто там знаходзіўся, усё вышэй і вышэй узнімаўся ў неба, нібы крыху сумняваючыся, што яно ёсць і яму няма ў ім забаронаў. Нагбом піў неба, і неба ўпівалася ім.

І яны паглынулі адно аднаго. Вада і неба. Неба было бязмежным і ненаедным. Але ж і спажыва вызваленай з падземных глыбіняў вады мелася яму ўдосталь. Вада ўжо не струменіла, а выяргалася, як падчас землятрусу выяргаецца вулкан. І неба, падобна, захлынулася ад дараванай яму зямной шчодрасці, перасыцілася вады і пачало адсылаць яе назад, туды, адкуль яна прыйшла, дзе да гэтага часу хавалася. І пабраўшыся з небам, заручыўшыся з ім, выверржаная глыбінёй зямлі вада пачала вяртанне туды, дзе была створана. Да

тых, хто яе стварыў. У бяздонным бязмежжы нябёс струмень сцішыўся, пайшоў ушыркі, як зняўшы шапку ці, наадварот, накінуўшы яе, на нейкае імгненне завіс грыбам. Грыб той кальнуў вочы Цмоку. Але толькі абрысамі. І ўжо ў наступную хвіліну ён пазбавіўся памяці былога, так і не асэнсаваўшы яе, бо трэба было збягаць з сажалкі, хавацца ад вады цяпер ужо з неба. Струмень, яго капор ці каптур распаўся на шматлікія бакавыя жыліны-струмені і струменьчыкі, аброс імі з усіх бакоў, як абрастае махрамі сваіх жа прысосак марская медуза, ухапіўшы напоўніцу фарбаў неба і ўсіх трох сонцаў, вадаспадам абрынуўся на зямлю. Вярнуўся да свайго вытоку. Да тых, хто даў яму волю.

Чалавек злізваў з вуснаў падцёкі вады і не без шкадавання адчуваў, што яны толькі саланаватыя, а не салёныя, як ён чакаў. Зусім не такія, як у моры, у яго былым моры, што мелася некалі тут. Зусім. Але ж, але ж...

І гэта было яго першае расчараванне. Неўзабаве набегла і другое. Гэта калі не ў сваю пару, сярод белага дня, зашчоўкаў у прырэчных зарасніках чаромхі, што даўно ўжо адцвіла, салоўка. А яму самотна адгукнулася зязюля. Закувала і адразу ж змоўкла. Ён не паспеў нават спытацца ў яе, колькі ж гэта гадоў яму засталося жыць. Вось тады і выспела ў ім ужо нават не расчараванне, а трывога.

З краю ў край рапсавага поля бегаў хтосьці ў чырвонай сарочцы і ў такім жа чырвоным, як у пеўня грэбень, шлеме на галаве. З аднаго боку, чалавек, а з другога — сапраўды певень. Таму што быў ён галаногі, у кароценькіх шорціках, што не хавалі нават валасатыя і магутныя, як канячыя, сцёгны. Час ад часу ён ускідваў рукі ўгару, пагражальна махаў у бок сажалкі і нешта злосна выкрыкваў.

— Хто гэта там лямантуе? — спытаўся ў Берагуна Цмок.

— А, гэта, — зірнуў той на рапсавае поле. — Ды гэта той жа самы нябога, якога мы папёрлі з улазінаў... Чалавекам жа створаны сабе на пагібель. І неўміручы... Толькі нешта пачырванеў... Зблізіўся апошнім часам з тваім брацікам.

— Што яму трэба? — зноў спытаў Цмок.

— Усё, — адказаў Берагун. — Усюды кудзідзінькае, бо слова свайго не меў і не мае. У кожнага што-небудзь просіць, кожнаму, як бачыш, пагражае, хаця і кожнага заве братам. І ў нашу братчыну наравіў і наровіць ушчаміцца.

І чалавек не без хвалявання і страху падумаў, што будзе з гэтай іх наваствораннай братчынай — яднаннем чалавека, звера і зданяў. Ці не нараджэнне гэта новага і больш жахлівага звера, а не абнаўленне — вяртанне веры, дабрыні і сумлення? А хацелася б, хацелася...

Коціка шкада.

2009 — жнівень 2017 г., в. Пціч, р. Пціч

## ЗМЕСТ

Сцісла пра аўтара

Віктар Казько. Нарадзіўся ў 1940 г. у Калінкавічах на Гомельшчыне. Празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Советская Белоруссия», часопісе «Нёман», сакратар Саюза пісьменнікаў БССР у 1981–1985 гг. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Гліняны Вялес» (2009), прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2013), Літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Бунт незапатрабаванага праху», «Час збіраць косці».

16+

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 22

Віктар Казько

Казань пра ката, каторы смяяўся

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактары Барыс Пятровіч, Алена Спрытніч
Мастак Генадзь Мацур
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 27.12.2017. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 15,33.
Ул.-выд. арк. 12,62. Наклад 200 ас. Зак. 20.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.